

*Г. Паўшар-Кляноўская*

# НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

---

З ПОЛЬСКАЙ
МОВЫ
ПЕРАКЛАЛА
ЯДВІГА
БЯГАНСКАЯ



ХРЫСТАФОР КАЛУМБ

ЛЕАНАРДА ДА ВІНЧЫ

МІКАЛАЙ КАПЕРНІК

МІХАІЛ ЛАМАНОСАЎ

ДЖОРЖ СТЭФЕНСАН

ТОМАС АЛЬВА ЭДЫСОН

КАНСТАНЦІН ЦЫЯЛКОЎСКІ

МАРЫЯ І П'ЕР КЮРЫ

# ТРЫУМФ ХРЫСТАФОРА КАЛУМБА

ВАР'ЯЦКІЯ ПЛАНЫ ГЕНУЭЗЦА. Ужо прагучалі апошнія ўдары званоў, заклікаючы верных да малітвы, калі раптам у зачыненую браму кляштора Ля Рабіда ў Іспаніі нехта моцна загрукаў.

Брамнік неахвотна адсунуў цяжкую засаўку. Зноў гэты назола руды іншаземец хоча бачыць айца прыёра. Калі ўпершыню з'явіўся ля кляштарнай брамы, трымаючы за руку пяцігадовага хлопчыка, сам сказаў, хто ён і чаго хоча:

— Я марак з Генуі. Завуць мяне Хрыстафор Калумб, а па-іспанску Крыстабал Калён. Прыйшоў, каб папрасіць кавалак хлеба і шклянку вады для майго сыночка.

Калі брамнік задаволіў яго просьбу, Калумб ганарліва ўзняў прыцярушаную сівізной галаву і з годнасцю дадаў:

— Мушу карміць свайго малога, чым бог пашле, а ўсё таму, што ка-

ПАКУЛЬ ЁСЦЬ МОРА —
НУ ЯК ПРАЖЫВЕШ
БЕЗ ШОЛАХУ ВЕТРАЗЯЎ
НАД ГАЛАВОЮ!
СВЕТ МОЖНА АДМЕРАЦЬ,
ПАКУЛЬ ПЛЫВЕШ
УДАЛЕЧ, У НЕБА,
У ПРАСТОРУ ІМКНЕШ.
КАЛУМБ, ШПАГУ Ў РУКІ,—
І МЫ ЗА ТАБОЮ!

*Люцыян Шэнвальд*



ралі ўпарцяцца і не хочуць прыняць дзяржаў, якія я прапаную ім ахвяраваць.

Брамнік пацiснуў плячыма: «Што ён вярзе, гэты жабрак? Каралі не хочуць прыняць яго дзяржаў? Нейкі вар'ят?» Стрымліваючы смех, ён хацеў было зачыніць перад іншаземцам браму. Але словы прыбылага пачуў брат Антоніо дэ Марчэна.

— Я генуэзец,— сказаў яму Калумб.— Прыбыў сюды з Партугаліі. Плаваў з тамашнімі маракамі і вывучаў гісторыі заморскіх падарожжаў. Апрацаваў план падарожжа ў Азію. Хачу туды дайсці, плывучы ўвесь час на захад.

Калумб закашляўся і, не заўважаючы здзіўлення свайго субяседніка, казаў далей:

— У Партугаліі маіх планаў не зразумелі і не прынялі. Прыбыў сюды, спадзеючыся знайсці прыхільнікаў сярод іспанскіх грандаў і саноўнікаў. Але дарэмна абіваю іх парогі. Мне патрэбны людзі і караблі, каб дайсці марскім шляхам на Далёкі Усход, да берагоў залатаноснай Індыі.

Людзі і караблі!

Індыя! Антоніо дэ Марчэна добра ведаў, што азначаюць Індыя і Кітай. Гэта краіны незлічоных скарбаў, краіны золата і серабра, каштоўных каменняў і шоўку, розных раслінных прыпраў і эфірных алеяў. Але дабрацца да Індыі было нялёгка ні зямным шляхам, ні вадой. І раптам гэты Крыстабал Калён сцвярджае, што можна трапіць на Усход, ідучы на захад — проста праз акіян.

Антоніо дэ Марчэна быў чалавек адукаваны, і разважанні генуэзца вельмі зацікавілі яго. Ён нават згадзіўся заняцца выхаваннем малога Дыега.

— Разумею, разумею! — згаджаўся ён.— Цяжка самотнаму мараку (Калумб нядаўна пахаваў жонку) займацца хлопчыкам. А ў нашым кляштары выхоўваецца некалькі хлапцоў з добрых сем'яў.

У гэты ж вечар Антоніо дэ Марчэна пазнаёміў Хрыстафора Калумба з айцом прыёрам. І з гэтага часу айцец Хуан Пэраз, прыёр францішканскага кляштора Ля Рабіда, і Хрыстафор Калумб, марак з Генуі, доўгімі гадзінамі сядзелі над картамі, якіх было шмат у кляштарнай келлі айца Хуана.

У тую пару людзі яшчэ верылі ў тое, што зямля плоская, як талерка. Хрыстафор Калумб, аднак, ужо добра ведаў тэорыю некаторых вучоных, якія сцвярджалі, што зямля мае форму шара, і, карыстаючыся гэтай тэорыяй, рабіў практычныя вывады.

— Формай сваёй зямля падобна на мяч або вялізнае яйка, падвешанае ў прасторы,— казаў Калумб. І, водзячы пальцам па шкарлупінцы яйка, якое трымаў у руцэ, горача даводзіў:

— Калі я сяду на карабель у адным з партоў Іспаніі, напрыклад, вось тут, у гэтай кропцы, і буду плысці ўвесь час на захад, дык урэшце абавязкова дапльву да ўсходніх берагоў Азіі, у Індыю, якая пакуль што з'яўляецца недасягальнай для белага чалавека... О, калі б у мяне былі караблі! Я дапльвў бы да краін, поўных золата, заўладаў магутнымі каралеўствамі, аддаў бы іх Іспаніі і прывёў да святой хрысціянскай веры.

Прыёр кляштора Ля Рабіда і архіепіскап Таледа Пэдра Ганзалес дэ Мендоза, якому прыёр прадставіў Калумба, з цікавасцю слухалі генуэзца. Ім было ясна, што чалавек гэты так дасканала ведае геаграфію, як ні адзін марак у свеце. Калумб здолеў пераканаць іх у тым, што планы яго рэальныя і вылічэнні дакладныя, што на картах сваіх ён дакладна вымераў прасторы вады, якія аддзяляюць Індыю ад Іспаніі (хоць сёння мы ведаем, што ён значна памыляўся ў вылічэннях велічыні акіяна і акружнасці Зямлі, якую зменшыў на адну чвэрць).

Рэкамендацыйныя пісьмы абодвух пратэктаратаў адкрылі нарэшце Калумбу шлях да каралеўскага трона. Першага мая 1486 года, амаль праз год пасля свайго прыбыцця ў Іспанію, Калумба прыняла ў замку Альказар у Кардове каралева Іспаніі Ізабела Каталіцкая і яе муж кароль Фердынанд.



Каралева з цікавасцю слухала генуэзца і ўважліва прыглядалася да яго. Стаяў перад ёю невысокі мужчына з прадаўгаватым тварам і арліным носам. Калі ён гаварыў, яго рудыя, прыцярушаныя сівізной валасы, здавалася, палымнелі над высокім чалом, а блакітныя вочы пазіралі з-пад цёмных броваў настойліва і горда. Выглядаў ён чалавекам энергічным і вартым даверу. І хоць тое, што ён прапанаваў, здавалася яе каралеўскай вялікасці больш нязвыклым і недасягальным, чым нам нядаўна падарожжа на Марс ці Месяц, яна, аднак, вырашыла склікаць спецыяльную камісію для разгляду праекта Калумба. Камісія, якая складалася з выдатных астраномаў і географаў, а таксама высокіх саноўнікаў касцёла і дзяржавы, неахвотна выслухала Калумба. Асабліва

вострa супраць праектаў яго выступаў епіскап Талявера, спавядальнік каралевы.

— Планы генуэзца,— казаў епіскап,— гэта бязглуздзіца і выдумкі вар'ята. Яго падарожжа не можа ажыццявіцца! Калі зямля і сапраўды круглая, як сцвярджае генуэзец і некаторыя вучоныя, тады караблі стрымгалоў з'едуць уніз і ніякая сіла не прымусіць цяжкія караблі з людзьмі і грузам паплыць пасля ўгору. Можа здарыцца, што ўся флатылія павісне недзе на краі зямнога шара і нарэшце ўпадзе ў бездань.

Сярод членаў камісіі толькі дон Сантангель, казначэй і фінансавы дарадчык двара, падтрымліваў Калумба. Ён спакойна адбіваў атакі епіскапа Таляверы.

— Калумб вельмі пераканаўча сцвярджае, што на працягу сваіх
10 шматлікіх падарожжаў нідзе не заўважыў, каб зямля апускалася ўніз да нейкага свайго канца. А ён дасведчаны марак і выдатны знаўца геаграфіі.

Епіскап Талявера горача пярэчыў:

— Дон Сантангель лічыць, што той выдатна ведае геаграфію, хто верыць, што Зямля — гэта шар. Калі мы паверым у гэтую недарэчнасць, дык вымушаны будзем паверыць і ў антыподаў, у тых людзей, якія жывуць на другім паўшар'і і ходзяць нагамі ўгору, а галавой уніз.

Некаторыя саноўнікі падтрымлівалі епіскапа:

— Гэты дзівак гатовы пераканаць нас у тым, што на другім баку зямнога шара дождж падае ўгору, а дрэвы растуць уніз. Бо калі зямля з'яўляецца шарам...

Тыя, хто ведаў аб шарападобнай пабудове Зямлі, высоўвалі іншыя аргументы.

— Гэта падарожжа ажыццявіць немагчыма. Акіян вельмі вялікі, а вятры вельмі здрадлівыя,— сцвярджалі адны. Іншыя лічылі, што падарожжа, якое прапануе Калумб, будзе працягвацца не меней трох год.

— На караблі нельга нагрузіць гэткай колькасці прадуктаў, каб іх хапіла на такі доўгі час. А галодны марак — не марак! — бурчалі, пацiскаючы плячыма.

Усе пагаджаліся на тым, што вывады генуэзца — самая сапраўдная брахня і вар'яцкая фантазія.

Каралева Ізабела і кароль Фердынанд прыхільна ставіліся да адмоўных выступленняў камісіі. Патрабаванні Калумба ў выпадку, калі яго прапанова будзе прынята, здаваліся ім не толькі вельмі смелымі, а проста нахабнымі. 

Калумбу, аказваецца, мала было атрымаць некалькі караблёў, фінансавай дапамогі і прыхільнасці двара. Ён патрабаваў тытула віцэ-караля астравоў і земляў, якія адкрые і возьме пад сваю ўладу ад імя Іспаніі; тытулу адмірала акіяна і дзесятай часткі ўсіх багаццяў, якія яму пашанцуе знайсці ў новаадкрытых краінах. Патрабаваў ён таксама, каб яго сыны, Дыега і маленькі Фердынанд, былі нашчадкамі ўсіх прывілеяў і тытулаў, якія ён атрымае за свае заслугі.

Дарадцы каралевы і вышэйшыя саноўнікі двара былі абураны гэткай нахабнасцю Калумба. Гэты чужынец, прыблуда, амаль жабрак асмель-

ваецца дамагацца найвышэйшых тытулаў і пасад! Тытула віцэ-караля! Ці не напякло яму галаву сонца Іспаніі? Ці не звар'яцеў ён часам?

Але Калумб не звар'яцеў. Ён верыў, больш таго, ён ведаў, што здолее пераплысці акіян, завалодаць незлічонымі скарбамі, аб якіх не снілася нават самым магутным уладарам у Еўропе. Ён быў упэўнены і ў тым, што здабудзе славу, якая зацьміць славу маракоў усіх часоў.

— Маньяк! Дзівак! — казалі ў каралеўскім двары.

Былі, аднак, і такія, якія падтрымлівалі Калумба.

Архіепіскап Таледа Пэдра Ганзалес дэ Мендоза запэўніваў каралеву, што планы Калумба не пярэчаць святому пісанню. А казначэй дон Луіс Сантангель казаў:

— Калі планы генуэзца акажуцца толькі памылковай хімерай, усе тытулы і гарантыі, якіх ён вымагае, застануцца на паперы. Калі ж ён выканае тое, што абяцае, прызнасць вашай каралеўскай вялікасці апло-ціцца Іспаніі ў шмат разоў.



Епіскап Талявера, праціўнік Калумба, у часе нарады ў каралеўскім двары настойліва паўтараў тое, што казаў на пасяджэннях камісіі. Высоўваў таксама і іншыя аргументы.

— Калёп, пакуль прыбыў да нас, прапаноўваў свае паслугі Партугаліі. Ніхто, аднак, там і не думаў падтрымліваць падобнае вар'яцтва. Не разумею, чаму мы павінны прымаць яго ўсур'ёз.

Дон Сантангель паспрабаваў супярэчыць.

— Партугалія ўжо даўно карыстаецца багаццямі захопленых дзікіх краін,— спакойна казаў ён.— І таму няма нічога дзіўнага ў тым, што

яна не хоча новых рызыкоўных паходаў. На жаль, становішча Іспаніі зусім іншае. Казна наша апусцела пасля вайны з маўрамі. Краіна збяднела. Мы вымушаны шукаць іншых даходаў і здабычы, новых шляхоў, прыдатных для нашага гандлю.

І пераканаўча скончыў:

— Трэба дапамагчы генуэзцу. Тыя некалькі суднаў, якія мы яму дамо, не абядняць Іспаніі. Рызыка тут невялікая, а прыбытак можа быць вялікі...

Прагнасць да прыбытку перамагла.

СЯРОД НЯЗНАНЫХ ПРАСТОРАЎ ВАДЫ.● Мінула шэсць гадоў з тае хвіліны, калі Калумб упершыню ўстаў перад уладарамі Іспаніі, шэсць гадоў знявагі, насмешак, здзеку, і вось нарэшце трэцяга верасня а восьмай гадзіне раніцы тры каравелы * пакінулі іспанскі порт Палёс і рушылі ў невядомую і таямнічую далячынь.

На чале плыла «Санта Марыя», судна Калумба. За ім «Пінта» і «Ніня», якімі кіравалі браты Пінзоны. Над грот-мачтай кожнага судна лунаў сцяг каралевы Ізабелы, на фок-мачце — флаг паходу: на белым полі зялёны крыж з каронай на кожным плячы. У экіпаж суднаў уваходзіла дзевяноста матросаў, якія ўяўлялі сабой самае разнастайнае зборышча. Нават пры ўсёй прыхільнасці каралеўскай вялікасці Калумбу было вель-

---

* Каравела — невялікае аднапалубнае лёгкае, з чатырма мачтамі судна (XV—XVII стст.).

мі цяжка падабраць экіпаж, падрыхтаваны для гэткага рызыкоўнага паходу.

Сапраўдныя маракі, якія на працягу ўсяго жыцця былі звязаны з морам, з жахам думалі аб рызыкоўным прадпрыемстве Калумба. Толькі тады, калі каралева згадзілася, каб злачынцам, якія пажадаюць служыць на каравелах генуэзца, будуць дараваны іх віны, да Калумба пачалі прыходзіць жадаючыя, і ён здолеў скамплектаваць экіпаж.

Экіпаж не быў знаёмы з морам. Людзей палохала грозная таямнічая прастора вады, якой няма ні канца ні краю. Процілеглы вецер адганяў сон пагрозай буры. Марская цішыня і спакой адбірала надзею на тое, што на гэтым незнаёмым і нікім не вывучаным шляху яны сустрэнуць калі-небудзь спадарожны вецер і здолеюць вярнуцца дадому.



Падарожжа працягвалася ўжо тры тыдні.

Згодна з планам паходу, Калумб даплыў да Канарскіх астравоў і ўзяў курс на захад. Ён хаваў ад экіпажа колькасць пройдзеных міль, але не мог затаіць доўгіх тыдняў, праведзеных у акіяне.

Спачатку за суднамі ляцела шмат птушак: альбатросаў, птушак-басманаў, чаек і птушак-фрэгатаў. Пасля засталіся толькі чайкі. Іменна тады флатылія напаролася на палі водарасцяў. Нідзе ні хвалі, ні плёсту. Нерухомая, нібы застылая паверхня акіяна, пакрытая зялёным дыванам, спалохала людзей. Водарасці нагадвалі ім вінаградную лазу — назвалі яе «сарагоса».

— Мы ніколі не пераплывём гэта Сарагосава мора,— шапталі яны спалохана.

Хутка, аднак, пераканаліся, што водарасці не перашкаджаюць суднам.

Міналі дні.

Страва была аднастайная: сала, сухары, гарох. Віно ўжо скончылася. Вада ў бочках пратухла, а зямлі ўсё яшчэ не было відаць. Горы і гарады, якія, здавалася, паказваліся ўдалечыні, аказваліся толькі міражамі. Экіпаж усё часцей выказваў сваю незадаволенасць.

— Мы не рыбы, а людзі! Даволі нам гэтай вады! Трэба завярнуць судны і плысці дадому!

— Трэба вяртацца, пакуль ёсць яшчэ ежа і вада.

Былі і такія, якія прапанавалі падкрасціся да генуэзца ззаду, калі ён будзе ўглядацца ў зоркі, і скінуць яго ў мора. Больш цвярозыя разумелі, аднак, што калі яны заб'юць Калумба, дык ніколі ўжо не знойдуць дарогі дадому. Толькі ён разбіраецца ў компасе і картах, толькі ён тут сапраўдны марак і можа вызваліць іх з гэтай пасткі. На адным толькі ўсе пагаджаліся: трэба прымусіць адмірала неадкладна вяртацца ў Іспанію. Аднойчы ноччу яны грозным колам абступілі Калумба.

Адмірал спакойна глядзеў на ўзбуджаныя зарослыя твары, на ўзнятыя ўгору цяжкія кулакі, спакойна слухаў пагрозы і лаянку.

— Я не баюся смерці! Неаднойчы ўжо глядзеў ёй у вочы! — закрычаў ён, каб перасіліць узбуджаныя галасы.— Але тое, што хочаце зрабіць вы,— вар'яцтва! Са мной ці без мяне нельга цяпер вярнуцца! Ні ежы, ні вады на дарогу дадому не хопіць. Судны патрабуюць рамонту. Марна загінеце, перш чым даплывеце да Іспаніі! А да Індыі ўжо недалёка.

Не верылі яму, яго вылічэнням, компасу і картам. Ужо неаднойчы ён абяцаў, што падарожжа хутка скончыцца. Далоў яго! Далоў адмірала! За борт! За борт!

Калумб, спакойны і стрыманы, зноў павысіў голас:

— Запэўняю вас, што неўзабаве вы ўбачыце новыя землі і пачуеце пахі цынамонавых лясоў. Пяць дзён таму, сёмага кастрычніка, я паказаў вам над вадой хмары вераб'ёў. Гэтыя кволыя птушкі не маглі б трымацца далёка ад зямлі. Зямля ўжо блізка! Глядзіце пільна. Абяцаю таму, хто першы ўгледзіць зямлю, даць узнагароду, абяцаную каралевай Ізабелай, а ад мяне — каштоўны атласны плашч.

Абліччы маракоў памякчэлі. Калумб узняў голас на тон вышэй.

16 — У краінах, куды мы плывём, знойдзеце шмат золата, раслінных карэнняў і іншых каштоўных рэчаў. Вернецеся ў Іспанію, не баючыся за сваю старасць, за сваю жонку і дзетак. Веру, што хутка мы будзем у Індыі, як веру ў Хрыста нашага,— скончыў ён урачыста, каб канчаткова развеяць недавер экіпажа.

Світала. Змрок ужо адступаў. І раптам з судна «Пінта», якое плыло воддаль, пачуўся гарматны стрэл. Маракі замерлі і раптам пачулі радасны вокліч:

— Tierra! Tierra! Зямля! Зямля! Там! Бачу! Бачу!

Гэта крычаў матрос Радрыго Трыяна з судна «Пінта». З буслінага гнязда на мачце ён заўважыў зямлю і быў шчаслівы, што яму належыць узнагарода каралевы і плашч, абяцаны адміралам.

Калумб адразу завалодаў сітуацыяй:

— Трыяна гаворыць праўду! Гэта Індыя! Індыя!.. Надышла радасная хвіліна! Рыхтуйце лодкі! Пакуль сонца ўзыдзе, высадзімся на Новай Зямлі!

Быў ужо ясны дзень, калі Калумб першы даплыў да прыгожага бліскучага пляжа з белага карала на невядомым таямнічым востраве. Сабраўшы на беразе свой экіпаж, ён абвясціў:

— Я, віцэ-кароль новых астравоў і земляў, дзякуючы богу за тое, што ён дазволіў мне дайсці да краін скарбаў і золата, даю гэтаму востраву імя Сан Сальвадор. А вас заклікаю прысягнуць мне на вернасць. Тады адчыню перад вамі вароты новых краін!

Матросы, ахопленыя энтузіязмам, урачыста ўсклікнулі:

— Хай жыве Калён! Хай жыве віцэ-кароль! Прысягаем! Прысягаем!



**ТРЫУМФАТАР.** ● У сакавіку 1493 года, праз сем месяцаў пасля свайго ад'езду, Калумб вярнуўся ў Іспанію. Па дарозе ён адкрыў яшчэ востраў Кубу і Іспаньёлу (цяпер Гаіці). У Іспаньёле ў крэпасці Навідад ён пакінуў частку свайго экіпажа. У Іспанію ён прывёз шмат багаццяў і некалькі тубземцаў, якіх назваў індусамі (ён быў упэўнены, што даплыў да Індыі). Карыстаючыся гасціннасцю прыёра кляштара Ля Рабіда, у зацішнай келлі ён парадкаваў свае падарожныя запісы і складаў справаздачу каралеўскаму двару.

Але каралеве Ізабеле вельмі не цярпелася хутчэй даведацца пра здабычу, якую прывёз Калумб, і таму неўзабаве ў кляштар Ля Рабіда прыбыў ганец з пісьмом. Яе каралеўская вялікасць выклікала ў Барсе-

лону адмірала акіяна, віцэ-караля і губернатара адкрытых у Індыі астравоў, Крыстабала Калёна.

Дваццатага сакавіка 1493 года адбыўся трыумфальны ўезд Калумба ў Барселону. Віталі яго так, як мы сёння вітаем касманаўтаў. Вуліцы былі ператвораны ў суцэльны людскі натоўп. На вокнах і балконах былі развешаны званы. Жанчыны махалі хусцінкамі і трымалі букеты кветак, каб кінуць іх пад ногі трыумфатару.

На чале паходу ішло шэсць індзейцаў. Іспанцы з цікаўнасцю і захапленнем глядзелі на чырванаскурых, на іх простыя чорныя валасы і твары, пазбаўленыя заросту. Яны ішлі, абвешаныя золатам, прыбраныя вялізнымі пёрамі і рыб'імі касцямі, [redacted] каляровымі птушкамі ў руках.

— Што гэта за птушкі? Яны жывыя? — пыталі ў натоўпе, паказваючы на папугаяў, якія ўпершыню з'явіліся ў Еўропе.



Далей ішлі матросы. Яны неслі ў клетках калібры, маленькіх і каляровых, як каштоўныя камені, птушак, ружовых фламінга, вялікіх яшчарак і чарапах. Пасля ў кошыках неслі засохлае лісце, якое называлася «tabaco». Індзейцы скручвалі яго, запальвалі з аднаго канца, а другі канец бралі ў рот, выпускаючы носам пахучы дым. Было гэта вельмі прыемна. Калумб шмат гэтага лісця прывёз [redacted] сабой у Еўропу. Неслі кашы [redacted] нейкай дзівоснай садавінай. З выгляду плады былі падобны на яблыкі, але мелі шорсткую цёмную шкурку і былі цвёрдыя як камені. Дзівосныя гэтыя фрукты раслі ў зямлі і аказаліся спажыўныя, як хлеб. Але іх трэба было гатаваць або пячы, бо інакш яны былі нясмачныя. Называлі іх бульбай.

Увагу прысутных прыкавала да сябе постаць самога Калумба. Ён ехаў на белым кані ў пурпуровым плашчы, які сплываў з яго плячэй. Ніхто б не пазнаў цяпер у ім таго прышэльца, які стукаў некалі ў браму кляштора Ля Рабіда. У акружэнні выдатных рыцараў ён выглядаў як гранд ці іспанскі князь. А натоўп вітаў яго воклічамі: «Хай жыве Калён! Хай жыве адмірал! Хай жыве!»

Воклічы ўзраслі яшчэ больш, калі Калумб увайшоў у вароты замка. Кароль і каралева ўсталі, вітаючы генуэзца. Калі ён укленчыў і пацалаваў іх рукі, яны загадалі яму ўстаць і сесці справа ад каралевы. Ніколі яшчэ ўладары Іспаніі не аказвалі свайму падданаму гэткага гонару. І гэта не дзіўна. Іспанія была ўдзячна гэтаму іншаземцу больш, чым каму-небудзь са сваіх сыноў.



Беатрыс Энрыкес, з якой Калумб пасля смерці жонкі звязаў свой лёс марака і з якой меў сына Фердынанда, хацела, каб ён хоць на нейкі час пабыў цяпер з ёю і дзецьмі.

«Хіба я не маю права на гэта пасля доўгай разлукі? — думала яна.— Ды і яму трэба адпачыць, пажыць крыху спакойна, нацешыцца сваім трыумфам, сваімі сынамі...»

Аднак яна не асмелілася сказаць яму гэта. Толькі пяцігадоваму Фердынанду наказвала сваім шчэбетам і просьбамі затрымаць бацьку. Дыегу нічога не казала.

Старэйшы сын Калумба, трынаццацігадовы выхаванец францішканцаў з кляштора Ля Рабіда, здавалася, разумеў, што нават самыя чулыя просьбы Беатрычэ і маленькага Фердынанда не затрымаюць адмірала, не

здолеюць заглушыць шуму акіяна і шолаху пальмавых лясоў на новаадкрытых астравах і землях.

Калумба не вабіў ні спакой, ні адпачынак. Ён адчуваў сябе дужым. Ён лічыў, што ніякія даброты, якія можа атрымаць з ласкі каралевы ў Іспаніі, не дадуць яму таго, што ён здабудзе як віцэ-кароль Індыі і яе губернатар.

— Мушу сам прасачыць за купляй золата, за каланізацыяй новых краін і зрабіць індусаў хрысціянамі,— казаў ён засмучанай жонцы.

Кароль і каралева, згаджаючыся з праектам Калумба наконт утварэння гандлёвай калоніі Іспаніі, таксама адзначалі, што найважнейшай задачай новага паходу з'яўляецца схіленне туземцаў да хрысціянскай веры.



Арганізацыя новага паходу не сустрэла ніякіх перашкод. Адміралу не даводзілася цяпер угаворваць людзей: тысячы маладых мужчын жадалі плыць з ім за акіян. Золата было тым магічным словам, якое вабіла іспанцаў за Атлантычны акіян.

Гэтым разам Калумб рушыў у дарогу на чале семнаццаці суднаў, маючы ў сваім экіпажы паўтары тысячы матросаў, каланістаў і салдат. Ён кіраваў флатыліяй, якая дасюль яшчэ не плавала ў водах Атлантыкі. У часе гэтага плавання ён адкрыў зноў некалькі невядомых астравоў (Малую Антылію).

Калумб адчуваў сябе вельмі шчаслівым. Ён з захапленнем назіраў за цудоўнай ігрой святла і ценяў на надзьмутых ветразях сваіх каравел, зменлівымі колерамі то спакойных, то бурлівых вод акіяна, серабрыстымі

рыбамі, якія ўзнімаліся ў паветры, смяяўся, назіраючы гульню дэльфінаў, якія куляліся на грэбнях хваль на захадзе сонца, узрушана слухаў, як матросы яго флатыліі спявалі «Salve Regina».

Аб каланістах, якія засталіся ў крэпасці Навідад у Іспаньёле, Калумб зусім не трывожыўся. Ён ведаў, што індзейцы, гэтыя нагія дзікуны, занятыя паляваннем і рыбалоўствам, віталі людзей з Еўропы, як прыбыльцаў з неба, і былі даверлівыя і сардэчныя, як дзеці.

«Яны,— пісаў Калумб у адным з пісьмаў у часе свайго першага плавання,— людзі баязлівыя. Калі адчуваюць сябе ў бяспецы і пазбываюцца страху, робяцца надзвычайна даверлівымі, дабрадушнымі і шчодрымі, і калі іх аб чым-небудзь просяць, не адмаўляюць ніколі, а нават прапаноўваюць узяць усё, што ў іх ёсць. Яны выказваюць вялікую любоў да ўсіх, даюць каштоўныя рэчы за малыя, задавольваючыся абы-чым і нават нічым».



ЧОРНЫЯ ДНІ. ● Тое, што Калумб застаў у крэпасці Навідад, было для яго непрадбачанай катастрофай.

Іспанцы, якіх ён пакінуў у крэпасці, у пагоні за золатам пачалі рабаваць і забіваць безабаронных індзейцаў, і тыя, даведзеныя да роспачы, узбунтаваліся і знішчылі разбэшчаных рабаўнікоў, канквістадараў.

Новыя прышэльцы, якія прыплылі з Калумбам, былі абураны і пачалі дакараць адмірала.

— Ён казаў, што індзейцы баязлівыя і добразычлівыя, а яны забілі ўсіх матросаў,— казалі яны.

— Казаў, што ў іх няма зброі, а выходзіць, гэтыя дзікуны маюць самапалы і атручаныя стрэлы.

Калумб добра разумеў, што вінаваты ва ўсім былі белыя жыхары Навідад, але і ў новых сваіх матросах ён не мог утаймаваць прагі да нажывы. Золата — вось чаго ў першую чаргу дамагаўся белы чалавек, ступіўшы на бераг новаадкрытай зямлі. Нават манах Бюль, якога Калумб прывёз, каб ператварыць індзейцаў у хрысціян, устаў на чале банды рабаўнікоў і, абяцаючы індзейцам рай на небе, стварыў ім пекла на зямлі. Іспанцы адбіралі ў індзейцаў зямлю і маёмасць, забівалі тых, хто супраціўляўся, а пакорлівых рабілі нявольнікамі.

Адмірала яны ненавідзелі хоць бы за тое, што гэты «чужынец» і «прыблуда» загадваў ім працаваць, будаваць новыя крэпасці — Ізабелу і Санта-Дамінга.



— Мы прыбылі сюды, каб змагацца і здабываць золата. Мы не будзем гнуць спіны на працы! Не будзем слухаць генуэзца! — абураліся іспанскія гідальга.

У самой Іспаніі (о, іронія!) па меры новых адкрыццяў Калумба таксама расла незадаволенасць у адносінах да заваёўніка новых краін. А ён у часе двух сваіх наступных паходаў адкрыў Порта-Рыка і цудоўную Ямайку, маляўнічую Гвадэлупу, Караібскія астравы і Трынідад. Дайшоў да вусця ракі Арынока і праплыў уздоўж узбярэжжа Паўднёвай Амерыкі, усё яшчэ перакананы ў тым, што знаходзіцца ў Індыі.

Каралева Ізабела разумела, што ўсе гэтыя адкрыцці Калумба робяць Іспанію адной з самых багатых і магутных дзяржаў свету. Аднак зга-

джалася з саркастычнымі заўвагамі свайго мужа наконт велізарных прыбыткаў адмірала.

Думкі караля Фердынанда падзяляў і фон Сантангель, яго казначэй і фінансавы дарадчык, той самы, які некалькі гадоў таму так горача падтрымліваў першае плаванне Калумба.

— Ваша каралеўская вялікасць павінна пазбавіць яго прывілеяў. Тыя дзесяць працэнтаў ад прыбыткаў, якія яму гарантаваны, цяпер ужо складаюць гіганцкую суму,— казаў ён каралеве Ізабеле.

І, каб заспакоіць чулае сумленне Ізабелы Каталіцкай, дадаваў, што Калумб не датрымаў свайго слова — не дайшоў да Кітая, як абяцаў, а таму не павінен мець да двара ніякіх прэтэнзій.

Кароль і каралева ўжо без усялякіх ваганняў скасавалі дагавор з адміралам і дазвалялі цяпер іншым падарожнікам выходзіць у воды Атлантыкі і шукаць не адкрытых яшчэ астравоў і краін.



Гэтыя паслядоўнікі Калумба карысталіся ў сваіх падарожжах яго картамі і дзённікамі, у якіх адмірал сабраў і па сённяшні дзень вельмі каштоўны акіянаграфічны матэрыял. Гэта ён адкрыў вельмі важнае для маракоў існаванне пасатаў — рэгулярных вятроў усходніх напрамкаў, якія дзьмуць на працягу года на абодвух паўшар'ях да экватара. Гэта ён навучыў іспанскіх маракоў карыстацца магнітнай стрэлкай і першы заўважыў яе адхіленне ад напрамку поўнач — поўдзень. Але веліч гэтых адкрыццяў па-сапраўднаму ацанілі людзі толькі ў наступных стагоддзях.

Тым часам розныя чуткі хадзілі па Іспаніі і іншых краінах Еўропы наконт цудаў, якія бачылі на Новай Зямлі. Расказвалі казкі аб карліках,

якім доўгія вушы служылі — адно замест ложка, а другое замест коўдры; аб шматногіх стварэннях, якія хаваліся ад сонца ў цень сваіх уласных ступняў; аб дрэвах, на якіх замест фруктаў раслі яйкі. Некаторыя прысягалі ў імя Хрыста, што самі бачылі гэтыя цуды. Ці верыла ў гэтыя казкі каралева Ізабела — цяжка сказаць. Адно вядома, што яна лёгка верыла розным нагаворам зайздроснай іспанскай знаці. А тая зайздросціла Калумбу ва ўсім. Зайздросціла яго высокім тытулам, яго багаццю, яго славе. Зайздросціла яго братам, якія разам з Калумбам гаспадарылі ў новаадкрытых краінах. Зайздросціла яго сынам, якія былі пажамі каралевы.

Яны імкнуліся пераканаць каралеву Ізабелу, што золата, якое прывозіць Калумб у Іспанію,— фальшывае, што ён гандлюе нявольнікамі, што ў новаадкрытых краінах хоча ўтварыць сваё ўласнае каралеўства.



Урэшце каралева, устрывожаная гэтымі плёткамі, паслала ў Іспанію свайго камісара Францыска дэ Бабадзілю — хай ён праверыць усё, хай прышле Калумба і яго братоў да яе.

Калі ў верасні 1500 года камісар яе каралеўскай вялікасці падплыў да вострава Санта-Дамінга, ён звярнуў увагу на шыбеніцы, што стаялі на беразе. З палубы свайго судна ён налічыў іх сем.

— Няўжо Калумб вешае індзейцаў? — здзівіўся камісар.— Ён заўсёды казаў, што іх можна заваяваць лагоднасцю, а не гневам.

Сышоўшы на бераг, Бабадзіля ўбачыў, што на шыбеніцах вісяць іспанцы.

— Гэты генуэзец і яго браты хочуць знішчыць усю іспанскую знаць,— гнеўна ўсклікнуў ён і, не слухаючы ніякіх тлумачэнняў, загадаў Крыстафора Калумба і яго братоў закаваць у кайданы.

— Я сабраў шмат паказанняў і скарг, якія абвінавачваюць вас,— сказаў ён адміралу.— У Іспаніі, куды я вас адсылаю, вы будзеце адказваць перад судом за свае злачынствы.

Скаргаў было шмат. Іспанцы скардзіліся, што Калумб і яго браты прымушалі іх цяжка працаваць і вешалі тых, хто не хацеў падпарадкавацца ўладзе адмірала. Бабадзіля канфіскаваў усю маёмасць Калумба і на судне «Ля Горда» адправіў яго ў Іспанію.

Калумб быў у роспачы, адчуваў сябе глыбока зняважаным і пакрыўджаным. Ён, хто ўзбагаціў Іспанію як ніхто іншы, якога, як сам ён казаў: «Бог зрабіў герольдам новых нябёсаў і новай зямлі», быў усяго пазбаўлены і закаваны ў кайданы, як самы звычайны злачынца.



Калумб сядзеў у сваёй каюце згорблены, пастарэлы, задуменны і агорнуты роспаччу. Ён не адчуваў ніякай віны. Калумб не ўсведамляў таго, што ні ён, ні яго браты не былі добрымі адміністратарамі падуладных астравоў і краін — не здолелі абараніць індзейцаў ад крыўды, гвалту і знішчэння, а толькі настроілі супраць сябе іспанскіх прышэльцаў.

«У Іспаніі,— думаў закаваны ў кайданы адкрывальнік новых краін,— глядзяць на мяне як на губернатара Сіцыліі ці нейкага іншага горада, дзе існуе нармальная ўлада, нармальныя адносіны. А я заваяваў і аддаў пад уладу караля і каралевы іншы свет, зусім адметны ад нашага, дзе кіраваць трэба інакш, чым у Іспаніі... Тым часам...»

З роздуму вырвалі яго нечыя крокі. Узняў галаву. У змроку каюты стаяў перад ім капітан «Ля Горды».

— Адмірал акіянаў, дазвольце зняць з вас кайданы,— пачаў ён.— Зараз мы ўжо ў адкрытым моры. Ніхто сюды не зойдзе. А я і мае матросы... Мы ведаем вас, адмірал. Мы ведаем, што вы самы слаўны марак свету... Я раскую вас на час падарожжа. Дазвольце, адмірал.

Калумб моўчкі слухаў капітана. Урэшце сказаў паціху, але рашуча:

— Улада каралеўская надзела на мяне гэтыя кайданы, і толькі па загаду каралеўскаму яны могуць быць зняты.

І столькі ў гэтых словах было чалавечай годнасці, што капітан моўчкі выйшаў з каюты.

Падарожны вецер хутка гнаў «Ля Горду» да берагоў Іспаніі. У канцы кастрычніка судна прыбыла да Кадыкса, адкуль Калумба, усё яшчэ закутага ў кайданы, адправілі пад вартай у Севілью, дзе ў манастыры францішканцаў ён правёў цэлых шэсць тыдняў. І толькі напярэдадні каляд 1500 года кароль і каралева загадалі яго вызваліць і выклікалі ў замак Альгамбра ў Гранадзе.

Калумб стаяў перад імі сярод раскошы іспанскага двара, састарэлы і хворы, апрануты ў паношаную карычневую францішканскую сутану, са слядамі кайданаў на руках і нагах. Стаяў пакрыўджаны, але поўны гордага пачуцця за свае прывілеі і заслугі. Ён патрабаваў, каб яму вернуты былі ўсе яго правы, маёмасць, тытулы і высокія пасады. Кароль і каралева размаўлялі з ім ветліва і былі згодны на ўсё. Аднаго толькі не абяцалі — звароту на Іспаньёлу.

Калумбу ўдалося ўрэшце пераканаць караля і каралеву, каб яны адклікалі з Іспаньёлы ненавіснага Бабадзілю. Праўда, губернатарам астравоў і кантынентаў, адкрытых Хрыстафорам Калумбам, стаў цяпер Ніколас дэ Аванда. Але Калумб захаваў тытул віцэ-караля і адмірала і атрымаў дазвол паслаць разам з Овандо агента, які павінен быў адабраць ад Бабадзіля канфіскаванае золата і маёмасць братоў Калумбаў. І гэта было ўсё.

Калумб сказаў сваім братам:

— Нічога больш я не здолеў зрабіць. Даволі мне двара, петыцый і просьбаў. Хачу арганізаваць новае падарожжа. Спадзяюся, што на гэта мне дадуць грошы і судна.

Кароль Фердынанд з ахвотай згадзіўся на новае падарожжа адмірала. Ён проста хацеў як мага хутчэй пазбыцца Калумба, каб не чуць яго дакораў і прэтэнзій. Каралева Ізабела, адчуваючы папрокі сумлення ў адносінах чалавека, які ўславіў і ўзбагаціў Іспанію, пацяшала сябе:

— Хай едзе. Будзе зноў у сваёй стыхіі і забудзецца аб тым, што яго напаткала.

АПОШНЯЕ ПЛАВАННЕ. ● «El Alto vaije» — вялікае, як называў яго Калумб, плаванне было чацвёртым і апошнім у бурным жыцці адмірала.

Флатылія яго пакінула Севілью 3 красавіка 1502 года. Складалася яна з чатырох каравел. На самай большай з іх плыў Калумб з сынам

Фердынандам. Хлопчыку было трынаццаць год, і ён вельмі ганарыўся тым, што плыве з бацькам адкрываць новыя краіны.

Лета ў гэты год было вельмі бурнае. У адзін з чэрвеньскіх дзён, нягледзячы на добрае надвор'е, Калумб, стоячы з сынам на палубе свайго судна, з трывогай сказаў, што набліжаецца бура. Хлопчык здзівіўся — блакітнае неба, здавалася, абяцала пагодлівы і ясны дзень.

— Глянь, сынок, на гэтыя алеістыя хвалі, якія насоўваюцца з паўднёвага ўсходу,— сказаў адмірал.— Або на цюленяў, якія цэлымі статкамі гуляюць на паверхні вады. Або, урэшце, на гэтыя пёрыстыя аблокі, што бягуць па чыстым небе. Усё гэта сведчыць аб набліжэнні навальніцы.



Заклапочаны Калумб рашыў паставіць судны ў бяспечным месцы. Непадалёк знаходзілася Санта-Дамінга. І, хоць кароль і каралева сурова забаранілі Калумбу наведваць яго віцэ-каралеўства з прычыны нянавісці, якую мелі да яго іспанскія каланізатары, адмірал вырашыў увесці сваю флатылію ў порт. Каб атрымаць на гэта дазвол губернатара Аванды, Калумб паслаў яму пісьмо. Ён паведамляў губернатару аб набліжэнні буры і прасіў дазволіць яго суднам увайсці ў порт.

Аванда атрымаў пісьмо Калумба ў часе абеду і прачытаў яго сваім гасцям.

— Прарок! — смяяліся субяседнікі губернатара.— Бачылі яго! Хваліцца, што ўмее прадбачыць ветры і буры! Хай сам з імі спраўляецца.

Нікола дэ Аванда не дазволіў флатыліі Калумба ўвайсці ў порт. Ён не звярнуў увагі і на папярэджанне Калумба наконт буры і ў гэты ж

дзень выслаў сваю флатылію ў Іспанію. Бура захапіла яе ў акіяне. Частка суднаў з людзьмі загінула. Загінуў таксама і вораг Калумба — Бабадзіля, які вяртаўся ў Іспанію, везучы золата. Да Іспаніі дацлыла толькі маленькая каравела, на якой знаходзіўся агент Калумба, Карваяла, і золата адмірала, адабранае ад Бабадзіля.

Атрымаўшы адмоўны адказ, Калумб пачаў шукаць іншае бяспечнае месца. Дзякуючы вялікаму вопыту, ён здолеў так пакіраваць экіпажам, што ўсе чатыры яго каравелы вытрымалі шалёны націск стыхіі. Але сам ён адчуваў сябе зноў зняважаным і пакрыўджаным. «Хто ж з людзей,— пісаў ён пазней свайму старэйшаму сыну Дыега,— не выключаючы нават Гіаба, не памёр бы ад роспачы, калі б у гэту жахлівую буру, шукаючы ратунку для свайго сына, брата, сяброў і сябе самому, сустрэўся, як гэта давялося мне, з адмовай уваходу ў порт і ступіць на зямлю, якую я сам, з ласкі бога і крывавай працы, здабыў для Іспаніі». 29

Два з паловай гады працягвалася апошняе плаванне Калумба, у часе якога ён наведаў усходні бераг Амерыкі і год правёў на Ямайцы. Ён зведаў у часе гэтага плавання голад, бунт экіпажа і жахлівыя ўраганы. Аб адным з іх ён пісаў пазней:

«Бесперапынна лютавала навальніца: ліў дождж, білі перуны, палілі маланкі. Каравелы былі аддадзены на волю стыхіі, ветразі падзёртыя, якары, ліны, кабелі абарваныя, лодкі і пераважная частка запасаў ежы загінулі. Матросы ледзь стаялі на нагах і зусім палі духам. Яны прысягалі, што заўсёды будуць жыць сумленна, хадзіць на маленні і гэтак далей, спавя-

даліся нават адзін адпаму. Я бачыў нямала ўраганаў і бур, але гэткай доўгай і жахлівай яшчэ ніколі не перажываў. Нават дасведчаныя маракі, якіх мы лічылі людзьмі мужнымі і дужымі, страцілі адвагу. Што мучыла мяне найбольш, дык гэта пакуты майго сына. Гэты трынаццацігадовы хлопчык мусіў перажыць так шмат. Але бог адарыў яго гэткай мужнасцю, што ён яшчэ іншых падбадзёрваў і працаваў так энергічна, нібы плаваў на моры шмат гадоў. Было гэта для мяне вялікай уцехай. Я сам быў хворы і неаднойчы стаяў на парозе смерці, аддаючы каманду і будана, які зрабілі мне матросы на задняй палубе. Брат мой знаходзіўся на найгоршым судне, і я праклінаў сябе за тое, што, насуперак яго жаданню, падгаварыў яго ісці ў гэтае плаванне».

30 І сапраўды, браты Калумба былі супраць гэтага плавання. Яны па горла былі сытыя акіянам, індзейцамі, ураганамі... Гэта чацвёртае плаванне Калумба было адно з самых цяжкіх падарожжаў адмірала. Але і вяртанне яго не было радасным.

Каралева Ізабела, якая больш прыхільна і добразычліва ацэньвала веліч Калумба і значэнне яго паходаў, у гэты час памерла. Кароль Фердынанд заўсёды глядзеў на Калумба як на маньяка і назолу. Яго не цікавілі вялікія адкрыцці генуэзца, цікавіла яго толькі золата, якое ён здабываў яго кароне.

— Калі мы абяцалі яму дзесяць працэнтаў ад прыбыткаў, гаворка ішла толькі аб некалькіх астравах,— бурчаў кароль.— А цяпер адмірал павінен адмовіцца ад сваіх тытулаў і прыбыткаў.

Нарэшце ён загадаў паведаміць Калумбу:

— Двор гатовы падараваць яму самую цудоўную зямельную ўласнасць у Іспаніі і да канца жыцця выплачваць яму значную суму. Хай толькі ён забудзецца аб даўнейшых умовах.

Калі адміралу перадалі паведамленне караля, ён адмоўна пакруціў пасівелай галавой. Прапанова гэта здалася яму яшчэ большай знявагай, чым кайданы, у якія некалькі год таму закаваў яго Бабадзіля і якія з таго часу ён меў заўсёды пры сабе.

— Яны напамінаюць мне, як цяжка разлічваць на ўдзячнасць магутных гэтага свету,— сказаў ён сынам.— Пакладзіце мне іх у труну, калі я заплюшчу навекі вочы свае.

Калумбу было 53 гады, але ён адчуваў сябе стомленым жыццём, хворым і ашуканым у сваіх амбіцыйных надзеях і планах. Ён хацеў цяпер толькі аднаго: каб сыны Дыега і Фердынанд згодна з першапачатковай умовай атрымалі ў спадчыну яго тытулы і пасады. Але не меў ужо сілы змагацца за гэта і хадайнічаць перад каралём. 31

Памёр Калумб 19 мая 1506 года. У яго сціплым пахаванні, якое не было падобна на пахаванне вялікага адкрывальніка, віцэ-караля новых краін, вялікага адмірала акіяна, прыняла ўдзел толькі яго сям'я і некалькі блізкіх сяброў.

Што ж? Яго сучаснікі не былі яшчэ ў стане ацаніць Калумба як таленавітага мараплаўца і ацаніць яго вялікіх адкрыццяў. Сам ён да канца жыцця верыў, што дайшоў да Індыі, не падазраючы нават, што адкрыў новую частку свету, названую Амерыкай у гонар іншага падарожніка Амерыго Веспучы, які першы апісаў гэты новы, нязнаны свет.

Аднак той дзень, у які пяць стагоддзяў таму на флатыліі Калумба, што плыла сярод бязмежных прастораў акіяна, пачуўся радасны вокліч «Tierra! Tierra!»,— дзень 12 кастрычніка, у які ўпершыню нага еўрапейца ступіла на прыгожы пляж з белага карала, сёння ўрачыста адзначаецца амаль па ўсёй Амерыцы. І гэта яшчэ адзін пасмяротны трыумф Хрыстафора Калумба.

# МЕТАЛІЧНЫЯ КРЫЛЫ ЛЕАНАРДА ДА ВІНЧЫ

**НАСТАЎНІК І ЯГО ВУЧНІ.** ● Быў цёплы восеньскі надвячорак. Праз адчыненае акно майстэрні Леанарда да Вінчы ў Мілане далятаў вулічны гоман і гукі касцельных званоў. У пакоі, застаўленым машынамі, апаратамі і прыладамі, панаваў спакой і цішыня. Праменні заходзячага сонца то напаўнялі пакой танцуючымі пылінкамі вясёлкі, то ападалі празрыстай пазалотай на вялікія мальберты, паглынаючы цалкам увагу майстра. Леанарда быў так захоплены гульнёй святла і ценю, што не чуў, як зарыпелі дзверы. У пакой убег Астро, вучань і памочнік Леанарда. Сябры называлі яго «Мядзведзем», таму што быў ён нязграбны і тоўсты, а можа таму, што меў толькі адно вока, другое выпаліла яму іскра ў часе доследаў, пры якіх ён дапамагаў Леанарда. Звычайна ціхі і спакойны, сёння Астро быў вельмі ўзбуджаны, і голас яго дрыжаў:



2 Зак. 1710

*ТЫЯ, ХТО ЗАЙМАЕЦЦА*
*ВЫКЛЮЧНА*
*ПРАКТЫЧНЫМІ ДАСЯГНЕННЯМІ,*
*НЕ КЛАПОЦЯЧЫСЯ АБ ТЭОРЫІ,*
*ПАДОБНЫ ДА РУЛЯВОГА,*
*ЯКІ ВЯДЗЕ СУДНА БЕЗ РУЛЯ*
*І КОМПАСА,— НІКОЛІ НЕ ВЕДАЕ,*
*КУДЫ ПЛЫВЕ.*

*Леанарда да Вінчы*



— Майстар Леанарда! Майстар Леанарда!

Леанарда паволі павярнуў да яго свой прыгожы, акаймаваны каштанавымі валасамі і доўгай хвалістай барадой твар. З-пад нахмураных броваў глядзелі на Астро ясныя і пранікнёныя вочы.

— Чаго ты хочаш, Астро?

Астро ўзарваўся цяпер патокам усхваляваных слоў:

— Настаўнік! Заўтра вясельны картэж князя Людовіка будзе праходзіць вуліцамі Мілана. Картэж будзе цудоўны! Але я хацеў бы зрабіць яго яшчэ больш пышным. Дазволь мне надзець свае металічныя крылы. Дазволь узляцець над гэтым картэжам. Гэта будзе самае велічнае з таго, што ты прыдумаў для раскошы вяселля князя.

Леанарда адмоўна пакруціў галавой:

— Не, Астро. Мае крылы яшчэ не гатовы для палёту.

Астро настойваў:

— Дазволь мне паспрабаваць. Я ўзлячу дзе-небудзь над вадой і калі нават упаду, дык здолею выплысці. А калі мне пашанцуе, дык заўтра...

Убачыўшы, што майстар Леанарда адмоўна круціць галавой, Астро горача дадаў:

— Кожны камар, кожная муха, агідная, брудная муха ўмее лятаць. Толькі мы, людзі, прыкаваны да зямлі. Чаго чакаць? З ласкі божай разганюся і палячу. Ты правяраў гэтыя крылы столькі разоў. Яны надзейныя.

Леанарда паківаў галавой. Правяраў. Гэта праўда, правяраў шмат разоў. На працягу доўгага часу працаваў над лятаючай машынай і пра-

вяраў, ці крылы яе дакладна гэткія, як крылы кажана. Яго спрытныя, тонкія і чулыя як у мастака пальцы далікатна вязалі лінькі і рэйкі. Нават найдрабнейшыя костачкі і злучэнні суставаў кажана былі дакладна скапіраваны. Абалонку кажана замяняла палатно, якое курчылася і распросталася па меры рухаў. Аднак...

Леанарда ўздыхнуў.

— Нельга ляцець на гэтых крылах, мой сын. Трэба зрабіць порыстую абалонку, якая будзе прапускаць паветра, і руль, які будзе адыгрываць ролю птушынага хваста.

Астро ўсклікнуў:

— Зрабіць! Зноў нешта зрабіць! Мой бог! Калі ж гэта будзе! Князь жэніцца заўтра! Было б гэтак цудоўна! Усё тое, што ты падрыхтаваў да гэтага свята, добра для простых людзей! А я нібы які бог узляцеў бы і ўславіў сваё і тваё імя, настаўнік!



Заўважыўшы, што Леанарда зноў бярэцца за пэндзаль, Астро горача дадаў:

— Ты сам казаў: «Птушка — гэта апарат, які дзейнічае на падставе матэматычных законаў». І яшчэ: «Чалавек можа зрабіць такі самы апарат і паляцець». А цяпер, калі ты зрабіў такі апарат, сам не хочаш і мне не дазваляеш узляцець над зямлёй.

Леанарда [illegible] усмешкай глядзеў на Астро. Яму падабаўся энтузіязм юнака і асабліва тое, што ён добра помніў словы, якія ён, Леанарда, паўтараў шмат разоў, працуючы над крыламі. Аднак ён зноў адмоўна паківаў сваёй прыгожай галавой.

— Не гарачыся, Астро! Вяртайся лепш да сваёй работы. І не перашкаджай мне, сынок.

Астро выйшаў злы і пануры.

— Satanasso! — бурчэў ён зусім так, як настаўнік, калі ў яго штонебудзь не ладзілася. У дзвярах ён сутыкнуўся з другім вучнем Леанарда, Цазары.

— Куды ідзеш? Майстар працуе,— затрымаў яго Астро, і яны выйшлі на панадворак.

Цазары не любіў Астро. Мядзведзь быў занадта адданы настаўніку, а Цазары быў незадаволены майстрам. Часамі ён проста ненавідзеў яго за адасобленасць і веліч, якую ён, як і большасць людзей у Мілане, не разумеў, але якую адчуваў, як адчувалі яе ўсе. Ён з'едліва паўтарыў словы Астро: 

— Працуе! Працуе! Ведаем яго працу! Сядзіць і пазірае, як лётаюць птушкі і цвітуць кветкі, як сонца заходзіць і бліішчаць зоркі. Гэта не праца! Гэта дзіцячая гульня! А маляваць, дык ён малюе ўсё меней.

Падышоў любімец Леанарда, прыгожы Джакома, якога настаўнік пяшчотна называў Салаі, што па-італьянску азначае чарцяня. Леанарда маляваў яго шмат і дараваў юнаку ўсё — гультайства, хлусню і нават дробны крадзёж. Прыхапіўшы свайго любімца на якой-небудзь хлусні, ён не караў яго, а толькі павучаў:

— Хлусня — рэч настолькі нікчэмная, што, калі нават выхваляе вялікасць бога, абражае яго. Паміж хлуснёй і праўдай такая самая розніца,

як паміж святлом і цемрай,— лагодна і цярпліва тлумачыў ён свайму вучню.

Хлапец не вельмі звяртаў увагу на гэтыя павучанні. Прыгожы, бы той грэцкі бажок, капрызны і самавольны, ён часта скардзіўся на свайго апекуна. І сёння ён прыйшоў, каб пажаліцца на яго сваім таварышам. Якая несправядлівасць! Увесь Мілан гуляе, святкуе вяселле князя, а ён, Джакома, вымушаны сядзець дома, бо не мае адпаведнай вопраткі.

— Майстар не даў мне грошай на новую вопратку, а хіба я магу пайсці ў гэтай,— казаў ён, паказваючы рукой на свой прыгожы гарнітур.— А ў гэтым доме так сумна.

Цазары і Астро неахвотна слухалі хлапца і ўжо хацелі пайсці, але ў гэту хвіліну, нібы прываблены голасам свайго любімца, выйшаў Леанарда.



— Што я чую, Джакома, чарцяня,— сказаў ён весела.— Нудна табе дома і сумна?

Джакома не збянтэжыла з'яўленне Леанарда, і ён смела сказаў, што хацеў бы жыць у больш пышным і вясёлым асяроддзі. Цазары і Астро слухалі яго спалохана: можа, майстар разгневаецца і пакрыўдзіцца? Можа, яму прыкра?

Але Леанарда толькі лагодна ўсміхнуўся.

— Я не ўпершыню чую гэта, Салаі,— сказаў ён.— Учора я напісаў верш, які будзе табе лепшым адказам.

Сказаўшы гэта, ён выцягнуў з кішэні лісток паперы і прачытаў:

Памкнуўся дзікі вінаград цераз дарогу
Да плота незнаёмага і да двара чужога.
Спусціў ён вецце са свайго паркана,—
Таму і быў прахожымі стаптаны.

Надзьмутая міна Салаі красамоўна сведчыла аб тым, што ён зразумеў павучанне настаўніка. Заўважыўшы гэта, Леанарда, каб задобрыць свайго пестуна, абяцаў узяць яго заўтра на вясельныя ўрачыстасці.

— Ну, а цяпер спаць, мае мілыя,— лагодна ўсміхнуўся ён і, памахаўшы хлапцам рукой, пайшоў да сябе.

Хутка ўвесь дом агарнуў сон. Не спаў толькі Леанарда. Сваім нязвыклым почыркам, які прачытаць можна было толькі пры дапамозе люстра, ён занатоўваў думкі, якія не давалі яму заснуць. Ён пісаў левай рукой справа налева. Леанарда ад нараджэння быў ляўшой і, хоць правую руку натрэніраваў так, што валодаў ёю таксама добра, ахвотней усё ж працаваў левай. 39

«Прадмет уздзейнічае на паветра з такой самай сілай, з якой паветра дзейнічае на прадмет,— пісаў ён.— Цяжкі арол узнімаецца ў вышыню пры дапамозе ўдараў сваіх распасцёртых крылаў. А значыць, і чалавек, забяспечаны даволі шырокімі і адпаведна сканструяванымі крыламі, здолее перамагчы супраціўленне паветра і ўзляцець пад аблокі».

Ён адклаў пяро і нейкую хвіліну задуменна гладзіў сваю доўгую бараду.

«Вялікая птушка,— думаў Леанарда, называючы так свае крылы,— узляціць і напоўніць свет сваёю вялікай славай».

Назаўтра майстар Леанарда раней чым звычайна пайшоў у Міланскі кляштар, на сцяне якога ён пачаў маляваць «Тайную вячэру».

Ён любіў працаваць тут у адзіноце і цішыні. Лінейкай і цыркулем ён вымяраў прапорцыі форм, спакойна змешваў фарбы, каб пасля пераносіць іх на пабеленую сцяну кляшторнай трапезнай.

Увечары ён меў намер пайсці ў княжацкі палац, каб прыняць удзел ва ўрачыстасцях і гульнях. Цяпер, аднак, час належаў яму.

Але сёння не давялося яму працаваць спакойна.

Ён сядзеў, заглыбіўшыся ў сябе, у тое, што пры дапамозе чарадзейскага дотыку яго пэндзля мела ажыць на кляшторнай сцяне, калі ў залу ўбег Цазары і сваім крыкам парушыў кляшторную цішыню.

Цазары быў бледны, задыханы, спалоханы.



— Майстар! Няшчасце! Астро! Гэты дурны Астро!..

І толькі крыху супакоіўшыся, расказаў у некалькіх словах аб тым, што здарылася.

Астро, не паслухаўшы майстра, узяў раніцай рухомыя крылы Леанарда, прымацаваў іх да плячэй, узлез на дах аднаго з дамоў і хацеў узняцца ўгору, каб праляцець над вясельным картэжам князя Людовіка. На жаль, ён упаў і разбіўся.

— Ты, майстар, лепш за дактароў дапаможаш Мядзведзю. Яны кажуць, што ў яго паламаны ногі і пазваночнік. Спачатку ён крычаў. А зараз ляжыць як нежывы.

Леанарда нават не паклаў, як звычайна, у гліняны гаршчок пэндзлі. Нельга было траціць ні хвіліны.

— Хадзем, Цазары! Хадзем хутчэй! Бедны Астро! Казаў яму, перасцярагаў. Не верыў, што прырода так лёгка не адкрывае сваіх таямніц.

Пасля няшчасця, якое напаткала Астро, вучні Леанарда лічылі, што майстар пакіне свае спробы.

— Вынаходствы майстра не прыносяць ніякай карысці,— разважаў Салаі.— Яны памнажаюць толькі ворагаў. Я сам чуў, як нехта назваў яго ведзьмаром. Навошта яму гэтыя крылы? Навошта ён працуе над імі?

Гэтым разам Цазары згаджаўся з прыгожым Джакома.

— Майстар выдаткоўвае ўсе свае грошы на гэтыя няшчасныя крылы. Можа, цяпер іх пакіне? Можа, нарэшце, возьмецца за малярства? Я, сказаць па праўдзе, часамі думаю, навошта бог дае людзям талент, калі яны не ўмеюць яго выкарыстаць?

І толькі новы вучань Леанарда Франчэска Мельзі, хлапец, прыгажосць якога і выключная інтэлігентнасць здабылі яму сімпатыю майстра, разумеў, што Леанарда ніколі не пакіне сваіх мараў аб паднябесных палётах. Калі аднойчы ў нейкай шчырай размове ён паведаміў аб гаворцы вучняў, Леанарда рашуча сказаў:

— Скажы ім, хлопча, што няўдача мяне не зломіць.

Пасля дадаў са сваёй сумнай і мілай усмешкай:

— Не адступае той, хто звязаў свой лёс з зоркай.

Франчэска не пераказаў гэтых слоў таварышам, бо ведаў, што не зразумеюць іх. Пасля трагічнай катастрофы Астро, паламаныя ногі якога ніяк не хацелі зрастацца, Леанарда цэлымі днямі сядзеў над чарцяжамі і мадэлямі свайго вынаходства.

— Калі б я яшчэ нечым забяспечыў Астро, хлапец не быў бы калекам,— сказаў ён неяк Францэска, паказваючы яму свае чарцяжы і вылічэнні.— Бачыш, гэта шацёр, зроблены з непрамакальнага палатна. Яго вышыня павінна мець цэлых дваццаць локцяў. Калі чалавек, падаючы, раскіне над сабой гэтае палатно, дык з ім не станецца нічога дрэннага. Можа ўзнімацца ў паветра смела.

Францэска горача любіў майстра. Ён паважаў яго дужыя рукі, якія маглі згінаць сталь і затрымліваць раз'юшаных коней, а рысавалі так далікатна, як ніякія іншыя. Ён паважаў яго агромністыя веды і глядзеў на яго як на вясёлку, калі Леанарда гладзіў сваю залацістую бараду і казаў вучням аб перспектыве, аб прапорцыях чалавечага цела, аб матэматычных законах. Для Францэска Леанарда быў не толькі вялікім мастаком, але і вялікім вучоным.



Цазары смяяўся:

— Ха-ха-ха! Што за вучоны, які не ўмее як след чытаць па-латыні, а грэчаскай нават не нюхаў! Вучоны!

— Невук,— казаў зняважліва Цазары і казалі многія іншыя аб чалавеку, які валодаў агромністымі ведамі, якімі ніхто перад ім не валодаў і мала хто пасля яго, аб чалавеку, які перарастаў сваю эпоху на цэлыя стагоддзі.

МАЛЕНСТВА І МАЛАДОСЦЬ. ● Леанарда і сам вельмі шкадаваў, што ў маладосці не атрымаў належнай адукацыі, і дапаўняў яе пасля настойлівай вучобай і працай.

Пазашлюбны сын натарыуса Піера з мястэчка Вінчы сваёй маці, сялянкі Кацярыны, амаль не ведаў. Выхоўваўся ў доме бацькі. Распешчаны дзедам, бабуляй і мачахай, якая не мела ўласных дзяцей, Леанарда рос, прадастаўлены самому сабе.

Мястэчка Вінчы, нібы прычэпленае да адной са скал Монтэ Альбано, з замкам, высокая вежа якога ўзносілася над дамамі, было маляўнічае і спакойнае.

Малы Леанарда бегаў па ўзгорках, парослых вінаградпай лазой, або ляжаў у засені аліўкаў і назіраў за акаляючай прыродай. Пры гэтым ён рысаваў усё, што прыцягвала яго ўвагу або захапляла. Рысаваў адменныя экземпляры кветак, любімых ці незнаёмых жывёлін, прыгожыя скалы, якія вельмі часта мелі нязвыклыя і таямнічыя абрысы.



Дарослыя глядзелі на гэтыя рысункі як на дзіцячую гульню. Але аднаго разу бацьку Леанарда ўдалося дорага прадаць ратэлю, намаляваную сынам. Ратэля (малюнак, зроблены на драўляным кружку) зрабіла на натарыуса вялікае ўражанне. Ён спалохаўся, калі па просьбе сына ўвайшоў у яго пакой. Леанарда прычыніў аканіцы, а ратэлю паставіў так, каб на яе падаў сноп святла. І раптам на натарыуса глянулі са змроку палаючыя вочы пачварнай мядузы, галаву якой акружалі скруткі нібы жывых рухомых змей.

Бацька быў у захапленні. Калі дзевяцігадовы Леанарда намаляваў такую рэч, дык [redacted] яго напэўна вырасце славуты мастак.

У доме натарыуса ўжо неаднойчы думалі аб тым, кім будзе Леанарда.

— Будзе музыкам,— казала бабуля, якая любіла слухаць, як унук яе іграе на лютні.

— О не! — пярэчыў дзядуля.— Гэты хлопчык прыроджаны салдат. Хіба ты не бачыла, як ён фехтуе? А як сядзіць на кані? Ён дужы не па ўзросту. Яшчэ крыху — і будзе, як саломіны, ламаць падковы.

Калі пры гэтых размовах прысутнічаў бацька, ён паўтараў адно і тое ж:

— Леанарда будзе мастаком.

Прафесія мастака лічылася не вартай шляхціца, але Леанарда быў пазашлюбным дзіцем і сынам сялянкі. Натарыус з другой сваёй жонкай (ён аўдавеў два гады таму і ажаніўся другі раз) ужо меў дзяцей, якім належылі ў спадчыну па бацьку маёнтак, гонар і пашана.



Неўзабаве ён з усёй сям'ёй пераехаў у Фларэнцыю. Леанарда быў у захапленні. Пасля ціхага Вінчы Фларэнцыя выдалася яму пышнай, рухлівай і надзвычай прыгожай. На яе мурах узносілася шэсцьдзесят вежаў, столькі ж было іх пабудавана ў самім горадзе, і здалёк горад быў нібы ўвенчаны цудоўнай каронай. Ад бацькі Леанарда чуў, што пад уладаі Медычаў гэты горад-рэспубліка (у той час Італія была падзелена на мноства малых дзяржаў) развіваецца вельмі буйна. Ткалі тут парчу і адамаск, расквітала таксама залатая і ювелірная прамысловасць, а таксама малярства, архітэктура і музыка.

Леанарда быў у захапленні ад палацаў, асабліва ад фасада палаца Медычаў, ад яго вежаў, ад вялікага купала сабора. Прыгожыя каменныя масты злучалі абодва берагі ракі Арно, па якіх вельмі любіў прагульвац-

ца чатырнаццацігадовы Леанарда. Неўзабаве, аднак, майстэрня вядомага мастака Андрэ Верок'ё, куды бацька аддаў яго вучыцца, цалкам захапіла Леанарда. Тут ён на працягу шасці год ляпіў з гліны галоўкі дзяўчат і дзяцей, тут вывучаў прапорцыі і рысаваў целы маладых і старых людзей, прыгожых і брыдкіх. Тут, дапамагаючы свайму настаўніку працаваць над іконай «Хрышчэнне Хрыста», намаляваў анёла, які вельмі спадабаўся Верок'ё чысцінёй рысунка, прыгажосцю рухаў, далікатнасцю жэста.

У майстэрні Верок'ё разам з мастакамі збіраліся выдатныя вучоныя Фларэнцыі. Малады Леанарда вучыўся ў іх матэматыцы і геаграфіі, астраноміі і медыцыне. Таварышы дзівіліся шырыні яго зацікаўленасці, а ён імкнуўся абаперці сваё мастацтва на прыродазнаўчай навуцы і анатоміі чалавека, вывучаў прапорцыі чалавечага цела і механіку рухаў, уплыў светавых і атмасферных з'яў на колер і перспектыву.

У майстэрні Верок'ё Леанарда засвоіў распаўсюджанае сярод мастакоў эпохі Адраджэння правіла, што трэба выконваць жаданні і волю заможных кліентаў і мецэнатаў мастацтва.

У Фларэнцыі паўсталі першыя поўныя абаянні Мадонны Леанарда. Сярод іх «Мадонна з кветкай». На абліччы Мадонны блукала мяккая і радасная ўсмешка маладой маці, гэткая, напэўна, якую Леанарда назіраў у мачахі, калі тая забаўляла сваё маленькае дзіця.

У Фларэнцыі ў 1481 годзе бацька Леанарда, як натарыус кляштара ў Сан-Данато, склаў з сынам дагавор на ікону для галоўнага алтара. Было гэта «Пакланенне вешчуноў». Ікона вызначалася асаблівай далі-

катнасцю рысунка і колераў. Аднак больш буйныя заказы атрымлівалі іншыя мастакі, менш таленавітыя, але больш пранырлівыя.

Леанарда ў гэты час займалі розныя планы і праекты, над якімі ён працаваў цэлымі начамі. Ён марыў аб лятаючых машынах, аб прадзільнях, якія палегчылі б працу ткачам Фларэнцыі, аб паглыбленні ракі Арно, каб па ёй можна было сплаўляць тавары ў мора.

Але мары не кормяць і не awяць, а таму натарыус Перо лічыў, што яго сын нічога не робіць, і ўсё неахвотней пакрываў яго выдаткі. Леанарда надакучыла нястача грошай, зняважлівыя адносіны да яго ў доме бацькі, дзе збіраліся паважаныя адвакаты, натарыусы, суддзі. Ён усё часцей і часцей думаў аб тым, каб пакінуць Фларэнцыю і пераехаць у Мілан. Ён чуў, што князь Сфорца з вялікай ахвотай прымае да сябе інжынераў і вынаходцаў, меў надзею, што там зразумеюць яго інжынерныя праекты, над якімі працаваў некалькі год.



Дапамог яму выпадак. У гэты іменна час Леанарда, які вельмі прыгожа іграў на лютні, зрабіў са срэбра ліру ў форме конскага чэрапа. Ліра гэта вельмі спадабалася ўладару Фларэнцыі, Ларэнзу дэ Медычы, а паколькі ён быў зацікаўлены ў добрых адносінах з уладаром Мілана, ён вырашыў паслаць яе ў падарунак. Леанарда сам павёз гэту ліру і хутка з дазволу Медычы пакінуў Фларэнцыю.

Мілан у той час быў вялікім і багатым горадам, горадам-рэспублікай (як і Фларэнцыя), які знаходзіўся непадалёк ад ракі Пад, з якой злучала яго тры каналы. Абкружаны абаронным валам і зубчастай мураванай сця-

ной з пятнаццацю вежамі і сям'ю варотамі, у адрозненне ад гандлёвай і прамысловай Фларэнцыі, быў амаль крэпасцю. Выраблялася тут перш за ўсё зброя, і амаль кожны трэці жыхар Мілана быў салдатам. Над вузкімі вулачкамі горада і яго каналамі ўзвышаўся замак Сфорцаў-Кастэло Сфорца. Быў гэта замак-крэпасць, пабудаваны ў форме чатырохкутніка, з таўшчэзнымі мураванымі сценамі, абкружаны валам. У сярэдзіне гэтых муроў флігелі былі аддзелены брукаванымі панадворкамі, а ўсё разам патанала ў зеляніне садоў, упрыгожаных фантанамі.

Кіраваў у Мілане ад імя свайго пляменніка, а пасля яго смерці — ад уласнага імя князь Людовік Сфорца, з прычыны цёмнай скуры названы маўрам — Іль Маро.

Трыццацігадовы Леанарда спадабаўся князю. Быў ён высокі, гнуткі. Апранаўся нямодна, але прыгожа. Насіў пунсовы плашч да каленяў (у той час калі іншыя насілі плашчы да зямлі), чорную блузу і чорны аксамітны берэт на медна-залатых кучарах. Меў доўгую шаўковую бараду, шырокі, амаль квадратны лоб, вялікія светлыя вочы, якія пазіралі пранікнёна з-пад броваў. Прыехаў ён сюды як прыдворны музыка, але зразумеў адразу, што калі ён хоча дасягнуць нечага значнага, дык павінен дапамагчы князю ў яго вайсковых турботах. Князю пагражала Францыя, якая сквапна пазірала на Мілан. А таму Леанарда амаль адразу пасля свайго прыбыцця прадставіў князю мемарыял аб вядзенні вайны.

У сваім мемарыяле ён паведаміў, што апрацаваў метады пабудовы мастоў, якія не баяцца агню і лёгка разбіраюцца, а таксама метады раз-

бурэння мастоў варожых. Запэўніваў, што можа знішчыць кожную крэпасць, што спраектаваў браніраваныя баявыя базы і гранаты, якія выдзяляюць атрутны газ. Да мемарыяла далучыў дакладныя эскізы сваіх «танкаў», новых гармат і снарадаў. Пісаў таксама, што вынайшаў атрутныя рэчывы, якія можна выстрэльваць «на варожыя караблі пры дапамозе спецыяльных выкідальнікаў, а таксама бомбу, якая адразу па выстрэльванні запальваецца і выбухае, ледзь толькі салдат паспее вымавіць «Отча наш».

Для князя Людовіка і яго дарадцаў праекты Леанарда, якія так адрозніваліся ад усяго таго, што ўжо існавала і што ўжывалася ў бойках, якія народы вялі між сабой, былі толькі пладамі ўяўлення вялікага фантаста. Але сярод блізкіх людзей, сярод вучняў і сяброў Леанарда яны выклікалі трывогу і неспакой.



— Не разумею,— паціскаў плячыма Цазары.— Майстар называе вайну жывёльнай дурнотай, а праектуе гарматы, бомбы і іншыя ваенныя прылады.

Інтрыгавалі яго нататкі майстра, але распыфраваць іх не мог. Калі б здолеў іх прачытаць, знайшоў бы побач з эскізам падводнай лодкі наступныя словы майстра:

«Гэтага не аглашаю і не развіваю таму, каб злыя людзі не рабілі злачынстваў на дне мора, прабіваючы днішчы караблёў і топячы іх разам з людзьмі».

У палацы князя Людовіка, дзе любілі баляваць гучна і пышна, паважалі іншыя вынаходніцтвы Леанарда.

Ніхто не ўмеў наладзіць такіх захапляючых відовішчаў, як ён, гэты мастак і інжынер, музыка і паэт у адной асобе. Ён выдумляў дзівосныя маскарадныя касцюмы, канструяваў цікавыя аўтаматы, якія ўяўлялі, напрыклад, неба, поўнае рухомых зорак і планет; весяліў Маро і яго жонку , княгіню Беатрычэ, расказваючы ім свае казкі і загадкі.

— Што гэта? — пытаў.— Людзі б'юць жорстка тое, што падтрымлівае іх жыццё.

Госці, што сабраліся ў прыгожай зале княгіні, доўга ламалі галовы над адказам. І ўрэшце Леанарда вымушаны быў сам адказаць:

— Гэта малацьба збожжа,— і дзівіўся, што ніхто не мог адгадаць яго загадкі.

Калі госці пачалі настойваць, каб ён адкрыў сакрэт аднаго са сваіх аўтаматаў-цацак, Леанарда адказаў ім вершам:



Вустрыца ў поўню раскрывае сваю ракавіну цалкам.
Рак тады стараецца пакласці ў яе
камепя кавалак.
Вустрыца дарэмна сваю ракавіну зноў самкнуць імкнецца,
Але ўжо не можа
і таму спажывай рака застаецца.
Так тыя, што, адкрыўшы рот, не могуць захаваць
ніводнай таямніцы,
Заўсёды могуць здрадніка ахвяраю зрабіцца.

Князь Людовік скарыстоўваў Леанарда і як мастака. Ён заказаў яму партрэт сваёй фаварыткі Цэцыліі Галерані. Неўзабаве партрэт быў гато-

вы. Цэцылія ў чырвонай сукенцы, блакітнай накідцы прыгожай рукой песціла белага гарнастая (звярок сімвалізаваў род Сфорцаў).

Далікатны, амаль дзіцячы тварык Цэцыліі, акаймаваны гладкімі валасамі, гарманіраваў сваім выразам з пысачкай гарнастая, чорныя пацеркі-вачаняты якога пазіралі з партрэта як жывыя. «Дама з гарнастаем» спадабалася князю. Задаволены быў ён і другой працай Леанарда — скульптурным партрэтам свайго бацькі Франчэска Сфорца. Ён уяўляў сабой конніка, які дратаваў ляжачага рыцара. Леанарда таксама быў задаволены гэтай скульптурай. Што з таго, што Франчэска Сфорца карыстаўся славай скандаліста, які прадаваў за грошы ўласную і чужую кроў? Леанарда гэта не абыходзіла. Ён выконваў волю свайго заказчыка і мецэната, чалавека, які даў яму магчымасць працаваць і тварыць.



«Душа мастака,— пісаў ён у той час у сваім «Трактаце аб мастацтве»,— павінна быць падобна на люстра, якое, адбіваючы ў сабе прадметы, рухі і колеры, само застаецца чыстым і не зменены».

«ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА». ● Аднаго ранку яшчэ перад шлюбам князя Людовіка з Беатрычэ, а значыць і перад няшчасным выпадкам з бедным Астро — Мядзведзем, князь Маро выклікаў да сябе Леанарда.

— Я хацеў бы ўпрыгожыць фрэскай галоўную сцэну кляштарнай трапезнай у касцёле дзевы Марыі Ласкавай,— сказаў ён.

Леанарда слухаў яго моўчкі, пагладжваючы сваю прыгожую бараду, а князь казаў далей:

— Гэты стары касцёл вельмі просты і ўбогі, а я іменна там люблю слухаць імшу. Веру, майстар, што ты здолееш яго належна ўпрыгожыць.

— Добра.— Леанарда ўсміхнуўся цяпер сваёй таямнічай усмешкай.— Добра. Я ўжо ведаю, што намалюю. Гэта будзе «Тайная вячэра».

Жадаючы адразу раскрыць князю сутнасць сваёй задумы, Леанарда дадаў:

— Я намалюю тую хвіліну, калі Хрыстос гаворыць вучням: «Праўду кажу вам, што адзін з вас мяне прадасць».

Людовіка не захапіла гэтая задума.

— Не вялікая гэта штука,— адказаў ён,— намаляваць стол і размясціць вакол яго Хрыста і дванаццаць апосталаў.

— О не! — горача запярэчыў Леанарда.— Гэта зусім не лёгка, калі хочаш захаваць індывідуальнасць кожнага вобраза, а пасля з усіх разам стварыць адну кампазіцыйную цэласнасць.

Назаўтра Леанарда пайшоў агледзець трапезную.

Зала была вялікая і даўгая, сцены яе былі пабелены вапнай, столь з цёмных дубовых бэлек. Доўгія вузкія сталы манахаў стаялі ўздоўж дзвюх сцен і заканчваліся малым сталом прыёра. Манахі якраз палуднавалі і не звярталі ўвагі на мастака. А ён пільна прыглядаўся да ўсяго: да абруса на стале, да сціплай сервіроўкі, да асвятлення белых сцен і зеляніны дрэў за вокнамі.

Назаўтра ён прыйшоў сюды з вучнямі. Тыя паставілі лесвіцу, прынеслі фарбы і пэндзлі, гаршчочкі і палітру. З гэтага дня ён штодзень пры-

ходзіў сюды, працаваў гадзінамі, стоячы на лесвіцы, або сядзеў перад сцяной і ўглядаўся ў яе, нібы нешта бачыў на ёй.

Неўзабаве пад яго пэндзлем пачаў паўставаць нібы працяг трапезнай: тры акны, дываны і стол такі, як у манахаў. І міскі і збаны такія самыя, як у іх. А пасля пачалі паўставаць постаці апосталаў, і кожны з іх меў іншы выраз твару, кожны выражаў іншыя пачуцці: адны былі напалоханыя, другія абураныя, іншыя сумныя або задуменныя. Кожная з гэтых постацяў была іншая, нават вопратка ляжала на кожным інакш.

Князь Людовік, вяртаючыся [illegible] прыдворнымі з касцёла, часта заходзіў цяпер у трапезную, каб паглядзець, як працуе Леанарда. Прыходзілі сюды прэлаты і прыёры іншых кляштораў, і кожны дзень з Леанарда працаваў хто-небудзь [illegible] яго вучняў.

— Гэта вельмі прыгожая карціна! — казаў Франчэска Мельзі няшчаснаму Астро, прыкутаму ўсё яшчэ да ложка.— Як толькі пачнеш уставаць, я завяду цябе ў касцёл, каб ты паглядзеў, якое гэта прыгоства.

Цазары, які ў апошні час пасябраваў з Астро і часта яго наведваў, скрывіўся.

— Не разумею, чым ты захапляешся,— сказаў ён.— Гэта такое простае і звычайнае, што нават сорамна... Нічога прыгожага! Ніякіх дэкарацый! Трапезная, стол, абрус, сервіроўка — усё так, як у манахаў.

— Не кажы глупства! — абурыўся Франчэска.— Не на абрус глядзі, а на апосталаў.

— Апосталы таксама выглядаюць як простыя людзі,— з'едліва ўсміхаўся Цазары.

— Будзь разумным і чакай канца. Убачыш, як гэта будзе цудоўна, калі майстар намалюе Хрыста.

— Э,— Цазары махнуў рукой,— я не веру, каб майстар калі-небудзь скончыў гэту карціну. Ён жа цяпер тыднямі не заглядае ў трапезную. Напэўна, абдумвае нешта іншае, а «Вячэры» ніколі не скончыць.

Прыёр касцёла таксама злаваў з прычыны перапынку, які наступіў у працы Леанарда. Нарэшце ён паскардзіўся князю. Князь загадаў сакратару прысаромець Леанарда. Але Леанарда абурыўся.

— Што гэтыя манахі ведаюць аб працы мастака? — злосна кінуў ён.— Гэта праўда, што я даўно ўжо не быў у кляштары, але няма дня, каб я некалькі гадзін не працаваў над «Вячэрай».

Калі сакратар пераказаў князю словы мастака, той загадаў выклікаць яго: хай вытлумачыць, што гэта азначае. Леанарда спакойна выслухаў гнеўныя заўвагі князя.

— Ваша светласць зразумее мяне,— сказаў Леанарда, калі Маро ўрэшце супакоіўся.— Гэта праўда, што я даўно не быў у трапезнай, але я шукаю цяпер адпаведнай мадэлі да твару Іуды. Гэта павінен быць твар, рысы якога выказвалі б усю яго подласць і ганебнасць. Я хаджу туды, дзе жывуць найгоршыя водкіды горада, і шукаю такога твару сярод злачынцаў і іншых падонкаў грамадства.

— І што ж? — зацікавіўся князь.

— Пакуль што ведаю толькі аднаго чалавека, твар якога сваімі вострымі рысамі і панурым выразам вачэй падыходзіць для мадэлі Іуды. Але маляваць яго я не магу.

Князь гнеўна ўзняў свае густыя чорныя бровы:

— Як гэта? Калі гэты нягоднік не хоча, каб яго малявалі, дык мы прымусім яго сілай. Скажы, хто ён, і я загадаю яго прывесці.

У блакітных вачах Леанарда заіскрыліся вясёлыя агеньчыкі.

— Гэта немагчыма, ваша светласць. Гэты чалавек — прыёр кляштора. Ён напэўна будзе абражаны, калі я намалюю з яго Іуду.

Князь зарагатаў. Гэта быў бы цудоўны жарт! Але з прыёра жартаваць не выпадае... Пагадзіліся на тым, што Леанарда будзе далей шукаць Іуду сярод падонкаў горада.

Намаляваўшы Іуду, Леанарда пачаў шукаць адпаведнай натуры да вобраза Хрыста. Справа працягвалася.

Нарэшце карціна была гатова.



З гэтай хвіліны манахам здавалася, што Хрыстос і апосталы прымаюць удзел у іх застоллі. Яны маглі штодзень глядзець на пахмурны і пагружаны ў цень твар Іуды; маглі ўглядацца ў поўнае лагоды, мудрасці і спакою аблічча Хрыста і яго бездапаможна разведзеныя рукі ў хвіліну, калі ён казаў, што нехта з прысутных яго выдасць; маглі глядзець на спалоханыя або ўражаныя яго словамі твары апосталаў, з якіх, аднак, ніхто не адважыўся заступіцца за Хрыста ў хвіліну яго смерці. Усё тут было вельмі людскае і простае, а разам з тым поўнае нейкага няўлоўнага абаяння.

Маладыя мастакі бясконца капіравалі «Тайную вячэру», вывучалі твары і жэсты паасобных апосталаў, а таксама кампазіцыю, перспектыву, якую Леанарда першы выкарыстаў у жывапісу, вывучалі колеры і фор-

мы кожнай рэчы. І дзякуючы гэтым копіям «Тайная вячэра» пражыла стагоддзі, у той час як на сцяне трапезнай пачаўся працэс яе знішчэння яшчэ пры жыцці Леанарда.

Слава Леанарда ўжо даўно пранікла па-за межы Мілана. Але адной славай сыты не будзеш. Зімой 1498 года сакратар Людовіка ўручыў князю пісьмо Леанарда.

«Два гады,— скардзіўся Леанарда ў гэтым пісьме,— я не атрымліваю грошай. Сумна, што неабходнасць заробку на жыццё вымушае мяне кожную хвіліну адрывацца ад маіх твораў». І ў канцы з горыччу дадаваў: «Не ведаю, аб чым мне клапаціцца: аб славе ці аб хлебе штодзённым!»

Князь скамечыў пісьмо... У яго было цяпер столькі непрыемнасцей і турбот, што ён не меў часу думаць аб прыдворным мастаку, інжынеру і паэту. Кароль Францыі Людовік XII, параднёны з родам Віконтаў, пануючых у Мілане перад Сфорцамі, прэтэндаваў на гэта княства. Княжацкі трон Маро быў пад пагрозай, і, магчыма, жадаючы з'яднаць вакол сябе прыхільнікаў, князь загадаў сакратару тэрмінова выплаціць Леанарда запазычанасць.



Сакратар ужо меўся пайсці, але князь затрымаў яго.

— Скажы яму, што вінаграднікі, якія ляжаць непадалёк брамы, цэлых шаснаццаць моргаў, таксама належаць яму.

Аднак у 1499 годзе, калі французскі кароль заняў Мілан і Маро пасля шматлікіх баёў трапіў у няволю, калі яго, зачыненага ў жалезнай клетцы, вывезлі ў Францыю, Леанарда ў сваіх нататках напісаў:

«Людовік-князь страціў сваю дзяржаву, сваю маёмасць і волю і не давёў да канца ніводнай са сваіх задум».

Толькі і ўсяго ён мог сказаць аб трагедыі чалавека, у двары якога прабыў амаль шаснаццаць год, толькі ўсяго аб падзенні магутнага роду Сфорцаў, якому служыў!

**МОНА ЛІЗА.** ● У немаладога ўжо мастака пачаліся цяпер неспакойныя гады вандроўнага жыцця. Хоць Людовік XII дараваў яму службу ў двары Сфорцаў, у занятым французскімі салдатамі Мілане цяжка было знайсці спакой і працу. Спачатку Леанарда паехаў у Мантую, запрошаны туды княгіняй Ізабелай, сястрой Беатрычэ, памершай жонкі Маро. Ізабела хацела, каб славуты мастак намаляваў яе партрэт, а пасля застаўся пры яе двары. Але Леанарда хутка пераехаў у Рым і паступіў на службу да Цазара Борджыя, сына папы Аляксандра VI. Папа вёў жыццё ў раскошы, гульнях і распусце, а сын яго Цазар здрадамі і злачынствамі адзначыў свой шлях да ўлады.

Леанарда не меў ніякіх палітычных ідэалаў. Яго не абыходзіў ні крывавы Борджыя, ні яго палітычныя мэты. Леанарда спадзяваўся, што, працуючы ў яго, ён нарэшце ажыццявіць свае праекты ваеннай інжынерыі і ўзбраення. Ён вынайшаў новыя мадэлі гармат і «танкаў», конусападобныя кулі і новыя асадныя машыны і, як кожны вынаходца, хацеў бачыць іх у дзеянні. Названы Борджыяй ваенным інжынерам і забяспечаны пісьмом, якое адчыняла перад ім усе крэпасці Раманіі, Умбрыі і Тасканіі, Леанарда пражыў тры гады ў падарожжах. Ён будаваў фартыфікацыі

і ваенныя машыны, масты і караблі. Урэшце, аднак, Леанарда засумаваў аб спакоі, аб цішыні майстэрні, аб палотнах, пэндзлях і фарбах. Вестка аб смерці бацькі прыгадала яму родную Фларэнцыю. Там ён адпачне, пажыве крыху для сябе, папрацуе над «Вялікай птушкай», аб якой ніколі не пераставаў думаць і новыя мадэлі якой займалі пачэснае месца ў кожнай яго майстэрні.

Фларэнцыя, дзе ён цяпер асеў, нічым не нагадвала горад яго маладосці. Дамініканец Джарома Саванарола, фанатычны манах, прыёр кляштора св. Марка, перамогшы магутны род Медычы, зусім змяніў аблічча Фларэнцыі. Леанарда з цікавасцю слухаў апавяданні аб гэтым маленькім кволым манаху з запалымі грудзьмі і зморшчаным ілбом, якога нядаўна па загаду папы спалілі на кастры.

— У яго быў арліны нос і чорныя, палаючыя пад густымі рудымі бровамі вочы,— расказваў Леанарда адзін з яго даўніх знаёмых.— Калі ён гаварыў казань, яго слухалі тысячныя натоўпы, а ён крычаў: «Кайцеся з вінаў вашых!» Гэта па яго загаду было запалена на плошчы святога Марка вялікае вогнішча, у якое кідалі багатую вопратку, срэбныя і залатыя збаны, бранзалеты, творы мастацтва.

Больш за ўсё Леанарда дзівіла тое, што такі мастак, як Сандра Батычэлі, кінуў у вогнішча ўсе свае прыгожыя карціны. А славуты скульптар Мікеланджэла Буанароці быў і цяпер прыхільнікам гэтага панурага манаха.

— О майстар, каб вы чулі, як ён грымеў: «Усё ваша жыццё праходзіць у ложку, у гулянках, у плётках, оргіях і распусце! Ваша жыццё —

гэта жыццё свінней! Пабліжаецца суд божы, меч ужо вісіць над вашымі галовамі. Італьянцы асуджаны за свае грахі!» Калі б ты чуў, дык зразумеў бы гэтых людзей,— запэўнівалі яго знаёмыя і сябры.

Леанарда гатоў быў апладзіраваць такім пачынанням манаха, як, напрыклад, скасаванне ліхвярства, ці яго заклікам да паляпшэння звычаяў.

Але яго пагрозы, што «богазневажальнікам будуць прабіваць языкі, а распуснікаў паліць на кастры», яго аскетызм, які заклікаў да адмаўлення таго, што з'яўлялася для Леанарда сэнсам жыцця,— да адмаўлення прыгоства, яго фанатычная вера ў догматы, якая перакрэслівала пошукі творчай думкі чалавека, не маглі адпавядаць гэтаму вялікаму гуманісту, якому ўсё чалавечае не было чужым.



Майстэрня, якую ён займаў у Фларэнцыі, была прасторная і зручная. Пушыстыя дываны прыцішалі крокі. Праз адчыненыя вокны быў відаць фантан і далятаў шчэбет птушак. У вазонах цвілі ірысы — любімыя кветкі Моны Лізы, партрэт якой Леанарда якраз маляваў.

Мона Ліза была жонкай заможнага фларэнційца Франчэска дэль Джаконды. Паходзіла яна з Неапаля і ў Фларэнцыі адчувала сябе чужой. Не мела тут ні родных, ні сяброў, а таму любіла бавіць час у майстэрні Леанарда. Прыходзіла звычайна пасля захаду сонца, калі, на думку майстра, святло было найлепшым. Прыходзіла з маўклівай, ціхай манашкай Каміляй ды і сама ў часе пазіравання маўчала і толькі лёгка ўсміхалася гэтай сваёй чароўнай і таямнічай усмешкай, увекавечанай на палатне Леанарда.

Мона Ліза любіла карміць малую прыручаную сарну, якую гадаваў Леанарда, пушыстага белага ката, у якога адно вока было жоўтае, як тапаз, а другое блакітнае, як сапфір. Яна любіла карміць рыбак і назіраць за іх рухамі праз шкло акварыума. Любіла глядзець на ірысы, спецыяльна для яе пастаўленыя ў высокіх вазах.

Леанарда запрашаў у майстэрню лепшых музыкаў і паэтаў, каб Мона Ліза не сумавала ў часе пазіравання, і ўважліва сачыў за водбліскамі думак, пачуццяў і ўражанняў на яе прыгожым абліччы.

Сам ён таксама забаўляў Мону Лізу чытаннем сваіх вершаў, якія пісаў вечарамі, калі ўжо не мог маляваць і быў настолькі стомлены працай, што не здольны быў займацца навуковымі вылічэннямі.

Мона Ліза смяялася, слухаючы яго верш «Папера і чарніла». 

Папера скардзілася, што яна чарней чарніла
Ад слоў і плям і што таму трымаць не мае сілы.
Чарніла адказала ёй,— хай скардзіцца, ды ў меру:
Праз словы, што на ёй,— і берагуць паперу.

Партрэт быў ужо гатовы. Тыя, хто ведаў Мону Лізу, сцвярджалі, што на партрэце яна больш праўдзівая, больш сама, чым у жыцці. Але Леанарда лічыў, што праца яшчэ не скончана.

— Што яго так захапляе ў гэтай кабеце? — дзівіліся вучні Леанарда.— Мабыць, яе ўсмешка?

Нават муж Моны Лізы Франчэска Джаконда дзівіўся, што славуты мастак з гэткім захапленнем малюе партрэт яго жонкі. Але людзі смяяліся

з яго і казалі, што ён лепш разбіраецца ў пародзе валоў і гатунках скур, чым у прыгажосці сваёй жонкі.

Аднойчы Мона Ліза прыйшла ў майстэрню пазней чым заўсёды. Музыкі пайшлі ўжо. Сонца зайшло. Неба было настолькі пахмурнае, што маляваць было немагчыма. Мона Ліза была апранута як заўсёды, і, як заўсёды, валасы яе былі распушчаны. Яна села ў крэсла і моўчкі гладзіла ката, які ўскочыў да яе на калені.

Праз хвіліну яна ўзняла на Леанарда, які стаяў ля мальберта, свае вялікія вочы і сумна сказала:

— Я прыйшла развітацца. Ад'язджаю з мужам на некалькі месяцаў. Партрэт ужо гатовы і таму...

Леанарда горача запярэчыў:

— Зусім не. Я мушу яшчэ добра папрацаваць над ім. Як толькі вернецеся, я буду прасіць прадоўжыць сеансы.

Мона Ліза згадзілася і абяцала, што адразу паведаміць яму аб сваім звароце. Яна вельмі прывыкла на працягу чатырох год праводзіць час у гэтай майстэрні. Але воля мужа з'яўляецца загадам... Яна вымушана ехаць, хоць ёй зусім не хочацца пакідаць Фларэнцыю.

Яна ўстала, кіўнула Камілі і, падарыўшы Леанарда сваю чароўную ўсмешку, у апошні раз пераступіла парог майстэрні.

Яна не вярнулася. Памерла ад малярыі ў нейкім малым мястэчку, дзе жыла з мужам, які займаўся там сваімі гандлёвымі справамі. Леанарда з жалем прыняў гэту вестку. Для яго партрэт Моны Лізы яшчэ не быў закончаны і цяпер павінен быў застацца гэткім навекі.

Нішто цяпер не затрымлівала яго ў Фларэнцыі. Зводныя браты, баючыся, што ён будзе прэтэндаваць на спадчыну па бацьку, паставіліся да яго варожа. Леанарда адчуваў сябе самотным і чужым у горадзе, дзе прайшла яго маладосць.

Ён быў ужо вядомым мастаком не толькі ў Італіі, але і ў Еўропе. Маладыя мастакі капіравалі яго «Мадонну ў гроце» і «Мадонну Літу», «Святую Анну». Яго называлі «самым вялікім мастаком эпохі».

Кароль Францыі Людовік XII пажадаў, каб Леанарда працаваў для яго. Ён атрымаў згоду Фларэнцыі, і аўтар «Моны Лізы» зноў пераехаў у Мілан.

О, ЛЕАНАРДА! НАВОШТА ТАК ШМАТ ПРАЦУЕШ? ● У Мілане чакала Леанарда яго даўняя майстэрня. 

Не зважаючы на тое, у чыіх руках знаходзіўся Мілан — італьянскіх, французскіх ці нямецкіх, для яго быў гэта той горад, дзе ён меў уласную майстэрню і мог спакойна маляваць, думаць і тварыць.

Была позняя, надзвычай халодная і ветраная восень. Вечарамі ў коміне скавытаў вецер і пад столлю рухаліся з шэлестам металёвыя крылы лятаючай машыны — «Вялікай птушкі» Леанарда да Вінчы. У майстэрні, аднак, было светла і ўтульна. На стале ясным святлом гарэла лямпа, якую ён сам сканструяваў і пры якой было працаваць лепш, чым пры мігатлівым святле факела ці свечкі.

Верны Франчэска Мельзі з захапленнем глядзеў на гэты шкляны шар, напоўнены вадой, усярэдзіне якога мясціўся шкляны цыліндр з аліўка-

вай лямпкай, якая давала роўнае і яснае святло. Але Мельзі не любіў, калі гэтае святло палілася позняй ноччу ў пакоі майстра. Леанарда ў апошні час вельмі пастарэў, але не хацеў слухаць ніякіх угавораў і парад.

— Як жалеза ржавее, калі яго не ўжываюць, а стаячая вада тухне або замярзае ў часе марозу, так і розум марнее, калі ён не трэніруецца,— казаў Леанарда.

Мельзі не любіў таксама, калі майстар з групкай сваіх вучняў ішоў вуліцамі горада (ён меў цяпер гэтых вучняў шмат, утваралі яны так званую «Акадэмію Леанарда»). Франчэска, ідучы ззаду гэтай групкі, заўважыў, што прахожыя аглядваюцца на майстра. Спачатку ён падумаў, што гэта зусім натуральна,— майстар славуты мастак і, нягледзячы на тое, што ўжо немалады, усё яшчэ звяртае ўвагу сваёй прыгожай барадой і пастаццю. Раптам да слыху Франчэска даляцела размова двух мужчын, якія ішлі побач.

— Гэты Леанарда ерэтык,— казаў адзін.— Ерэтык, вядзьмар. Я чуў, што ён рэжа трупы. Нават памершых цяжарных кабет.

— Саванарола пра такіх, як ён, казаў, што яны служаць д'яблу і крочаць у царства д'ябла,— дадаў другі.

Франчэска Мельзі прыспешыў крок, нібы хацеў быць бліжэй да майстра і бараніць яго ад гэтых варожых галасоў. Ён не пераказаў Леанарда таго, што чуў. Навошта яго засмучаць? Ён усё роўна не пакіне сваёй працы. Ён піша кніжку аб анатоміі і гаворыць, што без знаёмства з ёю ніводзін мастак не здолее намаляваць належным чынам постаці чалавека.

Леанарда сканструяваў у сваёй майстэрні шкляную мадэль аорты, каб на ёй назіраць кровазварот. Ён вывучае розныя прычыны смерці і думае ўсцяж аб тым, каб навучыць людзей змагацца з хваробамі. Не, няма чаго паўтараць яму плёткі цёмных людзей. Аднак неўзабаве здарыўся выпадак, які вельмі засмуціў Леанарда.

Ён ішоў з Франчэска вуліцай, калі ўбачыў дзяўчынку, якая жаласна плакала. Малая згубіла з вачэй маці, якая загаварылася з сяброўкай і не заўважыла знікнення малой. Цяпер дзіця, апынуўшыся сярод чужых людзей, горка плакала...

Леанарда ўкленчыў перад дзяўчынкай і пачаў яе пацяшаць. Праз хвіліну малая ўжо даверліва глядзела на прыгожы і добры твар незнаёмага. Слёзы яе высахлі. Яна падала яму руку і гатова была ісці на пошукі маці, калі тая раптам выбегла з-за вугла вуліцы.

У першую хвіліну яна хацела дзякаваць гэтаму незнаёмаму мужчыне за тое, што ён супакоіў дзіця і ўзяў яго пад апеку на гэтай рухлівай і чужой вуліцы. Але, прыгледзеўшыся да яго, схапіла раптам дзяўчынку ў абдымкі і, спалоханая, уцякла ад Леанарда так хутка, нібы ўбачыла перад сабой д'ябла.

Леанарда і Франчэска вярталіся дадому моўчкі. Але ў часе вячэры Леанарда паведаміў хатнім, што хутка яны пераедуць у Рым. Там больш шпіталяў, і горад значна большы. Ніхто яго ў Рыме не ведае, і ніхто не будзе звяртаць увагі на ведзьмара.

23 верасня 1513 года Леанарда пакінуў Мілан, забіраючы з сабой беднага Астро, гультая Салаі і вернага Франчэска.

Апрача трох вучняў ехаў з ім стары слуга Біляніс і кухарка Матурына.

У Рыме, дзе на папскім троне сядзеў у гэты час папа Леон X, гарачы мецэнат мастацтва з роду Медычаў, з радасцю прывіталі славутага Леанарда да Вінчы. Папа глядзеў на яго перш за ўсё як на мастака і хацеў, каб ён уславіў Ватыкан сваімі працамі, як гэта рабілі Мікеланджэла, Рафаэль з Урбіна. Леанарда ведаў іх абодвух яшчэ з Фларэнцыі. З Мікеланджэла ,яны не любілі адзін аднаго. Скульптар, пачуўшы аб прыбыцці Леанарда, скрывіўся.

— Пятнаццаць гадоў ён быў прыдворным блазнам князя Маро. Пасля служыў у Цазара Борджыя, а цяпер хоча шукаць шчасця тут,— сказаў ён злосна.



Мікеланджэла быў абураны разважаннямі Леанарда аб скульптуры і не раз з ім заўзята спрачаўся.

— Скульптура,— спакойна казаў Леанарда,— не патрабуе асаблівых ведаў, з'яўляецца мастацтвам механічным, таму што родзіць пот і цялеснае знясіленне свайго выканаўцы. Зусім іншая рэч малярства!

— А я лічу,— гнеўна крычаў Мікеланджэла,— што скульптура з'яўляецца сонцам мастацтва!

Леанарда, аднак, стаяў на сваім.

— Мастацтва,— усміхаўся ён сваёй прыгожай і таямнічай усмешкай,— мастацтва трэба ставіць вышэй за ўсю іншую дзейнасць — за архітэктуру і паэзію. Яно змяшчае ў сабе ўсе існуючыя формы і нават тыя, якіх няма ў прыродзе.

Малады Рафаэль з Урбіно, высокі, шчуплы, далікатны, падабаўся яму больш, чым пануры і брыдкі Мікеланджэла. Леанарда з прыемнасцю аглядаў яго фрэскі на сценах Ватыкана і падоўгу размаўляў з ім аб мастацтве.

— Мастацтва з'яўляецца ўнучкай прыроды,— казаў Леанарда Рафаэлю.— Той, хто бярэ сабе за адзіны прыклад працы іншых мастакоў, будзе заўсёды ствараць пасрэдныя творы. А калі прадметам навукі абярэ прыроду, яго праца прынясе добрыя вынікі. Леанарда ў сваіх карцінах побач з гармоніяй кампазіцыі шукаў тонкіх эфектаў светаценю і перасцерагаў Рафаэля перад яскравымі фарбамі:

— Яскравыя колеры захапляюць натоўп. Але сапраўдны мастак дагаджае не натоўпу, а толькі абраным.

Рафаэль вельмі ўважліва слухаў яго, як і належыць слухаць настаўніка.



Леанарда прыводзіў яго ў прыклад сваім вучням.

— Мастак,— павучаў ён,— заўсёды павінен прыслухоўвацца да думкі людзей. Пра гэта трэба памятаць. Калі вы ўбачыце, што нехта мае слушнасць, старайцеся паправіць вашы памылкі, калі не, рабіце так, нібы нічога не чулі.

Леанарда і ў Рыме меў вучняў. Але працаваў толькі з самымі здольнымі.

— Мастацтву нельга навучыць тых, якім прырода адмовіла ў здольнасці,— бурчаў ён, праводзячы за дзверы якога-небудзь заможнага, але пазбаўленага таленту кандыдата на вучня.

3 Зак. 1710

Аднак сам ён маляваў мала. Хварэў малярыяй, адчуваў сябе дрэнна і, праводзячы час у роздуме, усё радзей браўся за пэндзаль. Папа скардзіўся:

— Ён думае аб заканчэнні працы яшчэ да яе пачатку. Хто-небудзь іншы за гэты час даўно бы скончыў яе.

Калі наследнік Людовіка XII, кароль Францыі Францыск I пажадаў забраць вялікага мастака ў свой двор, папа Леон X ахвотна згадзіўся аддаць яму стваральніка «Тайнай вячэры».

Спачатку Леанарда паехаў у Павію, дзе знаходзіўся каралеўскі палац, у якім адбываліся святочныя гульні і балі. Там ён сканструяваў аўтаматычнага льва, які садзіўся перад каралём на задніх лапах, і тады з тайніка на яго грудзях да ног караля падалі лілії — сімвал улады каралёў Францыі.

Цацка гэтая на каралеўскім двары здабыла Леанарда большую славу, чым яго карціны і вынаходствы.

Усхваляваны кароль Францыск падарыў яму невялікі палац Клу ў Францыі. І такім чынам на старасць Леанарда знайшоў нарэшце сталую сядзібу і ўласны дах над галавой.

Палац быў пабудаваны ■ чырвонай цэглы, і толькі навугольнікі яго былі зроблены з пясчаніку. Яго высокі дах і пад'езд патаналі ў буйнай зеляніне дрэў.

Перад пад'ездам раслі арэхавыя дрэвы і старыя каштаны, далей прыгожыя яблынькі, якія ўвесну пакрываліся белым цветам. Палац стаяў на ўзгорку, а таму, нягледзячы на гушчар, які рос вакол, ■ вокан яго распас-

ціраўся шырокі від на зялёны абшар лугоў, сярод якіх звівалася рачулка Амас — прыток Луары. Пакоі ў палацы былі прасторныя і светлыя, на сценах віселі карціны Леанарда, між іншымі і «Мадонна сярод скал», заказаная манахамі, але не закончаная мастаком на вызначаны тэрмін і з гэтай прычыны не выкупленая кляштарам. Леанарда судзіўся з манахамі, жадаючы забраць свой твор, і справа цягнулася на працягу гадоў, аж пакуль кароль Людовік XII не купіў яе і не змясціў у палацы Клу. На мальберце стаяў і партрэт Моны Лізы, куплены каралём Францыскам I і па просьбе Леанарда пакінуты ў Клу.

Леанарда ўпершыню ў жыцці адчуваў сябе незалежным і матэрыяльна забяспечаным. 700 талераў, якія ён атрымліваў ад караля, аж надта хапала на ўтрыманне сябе і сваіх блізкіх і нават на ўтрыманне коней, якіх ён вельмі любіў. А кухарка Матурына, якая на працягу доўгіх год была вымушана гаспадарыць вельмі ашчадна, і цяпер гаспадарыла ашчадна і сціпла.

У гэтыя апошнія гады жыцця найбліжэйшым прыяцелем і апекуном Леанарда быў Франчэска Мельзі. Прыгоствам сваім ён нагадваў старэйшага за сябе Джакома-Салаі, настаўнікавага пестуна, напалову вучня і напалову слугу. Але ў той час як Салаі выкарыстоўваў прыхільнасць настаўніка ў сваіх мэтах, Франчэска апякаў Леанарда, як самы чулы сын і прыяцель. Хадзіў за ім на бліжэйшыя ўзгоркі, несучы клеткі з птушкамі, купленымі ў акалічных гандляроў. На ўзгорку яны адчынялі клеткі і выпускалі крылатых вязняў на волю. Леанарда доўга і ўважліва сачыў, як сарокі, чыжы і галубы знікаюць у бяскрайнім блакіце, і думаў аб сваіх ме-

талічных крылах. Пасля яны садзіліся ў засені дрэў і сілкаваліся хлебам, печанымі каштанамі, сушоным вінаградам і сырам, запіваючы ўсё гэта чырвоным віном. А калі на захадзе сонца вярталіся дадому, Франчэска, падтрымліваючы дужым плячом старога настаўніка, прагна паглынаў усё, што той яму казаў. Часта размаўлялі аб розных здарэннях, рэха якіх даходзіла да Клу. Леанарда цікавілі падарожжы Калумба. Ён, хто пакідаў столькі неажыццёўленых праектаў і планаў, захапляўся вялікім маракам, яго энергіяй, адвагай і ўменнем даводзіць да канца самыя смелыя і рызыкоўныя намеры. Але ў вылічэннях Калумба ён знаходзіў і сур'ёзныя памылкі.

— Вылічэнні — рэч вельмі важная,— казаў Леанарда.— Не закідай, сынок, матэматыкі. Помні, што найбольшую радасць нашаму целу дае сонечнае святло, а найбольшую радасць нашай душы — яснае разуменне матэматычных законаў.



Другім разам павучаў зноў:

— Я хацеў бы, Франчэска, каб ты добра засвоіў правіла: памылковымі з'яўляюцца тыя навукі, якіх не нараджае вопыт,— матэрыя ўсялякай упэўненасці.

З Франчэска Леанарда любіў размаўляць аб сваіх шматлікіх планах. Расказваў яму, як цярпеў ад задухі і смуроду вялікіх гарадоў, дзе людзі выкідалі на вуліцы смецце і адыходы, а на лесвіцах і ў цёмных закутках муроў спраўлялі свае натуральныя патрэбы. А ён, Леанарда, калі б толькі меў магчымасць, збудаваў бы спецыяльнае абсталяванне, дзякуючы якому ўвесь бруд змываўся ў падземныя рэзервуары.

Увечары, калі вочы былі стомленыя і не было магчымасці пісаць, Леанарда паказваў Францэска свае эскізы, нататкі і рысункі. Юнак з захапленнем разглядаў эскізы машын і прылад, якія маглі б палегчыць людзям іх працу: праекты ткацкіх варштатаў, пракатнага стану і прэса для выціскання маслін.

— Масліны выхадзілі б з-пад гэтага прэса так грунтоўна выціснутыя, што выглядалі б як высушаныя. Як бы гэта палегчыла працу людзей! Аднак праект застаўся толькі на паперы, а шкада! — уздыхаў Леанарда.

І чаго толькі гэты чалавек не ўмеў! Не было ніводнай галіны мастацтва і людской працы, за якую б ён ні браўся. Ён вынайшаў матора для вадзяных млыноў і адкрыў значэнне пары ў суднаходстве; ён планаваў прабіванне гор тунэлямі і злучэнне рэк пры дапамозе каналаў; ён хацеў падарыць людзям крылы і даводзіў, што можна лятаць пры дапамозе машын, цяжэйшых за паветра. Яго геніяльная думка заглядала ў таямніцы фізікі і механікі, матэматыкі і фізіялогіі, у таямніцы, не даступныя яго сучаснікам.

І таму нядзіўна, што яго лічылі фантастам. Трагедыя Леанарда заключалася ў тым, што грамадства, у якім ён жыў, не дарасло яшчэ да яго геніяльных намераў і планаў, а таму ён не мог большасці з іх рэалізаваць і давесці да канчатковай формы. Леанарда ведаў гэта. Стомлены працай, ён часамі адкідаў пяро і, задуменна пазіраючы на ранак, які абуджаўся за акном, задаваў сабе самому сумнае пытанне: «О, Леанарда! Навошта так шмат працуеш?»

Леанарда памёр у Клу, пакінуўшы Франчэска ўсё, што здолеў са сваіх геніяльных думак і планаў занатаваць на паперы.

«Буду аплакваць яго да канца свайго жыцця, бо ён любіў мяне праўдзіва і глыбока,— пісаў Франчэска братам Леанарда.— Спадзяюся, што ўвесь свет будзе шкадаваць гэтага чалавека. Прырода вельмі рэдка стварае падобных людзей, а, магчыма, вялікага, як ён, не створыць ніколі».

# ЁН ЗРУШЫЎ З МЕСЦА ЗЯМЛЮ

**ДЗЯДЗЬКА ДАБРАДЗЕЙ — ЕПІСКАП ЛУКАШ ВАТЭНРОДЭ.** ● **У** замку вармінскага епіскапа ў Лідзбарку званы абвясцілі полудзень.

Мікалай Капернік узняў галаву, адклаў гусінае пяро і нейкую хвіліну ўслухоўваўся ў бронзавае гучанне званоў, якое лёгка пранікала праз таўшчэзныя муры замка. Ён устаў з крэсла. Ведаў, што яго дзядзька, вармінскі епіскап Лукаш Ватэнродэ, сурова прытрымліваецца абедзенага цырыманіялу і нават яму не дараваў бы ніякага адступлення ад гэтага цырыманіялу. Мікалай чым хутчэй надзеў на карычневую сукенку чырвоную безрукаўку, абшытую белым футрам, і выйшаў у галерэю. Там ужо стаялі іншыя жыхары Лідзбарскага замка, кожны ля дзвярэй свайго пакоя, і чакалі на з'яўленне яго вялебнасці.

Нарэшце пачулася вішчанне і брэх сабак. Гэта епіскап спусціў

*САМЫЯ ВЯЛІКІЯ, ГЕНІЯЛЬНЫЯ*
*І САМЫЯ ЗНАЧНЫЯ*
*ПА СВАІХ ВЫНІКАХ АДКРЫЦЦІ,*
*ЯКІЯ ЧАЛАВЕК*
*КАЛІ-НЕБУДЗЬ ЗРАБІЎ...*

*Іаган Вольфганг Гётэ*



сваю любімую зграю, каб крыху пабегала па двары. Яе радасны брэх і абвяшчаў, што ідзе епіскап.

А вось і ён. Адзеты ў стыхар і епіскапскі капялюш, з годнасцю і павагай паволі крочыў у напрамку ўсходняга крыла замка, дзе мясцілася Зала Рыцараў. За ім ішлі госці і прыдворныя, якіх цырыманіймайстар непрыкметна паставіў у світу паводле значэння і годнасці.

Зала Рыцараў, дзе збіраліся палуднаваць, была высокая і доўгая. Ля ўвахода чакалі два служкі, адзін з якіх трымаў срэбны збан з вадой, а другі — вялікую срэбную міску. Адзін ліў ваду на рукі ўдзельнікаў абедзенай цырымоніі, а другі падтрымліваў міску. За імі два служкі трымалі за канцы доўгі льняны ручнік.

Епіскап Ватэнродэ абмыў рукі, за ім тое самае зрабілі іншыя. Пасля прамовіў кароткую малітву і сеў у крэсла, якое стаяла на ўзвышэнні, следам за ім госці і прыдворныя занялі свае месцы. 

Апрача стала, за якім сядзеў епіскап з найвышэйшымі саноўнікамі, у Зале Рыцараў стаяла яшчэ шэсць сталоў — для капеланаў і вышэйшых чыноўнікаў епіскапскага двара, для менш важных гасцей, для солтысаў, прысяжных і кухмайстраў, для вышэйшай службы і для прыслужнікаў, і, урэшце, для жабракоў, якіх тут кармілі па загаду епіскапа. Некалькі крайчых бралі ад служак міскі са стравамі і абдзялялі застольных.

На сярэдзіне залы фокуснік паказваў свае фокусы, а блазан жарты. Але епіскап, як заўсёды, пазіраў на іх абыякава. Яго неспакойныя вочы глядзелі з-пад навіслых броваў паважна і сурова. Яны злёгку мягчэлі толькі тады, калі затрымліваліся на постаці Мікалая.

Дзень быў посны, і абед не працягваўся доўга. Мікалай моўчкі еў рыбу і, заняты сваімі думкамі, не заўважаў позіркаў епіскапа. А калі, скончыўшы абед і адбыўшы кароткую малітву, хацеў услед за іншымі пакінуць залу, епіскап затрымаў яго жэстам. Яго вялебнасць меў ахвоту пагутарыць з пляменнікам, як рабіў гэта неаднойчы з таго часу, калі той пасяліўся ў лідзбарскім замку як прыдворны лекар, астролаг і як сакратар дзядзькі-епіскапа.

Калі цяпер, ідучы поруч, яны накіроўваліся ў пакоі епіскапа, лёгка было прыкмеціць, як былі між сабой падобны. У абодвух былі падоўжаныя твары, тонкія і доўгія насы і вялікія вочы. Але твар епіскапа не ведаў усмешкі, быў непрыступны, суровы. Затое ясныя вочы Мікалая пазіралі з лагоднай павагай, маленькі рот меў выраз дабраты, а прыгожыя доўгія валасы, якія дасягалі плячэй, надавалі яму юначы выгляд, хоць яму ўжо споўнілася трыццаць гадоў і быў ён паважным вучоным.

Епіскап пайшоў у сваю спальню і неўзабаве выйшаў адтуль і разам з Мікалаем накіраваўся на старую вежу, на якую не раз выходзілі яны пасля вячэрняй малітвы. У ясныя ночы Мікалай тлумачыў тут дзядзьку бег планет, а епіскап уважліва слухаў яго. Лукаш Ватэнродэ быў чалавекам адукаваным, а таму ганарыўся Мікалаем, які шмат ведаў, якому была блізкай кожная галіна ведаў і які ўсім быў абавязаны яму — епіскапу. Але сёння быў яшчэ ясны дзень, і ў яго святле Мікалай раптам заўважыў, што дзядзька нейкі сам не свой.

Лукаш Ватэнродэ нецярплівым жэстам спыніў яго трывожнае пытанне.

— П'ю тры разы на дзень жывіцу з фруктовага дрэва, завараную на

піве, якую ты параіў мне супроць падагры. А таксама вотрубі ад уздуцця і болю страўніка. І адчуваю сябе лепш.

Мікалай больш ні аб чым не пытаўся, толькі клапатліва падсунуў дзядзьку Лукашу пад ногі зэдлічак і сеў насупраць крэсла, у якім сядзеў епіскап. Нейкую хвіліну абодва маўчалі. Пасля епіскап падаў Мікалаю нейкае пісьмо і сказаў:

— Чытай!

Пісьмо было ад караля Зыгмунта I, якога называлі Старым. Кароль запрашаў епіскапа ў Кракаў на вяселле з Барбарай Запольяй, а пасля на генеральны сейм у Пётркаў. Сейм будзе прысвечаны прускім справам. Кароль, які называў Лукаша Ватэнродэ «самай надзейнай апорай дынастыі і найвярнейшым грамадзянінам каралеўства», пісаў, што без яго прысутнасці на сейме «дарэмна будзем працаваць. Бо толькі пад яго разумным кіраўніцтвам усе справы вырашаюцца самым належным чынам».

Мікалай прачытаў пісьмо караля з пачуццём гонару і моўчкі вярнуў яго епіскапу. Ён разумеў, што не гэта далікатнае запрашэнне было прычынай дрэннага гумору епіскапа, і чакаў, што ён скажа яму нарэшце. Епіскап загаварыў:

— Крыжаносцы, як ужо не раз, дамагаюцца, каб кароль аддаў ім Warму. Але пакуль я жыву, гэтага не будзе. Не дазволю, каб гэтыя хціўцы ўзмацнялі сваю сілу і магутнасць. Але што будзе пасля, калі мяне не стане?

Мікалай добра ведаў, як ненавідзіць дзядзька Лукаш ордэн крыжаносцаў. Ён не раз чуў, як епіскап выступаў супраць іх, абвінавачваючы ў

жорсткасці і двудушшы, у тым, што яны не выконваюць умоў тарунскага трактату, што не паважаюць польскіх каралёў, забіваюць палякаў і рабуюць польскую зямлю.

— Вось і цяпер,— працягваў епіскап.— Я хачу выступіць з прапановай, над якой і табе раю падумаць.

Мікалай [redacted] пашанай нахіліў галаву ў знак таго, што з увагай слухае дзядзьку. Епіскап прыцішаным голасам пачаў:

— Хачу прапанаваць каралю, каб тэўтонскі ордэн ён прагнаў на Падолле або Валыншчыну. Хай гэтыя рыцары сутыкнуцца там з туркамі і татарамі, прымушаючы іх прыняць хрысціянскую веру. А нашу зямлю хай нарэшце пакінуць у супакоі. Гэта будзе і для іх здаравей, і нам прынясе карысць.



Капернік ведаў, што гэтае «нам» датычыць у першую чаргу Варміі, духоўным і свецкім уладаром якой быў епіскап Ватэнродэ і якой з трох бакоў пагражалі крыжаносцы, гатовыя праглынуць яе разам з сядзібай епіскапа, Лідзбаркам. Ведаў таксама, што гэтае «нам» — гэта Польшча, сынам якой адчуваў сябе не толькі епіскап (яго бацька, дзед Мікалая, па-геройску змагаўся некалі пад Грунвальдам), але і сам Мікалай, сын кракаўскага купца, які перасяліўся ў Тарунь і там ажаніўся [redacted] Барбарай Ватэнродэ, сястрой Лукаша.

— Крыжаносцаў абавязкова трэба перасяліць,— паўтарыў яшчэ раз епіскап.— Толькі гэткім чынам мы вызвалім нашу краіну ад разбойніцкіх наездаў крыжаносцаў. Гэтага я і буду дамагацца ад караля. Пятнаццатага студзеня рушым у дарогу. Паедзеш са мной ты і канонік Ежы фон Дэлян.

Але перад гэтым трэба напісаць некалькі пісьмаў. Прыйдзеш заўтра да мяне і напішаш тое, што прадыктую.

Мяккая зіма 1512 года снегу насыпала багата, і санная дарога была выдатная.

Мікалай ехаў у адных санях [redacted] канонікам услед за шасціконнай запрэжкай дзядзькі епіскапа. За імі ехала яшчэ некалькі саняў і вазоў, якія везлі ў далёкую дарогу пасцель, адзенне і харч.

Мікалая радавала гэта падарожжа. Чым далей ён ад'язджаў ад узнёслых і непрыступных муроў Лідзбарскага замка, які пазіраў звысоку сваімі гатычнымі вокнамі і шчылінамі амбразур, тым радасней думаў аб тым, што хутка ўбачыць Кракаў, гэты паўночны Рым, з якім звязвала яго столькі перажыванняў і ўспамінаў. Там ён слухаў лекцыі Альберта Крыпа і Сымона з Сэрпца аб геацэнтрычнай сістэме Клаўдзія Пталамея, які даводзіў, што Зямля з'яўляецца нерухомай і знаходзіцца ў цэнтры Сусвету. Там ён вывучаў працы нямецкіх астраномаў «Новыя тэорыі планет». Менавіта там ён пасябраваў з Войцехам [redacted] Брудзева, з якім правёў некалькі дзён у разважаннях аб месяцы, сонцы, зямлі і зорках.

Гэта Войцех з Брудзева першы сказаў маладому студэнту Кракаўскага універсітэта, што матэматыка і астраномія дапамагаюць пазнаць пабудову Сусвету. Гэта ён першы паказаў Мікалаю свае табліцы і вылічэнні становішча нябесных целаў, а таксама прылады, патрэбныя для астранамічных даследаванняў. Іменна ў размове з Войцехам з Брудзева малады Капернік паведаміў свайму настаўніку, што ні Арыстоцель, ні Пталамей не высвет-

лілі належным чынам пабудовы Сусвету, памылкова палічыўшы Зямлю яго асяродкам.

Але Войцеха з Брудзева ўжо няма сярод жывых. Ні яго, ні гуманіста Філіпа Буанакорсі, якога называлі Калімахам і які сябраваў з дзядзькам Лукашам. Калі б Лукаш Ватэнродэ ні прыязджаў у Кракаў, ён заўсёды разам з Мікалаем наведваў славутага італьянца. У захапленні слухаў тады Мікалай яго дасканалую латынь і смяяўся з яго жартаў. Тоўсты, блізарукі і крыху сонны Калімах умеў пры шчодра застаўленым стале бліснуць гумарам досціпам. На банкетах, якімі ён кіраваў, чыталі злосныя сатыры і паскві лі на вышэйшае духавенства і шляхту, захапляліся хараством паэзіі рымлян і грэкаў (якую многія ў Кракаве лічылі язычаскай),
78 абмяркоўвалі хроніку Кадлубка і дыскуціравалі наконт астралагічных і палітычных прагнозаў.

З Калімахам, настаўнікам і дарадчыкам караля Яна Альбрахта, Лукаш Ватэнродэ ўпершыню абмяркоўваў праект перасялення крыжаносцаў на Падолле.

...Сцюдзёны вецер мацнеў. Мікалай утуліў галаву ў футраны каўнер, заплюшчыў вочы і задрамаў. Абудзілі яго воклічы служак і штурханне каноніка.

— Заснуў, паважаны доктар,— смяяўся канонік.— Робім тут стаянку. Час расправіць косці і з'есці гарачай поліўкі.

Толькі ў канцы студзеня прыбылі яны ў Кракаў. У сталіцы панаваў нязвыклы рух і ажыўленне. На шлюб караля Зыгмунта з'ехалася шмат заграічных гасцей і багатых паноў з усіх канцоў Рэчы Паспалітай. Але Мі-

калая не цікавілі вясельныя ўрачыстасці. Ён з радасцю вітаў сваіх даўніх знаёмых, калегаў і прыяцеляў. Ён хацеў праверыць і параўнаць зацямненне Месяца з назіраннямі, якія зрабілі кракаўскія астраномы, з якімі ён вёў ажыўленую перапіску.

Ён з прыемнасцю праводзіў час у кампаніі паэта Андрэя Крыцкага, магістра Яна Сольфы, а таксама паэта і гуманіста, цяперашняга сакратара караля Зыгмунта I, вясёлага Яна Фляхбіндара, якога называлі Дантышкам. За чаркай віна яны гутарылі аб усім чыста: аб памершым шэсць год таму генуэзскім мараку Хрыстафоры Калумбу, які сцвярджаў, што Зямля круглая, і дайшоў у сваіх падарожжах аж да Індыі; аб славутым фларэнтыйскім мастаку Леанардо да Вінчы, з якім Дантышак пазнаёміўся ў часе сваіх замежных падарожжаў, і, смеючыся, расказваў, што гэты дзівак вымярае цыркулем прыгожыя целы кабет, каб даследаваць іх прапорцыі і гэткім чынам зведаць таямніцу прыгоства; аб астраноміі, якой Мікалай Капернік прысвячаў у Лідзбарку кожную вольную хвіліну і аб чым ахвотна расказваў цяпер сваім сябрам.

Пасля вясельных урачыстасцей епіскап Ватэнродэ адправіўся на генеральны сейм у Пётркаў.

Мікалай гэтым разам не суправаджаў дзядзьку Лукаша і раней вярнуўся ў Лідзбарк. Шкадаваў пасля, што не сачыў за здароўем епіскапа ў часе гэтага доўгага падарожжа. Тым больш што яшчэ ў Кракаве яго вялебнасць адчуваў сябе дрэнна.

— Надакучыла мне рыба,— скардзіўся ён Мікалаю.— Звычайна я еў яе ахвотней, чым мяса.

Прыдворны епіскапа, Павел Дэўстарвальд, расказваў пасля Мікалаю, што яго вялебнасць у Пётркаве раптам пачаў траціць сілы, а ў Ланчыцы захварэў зусім: не мог хадзіць, мучыла яго смага, перастаў есці.

— Мучыла яго гарачка, і, пакуль мы даехалі да Таруня, ён так змяніўся, што яго нельга было пазнаць,— закончыў сваю справаздачу Павел Дэўстарвальд, калі прыбыў Мікалай, выкліканы сваякамі.

Ля ложа паміраючага сабраліся яго сваякі, якія жылі ў Таруні, а таксама вышэйшае духавенства, якім ён, намагаючыся, здолеў яшчэ сказаць, што хоча, каб на яго месца абралі толькі паляка. Мікалай ■ застылым тварам шаптаў малітвы над паміраючым, а пасля ■ жалем у сэрцы праводзіў яго труну ў Фромбарк, дзе епіскап быў пахаваны.

Ён шчыра і глыбока пакутаваў з прычыны смерці епіскапа. Лукаш Ватэнродэ, чалавек пануры і суровы, мала меў сяброў. Але быў разумны, справядлівы, і тры чарговыя каралі Польшчы з дынастыі Ягелонаў — Ян Ольбрахт, Аляксандр і Зыгмунт I Стары, схілялі галовы перад яго розумам і звярталіся да яго за парадай у важных дзяржаўных справах. Мікалай і яго старэйшы брат Анджэй ■ маленства знаходзіліся пад яго апекай.

БРАТЫ. ● Доктар Мікалай яшчэ раз уважліва прачытаў напісаны рэцэпт:

2 унцыі арменьскай гліны,
1/2 унцыі карыцы,
2 драхмы цытвору,
па 2 драхмы карэнняў курынага зелля, дантану, чырвоных сандалаў,

па 2 драхмы таўчонай слановай косці і жалеза,

па 2 драхмы попелу і кіслай рамонкі,

па драхме скуркі лімона і жэмчугу, па драхме смарагду, чырвонага гіяцынту, сапфіру, косці з сэрца аленя,

па драхме марской саранчы, рога аднарога, чырвонага карала, золата, серабра ў лістках *.

Прысыпаў рэцэпт пяском з пясочніцы, што стаяла на стале, і падаў яго брату.

— Тут, у Фромбарку, цяжка будзе прыгатаваць гэтую мікстуру, але ў Рыме гэта зрабіць лёгка,— сказаў Мікалай.

Яны сядзелі за сталом у пакоі Мікалая, у яго фромбарскай вежы, якую ён выбраў сабе для жылля і працы. Пакуль брат выпісваў рэцэпт, Анджэй нацягваў сарочку на свае пакрытыя нарывамі і язвамі плечы. Нядаўна ён вярнуўся з Рыма. Яго прыезд прынёс Мікалаю нямала турбот і смутку. Ён ведаў, што брат яго быў хворы яшчэ тады, калі з дазволу дзядзькі Лукаша два гады таму паехаў за мяжу. Але ён спадзяваўся, што яго вылечаць рымскія ўрачы. А тым часам Анджэй вярнуўся ўвесь пакрыты гнойнымі нарывамі, смярдзючы, страшны...

Калі ён ішоў вуліцамі Фромбарка, людзі ўслед яму паціху шапталі:

— Leprosus... Праказа, праказа!..

Мікалай як мог стараўся палегчыць становішча брата. Быў ён урачом. Сам абмываў пакрытае гноем цела Анджэя, гатаваў адвары з карэнняў



---

* Рэцэпт гэты захоўваецца ў музеі Фромбарка.

тамарыску, гартаў медычныя кніжкі, складаў рэцэпты. Цяпер менавіта выпісаў новы. Анджэй узняў на брата свой зменены, пакрыты шрамамі, страшны твар.

— Ты напэўна рады, што я вяртаюся ў Рым. Усе манахі, мабыць, цешацца з гэтага,— крыва ўсміхнуўся ён.

Мікалай моўчкі мыў рукі ў місцы, якую прынёс яму служка. Анджэй казаў далей:

— Цябе, як некалі, я на ад'езд не намаўляю, але сам заўсёды благаслаўляў сваю хваробу, бо дзякуючы ёй наш дабрадзей дзядзька епіскап дазволіў мне жыць у Рыме. Інакш я мусіў бы, як і ты, кіснуць пры ім у Лідзбарку.



Мікалай уздыхнуў і пакруціў галавой. Не згаджаўся з тым, што можна благаслаўляць гэткую страшную хваробу. Ён ціха адказаў:

— Я быў ужо пятнаццаць год канонікам Фромбарка, а толькі пасля смерці дзядзькі Лукаша, на саракавым годзе жыцця, пачаў спраўляць тут свае абавязкі. Хіба не час было ўжо рабіць гэта? А што датычыць дзядзькі дабрадзея — дык мы павінны быць удзячнымі яму, Анджэй. Ён даў нам адукацыю, зрабіў нас канонікамі, зрабіў тымі, хто мы ёсць.

Анджэй злосна ўсміхнуўся і з раздражненнем, уласцівым хворым людзям, сказаў:

— Дзядзька Лукаш! Епіскап Ватэнродэ быў палітыкам, чалавекам славалюбівым, панурым і дэспатычным. А ты? Чым быў ты пры яго вялебнасці? Сваяком, пратэжыраваным сваяком, і нічым больш. Ты мусіў быць яго спадарожнікам у раз'ездах па вармінскай зямлі, у яго бясконцых

паездках на сеймы і сеймікі. Мусіў, нарэшце, прымаць гасцей у Лідзбарскім замку.

Анджэй ажно закашляўся, але жэстам паказаў, што хоча гаварыць далей.

— А колькі разоў пыталі мяне за мяжой, ці я часам не брат Мікалая Каперніка, урача, матэматыка і доктара права, які зоркай першай велічыны заззяў у Рыме на небасхіле навукі, выступіўшы перад вучонымі з дакладам аб памылках Пталамея наконт пабудовы Сусвету.

Ён гаварыў бы яшчэ, ды Мікалай мякка, але рашуча спыніў яго:

— Дзядзька Лукаш меў права патрабаваць, каб мы выконвалі свае абавязкі. Ён быў нашым начальнікам і дабрачынцам і таму меў падставу дамагацца ўдзячнасці.

Анджэй паціснуў плячыма:

— Ведаю, ведаю! Чуў аб гэтым не раз. Дарэчы, ты аказваў яму гэту ўдзячнасць і за сябе і за мяне.

Не пытаючы дазволу, ён узяў са стала кніжку і прачытаў: «Найвялебнейшаму пану Лукашу, вармінскаму епіскапу, Мікалая Каперніка пісьмы».

Былі гэта пісьмы Теафілакта Сымакаты, якія Мікалай з грэцкай мовы пераклаў на латынь і прысвяціў дзядзьку.

«Табе, найвялебнейшы пане, ахвярую гэты сціплы падарунак,— чытаў Анджэй далей па-латыні,— хоць яго ніяк нельга параўнаць з тымі дабрадзействамі, якімі мяне адарыў. Усё, што я здольны здзейсніць маім розумам і чым магу быць карысным, належыць Табе».

— Тут няма ніякага перабольшання.— Мікалай узяў кніжку з рук брата і паклаў яе на месца.— Ведай, калі я ў Рыме заззяў, як ты гаворыш, на «небасхіле навукі», гэта таксама дзякуючы апецы нашага дзядзькі дабрачынца.

Анджэй саркастычна скрывіў свой знявечаны твар, які ад гэтага стаў яшчэ больш агідным.

— Ты да канца жыцця хочаш застацца за гэтымі мурамі, дзе ажно сем вежаў захоўваюць цябе ад спакус свету? І на што тут спадзяешся? На епіскапскую мітру? На ўладу, якую меў наш дзядзька, епіскап Лукаш Ватэнродэ?

Мікалай адмоўна пакруціў галавой.


— Мітра мяне не вабіць, не спакушае мяне і ўлада. Але трэба памятаць, што маладосць мая мінула, што не гульняў мне цяпер трэба. Зрэшты, Фромбарк — гэта не астрог. Канонікі нашай капітулы — людзі адукаваныя, яны, як і мы, вучыліся ў Кракаве або за мяжой.

Анджэй паціснуў плячыма.

— Не магу пахваліцца іх добразычлівасцю,— прабурчаў Анджэй.— Рады, што ад'язджаю, бо ад мяне тут усе ўцякаюць. Я лічу, што сума, якую ты заплаціў капітуле за гэтую вежу, вельмі значная, і дзіўлюся, што ты згадзіўся на яе.

— Выплачу гэтую суму на працягу чатырох год. Зрэшты, вежа гэтая мяне вельмі задавальняе. Адсюль магу аглядаць неба ва ўсіх яго напрамках.

Мікалай сумным доўгім позіркам паглядзеў на Анджэя.

Ён з прыемнасцю запрасіў бы брата падысці да вокнаў свайго пакоя, якія глядзелі на ўсе чатыры бакі свету, на ганак, над якім распасціраўся бязмежны блакіт неба, на шырокі прастор Віслянага заліва і белыя вузкія дзюны касы, якая аддзяляла заліў ад мора. Але ён ведаў, што гэта не зацікавіць Анджэя, ён пачне адразу ўздыхаць аб вінаградніках і цытрусавых гаях Падуі або Ферары і расказваць, якая гэта асалода сядзець у Рыме за шклянкай віна ў кампаніі вучоных-гуманістаў, разважаць з імі аб Арыстоцелі і Платоне.

— Для маіх астранамічных даследаванняў мне патрэбна іменна гэтакая абсерваторыя.

— Сапраўды! — насмешліва прабурчаў Анджэй.— Віхры з усіх канцоў свету маюць сюды вольны ўваход. Аднак калі [redacted] цябе захацела наведаць якая-небудзь светлавалосая красуня, твае дарагія канонікі ўзнялі б страшэнны гвалт.

Ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але заўважыў, што яго словы раздражняюць Мікалая, і махнуў рукой.

— Ну, ну, не злуй, браце,— сказаў ён міралюбіва.— [redacted] ведаю, што табе мілей глядзець на зоркі, чым у вочы самай прыгожай светлавалосай дзяўчыны. Я бы тут не вытрымаў і вельмі рады, што ад'язджаю.

Ён узняўся з крэсла і пайшоў да дзвярэй, але нешта ўспомніў і спыніўся:

— Дрэнна тут у вас кормяць. Адвык ад гэткай ежы. Увесь час квашаная капуста з вяндлінай, сала і смажаніна, а ў посныя дні —рыба, гарох, прасяная каша або пірагі з сырам. Думаю, што і ты з'еў бы з прыемнасцю

італьянскіх каўбасак або піражкоў з тлушчам і жаўткамі. Я бы шмат даў, каб сёння на вячэру мне падалі хоць бы талерку сорро — помніш? Гэта такая страва з малака, цукру і жаўткоў.

Хацеў ён неяк прыгатаваць сабе што-небудзь з гэтых страў у кухні Мікалая, але кухарка пачала крычаць, што ён усіх заразіць праказай. Прыйшлося адмовіцца ад італьянскіх прысмакаў.

Мікалай сумна ўсміхнуўся. Ён не цікавіўся тым, што есць, разумеў таксама кухарку. Ведаў, што канонікі і служба ўцякаюць ад Анджэя, палохаюцца яго выгляду. Капітула не раз патрабавала, каб ён пакінуў муры Фромбарка. Мікалай і сам быў рады, калі даведаўся, што брат вяртаецца ў Рым. І цяпер ён з палёгкай уздыхнуў, калі ў падвечаровай цішыні прагучалі званы, заклікаючы на вячэрню.



— Ну, я пайшоў,— сказаў Анджэй.— Ты таксама, мабыць, пойдзеш у касцёл.

Але Мікалай гэтым разам не пайшоў на набажэнства — яго вельмі ўсхвалявала размова з братам. Ён доўга сядзеў ля стала ў глыбокім роздуме.

Яму і самому спачатку было цяжка, калі пасля дзесяцігадовага жыцця сярод выдатных людзей і вялікіх вучоных вярнуўся з Італіі, краіны, поўнай сонца, пад хмарнае неба роднай зямлі. Нялёгка было адмовіцца ад прапанаванай яму кафедры астраноміі ў Кракаве, нялёгка было прывыкнуць да жыцця побач з дэспатычным дзядзькам Лукашом. Але ён лічыў, што гэта яго абавязак, што ён мусіць сплаціць доўг удзячнасці, які зацягнуў яшчэ будучы хлопчыкам у родным Таруні.

Мікалай правёў далоняй па твары і падышоў да акна. Вечарэла. Неба было пахмурнае і цёмнае. Ён прынік чалом да фрамугі акна і замёр. Ён бачыў зараз не Фромбарк з яго саборам, абнесеным мурамі з сям'ю вежамі, не двор, вакол якога стаялі невялікія дамы шаснаццаці фромбарскіх канонікаў, нават не ўласны, сціпла абстаўлены пакой. Ён бачыў вузкі двухпавярховы дом у Таруні, у якім нарадзіўся. Там, у Таруні, скончыў школу, там бегаў з Анджэем, старэйшым за яго на некалькі год, па віслянскіх узгорках або ішоў на прыстань, каб глядзець на судны, нагружаныя рыбай або сукном, глядзець, як па рацэ плывуць баржы са збожжам, венгерскай жалезнай рудой, дзёгцем, воскам і мёдам.

Хлопчыкі любілі хадзіць па ўмацаваным палямі ўзбярэжжы, дзе завіхаліся батракі бацькі Мікалая Каперніка. У фромбарскай цішыні Мікалай зараз выразна чуў голас маці. Яна прасіла, каб яны былі асцярожныя і не зваліліся ў раку, або наказвала перадаць нешта бацьку, які высылаў або прымаў тавары. Ён помніць яе плач над трунай бацькі, калі яна засталася адна з чатырма дзецьмі, з якіх ён, дзесяцігадовы Мікалай, быў самы малодшы. Помніць прыезд дзядзькі Лукаша, тады яшчэ толькі Уроцлаўскага каноніка Ватэнродэ. Ён супакойваў тады сваю сястру Барбару Капернік. Абяцаў старэйшую дачку Барбару забяспечыць пасагам, каб яна магла здзейсніць сваё жаданне і пайсці ў манастыр.

— У манастыры бенедыктынак будзе служыць богу і людзям. Бенедыктынкі даглядаюць хворых,— ухваліў дзядзька рашэнне пляменніцы.

Малодшую, Кацярыну, выдаў замуж за кракаўскага купца Гертнера.

І наконт сыноў супакоіў Барбару:

— Будуць канонікамі. Фромбарская канонія забяспечыць іх дабрабыт на ўсё жыццё. А пакуль што хай вучацца. Пашлю іх у Кракаў і ў Італію. Здолею хлапцоў добра забяспечыць і вывесці ў людзі.

З гэтых успамінаў вырваў яго вокліч:

— Гэй, Мікалай! Ты тут? Адзавіся, калі ласка.

Гэта канонік Тыдэман Гізэ, сваяк і прыяцель Мікалая, устрывожаны адсутнасцю Каперніка на вячэрнім набажэнстве, прыйшоў даведацца, ці не хворы ён часам.

Капернік узрадаваўся. Тыдэмана Гізэ доўгі час не было ў Фромбарку, і Мікалай паслаў яму нядаўна «з аказіяй» свой «Малы каментарый аб гіпотэзах рухаў нябесных», у якім выказаў галоўныя палажэнні сваёй геліяцэнтрычнай канцэпцыі * — плён скрупулёзных вылічэнняў і назіранняў. Яго цікавіла цяпер думка прыяцеля.

Яны сардэчна прывіталіся, і Мікалай паказаў сябру свае новыя астранамічныя прылады. Былі яны на дзіва простыя.

— Гэта астралябія, зрабіў яе сам з кавалка яліны, якая расце над берагам Баўды,— казаў Мікалай, паказваючы яловыя планачкі з адзначанымі на іх маштабамі.

Тыдэман Гізэ абняў Мікалая.

— Я прачытаў твой «Каментарый», дарагі дружа. Прыйшоў да цябе, каб выказаць аб ім сваю думку, каб сказаць, што гэта выдатна! Гэта аксіёма, здаецца, сёмая, у якой ты даводзіш... Зараз... Хачу прыпомніць, як

---

* Геліяцэнтрычная тэорыя сцвярджае, што Сонца з'яўляецца цэнтральным целам, вакол якога кружаць планеты і ў іх ліку Зямля.

гэта гучыць? Ужо ведаю! Гаворыш так: «Відавочны рух Сонца з'яўляецца вынікам руху Зямлі, з якой мы абарочваемся вакол Сонца». Гэта ж змяняе існуючае паняцце аб пабудове Сусвету! Трэба, абавязкова трэба, каб ты пачаў нарэшце пісаць сваю працу аб абаротах нябесных целаў, аб якой мы столькі разоў гаварылі. Калі ты яе напішаш і абвесціш свету, усе з павагай будуць паўтараць тваё імя.

«АБ АБАРОТАХ НЯБЕСНЫХ СФЕР». ● Была веснавая раніца 1539 года. Маёвы дождджык, дробны і халодны, як у сакавіку, прысланіў усё навокал белай імглой. У прыдарожнай карчме каля Альштына карчмарка ўжо распаліла агонь і гатавала гарачую страву для прыезджых.

Раптам каля ганка запырхалі коні. Карчмар глянуў у акенца і праз заслону дажджу ўбачыў высокую і шчуплую постаць прыбылага ў цёмным плашчы, які сваім пакроем выдаваў іншаземца. Стомленыя коні сведчылі, што падарожнік прыехаў здалёку. 89

Бразнулі дзверы. Падарожны ўвайшоў і, зняўшы шапку, агледзеўся. Ля стала, які стаяў пасярэдзіне карчмы, некалькі шляхціцаў сядзелі за гарачай піўной поліўкай. У куце карчмы грамадка сялян ела з адной міскі. Каля дзвярэй сядзела некалькі купцоў. Яны гутарылі, папіваючы гарачае віно з карэннямі. Прыбылы скінуў мокры плашч, павесіў яго на калочку і прывітаў прысутных па-латыні:

— Salutem et reverentiam!

Адказалі яму напаўголасу. Ён сеў на лаўцы перад камінам, папрасіў карчмарку падаць чаго-небудзь гарачага і, пазіраючы на агонь, расціраў

азяблыя далоні. Прысутныя пазіралі на яго з цікавасцю, намагаючыся па выгляду і паводзінах адгадаць, хто ён і адкуль едзе.

Нейкую хвіліну ў карчме панавала маўчанне. Чуцён быў толькі шум праджджу за вокнамі і пырханне коней за сцяной. Нарэшце прыбылы прамовіў:

— Еду здалёку і напраўляюся ў Фромбарк. Ці паспею туды даехаць, пакуль настане ноч?

Запэўнілі яго, што паспее, калі коні добра адпачнуць і спыніцца дождж. Адзін з прысутных, якога звалі Ласкочам, пацікавіўся, каго прыбылы збіраецца наведаць у Фромбарку.

— Доктара Мікалая Каперніка, каноніка? — узрадаваўся, пачуўшы адказ.— Мы ўсе вельмі добра ведаем яго. Чатыры гады ён быў у нас адміністратарам касцельнага дабра вармінскай капітулы і жыў у альштынскім замку. І хоць было гэта даўно, старэйшыя людзі яго добра памятаюць.

Прысутныя ажывіліся. Усе ведалі каноніка Каперніка. Некалькі старых сялян вылезлі з кута і падышлі да каміна.

— Добры быў гаспадар, справядлівы,— сказаў адзін з іх, ківаючы галавой.— Аб'язджаў вёскі і маёнткі, судзіў шляхту, войтаў, мяшчан і нас, вольных сялян. Вызначаў і збіраў чыншы і паншчыну. Даваў зямлю.

— Добра я памятаю тыя часы,— уступіў у размову шляхціц, якога звалі Ласкочам,— быў ужо юнаком і скажу вам, што людзі ў той час былі горшыя за звяроў, асабліва рыцары-крыжаносцы. Разбоі ў тыя гады так адпашырыліся ў Варміі, што чалавек не толькі ў лесе, але і ў сябе дома адчуваў сябе небяспечна.

Гаворка ў карчме ажывілася. Старэйшыя пачалі ўспамінаць, як у тыя гады крыжаносцы нападалі на падарожных.

— Памятую, бацька мой, казалі, што аднойчы васал ордэна крыжаносцаў, Гільдэбранд, напаў на двух канонікаў з Фромбарка і ўзяў іх у няволю,— успамінаў нехта з прысутных.

Нехта іншы ўспамінаў, як той самы Гільдэбранд абрабаваў у лесе купца з Эльблонга.

Пачалі цяпер прыпамінаць крыўды, якія цярпелі ад крыжаносцаў, бойкі з імі, а таксама ролю, якую ў тых бойках адыгрываў канонік, доктар Мікалай Капернік. Шляхціц Ласкоч расказваў:

— Бараніў Фромбарк і Ольштын. Памятую, было гэта ў 1519 годзе, як у альштынскай крэпасці схаранілася ўсё акалічнае насельніцтва, а канонік Мікалай Капернік клапаціўся, каб усіх накарміць. І аб мушкетах, і аб пораху, і аб тым, каб кожны належным чынам бараніў горад.

Нехта з прысутных паважна заўважыў:

— Ольштын быў добра ўмацаваны, і Альбрэхт, магістр крыжаносцаў, адмовіўся ўрэшце ад захопу горада.

— Аднак сем навакольных вёсак пусціў з дымам, сабачы сын, пусціў,— уздыхнуў стары селянін.— Сам цудам уцёк з гарышча, куды хаваўся, але на ўласныя вочы бачыў, як вялікі магістр падкладаў агонь пад сялянскія стрэхі.

— Гавораць, што ў 1521 годзе ксёндз канонік Капернік ад імя капітулы напісаў скаргу на магістра Альбрэхта і яго крыжаносцаў. Яны рабавалі, забіралі і збожжа, і мёд, і рыбу. Мой дом зруйнавалі цалкам,— абаз-

ваўся з кута ўжо немалады чалавек у вопратцы мешчаніна, які дагэтуль маўчаў.

Прыбылы з цікавасцю слухаў прысутных. Дзівіла яго ўсё тое, што чуў аб Каперніку. Ехаў да вучонага, да вядомага астранома, які самотна жыў у сваёй абсерваторыі, а тым часам яму расказвалі аб чалавеку, які ўмеў і змагацца з ворагамі, і кіраваць.

Ён сказаў аб гэтым аднаму са сваіх выпадковых субяседнікаў. Той усміхнуўся:

— Усё, аб чым тут гавораць людзі, чыстая праўда. Праўда і тое, што канонік Капернік не раз і на сейміках выступаў. Сам чуў, як ён чытаў па-латыні даклад аб рэформе манеты, якая б прынесла людзям вялікую карысць.



— Святая праўда! — пацвердзіў другі шляхціц.— А яшчэ канонік Капернік клапаціўся аб справядлівым кошце хлеба. Аб гэтым таксама гаварыў і пісаў.

— Але ўсё гэта, пане мой, даўнія справы,— зноў уступіў у размову Ласкоч.— Ужо шмат гадоў канонік амаль не выязджае з Фромбарка. Чалавек ён ужо немалады, а таму толькі лечыць хворых і глядзіць на зоркі.

— Мяне ад часоткі лячыў,— прамовіў адзін з сялян.— Добры гэта доктар і да хворых сардэчны.

— А ў зорках чытае, як у малітоўніку,— з павагай сказаў мешчанін з Толькміцка.— Час можа дакладна вызначыць, паглядзеўшы ў неба.

...Дождж аціх. Прыбылы з'еў тое, што яму падала карчмарка, і пачаў збірацца ў дарогу. Парабак карчмара згадзіўся давезці яго да Фромбарка.

Пасля доўгай язды ціхай лясной дарогай выехалі нарэшце на адкрытае месца, і коні пачалі павалі ўспінацца ўгору.

Была ўжо ноч, калі здалёк замаячылі крапасныя муры і вежы Фромбарка.

На мурах, якія акружалі замак, ля самай вежы падарожны заўважыў нейкую постаць. Парабак яе таксама прыкмеціў:

— Гэта канонік Капернік. Ноч сёння ясная, а ў гэтыя ночы ён глядзіць на зоркі аж да самай раніцы.

Спыніліся нарэшце пад брамай фромбарскай крэпасці. Даволі доўга стукалі. Чалавек ля вежы ўглядаўся ў неба і нічога не чуў. Нарэшце заспаны слуга адчыніў.

— Канонік Капернік, напэўна, ужо спіць,— прабурчаў ён.

Але прыбылы настойваў, і ён вымушаны быў правесці яго ў памяшканне Каперніка. Пакінуўшы прыбылага ў пакоі на чацвёртым паверсе, пайшоў паклікаць гаспадара. Госць з цікаўнасцю аглядаў пакой. На стале ляжалі паперы, у кубку стаялі гусіныя пёры. На адной са сцен віселі нейкія прылады, на другой — партрэт шчуплага юнака з доўгімі валасамі і галінкай ландыша ў руцэ. У нішах таўшчэзных муроў хаваліся вокны. Ледзь толькі паспеў прыбылы зняць плашч і прыгладзіць раскалмачаныя ветрам валасы, як зарыпелі цяжкія дзверы і ў пакой увайшоў ужо не малады, але юначай выпраўкі чалавек. Невысокі і шчуплы, твар прадаўгаваты, невялікі рот, доўгі і прамы нос. Густыя сівыя валасы ападалі амаль на плечы.

Ён стрымана прывітаў госця, і той засыпаў яго пытаннямі.

— Маю гонар бачыць доктара Мікалая Каперніка, слаўнае імя якога ў гэтай краіне стала вядома ўжо на другім канцы Еўропы?

Капернік кіўнуў галавой, а госць горача працягваў:

— Мяне завуць Ежы Іахім фон Ляўхен, родам я з Рэцыі, і таму людзі клічуць мяне Рэтыкам. Я выкладаю матэматыку ў Вітэнбергскім універсітэце.

Капернік ветліва схіліў галаву.

— Што ж вас прывяло да мяне? — запытаў ён.

— Шаноўны пане! Я спяшаўся сюды, на ўзбярэжжа Віслы, удыхаў амаль чатыры тыдні дарожны пыл толькі для таго, каб пазнаёміцца з вамі, «новым Пталамеем», і вашымі незвычайнымі даследаваннямі.

— Я не Пталамей, а хутчэй яго праціўнік,— усміхнуўся Капернік.

— Ведаю, чытаў ваш «Каментарый». Шмат думаў аб вашай геліяцэнтрычнай гіпотэзе пабудовы Сусвету. Я прыбыў сюды з просьбай, каб вы ўдзялілі мне ў гэтых адносінах адпаведных ведаў, калі гэта для вас не будзе цяжка.

Капернік уважліва разглядаў госця. Энтузіязм Рэтыка нагадваў старому астраному яго ўласную маладосць, тыя далёкія часы, калі з падобным абажаннем стукаў ён у Кракаве ў дзверы Войцеха Брудзева. Болей таго — гэты энтузіяст будзіў у ім нейкія заснуўшыя мары, заснуўшыя надзеі...

Да позняй ночы гутарыў ён са сваім госцем. І наступныя дні яны праводзілі разам то за сталом над раскладзенымі чарцяжамі, то ў абсерваторыі, пад зорным небам Фромбарка.

Рэтык прывёз у падарунак Каперніку «Трыганаметрыю», «Астраномію» і «Оптыку» — усе гэтыя кніжкі былі апраўлены ў дошкі (адсюль і паўстала сённяшняя прымаўка «Прачытаў кніжку ад дошкі да дошкі»). Рэтык напісаў на іх па-латыні: «Слаўнаму вучонаму, Доктару Мікалаю Каперніку, свайму настаўніку І. Іахім Рэтык».

Капернік рад быў падарунку і, перагледзеўшы ўважліва кніжкі, сказаў:

— Бачу цяпер, што трэба ўнесці пэўныя папраўкі і змены ў працу, якую я напісаў і якая вось ужо трыццаць гадоў ляжыць у гэтай скрыні. А называецца яна «Аб абаротах нябесных сфер».

Прыгожа зробленая, акутая скрыня стаяла ў нішы пад акном. Астраном доўга шукаў ключык да яе. Нарэшце дрыжачымі рукамі дастаў рукапіс «Абаротаў», павярнуўся да Рэтыка. Нейкую хвіліну яны стаялі адзін перад адным усхваляваныя і ўзрушаныя. Нарэшце Капернік падаў рукапіс сваёй працы госцю і зачыніў цяжкое века скрыні.

На працягу доўгіх тыдняў яны чыталі раздзел за раздзелам. Капернік тлумачыў і каменціраваў сваю працу, а Рэтык слухаў з увагай і захапленнем і кожную хвіліну пытаў:

— Адкуль вядома, што Зямля — гэта шар?

— А хоць бы адтуль, што яе цень мае форму кола. Гэта можна назіраць у часе зацмення Месяца. Я назіраў і вымяраў гэта дваццаць разоў на працягу трыццаці год маёй працы.

— А калі Зямля шар, дык якім чынам вада трымаецца на яе паверхні? — пытаўся далей малады прафесар.

— Існуе сіла зямнога прыцягнення, сын мой,— адказаў Капернік.

— Усё, што вы гаворыце, настаўнік, ушчэнт разбурае тое, у што нам на працягу стагоддзяў загадвала верыць царква.

Аднойчы Рэтык запытаў:

— Калі ўпершыню вы адкрылі, што Зямля рухаецца? Раскажыце, як гэта было?

Капернік доўга намагаўся ўспомніць, як і калі гэта было.

— Успомніў,— нарэшце ўсміхнуўся ён.— Гэта было даўно, вельмі даўно. Я плыў па Вісле з нябожчыкам братам Анджэем. Мы абодва тады былі студэнтамі ў Кракаве. Я нават не памятую, куды мы плылі: з Кракава ў Тарунь ці яшчэ куды. Я стаяў у лодцы і глядзеў на ўцякаючыя берагі, на ўцякаючыя назад дамы і касцёлы, на знікаючых з вачэй пастушкоў, якія махалі нам рукамі і нешта крычалі здалёк.



Капернік замаўчаў, нібы ўглядаючыся і ўслухоўваючыся ў рэха тых успамінаў.

Рэтык нецярпліва чакаў.

— І вось раптам я ўсведаміў сабе, што, хоць наша лодка адчаліла ад берага і плыве, мне, аднак, здаецца, што лодка наша стаіць, а бераг рухаецца, што гэта вёскі і дамы бягуць назад і ўцякаюць з вачэй. «Рух гэты адносны,— падумаў я тады.— Тое самае можа адбывацца ў Сусвеце». І я ўявіў сабе, што лодка, у якой мы плывём, гэта Зямля. Яе жыхарам, калі яны глядзяць на неба, здаецца, што Зямля стаіць, а ўсё іншае рухаецца, а на самай справе ўсё наадварот.

Рэтык быў у захапленні.

— Сапраўды,— паўтараў ён.— Сапраўды! Гэта ж вельмі проста! І як гэта ніхто раней не прыйшоў да гэтай думкі.

— Чаму ж! — запярэчыў Капернік.— Яшчэ ў старажытныя часы людзі думалі над тым, ці Сонца абарочваецца вакол Зямлі, ці Зямля вакол Сонца. У тыя часы геліяцэнтрычны погляд прадстаўляў Арыстарх з Самоса, які жыў каля 270 год да нараджэння Хрыста. А ў Цыцэрона я знайшоў успамін аб Гікастасе, які лічыў, што Зямля рухаецца. Але пазней і Архімед і Гіпарх гэты погляд цалкам адкінулі.

Другім разам Капернік расказаў госцю, як, будучы яшчэ студэнтам, ён сказаў Войцеху з Брудзева, што геацэнтрычная тэорыя Пталамея мае шмат хібаў. Але той чамусьці не зацікавіўся гэтай праблемай.

— І сапраўды тэорыя гэта вельмі заблытаная,— дадаў Капернік.— Калі аднаму з манархаў паспрабавалі яе вытлумачыць, ён сказаў, што, калі б ён быў богам, ён бы прасцей пабудаваў Сусвет.

Добра ім было ўдвух — старому самотніку з Фромбарка і маладому прафесару з Вітэнберга.

Капернік цяпер нібы памаладзеў, ажывіўся. Ён з прыемнасцю прыняў запрашэнне свайго даўняга прыяцеля Тыдэмана Гізэ, які апошнія два гады быў хелмінскім епіскапам і жыў у замку ў Любаве. Епіскап пісаў, каб ён прыехаў да яго разам з Іахімам Рэтыкам.

— Адпачнеце ў мяне,— радаваўся Тыдэман Гізэ, сардэчна вітаючы сваіх гасцей.

Гізэ меў у Любаве дасканалыя, спецыяльна купленыя ў Англіі астранамічныя прылады, ад якіх Рэтык быў у захапленні. Малады прафесар і



4 Зак. 1710

ў Любаве не спыняў сваёй працы. Ён і далей вывучаў «Абароты», а Капернік ахвотна даваў яму тлумачэнні. Аднак на просьбу Рэтыка надрукаваць сваю працу адказваў адмоўна.

Аднойчы яны доўга сядзелі за сталом, на якім стаялі рэшткі вячэры. Размаўлялі аб «Абаротах», аб неабходнасці іх выдання, Тыдэман, як заўсёды, пераконваў у гэтым прыяцеля спакойна, з павагай. А Рэтык горача, з энтузіязмам. Ён кожную хвіліну ўскокваў з крэсла і кружыў па пакоі, прычым яго доўгая постаць кідала на белыя сцены фантастычныя цені.

— Я дакладна вывучыў ужо тры кнігі «Абаротаў»,— сказаў ён,— і мушу прызнацца, што, калі ехаў сюды, нават не ўяўляў сабе, наколькі агромністая гэта праца. І ўсё ў ёй нібы залатым ланцужком цудоўна звязана між сабой.



Ён узяў кубак, у якім засталіся рэшткі віна, выпіў і казаў далей:

— Я ўпэўнены, што мой настаўнік (так увесь час ён называў Каперніка) не павінен баяцца думкі паважаных і вучоных людзей. А іншыя яго не абыходзяць і абыходзіць не могуць.

Мікалай усміхнуўся свайму маладому сябру, але адмоўна пакруціў галавой.

— Я лічу,— сказаў ён паціху,— што вынікі маёй працы павінны дайсці толькі да невялікай колькасці абраных. Бо патрэбна вялікае разумовае намаганне і грунтоўнае знаёмства з астраноміяй і матэматыкай, каб прыняць і зразумець маю тэорыю аб геліяцэнтрычнай пабудове Сусвету. Людзьмі, якія мяне не разумеюць, мая навука аб сістэме і руху нябесных сфер можа быць прызнана вар'яцтвам.

Памаўчаўшы хвіліну, ён дадаў, звяртаючыся да епіскапа:

— Мая праца не адпавядае здаўна існуючым паняццям, і я баюся, што царква прызнае яе ерэтычнай і асудзіць.

— Што ты гаворыш, Мікалай! — узняўшы ўгору свае белыя далікатныя далоні, усклікнуў Гізэ.— Сучасныя вучоныя і нават духавенства верацъ больш розуму чалавека, чым догматам царквы. Добра гаворыць Бернат з Любліна, што «прычыны той не аглашае, што ўсё на бога ўскладае». Гэта па-першае. А па-другое — калі аб папярэднім айцу царквы казалі «Папа нічога не варты», дык папа Павел III чалавек вельмі адукаваны і добра знаёмы з матэматычнымі навукамі. Я лічу, што ён належным чынам ацэніць тваю працу.

Мікалай маўчаў. Ён ведаў, што такіх светлых і добрых людзей, як епіскап Тыдэман Гізэ, сярод духавенства небагата і што Гізэ, судзячы іншых па сабе, глядзіць на справу вельмі аптымістычна. Але ён прамаўчаў. Магчыма, думаў зараз аб тым, што ў тыя гады, калі ён жыў у Балоньі ў суседняй Фларэнцыі фанатычны манах Саванарола паліў на кастры творы мастацтва і кнігі старажытных мудрацоў і філосафаў... А магчыма, прадчуваў, што праз дзесяткі год царква асудзіць яго геліяцэнтрычную сістэму, як «погляд абсурдальны і памылковы з пункту гледжання веры», а святая Інквізіцыя ўпіша яго працу ў спіс кніг забароненых!

Вырваў яго з задумення вокліч Рэтыка:

— Хай пераможа праўда. Хай пераможа дабрачыннасць! Цяпер не час, мой настаўнік, на сакрэты! Свет вельмі шмат чуў аб тваіх тэорыях. Нельга далей трымаць іх пад замком у скрыні.

Тыдэман Гізэ падтрымаў Рэтыка.

— Госць наш гаворыць праўду,— сказаў ён з павагай.— Нельга табе, доктар Мікалай, далей адкладаць з выданнем тваёй працы. Гэта твой абавязак у адносінах свету і айчыны.

Капернік уздыхнуў і звярнуўся да Рэтыка.

— Добра,— сказаў ён.— Я дам табе «Абароты». Калі захочаш, зоймешся іх выданнем у Нюрнбергу. І прысвячу іх папе Паўлу III.



У гасцях у Тыдэмана Гізэ Капернік і Рэтык праводзілі час не толькі ў сур'ёзных размовах і дыспутах, але і ў адпачынку. У цёплыя дні Капернік са сваім маладым сябрам гулялі ў прыгожым замкавым парку; у сцюдзёныя вечары сядзелі перад камінам у гасцінным пакоі; зорныя ночы праводзілі на адной з вежаў епіскапскага замка. Сам епіскап Тыдэман Гізэ рэдка суправаджаў сваіх дарагіх гасцей. У апошні час ён адчуваў сябе дрэнна і быў вельмі рады, што мае пры сабе найлепшага з дактароў, доктара Каперніка. Ён прыпісваў яму «сала кабана або вала, гатаванае з алеям», якое, калі ім «мазаць жывот вышэй пупка, выклікае рвоту, а ніжэй пупка — апаражненне», прыпісаў супакой і адпачынак. Епіскап больш часу праводзіў у ложку, а госці доўгімі гадзінамі размаўлялі, і не абавязкова аб астраноміі. Рэтык распытваў Каперніка аб яго жыцці і вучобе, аб побыце ў Італіі, аб яго сваяках. Стары самотнік, звычайна маўклівы, ахвотна расказваў яму аб сабе.

— З маленства вабіла мяне астраномія,— усміхнуўся Капернік.— Яшчэ ў роднай Таруні я марыў аб тым, каб пазнаць таямнічы механізм Сусвету. Мяне заўсёды найбольш цікавіла матэматыка і астраномія.

Расказваў Рэтыку аб вучобе ва Улацлаўку, аб Кракаўскім універсітэце і аб Войцеху з Брудзева, а таксама аб Балонье, Падуі і аб сваім настаўніку і сябру Даменіку Марыіі дэ Навара.

— Выконваючы жаданне майго дзядзькі, епіскапа Ватэнродэ, я вывучаў у Балоньі, у Падуі і Ферары царкоўнае права і медыцыну. Сумаваў, аднак, за любімай астраноміяй. Вельмі ўзрадаваўся, калі Дамінік Марыя дэ Навара сказаў: «Можаш у любы час наведваць маю абсерваторыю». Мясцілася яна над капліцай святога Іосіфа. Наведваў яе вельмі часта. Менавіта там упершыню я ўбачыў вялікую зорку Альфу Віргіну. Яе я абраў для правядзення доказу нязменнасці абароту Зямлі ў адносінах да сталых зорак. З яе дапамогай мне ўдалося вылічыць, што даўжыня зорнага года заўсёды мае 365 дзён, шэсць гадзін і амаль $^1/_6$ частку секунды.

Калі Капернік расказваў аб сваім жыцці ў Рыме, Рэтык пацікавіўся, ці не пазнаёміўся ён там з Леанарда да Вінчы, з цікавым мастаком, вынаходцам, вучоным і паэтам. Капернік не ведаў Леанарда, але чуў аб ім шмат.

— Навара казаў мне, што ён выдатны механік. Узяўся ён за вялікую справу — хацеў з дапамогай ракі напаіць вадой землі, якія цярпелі ад засухі. Будаваў каналы і гідраўлічныя машыны. А вольны ад гэтых заняткаў час аддаваў жывапісу і паэзіі.

Раптам Мікалай весела засмяяўся:

— Ведаеш, сын мой, што і я займаўся літаратурай і жывапісам? Пераклаў з грэцкай мовы на латынь «Пісьмы» Тэафілакта Сымакаты і намаляваў свой уласны партрэт. Можа, заўважыў у Фромбарку на сцяне? Юнака з ландышам?

Яго цешыла падабенства паміж сабой і славутым фларэнтыйцам. Але Рэтык толькі махнуў рукой.

— Куды яму да цябе, настаўнік! — усклікнуў ён.— Магчыма, ён геніяльны мастак, дасканалы механік і паэт, але ты, пане мой, абвергнуў думку шматлікіх стагоддзяў і паклаў пачатак новаму погляду на пабудову Сусвету.

АПОШНІЯ ХВІЛІНЫ МІКАЛАЯ КАПЕРНІКА. ● — Канонік Ежы! Канонік Ежы! Доктар Капернік...

Стары Войцех, які на працягу доўгіх год служыў Каперніку, дрыжачымі вуснамі ледзь вымаўляў словы. Канонік Ежы Донар зрэшты зразумеў усё без слоў. Ён, спяшаючыся, пабег па лесвіцы ў пакой астранома. Тут было цёмна і ціха. Кнот лампады, здавалася, дагасаў, як дагасала жыццё Мікалая Каперніка.



Мікалай ляжаў на вузкім ложку нерухомы і ціхі. Яго сівыя доўгія валасы рассыпаліся па белай падушцы. Доўгі нос на схуднелым твары завастрыўся. Вялікія вочы былі заплюшчаны, і толькі далікатныя, высахлыя і пажоўклыя рукі, здавалася, нечага шукалі ці нешта крэслілі на шорсткай паверхні коўдры.

Канонік Донар нахіліўся над хворым. Дыхае... жыве... Стары Войцех спалохаўся дарэмна. Нельга ні на хвіліну пакінуць яго аднаго пры хворым...

Канонік Донар паправіў у лампадцы кнот, сеў у крэсла пры стале і дастаў з кішэні пісьмо, чытанне якога перапыніў яму Войцех. Гэта Тыдэман Гізэ, даведаўшыся аб хваробе сябра, пісаў з Любавы:

«Засмуціла мяне тое, што ты напісаў аб хваробе нашага паважанага старога, нашага Капerніка. Ён і будучы здаровым, любіў адзіноту, а цяпер хворы, відаць, небагата мае пры сабе добразычлівых сяброў, якіх клапаціў бы стан яго здароўя, хоць усе мы з'яўляемся яго даўжнікамі, што датычыць яго беззаганнасці і навукі. Ведаю, што ён заўсёды лічыў цябе адным з блізкіх. Прашу цябе, калі ён знаходзіцца цяпер у такім цяжкім становішчы, будзь добрым апекуном гэтага чалавека, якога ты разам са мной заўсёды любіў, пастарайся зрабіць усё, каб ён не быў пазбаўлены братняй дапамогі, а мы не аказаліся няўдзячнымі ў адносінах да гэтага заслужанага чалавека».

Капернік хварэў ужо даўно. Ён ляжаў у той самай рагавой вежы, у якой правёў трыццаць год свайго жыцця. А пачалося гэта пасля ад'езду прафесара Рэтыка, які пакінуў Фромбарк два гады таму, беручы з сабой рукапіс «Аб абаротах нябесных сфер». Пакуль ён гасцяваў, Капернік быў вясёлы і ажыўлены, здавалася, нават памаладзеў. Зноў назіраў за зоркамі, рабіў вылічэнні, нешта чарціў.



Хворы паварушыўся і нешта прамармытаў. Канонік Донар падбег да ложка. Можа, хоча піць? Але з прытуленага да вуснаў кубка тонкі струменьчык вады скаціўся па барадзе хворага на падушку. Капернік зноў заціх. Донар пастаяў над ім нейкую хвіліну, пасля ўздыхнуў і вярнуўся на сваё месца.

Бедны канонік Капернік! Відаць, друкаванне яго «Абаротаў» ужо скончана, але з перасылкай хоць аднаго экземпляра стараму астраному ніхто

не спяшаецца. А доктар канонік Фабіян Эмерых гаворыць, што гадзіны Каперніка злічаны.

Першы сардэчны прыступ здарыўся ў Каперніка паўтара гады таму. Вярнуўся тады з Эльблёнга ўсхваляваны і засмучаны, а слуга Геранім, які яго суправаджаў, расказваў, што на вуліцы яны сустрэлі шэсце камедыянтаў, якія смяяліся з астранома Каперніка.

— Гэта лютаране,— казаў абурана Геранім.— Наладзілі карнавальнае шэсце. Адзін з іх быў прыбраны за Святога айца, а другі за Каперніка.

— І людзі смяяліся,— дадаў другі слуга,— калі гэты камедыянт надзяваў аслінуюю галаву і, штурхаючы перад сабой картонны шар, крычаў, што гэта Зямля, якая круціцца вакол Сонца паводле вар'яцкай тэорыі Каперніка з Фромбарка.



Калі слугі выйшлі, адзін з маладых канонікаў, суправаджаючых Каперніка, расказаў Донару яшчэ іншыя, прывезеныя з Эльблёнга, весткі.

Аказалася, што гэту гісторыю аб Каперніку напісаў і паставіў у школьным тэатры нейкі Вільгельм Гнацеус. Ён даводзіў, што птушкі не маглі б знайсці сваіх гнёздаў, калі б Зямля круцілася, і людзі напэўна нападалі на яе. Ён назваў сваю п'есу «Дурны мудрэц», і, хоць нідзе не называў прозвішча Каперніка, лёгка было здагадацца, што гэты «смешны астралог», які насуперак здароваму розуму даводзіць, што Зямля круціцца як карусель, мае шмат агульнага з астраномам з Фромбарка.

Мікалай сам адразу пазнаў сябе ў блазне Гнацеуса. Ён вярнуўся дадому прыгнечаны і сумны, а праз некалькі дзён лёг у пасцель, павалены першым, яшчэ лёгкім прыступам.

— Канонік Капернік заўсёды ставіўся да лютаран паблажліва, а яны гэтак яму дапякаюць,— прамовіў Донар.

— Лютэр ніколі не згаджаўся з яго тэорыяй, а Міленгтон казаў, што трэба ўтаймаваць гэтага польскага астранома, які загадвае Зямлі рухацца,— заўважыў доктар Эмерых,— нічога дзіўнага няма ў тым, што ў Эльблёнгу, горадзе лютаранскім, магчымы гэткія агідныя з'явы.

І, хвіліну памаўчаўшы, дадаў з сумнай усмешкай:

— Аднак Рэтык таксама лютаранін, а ўсё ж зацікавіўся працай Каперніка і абяцаў яе выдаць! І гэта вельмі добра, бо хто ведае, ці кардынал Гоз'юш, гэты езуіт, не загадаў бы спаліць рукапіс.

З гэтага часу Капернік амаль не ўставаў з ложка і цэлымі днямі ні з кім не размаўляў. А калі нават пачынаў нешта гаварыць, спыняўся, не закончыўшы думкі. Часамі пытаў, ці няма весткі ад Рэтыка, але неўзабаве і гэта стала яму абыякавым, а цяпер ужо некалькі дзён ляжаў непрытомны, глухі і сляпы да ўсяго, што вакол яго рабілася.

— Магчыма, калі б тут быў Рэтык... Толькі ён мог разагрэць і ажывіць сэрца гэтага самотніка,— уздыхнуў канонік Донар.

Доктар Эмерых пацiснуў плячыма. Як урач ён добра ведаў, што ніпто ўжо не ў стане абудзіць да жыцця спрацаванае сэрца вялікага астранома.

Сённяшні дзень быў асабліва цяжкі. Донар пастанавіў паклікаць Эмерыха. Ён устаў, каб пайсці па яго, калі ў дзвярах раптам паказалася сівая галава старога Войцеха.

— Канонік,— зашаптаў ён.— Канонік! Нейкі пасланец прыехаў і патрабуе, каб яго правялі да доктара Каперніка.

— Пасланец? Адкуль і ад каго?

— Гаворыць, што едзе з Нюрнберга і вязе пісьмо доктару Каперніку.

— З Нюрнберга? — усхапіўся Донар.— Пакліч сюды хутчэй доктара Эмерыха, хай пасядзіць ля хворага, а я пайду і пагавару з прыбылым.

Ён пабег да брамы Фромбарскай канонії. Пасланец быў здарожаны доўгай дарогай, але адпачываць не збіраўся.

— Я мушу асабіста аддаць пісьмо і кніжку доктару Каперніку. Прафесар Іахім Рэтык перасылае першы экземпляр працы доктара Каперніка.

— Як узрадуецца доктар Мікалай! Хадзем, браце, завяду цябе да яго.

Донар амаль бег праз двор і па лесвіцы курыі Каперніка. Пасланец ледзь паспяваў за ім. І толькі перад дзвярыма пакоя, у якім ляжаў хворы, Донар спыніўся.

— Пачакай тут. Дзверы я пакіну адчыненымі, і ты ўбачыш доктара Каперніка і скажаш прафесару Рэтыку, што бачыў яго.

Ён пaціху адчыніў дзверы, падышоў да ложка і асцярожна падсунуў пад высахлую і нерухомую руку астранома прывезеную кніжку. Капернік на нейкі момант расплюшчыў памутнелыя вочы. Здавалася, што ён разумее, што яму падсоўвае канонік Донар. Але праз хвіліну цяжкія павекі апалі зноў. І нельга было адгадаць, ці ведае ён, што ў гэту хвіліну дакранаецца да працы, якой аддаў усё сваё жыццё.

У гэты час якраз увайшоў пакліканы Войцехам доктар Эмерых. Ён загадаў прысутным пакінуць пакой і зачыніў за імі дзверы. У хворага горлам лінулася кроў. Капернік паміраў.

Быў дзень 24 мая 1543 года.

# «ЗА ГАРАМІ, ЗА МАРАМІ...»

КРАЙ МАЛЕНСТВА. ● Гэту аповесць можна было б пачаць як казку: «За гарамі, за марамі...»

Далёка-далёка, там, дзе Паўночная Дзвіна ўпадае ў Белае мора і ўтварае на сваім шляху шмат астравоў і астраўкоў, ляжала малая рыбацкая вёска Мешанінская, у якой у 1711 годзе з'явіўся на свет Міхаіл Ламаносаў.

Неба над Мешанінскай было пахмурнае і нізкае. Нізкія яе хаты і парканы на працягу амаль усяго года пакрываў белы пушысты снег.

Была зіма. Бацька Міхала Васіль Ламаносаў доўга абіваў у сенцах футравай шапкай свае высокія валёнкі, пакуль нарэшце не ўвайшоў у хату, дзе ў вялікай печы весела палаў агонь.

Каля печы, бразгаючы гаршчкамі, завіхалася маці Міхала, заўсёды лагодная і ўсмешлівая Алена. Сёння ў яе чамусьці ўсё не ладзілася і падала

*ЛАМАНОСАЎ
СТВАРЫЎ ПЕРШЫ УНІВЕРСІТЭТ.
ЧЕ, ДАКЛАДНЕЙ БУДЗЕ
СКАЗАЦЬ ТАК:
ЁН САМ БЫЎ НАШЫМ
ПЕРШЫМ УНІВЕРСІТЭТАМ.*

*Аляксандр Пушкін*



з рук. Не ладзілася з самага абеду, з той хвіліны, калі бацька, адсунуўшы міску і абцершы далоняй вусы і бараду, паведаміў:

— Гэтай вясной Міхал пойдзе са мной у мора...

Маці ўздыхнула. Яна ведала, што гэта непазбежна. Усе хлопчыкі не толькі Мешанінскай, але і іншых вёсак Беламорскага краю, як толькі ім спаўнялася дзесяць год, выходзілі з бацькамі ў мора. Выходзілі ранняй вясной і толькі ўвосень вярталіся ў свае родныя вёскі.

Цяжка было маткам чакаць сыноў. Яны ведалі, што ў Белым моры нават улетку плаваюць небяспечныя льдзіны, а буры і туманы перашкаджаюць лоўлі. Але згодна з непісанымі суровымі законамі Поўначы бяссільнай была нават любоў маці.

Бацька Міхала, Васіль Ламаносаў, быў тыповым беламорскім рыбаком. Рослы і дужы, адважны і прадпрымальны, ён неаднойчы ў пагоні за здабычай заплываў далёка ў мора. Ён быў заможны, меў некалькі лодак. На самай вялікай з іх, паруснай, на баку якой быў намаляваны белай фарбай надпіс «Чайка», праходзіў Міхал суровую школу рыбака. У барацьбе са стыхіяй гартаваўся яго характар, дужэлі яго сілы.

У часе шторму бацька навучаў сына:

— Помні, што мора не ведае літасці. Калі не проціставіш яму сваёй волі, марна загінеш.

У пагодлівыя дні наказваў:

— Сачы, Міхал, за чайкамі. Куды яны ляцяць, туды і ты вяслуй, бо там напэўна будзе рыба. Чайка — гэта таксама наш брат-рыбак, усяго толькі, што мае пёры і дзюбу.

Хлопчыка цікавіла ўсё чыста. Яго жывы розум лёгка засвойваў навуку бацькі. З'явы прыроды: ільдзіны і абалоны Паўночнай Дзвіны, якая ўвесну вялізнымі валамі вады біла ў стромкія берагі, таямнічасць паўночнага ззяння, айсбергі на Паўночным акіяне, да якога ён даплываў з бацькам на «Чайцы» — усё гэта засталося ў памяці Ламаносава да канца жыцця. Гэтыя ўспаміны і прымусілі пазней заняцца акіянаграфічнымі доследамі і напісаць «Развважанні аб большай дакладнасці марскіх шляхоў».

— Памятаю, якой небяспецы я падвяргаўся, калі плаваў з бацькам у Белым моры,— казаў ён пазней, працуючы над сканструяваннем дакладных навігацыйных прыбораў.



Яшчэ ў маленстве, у часе сваіх бесклапотных гульняў, Міхал не раз дакучаў бацькам сваімі пытаннямі. Навальніцы і маланкі, зоркі і снег, птушкі і звяры, амаль кожная з'ява прыроды, каля якой яго равеснікі праходзілі абыякава, цікавілі хлопчыка.

Бацька толькі паціскаў плячыма, але маці, хоць, як і бацька, непісьменная, пацяшала хлопчыка:

— Пачакай, сынку, калі навучышся чытаць, дык з кніжак даведаешся пра ўсё.

Чытаць Міхала навучыў сусед Іван Шубны.

— Здольны, халера,— сказаў ён бацьку.— Чаго іншым і за год у галаву не ўваб'еш, ваш Міхал на працягу месяца вывучае.

Зімой рыбакі займаліся гандлем. Агромністыя абозы з рыбай цягнуліся ад Белага мора ў Маскву і вярталіся адтуль з патрэбным на Поўна-

чы таварам. Бацька Міхала пасылаў сваю рыбу з даверанымі людзьмі. Сам не ездзіў ніколі. Зімой бацька з Міхалам рамантаваў пашкоджаныя лодкі, будаваў новыя і забяспечваў іх усімі рыбацкімі прыладамі. Яны ездзілі таксама ў паморскія саляварні і займаліся засолкай рыбы. І толькі вольны ад гэтай работы час Міхал мог прысвяціць свайму любімаму занятку — кніжкам.

Небагата было гэтых кніжак у малой, засыпанай снегам вёсцы. І таму адзінымі кніжкамі Міхала доўгі час былі кніжкі царкоўныя.

Аднойчы Міхал выпадкова даведаўся, што сусед іх Дудзін прывёз з Масквы дзве свецкія кніжкі. Хлопчык адразу пабег да Дудзіна і так настойліва прасіў, так прасіў, што рыбак нарэшце дастаў з-за абразоў, што віселі на покуце, звязаныя шнурком дзве кніжкі. Былі гэта «Славянская граматыка» Сматрыцкага і «Арыфметыка» Магніцкага. Дзве гэтыя кніжкі доўгі час былі любімымі кніжкамі Міхала.

Не лёгка, аднак, было з чытаннем гэтых кніжак... Не было ўжо дома чулай, любячай маці. Яна памерла, калі Міхалу было дванаццаць год, і бацька неўзабаве ажаніўся другі раз.

Мачаха неўзлюбіла Міхала. Злавала, што ён упарты і горды, што не паддаецца ёй. А найбольш абурала яе тое, што ён увесь час сядзіць над кніжкамі.

— Гэты твой сын гультай і абібок. Або цэлымі днямі сядзіць на суднаверфі, або чытае кніжкі, а ты на яго рабі з ранку да ночы,— казала яна мужу.

Васіль супакойваў жонку:

— А чаго ты, Арына, хочаш ад хлопца? Чаго злуеш? Зрабіў сваё і хай сабе чытае.

Аднак і сам ён не бачыў сэнсу ў гэтым чытанні, а таму часта ўшчуваў сына:

— Манахам хочаш стаць, ці што? Калі не кінеш кніжкі, я іх спалю,— прыгразіў ён.

З гэтай хвіліны Міхал пачаў чытаць толькі крадком, на гарышчы або ў дрывотні, чытаў уночы, калі ўсе ўжо спалі. Вывучаў граматыку і прыкладзеныя да яе ўказанні, як пісаць вершы. Вывучаў ён і «Арыфметыку» Магніцкага, якая апрача арыфметыкі ў папулярнай форме знаёміла з геаметрыяй, фізікай, геаграфіяй і астраноміяй. Неўзабаве абедзве гэтыя кніжкі ён ведаў на памяць.



Цяпер ён марыў аб школе. У Мешанінскай школы не было, і Міхал пачаў думаць аб навуцы ў Халмагорах, бліжэйшым да іх вёскі горадзе.

Сусед Іван Шубны, які навучыў яго чытаць і стаў пасля смерці маці адзіным другам сіраты, даведаўшыся, аб чым марыць хлопчык, паціснуў плячыма:

— У Халмагорах у школу цябе не прымуць. Нават не думай аб гэтым, Міхал. Па-першае, простага селяніна туды не возьмуць, а па-другое, там вучацца толькі тыя, хто хоча быць духоўнымі асобамі. А ты ж папоў не любіш і нават спавядацца не ходзіш.

Хлапец доўгі час маўчаў, а аднойчы сказаў:

— Пайду я адсюль, з Мешанінскай. У Маскву пайду. Там школ багата. І для мяне нейкая знойдзецца.

І ён больш ужо не расставаўся з гэтай думкай, не зважаючы на ўгаворы суседа.

— Дрэнна, калі мужыка даймаюць панскія хаценкі,— казаў Шубны.— Ты забыўся, што мусіш плаціць пагалоўныя і без дазволу нікуды выехаць адсюль не маеш права.

Хоць беламорскія рыбакі ніколі не адбывалі паншчыны і не мелі над сабой гаспадара, Міхал ведаў, што Шубны казаў праўду. Але па прыродзе сваёй энергічны і настойлівы, ён не любіў адступаць перад цяжкасцямі. Аднаго разу ён прыйшоў да Шубнага і яшчэ ад парога, забыўшыся прывітацца, сказаў:

— Калі вы паручыцеся, дзядзька Іван, што я буду плаціць пагалоўныя, дык мне дазволяць паехаць адсюль. Дазволяць! Напэўна!

Стары Шубны запярэчыў, але, убачыўшы, як адчайваецца хлапец, ён урэшце згадзіўся паручыцца за яго, пры ўмове, што бацька дасць на яго ад'езд сваю згоду. Няёмка яму крадком ад бацькі дапамагаць сыну. Міхал, аднак, не адважыўся сказаць бацьку аб сваім намеры пакінуць Мешанінскую.

І вось нарэшце Міхалу споўнілася васемнаццаць гадоў. Шыракаплечы, дужы, ён галавой даставаў амаль да самай столі. Мачаха цяпер не адважвалася крычаць на яго. А зрэшты ў яе ўжо ўзніклі наконт Міхала свае планы.

— Час ажаніць хлапца,— сказала яна аднойчы мужу.— Дома ад яго невялікая радасць, але як прывядзе нам багатую нявестку, дык і гаспадарцы будзе карысць і мне дапамога.

Доўга пераконваць мужа не давялося, і ён абяцаў пашукаць для свайго адзінага сына нявесту. Калі, аднак, ён паведаміў пра гэта Міхалу, той ледзь не заплакаў ад роспачы і сказаў, што жаніцца не будзе і наогул не мае намеру заставацца далей у Мешанінскай і быць рыбаком, як бацька.

— Паеду ў Маскву і буду вучыцца,— абвясціў ён і злосна паглядзеў на мачаху, якая стаяла ля печы і, склаўшы пад фартухом рукі, прыслухоўвалася з усмешкай да гаворкі бацькі з сынам.

— Лёгкага жыцця яму захацелася,— бурчала мачаха.

— Чытаць кніжкі ўмееш? Умееш! Гэту сваю граматыку і арыфметыку ведаеш на памяць? Ведаеш! Якой яшчэ навукі табе трэба? — абурана крычаў бацька.

Увечары, аднак, калі мінуў першы гнеў, ён сказаў жонцы:

— Міхал вельмі ўпарты. Калі задумае што-небудзь зрабіць, абавязкова зробіць. Калі я нават не дазволю яму пайсці з дому, ён усё роўна пойдзе, тады ўжо назад напэўна не вернецца... Пусціць нядобра, а не пусціць яшчэ горш.

Пасля доўгага роздуму ён нарэшце вырашыў:

— Грошы яму не дам. А без іх, калі нават і пойдзе адсюль, дык хутка вернецца.

Сцягнуўшы валёнкі, Васіль узлез на шырокую печ, накрыўся кажухом і праз хвіліну захроп на ўсю хату.

**УЛАСНЫМІ СІЛАМІ.** ● Дзякуючы дапамозе Івана Шубнага, Міхал атрымаў нарэшце дазвол на выезд.

«Дазволена Міхаілу Ламаносаву, сыну Васіля,— чытаў усхвалявана хлапец,— паехаць у Маскву і жыць там да верасня месяца наступнага 1731 года. Паручыўся за яго, што будзе плаціць пагалоўнае, Іван Шубны».

У студзені месяцы 1731 года Міхал пехатой падаўся ў Халмагоры, а адтуль з абозам рыбакоў, якія везлі вэнджаную рыбу, павандраваў у Маскву.

Радавала яго, што нарэшце збываецца мара, што пачынаецца новае жыццё. З таго, што пакінуў за сабой, шкадаваў толькі прысыпаную снегам нізкую магілку маці.

Турбавала яго толькі тое, што не мае грошай. Калі абоз спыніўся ў дарозе пад мурамі нейкага кляштара, Міхал прапанаваў манахам, што будзе чытаць паломнікам псалмы. Голас ён меў глыбокі, моцны, і набожныя паломнікі ахвотна плацілі яму за гэта чытанне. Міхал сабраў такім чынам поўную кішэню медзякоў і серабра і цяпер ужо спакойна вандраваў далей, выглядаючы нецярпліва залатых купалоў маскоўскіх цэркваў.

Нарэшце надвячоркам абоз з Халмагораў спыніўся ў Маскве перад рынкам, на якім прадавалі рыбу. Рыбакі распрэглі і паставілі ў стойлах коней і разышліся хто куды. Адны мелі тут знаёмых ці сяброў і пайшлі да іх начаваць, другія пасля доўгага і цяжкага падарожжа знайшлі цёплую страву і начлег у карчме.

Міхал застаўся адзін. Грошы, заробленыя ў кляшторы, патраціў у часе доўгага падарожжа. Не было за што ні павячэраць, ні купіць начлегу. Галодны і азяблы, ён лёг на дне саняў, накрыўся з галавой прапахлым рыбамі кажухом і так праспаў аж да раніцы.

Раніцай на рынак прыбеглі людзі, якія з нецярплівасцю чакалі сваіх землякоў з Беламорскага краю. Быў сярод іх і зямляк Міхала, Якаў Пятухін, які на працягу апошніх год працаваў у маскоўскага купца. Ён забраў Міхала да сябе і прапанаваў уладкаваць яго на работу да купца, у якога працаваў сам.

Міхал нават не падзякаваў свайму земляку за яго турботы.

— Не для таго я сюды прыехаў, каб стаяць у купца за прылаўкам. Я прыехаў вучыцца,— сказаў ён.

Пятухін абразіўся і перастаў цікавіцца лёсам Міхала. А калі той праз тыдзень ці два пасля прыезду прыбег і паведаміў, што яго залічылі разам з іншымі вучнямі ў Славяна-Грэка-Лацінскую Акадэмію, Пятухін толькі пацісвуў плячыма і прамовіў:

— Хлусіш. Ты мужык, а туды прымаюць толькі дзяцей з высакародных сем'яў.

Міхал зарагатаў:

— А я сказаў, што я сын халмагорскага двараніна, і мне паверылі.

Нялёгка жылося Ламаносаву ў Спаскай Акадэміі. Нягледзячы на тое, што на працягу пяці год вучобы ён лічыўся адным з лепшых вучняў, якому даручалася правяраць сваіх аднакласнікаў, што яму ніколі не даводзі-

лася як іншым кленчыць на гароху і атрымліваць розгі, ён шмат цярпеў ад сваіх аднакласнікаў. Старэйшы ад іх на некалькі гадоў, Міхал мусіў увесь час цярпець іх насмешкі і кпіны.

— Гэй ты, Ламаносаў. Табе патрэбна нявеста, а не граматыка,— крычалі адны.

— Балван! Яму дваццаць год, вусы растуць, а ён, як малы, ходзіць у школу,— смяяліся другія.

Міхал рабіў выгляд, нібы не чуе гэтых кпін. Ён мог спыніць іх адным ударам свайго магутнага кулака, але не хацеў біцца з дзецьмі.

Ламаносаў зарабляў на хлеб тым, што замятаў двары, а ўвосень пасвіў гусей, каб назбіраць пёраў, якіх хапіла б на ўвесь навучальны год. Аднак тое, што ён мог цяпер вучыцца, было ўзнагародай за ўсе яго пакуты. Вучыўся ён сістэматычна, праседжваючы ўвесь час у бібліятэцы, і ў выніку на працягу аднаго года адолеў курс трох класаў. Сваімі поспехамі ў навуцы ён выклікаў вялікую зайздрасць у сваіх аднакласнікаў і заслужыў глыбокае прызнанне настаўнікаў. І нават тады, калі было выкрыта яго мужыцкае паходжанне, яму даравалі хлусню і дазволілі працягваць вучобу.

Міхал быў шчаслівы. Аб звароце дадому ён і не думаў, хоць бацька яму пісаў:

«Апрача цябе, у мяне няма дзяцей. Бог мне не даў, а ты мяне і ўвесь набытак, які я здабыў для цябе крывавым потам, пакінуў. Пасля маёй смерці чужыя людзі расцягнуць усё. Прыязджай, сынок. Вяртайся дадому. Тут табе добрыя людзі сватаюць багатую дзеўку. Жыць будзеш у павазе і дастатку».

Міхал старым сялянскім звычаем хаваў лісты за пазуху, з цяжкім сэрцам вяртаўся ў Акадэмію. Шкада было бацьку, але выканаць яго волі ён не мог, хоць яго ўжо даўно не задавальняла Спаская Акадэмія. Падручнікаў не было, і вучні мусілі вучыць усе на памяць, а гаварыць дазвалялася толькі па-латыні. Цвярозы розум Ламаносава, прызвычаены змалку да назірання, бунтаваўся, калі загадвалі яму разважаць над схаластычнымі пытаннямі накшталт «Ці ружы ў раі мелі дзіды?» або «Колькі анёлаў можа змясціцца на канчыку шпількі?».

Міхал даўно марыў пакінуць Спаскую акадэмію, і нарэшце ў 1735 годзе яму пашчасціла пераехаць у Пецярбург. А было гэта так.

Калі Акадэмія навук у Пецярбургу прапанавала рэктару Спаскай Акадэміі паслаць у Пецярбург самых здольных сваіх вучняў, сярод дванаццаці выбраных аказаўся і Міхаіл Ламаносаў. І, хоць жыццё ў Пецярбургу было нялёгкім, не раз даймаў голад і галеча, Міхал адчуваў сябе шчаслівым, бо мог тут вывучаць тое, што яго найбольш цікавіла: фізіку і хімію.

У гэты менавіта час у Сібіры працавала навуковая экспедыцыя, якая вывучала прыроду гэтага краю і шукала каштоўную руду і мінералы. Экспедыцыі не хапала чалавека, які добра ведаў геалогію, хімію і металургію. Прабавалі запрасіць іншаземных спецыялістаў, але жадаючых паехаць у Сібір не знайшлі. Тады вырашылі паслаць за мяжу трох студэнтаў Пецярбургскай Акадэміі: хай вывучаюць хімію і металургію, каб маглі пасля працаваць на карысць сваёй краіны. І гэтым разам, як самага здольнага сярод здольных, паслалі ў Марбург Міхаіла Ламаносава, а разам з ім яшчэ двух студэнтаў, вызначыўшы ім высокую стыпендыю.

**ПАД ЧУЖЫМ НЕБАМ.** ● **Жыццё студэнтаў у нямецкіх універсітэтах у той час вызначалася вялікай свабодай звычаяў. Маладых рускіх хлапцоў, у кішэнях якіх з'явіліся раптам значныя сумы грошай, захапілі адразу гульні і гулянкі. Міхал таксама гуляў разам са сваімі калегамі, але не закідваў вучобы. Яго невычэрпныя сілы дазвалялі сумяшчаць начныя гулянкі з паштадзённай сур'ёзнай навукай. І, калі пасля трохгадовай вучобы ў Марбургу ён пераехаў на далейшае навучанне ў Фрыбург, ён ужо даскапала ведаў нямецкую мову і пераклаў на рускую мову эксперыментальную фізіку свайго прафесара Вольфа.**

**У Фрыбургу Ламаносаў грунтоўна вывучаў спосабы здабычы руды. Ён не задавальняўся толькі тэарэтычнымі ведамі, а часта разам з шахцёрамі спускаўся ў шахты. Сябры смяяліся з яго, пыталі, ці не збіраецца ён часам стаць шахцёрам, а ён адказваў:** 119

**— Шахцёрскую справу вывучыць даскапала можна не па кніжках, а ў штэйгера, які ўсё жыццё правёў у шахтах.**

**Аднаго разу, пасылаючы чарговую справаздачу ў Пецярбургскую Акадэмію навук, Міхал дадаў да яе оду, якую ён напісаў у гонар перамогі рускай арміі над туркамі і татарамі. Ода называлася «На ўзяцце Хаціна». Гэту сваю оду ён напісаў у 1773 годзе, а ў пачатку наступнага года вырашыў вярнуцца ў Пецярбург.**

**— Я ўжо сыты па горла Нямеччынай,— казаў ён сябрам.— Амаль тры гады тут сядзім. Час вяртацца дадому.**

**Сябры пярэчылі, казалі пачакаць, пакуль пакліча іх начальства Акадэміі, але Ламаносаў заўпарціўся і пакінуў Фрыбург. Спачатку ён паванд-**

раваў пехатой амаль праз усю Нямеччыну ў Марбург. Вабілі яго блакітныя вочы фрэйлен Эльзы Зільх, з якой ён пазнаёміўся ў Марбургу. Праз некалькі дзён пасля прыбыцця ў Марбург Міхал з уласцівым яму тэмпераментам прапанаваў Эльзе стаць яго жонкай і атрымаў згоду. Эльзе спадабаўся гэты мажны і дужы рускі, яго вясёлы круглы твар, высокі пад чорнай чупрынай лоб. Шостага чэрвеня 1770 года маладая пара ўзяла ў евангеліцкім касцёле шлюб. Аднак ужо праз некалькі месяцаў Ламаносаву абрыдла жыццё ў сям'і нямецкага півавара. Баючыся, каб жонка не затрымала яго слязьмі і просьбамі, ён крадкам пакінуў горад. «Цяпер Эльзы ўзяць з сабой не магу, бо не маю грошай. Паклічу яе ў Расію, як толькі атрымаю там нейкую пасаду»,— думаў Міхал, маршыруючы пехатой у бок галандскай мяжы. З Галандыі ён меў намер суднам выехаць у Расію.



У часе гэтай вандроўкі ён спыніўся неяк у прыдарожнай карчме. У гэты час сядзеў там і піў з сябрамі піва прускі вярбовачны афіцэр. Нехта звярнуў яго ўвагу на самотнага прыбыльца.

— Глядзі, які дужы і рослы мужчына. Галавой дастае столі. Гэты падышоў бы табе ў «полк багатыроў» яго каралеўскай вялікасці.

— За гэтага гусара ты напэўна атрымаў бы высокую ўзнагароду,— заўважыў нехта з прусакоў.

Вярбовачны афіцэр спрактыкаваным вокам акінуў высокую дужую постаць Ламаносава і аж свіснуў ад захаплення.

— Запрашу яго на вячэру да нашага стала, можа, удасца ўгаварыць,— сказаў ён.

Ламаносаў быў чалавек таварыскі, а таму ахвотна прыняў запрашэнне і перасеў да прусакоў. У часе вячэры вярбовачны афіцэр пачаў угаворваць, каб ён паступіў на службу да прускага караля Фрыдрыха Вільгельма І. Раз-пораз узнімаючы ўгору поўную чарку і п'ючы за здароўе іншаземца, ён даліваў яму розных напіткаў. Ламаносаў адчуваў, што перастае ўжо разумець, дзе ён і што з ім робіцца. Не ўнікаючы ў сутнасць справы, Ламаносаў падпісаў паперу, якую падсунуў яму вярбовачны афіцэр. Калі ён заснуў глыбокім сном п'янага чалавека, на яго надзелі мундзір гусара яго каралеўскай вялікасці і пасадзілі на воз, каб разам з іншымі завярбаванымі прусакамі адвезці ў крэпасць Вэсэль.

Свежае паветра ацвярозіла Ламаносава. Нейкую хвіліну ён са здзіўленнем аглядаў на сабе мундзір прускага гусара і раптам зразумеў, што з ім сталася. Ен усхапіўся і хацеў саскочыць з воза, але яго затрымала грознае «Halt» аднаго з канвойных салдат. 121

— Halt! — паўтарыў той, узнімаючы стрэльбу, гатовую да стрэлу.

Што было рабіць? Міхал сеў на месца, прыкінуўся вясёлым і пачаў гаманіць са сваімі спадарожнікамі. Пры гэтым ён асцярожна аглядаў аколіцу, складаючы ў галаве план уцёкаў.

Аднак толькі наступнай начы, у часе прыпынку ў малым пагранічным форце, калі ўсе заснулі, Міхал асцярожна мінуў варту і дабраўся да абароннага, напоўненага вадой канала. Ен асцярожна ўвайшоў у ваду, пераплыў канал і папоўз далей. І раптам плюхнуўся ў ваду і моцна вылаяўся. Ён забыўся, што мястэчка акружана двума каналамі. Неўзабаве, аднак, абодва каналы і крапасная агарожа былі ўжо за плячыма.

Міхал бег цяпер полем у бок лесу, прыслухоўваючыся, ці няма пагоні, потым дабег да першых дрэў, калі пачуў стрэлы. Ён доўга кружыў у гушчары лесу, каб збіць з тропу пагоню. Стомлены, ён упаў нарэшце на мяккі мох і заснуў. Праспаў цэлы дзень, а ўвечары павандраваў далей. У бліжэйшай вестфальскай вёсцы ён выдаў сябе за беднага студэнта.

Грошай не было, і Міхал, на вялікую радасць Эльзы, вымушаны быў вярнуцца ў Марбург і чакаць, пакуль з Пецярбурга прышлюць грошы на зварот у Расію. Аднак і гэтым разам выехаў адзін без жонкі, абяцаючы, што прышле за ёю, як толькі ўладкуецца і здолее ўтрымліваць сям'ю.

ЛЕАНАРДА ДА ВІНЧЫ ПОЎНАЧЫ. ● Загадчык канцылярыі Пецярбургскай Акадэміі навук, немец Іаган Шумахер і яго зяць Таўберт не сімпатызавалі маладому вучонаму, які не мог пахваліцца шляхецкім гербам.

122

— Mein Gott! Мой божа! Гэта была мая вялікая памылка,— уздыхаў Шумахер.— Я не павінен быў дапусціць, каб Ламаносаў стаў ад'юнктам, а пасля яшчэ прафесарам.

Ламаносаў, які вярнуўся з-за мяжы бедным сціплым студэнтам, на працягу некалькіх год здабыў прызнанне навуковага свету і атрымаў званне прафесара хіміі. Яго разважанні ў галіне фізікі і хіміі, друкаваныя па-латыні ў часопісах Акадэміі навук, атрымалі прызнанне не толькі ў Расіі, але далёка за межамі.

Аднак Ламаносаў, гэты Леанарда да Вінчы Поўначы, цікавіўся не толькі хіміяй і фізікай, а таксама геалогіяй і мінералогіяй, геаграфіяй і астраноміяй, мастацтвам і літаратурай. Таму не дзіўна, што Шумахер, чалавек

пасрэдны і абмежаваны, якога ўражвала ўсебаковасць маладога прафесара, не пераставаў паўтараць:

— Не люблю людзей, якія займаюцца адначасова рознымі галінамі навукі. А Ламаносаў хапаецца за ўсё чыста.

— І яшчэ піша вершы,— дадаваў Таўберт і, перакручваючы па-нямецку словы, іранічна дэкламаваў вершы Ламаносава.

Шумахер і Таўберт дапякалі Ламаносаву рознымі дробязнымі непрыемнасцямі. Ведаючы, што малады прафесар, нягледзячы на сваю фізічную сілу, вельмі гарачы, вельмі лёгка ўзрываецца, яны даводзілі яго да скандалаў, аж пакуль пасля аднаго з гэтых скандалаў Ламаносава арыштавалі. Аднак нават будучы арыштаваным, Ламаносаў не хацеў марна траціць час і папрасіў, каб яму прыслалі для далейшага ўдасканалення матэматычных навук «Універсальную арыфметыку і фізіку Ньютана». Спатрэбілася ўмяшанне царыцы Елізаветы, якая, не вельмі разумеючы навуковую вартасць прац Ламаносава, паважала яго як паэта, які пісаў цудоўныя оды ў яе гонар, каб яго вызвалілі і пакінулі ў асяроддзі прафесараў Акадэміі.

Ламаносаў разумеў, што як вучоны ён стаіць намнога вышэй за сваіх калег, якія вербаваліся пераважна з нямецкага навуковага свету і ў большасці сваёй былі кар'ерыстамі. Яны клапаціліся аб сваёй уласнай кішэні і зусім не дбалі аб развіцці навукі. І таму Ламаносаў да канца свайго жыцця змагаўся за тое, каб вызваліць Акадэмію ад гэтых чужынцаў.

Былі і такія, якія дзівіліся, што Ламаносаў, маючы жонку немку (фрау Эльза адшукала мужа праз рускае пасольства і прыехала да яго), так не

любіць калег немцаў. Яны таксама не таілі сваёй нянавісці да яго. Нават у доме Ламаносава адгукалася рэхам гэтая непрыязь.

Іаган Зільх, брат жонкі, які прывёз фраў Эльзу з Марбурга ў Пецярбург і застаўся працаваць у хімічнай лабараторыі швагра, неаднойчы казаў сястры:

— Ты задобрая для яго, задобрая! Ён дбае толькі аб навуцы, твой муж, а аб жонцы і дачцэ не думае.

Фраў Эльза жалілася брату, што нідзе не бывае з мужам, што ён ніколі не мае для яе часу, бо ўсе дні праводзіць у лабараторыі. Міхалу, аднак, не адважвалася казаць гэта, бо ведала яго выбуховасць.

Лабараторыя Ламаносава, на адкрыццё якой ён з вялікай цяжкасцю атрымаў згоду царыцы і патрэбныя грошы, першая хімічная лабараторыя ў Расіі, знаходзілася за сорак крокаў ад кватэры прафесара. Быў гэта аднапавярховы цагляны будынак, які складаўся з аўдыторыі і двух доследных пакояў.

Фраў Эльза ведала, колькі сіл каштавала мужу пабудова гэтай лабараторыі, і толькі паціскала плячыма.

— Mein Gott, мой бог! — казала яна брату.— Столькі турбот з-за аднаго гэтага нікчэмнага дамочка.

Але іменна ў гэтым нікчэмным дамочку Ламаносаў на працягу сямі год праводзіў няспынную даследчую працу, развязваючы розныя пытанні ў галіне тэарэтычнай і даследнай хіміі. Спыніў ён гэтую працу толькі адзін раз, у верасні 1750 года, калі з канцылярыі Акадэміі навук з'явіўся загад:

«Пан прэзідэнт Акадэміі навук паведамляе, што яе царская вялікасць загадвае панам прафесарам Трэцякоўскаму і Ламаносаву напісаць па адной трагедыі і прадставіць іх у канцылярыю».

Чатыры тыдні прафесар хіміі Міхаіл Ламаносаў не з'яўляўся ні ў Акадэміі, ні ў лабараторыі. Ён пісаў. На працягу чатырох тыдняў ён стварыў трагедыю «Таміра і Селім». Царыца пахваліла трагедыю і прапанавала напісаць яшчэ адну.

Ламаносаў назваў яе «Дэмафонт». Гэта былі першыя драматычныя творы ў рускай літаратуры. Пасля таго, як творы былі напісаны, царыца павысіла аўтару гадавую плату з 600 да 1200 рублёў.

Прыяцель Ламаносава, граф Шувалаў раіў Ламаносаву заняцца выключна літаратурай і гісторыяй. Але Ламаносаў адказаў на яго прапанову адмоўна.

«Кожны чалавек,— пісаў ён Шувалаву,— шукае пасля працы нейкага адпачынку. З гэтай мэтай ён бавіць час сярод гасцей або ў сям'і: гуляе ў карты, у шашкі, курыць. Я даўно ўжо адмовіўся ад усіх гэтых забаў. Спадзяюся, што пасля працы над гісторыяй Расіі і ўдасканаленнем рускага слова мне будзе дазволена замест гульні ў більярд шукаць адпачынку ў даследаваннях у галіне фізікі і хіміі. Яны могуць зрэшты прынесці карысць і славу нашай айчыне».

Па прапанове царыцы ён напісаў «Гісторыю Расіі», але не кінуў працы над хіміяй і фізікай, чытаў лекцыі аб карысці хіміі, а сваю лабараторыю зрабіў сапраўдным навуковым асяродкам. Ён дамагаўся, каб да яго прысылалі вучыцца студэнтаў.

— Хімію не вывучыш, калі не будзеш праводзіць сам хімічных доследаў,— казаў ён.— Няхай жа тыя, якія будуць слухаць мае лекцыі і выконваць практычныя доследы, вучацца самі, каб пасля маглі вучыць іншых.

А ў адным са сваіх вершаў Ламаносаў пісаў:

Дерзайте ныне ободренны
Раченьем вашим показать,
Что может собственных Платонов
И быстрых разумом Невтонов
Российская земля рождать.



З гэтых мар Ламаносава аб рускіх Платонах і Ньютанах нарадзіўся першы рускі універсітэт. Ламаносаў вырашыў закласці яго не ў Пецярбургу, а ў Маскве, каб у ім маглі вучыцца не толькі сыны шляхты, але і дробных чыноўнікаў і нават сялян.

Граф Шувалаў сустрэў без захаплення гэтую ідэю Ламаносава, але той настойваў.

— Спадзяюся, што граф не будзе пярэчыць супраць таго, што ва універсітэце той студэнт заслугоўвае большай павагі, які лепш вучыцца. Няма значэння, чый ён сын,— казаў Ламаносаў.

Нарэшце ў 1755 годзе ў Маскве адкрыўся першы універсітэт. На ўрачыстае адкрыццё прыбылі вышэйшыя дзяржаўныя саноўнікі.

Не запрасілі толькі сапраўднага стваральніка універсітэта — Міхаіла Ламаносава.

Ламаносаў ведаў, што гонар адкрыцця універсітэта прыпісваецца графу Шувалаву, але не звяртаў на гэта вялікай увагі, а магчыма, ён прадчуваў, што яго заслугі належна ацэніць будучае? І сапраўды, хто сёння помніць графа Шувалава? А універсітэт у Маскве з гонарам носіць імя свайго вялікага стваральніка.

МАЗАІКІ, ПЕРУНЫ І ГЛОБУС. ● Ламаносава тым часам займала яшчэ некалькі іншых спраў. Ён хадайнічаў аб стварэнні фабрыкі шкла. Прасіў, як заўсёды, графа Шувалава падтрымаць яго ў сенаце і ў двары. Шувалаў спачатку не згаджаўся.

— Я лічу, што паважанаму вучонаму не пасуе займацца фабрыкацыяй посуду, шыб і шкляных аздоб,— казаў ён.

Урэшце, аднак, ён падтрымаў Ламаносава, і той атрымаў для гэтай мэты ад сената маёнтак Уст-Рудзіца і дзвесце адзінаццаць «душ» — сялян, замацаваных назаўсёды за фабрыкай шкла. Ламаносаў клапаціўся аб сваіх «душах». Пабудаваў для іх жыллёвыя дамы, млын, тартак. Сам сачыў за навучаннем здольнай сялянскай моладзі. У яго гуце выраблялі графіны, кубкі, сподачкі, пясочніцы, а найбольш каляровае шкло для вырабу мазаікі.

Ламаносаў захапляўся італьянскімі мазаікамі, на якія накладвалася некалькі тысяч каляровых шкельцаў у розных адценнях. Ён вырашыў рабіць такія самыя ў сябе ў Расіі. Але італьянскія майстры пільна захоўвалі таямніцу вырабу каляровых сплаваў, і Ламаносаў мусіў сам ламаць галаву над атрыманнем мазаікавага шкла і рэчыва для склейвання кавал-

каў і прымацоўвання іх да меднай пліты. Першую сваю мазаікавую працу — копію Мадонны італьянца Салімена — ён ахвяраваў царыцы Елізавеце.

Хутка ён стварыў сапраўдныя творы мастацтва, прыгожыя мазаікавыя карціны нязвыклых колераў, як напрыклад «Бітва пад Палтавай» ці «Пётр I». Іх слава стала вядомай далёка па-за межамі краіны. Аднак у Расіі мала хто цікавіўся мастацкай дзейнасцю вялікага вучонага, і Ламаносаў цярпеў вялікія грашовыя клопаты. Гута забірала ўсе яго сродкі, але ён любіў сваю «фабрыку шкла», у якой не толькі «маляваў» карціны, але правёў каля тысячы доследаў у галіне хіміі і фізікі, на падставе якіх нарадзіліся такія навуковыя працы, як «Разважанні аб прычыне цяпла і холаду», «Тэорыя пругкай сілы паветра» і шмат іншых.



І амаль адначасова з тым, калі яго займала справа пабудовы першай у Расіі гуты, ідучы следам за Франклінам, Ламаносаў пачаў вывучаць пытанні электрычнай сілы ў паветры.

У даследаванні гэтай сілы ён не быў адзінокім. Яго калега Рыхман таксама займаўся гэтым пытаннем. Прыяцелі сканструявалі ў сваіх кватэрах «перуновыя машыны» і назіралі ў часе навальніцы розныя, звязаныя з ёй з'явы.

Лета 1753 года, калі пачалося будаўніцтва гуты, было асабліва спякотным і навальнічным. 26 ліпеня пачалася навальніца без дажджу, але з моцнымі перунамі. Ламаносаў і Рыхман выйшлі з Акадэміі, хуценька развіталіся, і кожны заспяшаўся дадому, каб назіраць за сваёй «перуновай машынай».

Ламаносаў з цікавасцю назіраў за электрычнымі разрадамі, трымаючы руку на жалезным прэнце сваёй «перуновай машыны». З прута сыпаліся іскры. Жонка прасіла:

— Міша, адсунься, цябе можа забіць пярун.

Падалі абед, але Ламаносаву было не да яго. Не звяртаючы ўвагі на нараканні жонкі, што суп астыне, ён не адыходзіў ад «перуновай машыны». І толькі тады, калі навальніца пачала аціхаць, ён пайшоў нарэшце абедаць. Аднак не здолеў яшчэ ўзяць у рукі лыжку, калі ў пакой убег слуга прафесара Рыхмана. Ён быў такі напалоханы і задыханы, што доўгую хвіліну не мог вымавіць ніводнага слова. Нарэшце прастагнаў:

— Прафесар памёр! Прафесара забіў пярун!

Ламаносаў ускочыў з месца і заспяшаўся да прыяцеля.

«Можа, гэта памылка?

Можа, ён толькі самлеў?» — мітусіліся ў галаве трывожныя думкі. На жаль, усе захады Ламаносава былі дарэмнымі: Рыхман загінуў.

У гэты ж дзень Ламаносаў напісаў ліст графу Шувалаву:

«...Рыхман загінуў цудоўнай смерцю, выконваючы свой абавязак... Трагічным эксперыментам ён давёў, што можна прадухіліць электрычную сілу, сцягваючы яе на жалезны кій. Кій гэты павінен стаяць на адкрытым месцы, каб перуны маглі біць у яго, колькі захочуць».

Такім чынам смерць сябра падала Ламаносаву ідэю стварэння громаадвода. Аднак ён не забываў і аб іншых справах.

«Рыхман атрымліваў 860 рублёў,— пісаў далей Ламаносаў.— Пастарайцеся, каб яго бедная ўдава і дзеці атрымлівалі пажыццёвую пенсію.



5 Зак. 1710

Адначасова, каб выпадак гэты не атрымаў шкоднага для навукі каментарыя, найпакорнейша прашу даравацъ найпакорнейшаму слузе Вашага сіяцельства, залітаму слязьмі Міхаілу Ламаносаву.

Пецярбург 26 ліпеня 1753 г.».

Неўзабаве Ламаносава захапіла пабудова вялікага глобуса. Глобус меў звыш трох метраў у дыяметры і паварочваўся вакол сваёй асі. Уваходзілі ў яго па лесвіцы праз маленькія дзверцы ў сцяне. У глобусе маглі свабодна змясціцца і назіраць за зоркамі, якія кружыліся над галавой, дванаццаць чалавек. Такім чынам глобус гэты ўяўляў сабой планетарый.

Астраномія заўсёды цікавіла Ламаносава. Ён першы заўважыў, што Венера акружана густой атмасферай, а таму паверхню яе ўбачыць нельга. Ён адкрыў гэта, карыстаючыся тэлескопам уласнай канструкцыі, які пабудаваў у 1761 годзе, калі планета Венера праходзіла праз дыск Сонца.



Ламаносаў быў гарачым абаронцам тэорыі Каперніка аб абаротах нябесных сфер, усё яшчэ асуджанай духавенствам.

НЕ ХАЧУ БЫЦЬ БЛАЗНАМ. ● Ламаносаў часта звяртаўся да Шувалава з рознымі просьбамі. Просьбы гэтыя ён часта пісаў у форме верша ці нават хвалебнай оды. Пісаў ён оды і ў гонар царыцы Елізаветы. Але ён ніколі ні перад кім не ўніжаўся. Селянін па свайму паходжанню, сын простага рыбака, ён меў высокае пачуццё ўласнага гонару і не раз процістаўляў сябе магутным гэтага свету.

Адзін з яго калегаў, прафесар Акадэміі Штэлін, піша ў сваіх успамінах аб сварцы Ламаносава з рускім паэтам Сумарокавым.

Ламаносаў, не надаючы вялікага значэння ўласнай паэзіі і разглядаючы яе як забаву, захоплены даследаваннямі ў галіне хіміі і фізікі і іншай навуковай працай, не звяртаў увагі на паэзію Сумарокава і не хаваў сваёй думкі аб ім.

— Гэты чалавек думае толькі аб сваім нікчэмным рыфмаплёцтве і ні аб чым больш.

Словы гэтыя дайшлі да Сумарокава, які ўсяляк помсціў Ламаносаву, ствараючы пароды на яго оды. Гэта вельмі абурала і крыўдзіла вучонага. Граф Шувалаў, намагаючыся пагадніць антаганістаў, запрасіў іх неяк, разам з іншымі прафесарамі Акадэміі, да сябе на абед. Каля дзвюх гадзін у зале было поўна аксамітных фракаў, вышытых золатам, белых жабо і белых напудраных парыкоў. 131

«Чакалі толькі Ламаносава, каб сесці да стала»,— піша ў сваіх успамінах акадэмік Штэлін.— Ён прыйшоў у апошнюю хвіліну, не ведаючы, што Сумарокаў быў таксама запрошаны. Апынуўшыся амаль пасярэдзіне пакоя і заўважыўшы раптам сярод гасцей Сумарокава, Ламаносаў адразу павярнуўся і, не гаворачы ні слова, накіраваўся да дзвярэй. Шувалаў паклікаў: «Куды, куды, Міхаіл Васільевіч? Зараз будзем сядаць да стала. Чакалі толькі на пана». «Дадому»,— адказаў Ламаносаў, беручыся за клямку дзвярэй. «Але ж чаму? Я запрасіў пана на абед». «А таму,— адказаў Ламаносаў,— што не хачу абедаць разам з дурнямі». І, паказаўшы на Сумарокава, выйшаў.

Назаўтра Ламаносаў напісаў Шувалаву: «Не хачу быць блазнам не толькі за сталом вялікіх паноў і ўладароў гэтага свету, але нават у самаго пана бога, які даў мне розум. Хіба што ён адбярэ яго ў мяне».

Вялікі рускі паэт Аляксандр Пушкін так пісаў аб Міхаілу Ламаносаве: «Усюды ён быў аднолькавы: дома, дзе ўсе перад ім дрыжалі, у палацы царыцы, дзе цягаў за вушы яе пажоў, у Акадэміі, дзе ніхто не адважваўся сказаць супраць яго слова. Ніжэйшага паходжання, ён і не думаў дадаваць сабе вартасці нахабствам або фамільярнасцю з людзьмі вышэйшага свету. Умеў затое трымаць сябе са сваімі мецэнатамі, калі справа датычыла яго гонару або перамогі яго любімых ідэй».

У апошнія гады жыцця, пасля смерці Елізаветы, Ламаносава напаткала шмат прыкрасцей з боку Кацярыны II, якая коса паглядала на фаварызаванага сваёй папярэдніцай паэта і вучонага. Яна з задавальненнем падпісала загад аб яго адстаўцы.

Даведаўшыся аб гэтым, Ламаносаў, абражаны і ўніжаны, сказаў напалоханай жонцы і дачцэ, каб яны збіраліся ва Уст-Рудзіцу, далей ад двара і яго інтрыг. Там ён хутчэй забудзецца аб крыўдзе, якая яго напаткала. Але не паспеў ён пакінуць Пецярбург, як адстаўка была скасавана. Здарылася гэта зусім нечакана.

Замежныя госці, вітаючы царыцу Расіі, ставілі ёй у заслугу і тое, што сярод сваіх падданых яна мае славутага ў Еўропе вучонага Міхаіла Ламаносава.

Кацярына II, якая перапісвалася з Вальтэрам і хацела, каб яе лічылі высокаадукаванай царыцай, адразу скасавала адстаўку Ламаносава.

А вялікі вучоны ў апошні час адчуваў сябе дрэнна, хоць і быў яшчэ дужы, як атлет.

Аднойчы, калі ён вяртаўся з лесу дадому, на яго накінуліся тры маракі. Ламаносаў аднаго з іх паваліў, другога ўдарыў па твары, так што той заліўся крывёй, а калі гэтыя два ўцяклі, адолеў і трэцяга.

— Чаго хацелі ад мяне ты і твае таварышы? — запытаў Ламаносаў.

Аказалася, што маракі проста хацелі абрабаваць самотнага прахожага.

— Ах ты шэльма! — Ламаносаў паставіў рабаўніка перад сабой.— Рабаваць табе захацелася. Ну, пачакай жа! Цяпер я цябе абрабую.

Злодзей мусіў зняць пінжак, кашулю, порткі, усё гэта звязаць сваім паскам і аддаць Ламаносаву. Закінуўшы клунак за плечы, ён дазволіў рабаўніку ісці, а сам павандраваў дадому.

Ён ужо не жыў у сваёй даўняй кватэры пры Акадэміі. У 1757 годзе пабудаваў сабе ўласны дом з шырокім ганкам. Мясцілася ў гэтым доме яго лабараторыя. Гэты ганак і лабараторыя былі любімымі месцамі вучонага. У лабараторыі ён працаваў, на ганку адпачываў, прымаў у цёплыя дні сваіх землякоў-рыбаловаў Поўначы, якія, як і даўней, у часы яго маладосці, прыбывалі з рыбай з берагоў Белага мора, Паўночнай Дзвіны і Анегі ў Маскву.

Калі яго стрыечная сястра Марыя Галавіна прыслала ў Пецярбург свайго сына, Ламаносаў узяў яго пад сваю апеку. Ён загадаў пашыць юнаку новае французскае адзенне і быў вельмі задаволены, што пляменнік яго хлапец смелы і адчувае сябе ў доме дзядзькі, як у сябе.

«Павер мне, сястра,— пісаў вучоны сястры,— я клапачуся аб ім як добры дзядзька і хросны. Жонка мая і дачка таксама любяць і дагаджаюць яму ва ўсім. Упэўнены, што навука дасць яму шчасце. Застаюся адданы табе брат Міхаіл Ламаносаў».

Цяпер, калі мінула столькі год з таго часу, як адзінокі і без капейкі ў кішэні Ламаносаў прыбыў у Маскву і пераначаваў у санях каля базару, ён, састарэлы і хворы, з ахвотай вяртаўся думкай і сэрцам у сваю родную, засыпаную снегам вёску на Поўначы. «За гарамі, за марамі...»

# НАРАДЖЭННЕ ЧЫГУНКІ

Маленькі хлопчык са спарышамі, прыкрытымі чыстай шматкай, нясмела адчыніў дзверы кацельні.

— Гэй, Стары Боб, сын прынёс табе снеданне! — паклікаў нехта з прысутных, і качагар Роберт Стэфенсон, якога ўсе ў шахце называлі Старым Бобам, зараз жа з'явіўся.

— Прыйшоў нарэшце! — узрадаваўся ён, угледзеўшы сына.— Што ў цябе ў спарышах? Я галодны як воўк.

Ен сеў у куце кацельні і, ядучы бульбу з салам, наракаў:

— Кацёл у мяне забіла. Паліць яго нельга, вось і помпы спыніліся...

Містэр Грын будзе цяпер злаваць.

Малы Джорж толькі цяпер заўважыў, што ў кацельні ціха. Заўсёды грозна і мерна сіпела тут машына і чулася аглушаючае скрыгатанне жалеза. Сёння тут панавала гэткая ці-

*ЧЫГУНКА, ПАЧАТАК ЯКОЙ*
*ПАКЛАЎ СТЭФЕНСОН,*
*СТАЛА АДНЫМ*
*З АСНОЎНЫХ ФАКТАРАЎ,*
*ЯКІ ЗРАБІЎ МАГЧЫМЫМ ХУТКАЕ*
*РАЗВІЦЦЁ ГАСПАДАРЧАГА ЖЫЦЦЯ*
*І РАШУЧА ЗДАБЫВАЕ ПЕРАВАГУ*
*НАД ІНШЫМІ СРОДКАМІ*
*ТРАНСПАРТУ*
*І СУХАПУТНАЙ КАМУНІКАЦЫІ.*

*Энцыклапедыя «Прырода і тэхніка»*



шыня, што чуваць было, як з кранаў паволі і манатонна капае вада: кап, кап, кап...

Стары Боб не паспеў яшчэ скончыць снеданне, калі ў кацельню ўбег машыніст містэр Грын. Як і казаў Стары Боб, быў ён злосны і ўсхваляваны.

— Боб, чаму перасталі паліць? — запытаў ён ад парога.— Помпы стаяць, не цягнуць з зямлі вады, а вам хоць бы што! Залье вугаль, у штольнях падмокнуць стропы і зваляцца на галовы шахцёрам. Зараз пачынаецца другая змена, а вы...

Стары Боб абцёр далоняй вусны, адставіў спарышы і ўстаў з лаўкі.

— А што я магу зрабіць? — прамармытаў ён, паціснуўшы плячыма.— Кацёл забіла, і трэба яго чысціць.

— Ну дык трэба чысціць! Чаго вы чакаеце? — нерваваўся машыніст Грын.

— Спачатку чакаў, каб ён астыў, а цяпер...

— Што цяпер? Што цяпер? — не адступаўся містэр Грын.— Кажу вам, што зараз заступіць другая змена! Што вы робіце, чалавеча?

Качагар пачухаў галаву.

— Сам у кацёл не ўлезу. Мой памочнік таксама не дасць рады. Трэба мець нейкую доўгую мятлу або лапату, а ў мяне толькі звычайныя...

Малы Джорж, які ўважліва прыслухоўваўся да гаворкі, пацягнуў бацьку за рукаў.

— Можа, я туды ўлезу, тата? — нясмела запрапанаваў ён.

Стары Боб нецярпліва адмахнуўся ад сына.

— Упэцкаешся так, што цябе родная маці не пазнае,— прамармытаў ён.

Але Джорж не адступаўся.

— Улезу ў кацёл і вычышчу яго да бляску. Я пралезу ў адтуліну. Вось убачыце, татка.

Машыніст Грын падтрымаў хлопчыка. Хай лезе ў кацёл. Ён малы, шчуплы, спрытны. Напэўна дасць сабе рады.

Што было рабіць?

— Скідай сарочку, бо адразу будзе чорная,— загадаў Стары Боб.— Падыму цябе, бо не дастанеш да лаза. А пасля падам табе лямпу і лапату...

Праз хвіліну хлопчык ужо сядзеў на дне катла, адкуль далятаў яго дзіцячы прыглушаны галасок. Ён энергічна выкідаў праз адтуліну попел і каменне. Прычым завіхаўся так, што хутка Стары Боб пачаў клікаць:



— Вылазь, сынок! Вылазь! Зараз пачнём распальваць і спячом цябе як кураня.

Нарэшце хлопчык выскачыў з катла. Ён быў пакрыты сажай і вугальным пылам так, што на яго чорным твары весела бліШчалі толькі белыя зубы.

Задаволены містэр Грын даў яму паўпенса на цукеркі, і Джон шчаслівы пабег дадому. Візіты на шахту былі для хлопчыка самай вялікай прыемнасцю. Вабіў яго таямнічы свет машын, які зачароўваў яго дзіцячае ўяўленне бегам сваіх вялікіх і малых колаў, сычэннем вентыляў, бліскучымі прутамі сталі.

Ён з радасцю хадзіў бы сюды штодзень, але маці лічыла за лепшае сама насіць бацьку снеданне.

— Як пашлю хлопца на шахту, дык прападае там некалькі гадзін,— наракала яна.— І ніякай ад яго дапамогі.

Дома Джорж даглядаў меншых дзяцей. Стэфенсоны жылі ў шахцёрскім пасёлку паблізу Ньюкастля пры самай шашэйцы. Іх нізкі дамок, як дамы большасці шахцёраў, складаўся з аднаго пакоя, меў маленькія акенцы пры самай зямлі і гліняную падлогу. З пяцярых дзяцей два старэйшыя хлопчыкі рана пачалі працаваць у шахце, а Джорж няньчыў маленькіх сястрычак. Неўзабаве пачаў зарабляць і Джорж: наняўся пастухом да суседкі-ўдавы. Атрымліваў за сваю працу два пенсы ў дзень і харч. Маці радавалася:

— Усё ж на адзін рот у хаце меней.

Джоржу падабалася праца пастуха. Даглядаючы кароў і гусей, ён меў шмат вольнага часу. Каровы спакойна пасвіліся ўздоўж дарогі, а Джорж, лежачы ў рове, нешта старанна майстраваў. Неўзабаве ён паказаў маломў пастушку Білю свой твор. Той у захапленні пляснуў у далоні.

— Гэта паравы ліфт для выцягвання вугалю з шахты. Як ты цудоўна гэта зрабіў! — у захапленні ўсклікнуў Біль.

— Праўда, ён такі самы, як ліфт машыніста Грына? — радаваўся Джорж.— Толькі малы. Глядзі, гэта скрыні для вугалю. Я зрабіў іх з коркаў, каб былі лёгкія. Гэтыя шнуркі — ліны. Трубы я зрабіў са сцябла, кацёл — з кавалка бляхі, а печ — з гліны. А цяпер паглядзі, як ён дзейнічае.

Ён тут жа прадэманстраваў дзейнасць свайго ліфта, распаліўшы ў мініяцюрнай печы агонь з сухіх галінак. Калі вада ў катле нагрэлася, вырвалася пара, і пад яе ціскам коркавыя скрыні з вугалем узняліся ўгору, а пасля павольі апусціліся.

— Зусім як у сапраўдным паравым ліфце! — усклікнуў уражаны Біль, назіраючы за працай ліфта.

Хлопчыкі цэлымі днямі гулялі цяпер з ліфтам, пакуль нехта з зайздросных пастушкоў не паламаў яго.

Джорж быў вельмі засмучаны, але пацяшаў сябе і Біля:

— Зраблю другі, яшчэ лепшы. А нанач буду забіраць дадому, каб ніхто не сапсаваў.


Не паспеў ён, аднак, зрабіць новую цацку. Аднаго дня Стары Боб сказаў:

— Даволі быць пастухом. Хлопчыку ўжо дзесяць год, знойдзецца для яго праца і ў шахце. У нашай сям'і ўсе былі шахцёрамі, будзе шахцёрам і ён.

Джорж спачатку дапамагаў старэйшаму брату выбіраць з вугалю каменне і іншыя дамешкі. А пасля стаў паганятым коней, якія вазілі вугаль.

Сям'я Стэфенсонаў ужо не жыла ў Вайлеме, дзе нарадзіўся і правёў першыя гады свайго жыцця Джорж. Стары Боб вандраваў у пошуках кавалка хлеба ад шахты да шахты. Ужо не толькі ён, але і старэйшыя яго сыны працавалі качагарамі, а неўзабаве качагарам стаў і Джорж. Дапамог яму выпадак: захварэў памочнік бацькі і не было каму яго заступіць. Та-

кім чынам Джорж застаўся працаваць у кацельні бацькі, а праз нейкі час атрымаў работу качагара ў іншай шахце.

Джорж з гонарам прынёс дадому свой першы заработак. Бацька пахваліў яго:

— Малайчына, Джорж! Качагар! Вось гэта кар'ера для гэткага малакасоса.

Але Джорж марыў аб іншым.

— Хацеў бы стаць малодшым машыністам,— казаў ён.— Хацеў бы працаваць пры машынах.

Бацька паціскаў плячыма.

— Каб быць памочнікам машыніста, трэба ведаць помпы і ліфты, трэба ўмець папраўляць дробныя пашкоджанні. А як жа ты, сынок? Ні пісаць, ні чытаць не ўмееш, як жа ты будзеш упраўляцца з машынамі? 

Стары Боб, як і большасць шахцёраў, быў непісьменны і не вучыў сваіх дзяцей. Ды і адкуль было ўзяць на навуку, калі заработкаў хапала толькі на сякую-такую ежу і вопратку?

Джорж моўчкі слухаў бацьку, але адступаць не збіраўся. Дзе б ён ні працаваў, усе вольныя хвіліны праводзіў у машынным аддзяленні, закідаючы пытаннямі майстроў і інжынераў.

Праз нейкі час, хоць меў ён усяго семнаццаць год, пачаў працаваць тармазным: сачыў цяпер за паравым ліфтам, які выцягваў на паверхню кашы з вугалем.

Атрымаўшы гэтую «пасаду», дадому прыбег як на крылах.

— Мама! Я цяпер тармазны! Чуеш? Тар-маз-ны! — радаваўся ён.— Гэтая пасада — вялікае шчасце, праўда, мама?

Яму цяпер зайздросцілі іншыя шахцёры, якія былі старэйшыя за яго, а зараблялі меней. Аднак аб непрыемнасцях, якія ад іх цярпеў, Джорж не гаварыў нікому. «Сам сабе дам рады!» — думаў ён, гнеўна сціскаючы кулакі.



Аднаго разу, калі шахту наведаў галоўны дырэктар, нехта з рабочых пастараўся, каб у той час, калі Джорж будзе весці ліфт, кашы з вугалем штохвіліну затрымліваліся. Разгневаны дырэктар запытаў, чаму так дрэнна працуе ліфт. І адзін з рабочых услужліва адказаў:

— Таму што праўленне шахты дазваляе весці ліфт сапляку, які нічога не ведае. Нічога дзіўнага, што ліфт пад такой апекай часта псуецца.

Стэфенсон слухаў гэта з абурэннем. Нарэшце, перасільваючы сваю сціпласць, вытлумачыў дырэктару сутнасць справы.

— Зараз я ліквідую пашкоджанне,— запэўніў ён дырэктара.— Гэта толькі жарт... Гэта яны так насміхаюцца з маёй працы.

Ён у момант паправіў ліфт і ўжо без перашкод выцягнуў на паверхню ўсю здабычу вугалю, а пасля адыходу дырэктара так правучыў «жартаўніка», што адбіў у іншых ахвоту да падобных жартаў з гэтым апантаным хлапцом.

Джорж любіў прыслухоўвацца да гаворкі інжынера са старэйшым машыністам. Ад іх заўсёды можна было даведацца шмат цікавага аб машынах. Аднойчы ён убачыў у руках машыніста кніжку з нейкімі цікавымі рысункамі.

— Гэта чарцяжы,— сказаў машыніст.— Тут апісана ўсё пра машыны. Але ж ты гэтага не прачытаеш.

Джорж уздыхнуў. Ён даўно ўжо разумеў, што мусіць навучыцца чытаць. Мусіць! Інакш ніколі не здзейсніцца яго мара і ён ніколі не будзе машыністам.

Маці Джоржа была вельмі незадаволена. Яна лічыла, што сын дарэмна выдае тры пенсы на тыдзень на навуку ў школе для дзяцей шахцёраў. І гэтага яму мала. Ён яшчэ бегае да пастара Рабертсона на лекцыі арыфметыкі.

— Хлапцу ўжо васемнаццаць год, час жаніцца, а ён у класе разам з дзецьмі сядзіць і па буквару бэкае,— жалілася маці.— Смяюцца з яго ў вёсцы. І навошта яму тая навука: ніякай ад яе карысці беднаму чалавеку. 

Але Стары Боб нечакана падтрымаў сына:

— Без друкаванага слова чалавек сляпы, як крот. Хай вучыцца хлапец. Лепш позна, чым ніколі.

— Не сярдуй, мама,— супакойваў маці Джорж.— Што суседзі смяюцца, гэта глупства. А тыя грошы, якія я аддаю на навуку, зараблю дадаткова, вось убачыш!

І хоць вяртаўся з суседняй вёскі, дзе знаходзілася школа, у якую ён хадзіў пасля дванаццаці гадзін працы на шахце, стомлены, ён не клаўся спаць. Даставаў малаток і дратву, садзіўся на табурэце і прымаўся за рамонт абутку. Суседзі ахвотна прыносілі яму старыя боты, і работы ў Джоржа заўсёды хапала.

— У цябе залатыя рукі, Джорж,— казалі кліенты.— Самыя знішчаныя боцікі робіш новымі.

Рукі ў Джоржа і сапраўды былі залатыя. Ён правіў не толькі абутак суседзяў, але і гадзіннікі. Ён заўсёды нешта рамантаваў і майстраваў. Ён не хадзіў у карчму, не хадзіў глядзець на бойку пеўняў, што была любімай забавай тагачаснай англійскай рабочай моладзі. Ён працаваў і вучыўся. А меў ужо дваццаць адзін год і пачаў сур'ёзна думаць аб жаніцьбе. Закахаўся ў Фані Гендэрсон, служанку з суседняй фермы. Фані мінеяк прынесла яму ў рамонт чаравікі, а паколькі яна была прыгожая і мілая, Джорж кожную нядзелю пачаў хадзіць на ферму. Фані таксама падабаўся малады, дужы хлапец з кучаравай чупрынай над высокім чалом, вясёлымі вачыма і вуснамі, заўсёды гатовымі да смеху і жартаў. Яна згадзілася стаць яго жонкай. Абодва адчувалі сябе вельмі шчаслівымі, і толькі маці Джоржа была незадаволена.

— Пачакаў бы, пакуль падрастуць сёстры, і сабралі бы крыху грошай,— бурчала яна.— А так што? Ён бедны, яна бедная. Бяда ажэніцца з бядой.

Уголас яна сваіх думак не выказвала. Ведала, што волю Джоржа не зломіш. Як чаго захоча, дык абавязкова паставіць на сваім.

Шлюб Фані і Джоржа адбыўся 23 лістапада 1802 года. Пасля шлюбу мала што змянілася ў жыцці Джоржа. Працаваў толькі яшчэ болей, асабліва калі нарадзіўся яго сын Роберт. Жонка брала на дом шытво, і Джорж, прыглядаючыся да яе працы, вучыўся краіць. Да яго заняткаў шахцёра, гадзіннікавага майстра, слесара і шаўца прыбавілася яшчэ кравецтва.

Маладыя Стэфенсоны старанна складалі грош да гроша. Джорж часта казаў жонцы:

— Трэба сабраць столькі грошай, каб наш Роберт жыў лягчэй, чым мы.

І раптам на ціхі дамок маладога Стэфенсона звалілася няшчасце: памерла яго Фані, яго сціплая, працавітая і любая жонка. Джорж доўга не мог прымірыцца з яе смерцю. Адчуваў сябе такім няшчасным, што хацеў пакінуць месцы, якія былі сведкамі іх кароткага шчасця. Ён сур'ёзна думаў аб тым, каб забраць малога Роберта і выехаць у Амерыку. Але не хапала грошай на гэткую доўгую дарогу. Не мог ён пакінуць і бацькі, якога менавіта ў гэты час таксама напаткала няшчасце: Старога Боба апарыла выбухам пары, і ён аслеп. Сынам і дочкам Старога Боба таксама даводзілася нялёгка, хоць яны цяжка працавалі як шахцёры. Даведаўшыся аб няшчасці бацькі, Джорж забраў бацькоў да сябе. Сляпы бацька меў у яго доме належны догляд, а бабка старалася заступіць малому Роберту маці і займалася гаспадаркай аўдавеўшага сына. 145

У гэты час Джорж лічыўся ўжо лепшым машыністам і механікам на шахтах Кілінгуорт. Дзе б ён ні працаваў, заўсёды ўводзіў нейкія тэхнічныя паляпшэнні і сваёй працавітасцю і незвычайным знаёмствам з рознымі механічнымі прыладамі звяртаў на сябе ўвагу інжынераў і дырэкцыі.

У 1810 годзе Стэфенсону ўдалося палепшыць новую машыну для выпампоўвання вады. Машына гэта працавала дрэнна, не асушвала належным чынам шахты, а неўзабаве спынілася зусім.

Стэфенсон агледзеў яе ўважліва і сказаў:

— Я яе папраўлю.

Кіраўнік шахты, які працаваў тут нядаўна і амаль не ведаў Стэфенсона, толькі паціснуў плячыма.

— Інжынеры над ёй ламалі галаву, а ты хочаш паправіць яе.

Аднак праз некалькі дзён сам звярнуўся да Стэфенсона:

— Што ж, паспрабуй,— сказаў ён.— Усе тут гавораць, што ты сапраўдны «доктар машын», што такога механіка, як ты, няма ва ўсёй Англіі.

Стэфенсон адразу ўзяўся за справу. Майстраваў некалькі дзён. У выніку не толькі направіў механізм, але палепшыў яго так, што помпа дзейнічала лепш за ўсе ранейшыя.

Гаспадар шахты загадаў заплаціць Стэфенсону дзесяць фунтаў стэрлінгаў і даручыў яму наглядаць за машынамі ва ўсіх сваіх шахтах. Такім



чынам Джорж як інспектар стаў цяпер начальнікам інжынераў, над якімі ён узвышаўся сваім вялікім практычным вопытам.

Некаторыя інжынеры бурчалі:

— Самавучка і звычайны шахцёр, а хоча нас кантраляваць. Гэта скандал!

— Але ж гэта цудоўны практык! — казалі іншыя.

Тым часам Стэфенсон увесь час вывучаў сур'ёзную спецыяльную літаратуру.

Маці дзівілася:

— Такі разумны, а ўсё яшчэ вучыцца.

Джорж доўгія вечары праводзіў над кніжкамі. Вучыўся ў інжынера Іагана Вігама рабіць тэхнічныя чарцяжы, рысункі і складаць планы. Чы-

таў навуковыя кніжкі па матэматыцы і фізіцы, а калі чаго не разумеў, звяртаўся да свайго настаўніка з просьбай вытлумачыць яму.

У яго вучобе вельмі дапамагаў яму цяпер сын Роберт.

Роберт скончыў ужо вясковую школу і вучыўся ў горадзе, а, бадай, бацька і сын вучыліся разам. Роберт паўтараў бацьку змест кожнага ўрока, яны развязвалі разам задачы і разам рабілі розныя доследы. Разам таксама сканструявалі лямпу, якая палілася пад вадой і была любімай забаўкай Роберта.

Школа, якую наведваў Роберт, мела вялікую навуковую бібліятэку, і Роберт браў там кніжкі для бацькі. А з тых, якія нельга было браць дадому, рабіў канспекты, капіраваў чарцяжы і тэхнічныя эскізы і адносіў бацьку.

Стэфенсон з гонарам думаў аб будучыні сына. «Роберт — хлопец здольны. Яго канспекты і запісы дасканалыя, усё ў іх зразумела і ясна. Яго тэхнічныя чарцяжы захапляюць найлепшых знатакоў. Буду вучыць яго далей. З яго некалі выйдзе здольны інжынер».

Цяпер ён мог спакойна марыць. Меў ужо ладны капіталік і нядаўна набыў дамок з садком. У доме было чатыры пакоі, і ўсе яны былі застаўлены мадэлямі машын. Вечарамі ў Стэфенсона збіраліся шахцёры — сябры і прыяцелі. Адны прыходзілі проста пагутарыць з ім, другія параіцца ў тэхнічных справах.

Аднойчы на шахце ўзнік пажар. Маці і бацька ледзь дачакаліся Джорджа дадому. Ён прыйшоў з машыністам Білем, з якім сябраваў змалку. Абодва былі стомленыя і ўсхваляваныя. Старая маці ўздыхала:

— О, божа, божа! Сёлета ўжо трэці пажар. Добра яшчэ, што абышлося без ахвяр.

Стары Боб, які, нягледзячы на сваю слепату, не страціў былога гумару, весела сказаў:

— У шахце ёсць такі добры дух, які стаіць на варце шахцёраў.

— Добры той дух,— уздыхнула маці.— Я помню, як у часе пажару загінула 90 шахцёраў. А ў наступны раз 22 шахцёры засыпала жывымі.

Як жонка і маці шахцёраў, яна перажыла шмат трывожных хвілін, калі яе блізкія знаходзіліся пад зямлёй.

— То строп абваліцца, то адстрэл спознены, то ліны з ліфтам абарвуцца...— пералічвала яна няшчасці, якія сыпаліся на шахцёраў.— Але самае страшнае — пажары.



Машыніст Біль пыхкаў люлькай і моўчкі слухаў. Нарэшце прамовіў:

— Што ж зробіш! Ля машын яно бяспечней, а пад зямлёй часамі даволі запаліць лямпку — і ўжо выбух гатовы.

Стары Боб сцвярджальна паківаў сівой галавой.

— Яно так. Газы гэта найгорш. Іх не відаць, не чуваць, але ад іх найбольш няшчасцяў. Мой дзядуля казаў, што некалі перад кожнай новай зменай апускалі ў шахту пакутуючага грэшніка.

Роберт, які вярнуўся са школы, падсунуўся да дзеда і крануў яго за плячо.

— Каго, гаворыце, дзядуля? — запытаў спалохана.— Грэшніка?

— А так. Грэшнік у мокрай вопратцы, у каптуры, з маскай на твары абыходзіў з факелам усе камеры, калідоры і філяры. Калі ён не вяртаўся,

ведалі, што ў нейкай штольні выбухнуў пажар і чалавек загінуў у агні.

— Загінуў?! — усклікнуў уражаны Роберт. А Стары Боб казаў далей:

— Тады нейкі час не спускаліся ў шахту, чакалі, пакуль газ спаліцца і пажар скончыцца. Але гэта быў нязручны спосаб.

— Не хапіла б хіба грэшнікаў,— засмяяўся Біль.— Адзін знаёмы штэйгер расказваў, што гаспадар шахты, у якой ён працуе, замест лямп спрабаваў выкарыстоўваць рыбы, якія свецяцца ў цемры, бо ў лусцы маюць шмат фосфару. Але чаго была варта работа пры такім асвятленні? Нічога. І трэба было зноў вярнуцца да каганцаў.

Джорж сядзеў задуменны і не прымаў удзелу ў гутарцы. Раптам ён устаў, прайшоўся па пакоі і спыніўся ля століка, на якім стаяла яго «падводная лямпа». Нейкую хвіліну ён моўчкі глядзеў на яе, нібы бачыў упершыню. Пасля адвярнуўся і сказаў Білю: 

— Ужо ведаю. Зраблю гэткую лямпу! Яна будзе гарэць бяспечна нават у паветры, у якім ёсць газ, так, як і гэта, будзе гарэць пад вадой.

Ён энергічна ўзяўся за справу, і праз нейкі час лямпа была гатова — яе пакрывала падвойная металёвая сетка, якая адводзіла цяпло, што вылучалася ў часе гарэння, і захоўвала полымя ад знешніх уплываў.

Джорж паказаў сваю вынаходку дырэктару шахты. Той уважліва слухаў яго, але адмоўна ківаў галавой.

— Гэта трэба праверыць. А хто захоча рызыкаваць. За гэтае выпрабаванне можна заплаціць галавой,— сказаў ён, калі Стэфенсон скончыў сваё тлумачэнне.

— Я сам спушчуся ў шахту і абыду са сваёй лямпай пласт, у якім сабраўся газ,— сказаў Стэфенсон.

Назаўтра некалькі шахцёраў разам з Білем на чале згадзілася ўдзельнічаць у гэтай рызыкоўнай спробе. Аднак нават Біль не адважыўся ўвайсці з лямпай у небяспечны штрэк. Тады Стэфенсон вырашыў пайсці туды адзін.

— Застаньцеся тут і назірайце здалёк,— сказаў Стэфенсон і пайшоў наперад.

Калі апынуўся ў месцы скаплення газу, полымя ў яго лямпе разгарэлася так ярка, што Джорж спыніўся. «Зараз грукне»,— падумаў ён, і сэрца моцна забілася.



Але выбух не здарыўся. Лямпа зноў прыгасла і гарэла цяпер роўным, спакойным полымем.

Шахцёры былі ў захапленні. Дырэкцыя віншавала Стэфенсона і паводле яго мадэлі загадала зрабіць некалькі дзесяткаў лямп для сваіх шахцёраў. Аднак не прозвішча Стэфенсона носіць гэта бяспечная шахцёрская лямпа. Ёй прысвоена імя вядомага англійскага хіміка і фізіка Даўе, які адначасова са Стэфенсонам сканструяваў такую самую шахцёрскую лямпу.

Што датычыць Джоржа Стэфенсона, простага шахцёра-самавучкі і яго лямпы, дык аб гэтым было вядома толькі ў шахтах акругі, дзе ён працаваў. А Даўе быў вучоным, якога ведалі нават па-за межамі Англіі. Гэта, аднак, не памяншала заслугі Стэфенсона, які не пабаяўся рызыкаваць жыццём, каб праверыць карысць гэтай важнай вынаходкі.

У тым жа 1815 годзе, у якім Стэфенсон сканструяваў сваю шахцёрскую лямпу, яго захапіла іншая справа — справа пабудовы паравоза, які перавозіў бы людзей і грузы.

Калі сын яго быў яшчэ малы, ён часта расказваў яму, як у маленстве пільнаваў сваіх малодшых братоў і сястрычак, каб яны не трапілі пад «цягнік». «Цягнік» гэты павoлі сунуўся па драўляных рэйках і складаўся з некалькіх драўляных вагончыкаў, якія цягнуў вялікі, нязграбны і павольны паравоз. Пабудаваў гэты паравоз містэр Бакет, гаспадар вялізных вугальных выкапняў у родных мясцінах Стэфенсона. «Чорны Біль», як называлі гэты паравоз шахцёры, заўсёды псаваўся, саскокваў з рэек і не мог пацягнуць болей, чым адзін добры конь. Не лепшымі былі машыны і на іншых шахтах Англіі, хоць лічылі іх больш зручнымі для перавозкі вугалю, чым вазы, запрэжаныя коньмі або муламі. Стэфенсон вачыма дасведчанага практыка ацаніў дадатныя і адмоўныя якасці існуючых паравозаў і ўвесь час думаў аб тым, каб пабудаваць паравоз лепшы ад «Чорнага Біля», такі, які людзям сапраўды палегчыў бы працу і хутчэй перасоўваўся з месца на месца.

— О, каб мець грошы, патрэбныя для гэтай справы! — казаў ён не раз свайму маламу сыну.

Пазней, калі Роберт вырас, бацька і сын разам вывучалі спецыяльную літаратуру, звязаную з вынаходствам паравой машыны.

— На нашых шахтах,— казаў Джорж,— усё яшчэ ўжываюцца паравыя машыны і помпы Томаса Н'юкамэна, а тым часам Ват іх цудоўна ўдасканаліў.

Стэфенсон часта наведваў свайго прыяцеля Рычарда Трэвічка, які таксама цікавіўся паравой машынай. Трэвічак першы расказаў Стэфенсону, што нейкі амерыканец Роберт Фультон, мастак, інжынер, скарыстаў паравую машыну Вата ў суднаходстве.

— Ого! — трыумфаваў Трэвічак.— Нарэшце можна будзе падарожнічаць па акіянах хутчэй, чым гэта рабіў Калумб, і пасміхацца сабе з марскіх штыляў або супрацьлеглых вятроў.

Сам ён таксама будаваў паравыя цягнікі і нават на адным з іх паехаў у Лондан. У 1804 годзе ён пабудаваў паравоз для адной з гутаў, але ён вельмі хутка сапсаваўся. Каб зацікавіць грамадства сваёй вынаходкай, Трэвічак адчыніў у Лондане «паравы цырк», у якім на рэйках, пакладзеных у форме кола, хадзіў невялікі цягнік. Адна паездка гэтым цягнікам каштавала шылінг, і Стэфенсон хацеў нават паехаць у Лондан, каб падарыць такую прагулку Роберту. На жаль, не паспеў зрабіць гэтага, таму што паравоз Трэвічка абярнуўся і зламаўся, і яго стваральнік адмовіўся не толькі адрамантаваць яго, але нават спыніў пабудову новых паравозаў.

Стэфенсон, аднак, не належаў да ліку людзей, якія адступаюцца ад ажыццяўлення сваёй мары.

Нягледзячы на тое, што ён на працягу доўгага часу выконваў на шахтах свайго прадпрыемства функцыі галоўнага інспектара, ён усё яшчэ не верыў у свае здольнасці валодаць пяром. Аднойчы ён папрасіў свайго знаёмага настаўніка, каб той напісаў за яго пісьмо Пэйзу, генеральнаму дырэктару вялікіх шахт пад Дарлінгтонам. Стэфенсон прапанаваў замяніць

коней, утрыманне якіх каштуе вельмі дарага, машынамі, якія ходзяць па рэйках. «Мой паравоз будзе выконваць працу 52 коней». Ён прасіў толькі пакрыць патрэбныя выдаткі. Адна або дзве машыны, якія ён пабудуе на спробу, канчаткова пераканаюць «шаноўных гаспадароў» у карысці, якую прынясуць яго паравозы для развіцця гандлю і прамысловасці.

Дырэктар Пэйз пажадаў сустрэцца са Стэфенсонам і запрасіў яго да сябе разам з акцыянерамі шахты.

— Аб тым, што ён дасканалы механік, я пераканаўся даўно,— сказаў дырэктар сваім гасцям, калі тыя сабраліся ў яго кабінеце і чакалі Стэфенсона.— Яго называюць «доктарам машын». Але ці задума яго мае пад сабой глебу, я пакуль не ўпэўнены і лічу, што будзе найлепш, калі ён сам пераканае нас у гэтым.

У гэту хвіліну лёкай далажыў аб Стэфенсону, і ўсе позіркі накіраваліся да дзвярэй. У кабінет увайшоў мажны, плячысты мужчына з высокім чалом і вясёлымі вачыма. Ён быў збянтэжаны і не ведаў, куды падзець свае дужыя і спрацаваныя рукі. Усміхаўся ён, аднак, прысутным так проста і шчыра, што дырэктар Пэйз шапнуў свайму суседу: 

— Цудоўны хлапец, праўда?

Лёкай падсунуў Стэфенсону крэсла з такой пагардлівай мінай, нібы і сам ён быў акцыянерам кампаніі. На пытанні Стэфенсон спачатку адказваў няўпэўнена, збянтэжаны прысутнасцю вялікай колькасці вугальных гаспадароў, але пасля супакоіўся і ўжо складна і талкова тлумачыў сутнасць сваёй прапановы.

Скончыў словамі:

— Дзякуючы чыгунцы, якую я пабудую, выкапні вугалю пад Дарлінгтонам здолеюць лёгка і хутка перакідаць вугаль у порт Штактон. Якая ад гэтага будзе карысць, даводзіць хіба не трэба нікому.

Калі ён скончыў, запанавала маўчанне. Стэфенсон дадаў:

— А пасля я гатовы буду будаваць чыгункі па ўсёй Англіі.

Пачуўшы гэта, адзін з акцыянераў дастаў з рота цыгару і ўсклікнуў:

— Панове! Гэта ж была б сапраўдная рэвалюцыя ў галіне транспарту!

— Гэта скараціла б час перавозкі грузаў з 36 гадзін да чатырох ці пяці,— горача адказаў «доктар машын».

Дырэктар, якому Стэфенсон з кожнай хвілінай падабаўся ўсё болей, спакойна сказаў:

— Будаўніцтва іншых чыгуначных ліній у Англіі не належыць да нашай кампетэнцыі. Разгледзім лепш праект, які датычыць непасрэдна выкапняў у Дарлінгтоне.

Стэфенсон у знак згоды схіліў галаву.

— На падставе маіх даследаванняў,— пачаў паволі, узважваючы словы,— а я вывучаў некалькі паравозаў і чыгуначных пуцей, мне ўдалося вызначыць іх сапраўдную шырыню. Займаўся я і пытаннямі трэння, цяжару і іх суадносін. На падставе ўсіх гэтых даследаванняў я дайшоў да вывіку, што транспарт павінен развівацца выключна пры дапамозе паравозаў. Гэта датычыць таксама злучэння паміж Дарлінгтонам і портам Штактон...

— Фантазія! — нецярпліва перапыніў яго акцыянер з цыгаркай у роце.— Мне здаецца,— звярнуўся ён да прысутных,— паравозы, якія так вы-

хваляе пан Стэфенсон, змогуць ездзіць толькі ў добрае надвор'е. Дождж пагасіць агонь, а ў часе моцнага ветру ён з такой сілай разагрэе кацёл, што той можа ўзарвацца.

Забыўшыся на належную ветлівасць, Стэфенсон зарагатаў.

— Чаму ж! — запярэчыў ён горача.— Я будаваў ужо розныя паравозы, і ніколі нічога падобнага з імі не адбылося. Свой першы паравоз я пабудаваў яшчэ ў 1806 годзе. Пасля будаваў наступныя, яшчэ лепшыя. Вось і цяпер, дзякуючы падтрымцы лорда Равэнворта на яго выкапнях у Кілінгуор працуе мой паравоз і некалькі вагонаў. Але той, які я прапаную цяпер, рабіў бы не меней 12 міль у гадзіну пры нагрузцы ў 20 тон. Я мог бы дабіцца яшчэ большай хуткасці пры яшчэ большых грузах.

— Гм,— прамармытаў цяпер другі акцыянер, аб якім Стэфенсон ведаў як аб заўзятым конніку.— А я лічу, што відовішча паравоза будзе палохаць коней, што вельмі небяспечна як для коней, так і для коннікаў.

Стэфенсон далікатна запэўніў, што ў шахце, дзе працуе яго паравоз, коні прызвычаіліся да яго і зусім не палохаюцца.

— Я баюся, панове,— звярнуўся раптам да прысутных акцыянер, які дагэтуль моўчкі скубаў свае рудыя бакенбарды,— што ў выніку празмернага бегу паветра падарожжа чыгункай можа давесці да вар'яцтва. І таму я супраць гэтай прапановы.

— І я таксама,— падтрымаў яго «коннік».— Бо калі нават знойдуцца коні, якія прызвычаяцца да паравозаў, дык ужо каровы... Якія сумныя вынікі можа мець з'яўленне каровы на пуцях і яе сустрэча з паравозам!

Стэфенсон усміхнуўся.

— Сапраўды,— сказаў ён спакойна.— Вынікі будуць сумныя, але толькі для каровы.

Коннік адчуў у яго словах іронію і таму дадаў з пагардай:

— Аднак пан не будзе пярэчыць, што быдла, якое пасвіцца на лугах, будзе палохацца і ўцякаць ад вашай чыгункі.

Стэфенсон уздыхнуў. Цяжка дыскутаваць з гэтымі людзьмі. Трэба, відаць, шукаць іншых фінансістаў. Ён абцёр хусцінкай успатнелы лоб і ўжо абыякава слухаў найбольш фантастычныя выказванні прысутных.

Нарэшце ўзяў голас дырэктар Пэйз.

— Панове,— сказаў ён спакойна,— што датычыць мяне, дык я баюся толькі аднаго, што паравоз, які вымушаны будзе цягнуць гэтыя вялікія грузы, сам будзе вельмі цяжкі і не здолее скрануцца з месца. Але лічу, што гэта ўжо справа пана Стэфенсона і яго ўмення. Прычым мне здаецца, што мы не вельмі рызыкуем, а карысць, калі справа ўдасца, будзе вялікая. Варта хіба рызыкнуць.

Дыскусія працягвалася яшчэ доўга. Нарэшце акцыянеры згадзіліся покрыць кошты чыгункі, праектаванай Стэфенсонам. Ён як галоўны інжынер павінен быў цяпер атрымліваць 300 фунтаў у год.

— Прабуй, прыяцель,— сказаў, развітваючыся, дырэктар Пэйз і сардэчна паціснуў далонь Стэфенсона.

І Стэфенсон прабаваў. Прабаваў спачатку адзін, без памочнікаў, у атмасферы непрыхільнасці афіцыйных прадстаўнікоў тэхнічнай навукі, дыпламаваных канструктараў і інжынераў. Нарэшце, каб атрымаць поўную

незалежнасць і свабоду ў эксперыментаванні, ён заклаў у 1823 годзе ў Англіі першую фабрыку паравозаў. Паклаў у яе ўвесь свой капітал — 1000 фунтаў стэрлінгаў — і зусім не шкадаваў гэтага. Будаваў на ёй кожны раз лепшыя паравозы, удасканальваў пуці і рэйкі, аж урэшце ўстанавіў адлегласць паміж імі на 1435 мм; адлегласць гэта і дасюль існуе ў будаўніцтве чыгункі. У сваёй уласнай фабрыцы ён мог паскорыць тэмп працы.

І вось аднойчы адзін з яго працаўнікаў, інжынер Джансон, з абурэннем прачытаў наступнае паведамленне:

«Таварыства Чыгункі Штактон — Дарлінгтон афіцыйна паведамляе, што адкрыццё чыгункі, згодна з паведамленнем у газетах, адбудзецца 24 верасня. Гаспадары чыгункі і грамадзяне, якія ўдастояць адкрыццё чыгункі сваёй прысутнасцю, з'ядуць абед а трэцяй гадзіне ў зале ратушы ў Штактоне, а ўвечары, вернуцца ў Дарлінгтон падрыхтаванымі для іх экіпажамі. 

Таварыства карыстаецца аказіяй, каб нагадаць сваім працаўнікам, што яны павінны захаваць цвярозасць і ветлівасць, якая вызначала іх дагэтуль.

Таварыства паведамляе шаноўную публіку, што асобы, якія будуць ехаць па пуцях конна, будуць адказваць за гэта перад судом.

Упраўленне Таварыства Чыгункі Штактон — Дарлінгтон.
19 верасня 1825 года».

— Ого-го, гэта нахабная шэльма, Стэфенсон, дапяў-такі свайго. Яму і сапраўды здаецца, што пры дапамозе пары можна аб'ехаць увесь свет,— смяяўся інжынер Джансон, паказваючы паведамленне суседу.

Сусед паважна паківаў галавой.

— Хоць гэты Стэфенсон і займае пасаду інжынера, на самай справе інжынерам не з'яўляецца. Таму я лічу, што ўсё гэта прадпрыемства не варта аднаго пенса.

Інжынер Джансон вырашыў паглядзець на паражэнне Стэфенсона. Спадарожнічаць яму хацела яго жонка, але ён не дазволіў. Яна чакала дзіця, а хто ведае, які ўплыў на здароўе кабеты можа зрабіць выгляд цягніка, які імчыцца, пыхкаючы агнём і дымам? Лепш не рызыкаваць.

Жонка яго перасцерагала:

— Трымайся далей ад гэтай праклятай машыны. Яшчэ выбухне і пазабівае цікаўных.

А цікаўных было шмат. З самага ранку збіраліся сюды гледачы. Прыйшлі шахцёры, гараджане, фермеры. З цікаўнасцю глядзелі на гладкія рэйкі. Аглядалі паравоз, названы Стэфенсонам «Лакаматывам», на яго комін, на вялікія колы, на яго рычаг, даручаны машыністу Дыксану. Дыксан быў сёння ў фраку і цыліндры, але цягнік сёння павінен быў весці сам Стэфенсон. Цягнік складаўся з 28 вагонаў, якія змяшчалі чатырыста пасажыраў, і шасці вагонаў, нагружаных вугалем. Увагу прысутных прыцягваў да сябе вагон з надпісам «Эксперымент». Быў гэта першы пасажырскі вагон. Уваход у яго знаходзіўся збоку. Пасярэдзіне стаяў стол, уздоўж сцен цягнуліся лаўкі. Іншыя вагоны з шасі, на якіх былі пастаўлены звычайныя паштовыя дыліжансы.

У вагоне «Эксперымент» займалі месцы запрошаныя госці і члены Упраўлення Чыгункі. Адзін з акцыянераў, той самы «коннік», які спачат-

ку вострa выступаў супраць праекту Стэфенсона, сышоў з прыступак вагона.

— Не,— сказаў ён,— не паеду. Не зношу дыму, не хачу, як тая малпа, імчацца па рэйках у гэтай замкнёнай скрыні.

Галасы ў натоўпе таксама падзяліліся. Адны захапляліся цягнікам, іншыя гаварылі аб ім са страхам.

Адна бабуля запэўняла, што каровы цяпер страцяць малако, а гаспадар з суседняй фермы наракаў:

— Баюся пажару. Мой дом стаіць непадалёк ад чыгункі, а гэты лакаматыў пыхкае іскрамі.

Яго маладая і прыгожая нявестка баялася, што яе куры перастануць несціся. Нейкі франт у цыліндры супакойваў красуню:

— Не бойцеся, пані. Усё гэта блеф. Усадзілі ў гэту машыну дужага каня, і ён будзе цягнуць. Гэта курам не зашкодзіць.

Раптам пачуўся свісток. Гэта Дыксан даў знак. І нібы ў адказ яму гукнуў стрэл гарматы. Цяпер Дыксан пацягнуў за рычаг і пакруціў ручку. З коміна вырваліся чорныя клубы дыму, поршні засіпелі, рычаг пачаў павалі рухацца. Нешта тузанула вагонамі, і цягнік з сіпеннем і скрыгатам рушыў наперад з большай хуткасцю, чым самы хуткі дыліжанс, і выклікаючы амаль усеагульнае захапленне прысутных.

Паравоз рабіў, як пасля высветлілася, 24 кіламетры ў гадзіну. Пасажыры цягніка здзіўлена пазіралі на ўцякаючыя назад дамы і дрэвы. Яны бачылі кароў, якія рыкалі ад страху, напалоханых коней, дзяцей, якія нешта крычалі. Але перш за ўсё яны бачылі натоўпы людзей, якія стаялі

паабапал пуці і віталі цягнік. Некалькі смельчакоў намагаліся на конях нагнаць яго, але хутка засталіся ззаду.

«Доктар машын», Джорж Стэфенсон, святкаваў перамогу. Уся Англія, болей — уся Еўропа і Амерыка казалі цяпер аб ім і аб яго чыгунцы, а гісторыя адзначыла дзень 27 верасня 1825 года як дзень адкрыцця чыгуначнай лініі Дарлінгтон — Штактон, як дзень нараджэння чыгункі.

Перад чыгуначным вакзалам у Дарлінгтоне яшчэ і сёння можна агледаць славуты паравоз Стэфенсона «Лакаматыў», які стаіць там як помнік яго перамогі.

# СВЯТЛО
# Ў МЕНЛО ПАРКУ

**ТОМАС АЛЬВА — НЯЎДАЛЫ СЫН СЯМ'І ЭДЫСОНАЎ.** ●

— А! А! Алечак!

Маці абшукала ўжо ўсе куточкі дома і на двары. Яе трывога ўзрастала з кожнай хвілінай. Куды мог падзецца хлопчык, якога звычайна поўна было ўсюды? Самыя розныя думкі прыходзілі ёй у галаву. Паклікала яшчэ:

— Алек, адгукніся! Алек!..

І зноў маўчанне. Старэйшых дзяцей дома не было. Маці тыдзень таму адправіла іх у В'ен у штаце Антарыё. Муж павёз іх туды і яшчэ не вярнуўся. Дома застаўся толькі самы малодшы шасцігадовы Томас Альва, якога называлі Алекам, і маці шукала яго цяпер усюды.

Раптам увагу яе прыцягнуў пярэпалах у вялікім куратніку, дзе ўчора яна пасадзіла на яйкі дзве квактухі. Квактухі пранізліва кудахталі і білі крыламі, нібы ад некага бараніліся.



6 Зак. 1710

*ГЕНІЯЛЬНАЕ АДКРЫЦЦЁ*
*ТОЛЬКІ Ў АДНОЙ СОТАЙ*
*СКЛАДАЕЦЦА З НАТХНЕННЯ,*
*У 99 ПРАЦЭНТАХ ТВОРЫЦЬ ЯГО*
*ПРАЦА Ў ПОЦЕ ЧАЛА.*

*Томас Альва Эдысон*



Маці зазірнула ў куратнік. Тое, што яна тут убачыла, адразу супакоіла яе. У вялікім кошыку, поўным яек, сядзеў, не звяртаючы ніякай увагі на курэй, вялікагаловы хлопчык з прыплюшчанымі ад напружання вачыма.

— А! — узрадавана ўсклікнула маці і схапіла ў абдымкі сына.— Што ты тут робіш?

— Я... Я... хацеў выседзець куранят.

Маці весела засмяялася і вынесла хлопчыка на двор. Быў ён раскалмачаны, у валасах тырчалі сцяблінкі сена, пёры, штонікі запэцканы жаўткамі, а тварык чырвоны ад стомы. Ён вырываўся з абдымкаў маці і прасіў:

— Мамачка, пусці мяне, бо яйкі астынуць і з іх не выйдуць кураняты.

— І так не выйдуць, сынок. Толькі птушкі ўмеюць выседжваць птушанят. Людзі гэтага рабіць не ўмеюць.

— Чаму, мамачка? Скажы мне чаму?

Маці ўжо даўно прызвычаілася да таго, што сын яе заўсёды аб нечым пытаў. Некалі яна была настаўніца і таму ўмела проста і ясна адказваць на яго шматлікія «чаму?».

Хлопчык быў кволы, хваравіты. Школу пачаў наведваць вельмі позна, а зрэшты праз нейкі час бацькі самі забралі яго адтуль.

Вучыўся Алек дрэнна, быў няўважлівы на ўроках, разгублены і мучыў настаўнікаў безліччу розных пытанняў. Калі маці ў канцы паўгоддзя запытала аб поспехах сына, кіраўнік школы сказаў:

— Томас Альва тупы і ніколі нічога не будзе ведаць.

Настаўнік, не ведаючы, што з кіраўніком гаворыць маці хлопчыка, падхапіў:

— Пан кіраўнік аб малым Эдысоне? О, гэта тупая галава! На маю думку, было б куды лепш, калі б яго выключылі са школы, бо ён псуе яе рэпутацыю.

Маці Томаса была вельмі абурана. Яна ўбегла ў малую гасцініцу, якую трымаў яе муж, і яшчэ ад парога абвясціла:

— Наш Аль у школу болей не пойдзе. Настаўнікі зусім не ведаюць хлопчыка. Я сама буду вучыць яго. І гэта будзе найлепш.

Эдысон, заўсёды спакойны і бесклапотны, заўважыў:

— І для кішэні нашай будзе лепш, калі ты зоймешся Алем сама, мая дарагая. Грошы, якія ішлі на яго школу, прызначым цяпер на Вільяма. Хлопчык мае здольнасці да малявання, і я не хацеў бы іх занядбаць! — дадаў ён, звяртаючыся да швагра.

Эліёт, брат маці Томаса, сядзеў з люлькай у зубах, атулены воблакамі дыму, і згаджаўся са шваграм.

— Гэта праўда, мая дарагая,— сказаў ён сястры.— Шкада вашых грошай на школу для гэтага хлапца. Даволі глянуць на яго галаву. Яна ненатуральна вялікая і бясформенная. Трэба абавязкова вучыць яго нейкай спецыяльнасці. Не будзе ж ён заўсёды трымацца за матчыну спадніцу.

Пані Эдысон гнеўна глянула на брата.

— Я не шкадую грошай на навуку Аля. Ён больш інтэлігентны, чым іншыя хлапчукі яго ўзросту. Гэта толькі настаўнікі не зразумелі яго.

Брат яе трымаўся іншай думкі, але не спрачаўся з сястрой. Жонцы сваёй, аднак, ён сказаў:

— Гэтая Нанцы — жахліва асепленая маці. Не хоча зразумець, што Томас Альва не з'яўляецца такім удалым дзіцем, як Вільям або Тані. Ён нейкі недаразвіты, і я баюся, што ўсё жыццё будзе цяжарам для сваіх бацькоў.

Будучы вынаходнік дастаўляў бацькам шмат клопатаў. Жылі яны ў мястэчку Мілян. Аднапавярховы мураваны дом з малой мансардай стаяў на вялікім двары, да якога прылягалі стадолы суседзяў. У адной з гэтых стадол Томас са сваімі сябрамі часта раскладаў вогнішча і пёк бульбу. Аднойчы ўвечары, калі ўся сям'я садзілася вячэраць, маці загадала Тані паклікаць Аліка. І раптам з кухні пачуліся воклічы, і ў пакой убегла спалоханая служанка.

— Гарыць! Пажар! — крычала яна.

— Дзе? Што? Як? — пасыпаліся пытанні.

Бацька і Вільям выбеглі на двор. З бліжэйшай стадолы валіў дым, з даху сыпаліся іскры. Полымя абдымала будынак аж па кроквы. Адзін з суседзяў закрычаў:

— Вось ваш сынок, суседзі. Гэта справа Аля. Я ледзь выцягнуў яго адтуль.

Бацька паслаў абодвух сыноў дадому, а сам разам з суседзьмі дапамагаў пажарным гасіць агонь, які пагражаў не толькі суседнім будынкам, але і ўсяму гораду.

Усе былі так напалоханы, што нават не сварыліся на Аліка. Толькі назаўтра бургамістр выклікаў Эдысона разам з сынам. Аль прызнаўся адразу вінаватым, а бургамістр абвясціў:

— Ваш сын павінен быць так пакараны, каб гэта было засцярогай для іншых хлапцоў. Інакш наш Мілян аднаго дня пойдзе з дымам.

І Аля публічна адсцябалі на рынку.

...Томасу Альве было сем гадоў, калі ў 1854 годзе сям'я яго пакінула Мілян і асела ў Порт-Гуров у штаце Мічыган. Бацька гандляваў тут збожжам і дрэвам, а маці займалася дзецьмі. Яна і далей вучыла Томаса, і навука гэта, у адрозненне ад школьнай, здавалася хлопчыку лёгкай і цікавай. Ён шмат чытаў, а яго любімай кніжкай стаў «Самавучыцель доследнай хіміі». Хлопчык не адрываўся ад гэтай кніжкі, нібы гэта была самая захапляючая казка.

Аднойчы ён папрасіў свайго прыяцеля Міхала:

— Ты мусіш мне дапамагчы. Хачу навучыцца лятаць, а ты найлепш падыходзіш для спробы. Ты такі шчуплы і лёгкі.

Міхал спачатку пярэчыў, а пасля згадзіўся дапамагчы прыяцелю. Аль прынёс слоік, поўны соды, і загадаў, каб Міхал усю яе з'еў. Ён думаў, што газы, вытвараныя ў страўніку Міхала, узнімуць яго ў паветра. Аль завёў ахвяру сваіх навуковых эксперыментаў на высокі ганак, узняў угору і загадаў ляцець. Міхал замахаў у паветры рукамі і зваліўся на зямлю. Ён разбіў калена, але не заплакаў, бо Томас здолеў ужо абудзіць у ім павагу да навуковых эксперыментаў. І толькі ў часе вячэры ў Эдысонаў Міхалу раптам вельмі забалеў жывот, і трэба было выклікаць урача.

Томасу зноў дасталося ад бацькі, але гэта прыгода не адбіла ў яго ахвоты да эксперыментаў. Ён пасябраваў з хлапцамі, якія праходзілі практыку ў аптэцы, дапамагаў ім і атрымліваў за гэта слоікі, бутэлькі і розныя рэ-

чывы, патрэбныя для хімічных доследаў. Ён папрасіў маці, каб яна дазволіла ў куточку склепа пакласці гэтыя скарбы, і неўзабаве нацягаў туды дзвесце бутэлек з рознымі хімічнымі прэпаратамі. На ўсіх бутэльках ён зрабіў этыкеткі з надпісам «яд», каб ніхто да іх не дакранаўся.

«Лабараторыя» ў склепе разрасталася, а правядзенне ўсё новых і новых хімічных доследаў патрабавала ўсё большых выдаткаў. Бацька злаваў:

— Я не буду выкідаць грошы на фантазіі Аля! Не дам болей ні капейкі на яго доследы і хімікаліі.

Томас пачаў ламаць галаву над тым, дзе здабыць грошы. Нарэшце знайшоў выхад. «Буду прадаўцом на чыгунцы,— вырашыў ён.— Зараблю крыху грошай, за якія буду купляць тое, што мне патрэбна да маіх доследаў, а яшчэ штодзень буду ў Дэтройце, дзе ёсць публічныя бібліятэкі і чытальні, у якіх можна чытаць навуковыя часопісы і кніжкі, не выдаючы на іх ні граша».

Ён так доўга пераконваў бацьку ў правільнасці свайго рашэння, што той урэшце сам знайшоў яму месца прадаўца піражных і газет у цягніках чыгункі Грэнд Транк на лініі Порт-Гурон — Дэтройт.

На станцыі Порт-Гурон штодзень а шостай гадзіне раніцы з'яўляўся цяпер дванаццацігадовы хлопчык з непамерна вялікай для свайго ўзросту галавой і цёмнымі разумнымі вачыма.

Перш за ўсё ён ішоў у буфет і браў кош, поўны піражных, хлеба, каўбасы. Пасля бег у газетны кіёск і забіраў падрыхтаваную для яго пачку. Пасля цярпліва чакаў цягніка. Ён быў першым у Амерыцы чыгуначным прадаўцом і адчуваў сябе цудоўна ў гэтай новай ролі. З Дэтройта ён вяр-

таўся толькі ўвечары, але не марнаваў там дарэмна часу, быў штодзённым госцем у гарадской бібліятэцы, дзе з захапленнем чытаў папулярныя кніжкі па хіміі і фізіцы. Не пакідаў ён і сваіх доследаў і вопытаў.

Томас папрасіў начальніка цягніка, каб той дазволіў яму займацца ў пустым багажным вагоне. Тут ён абсталяваў у кутку сваю лабараторыю, якая месцілася дасюль у матчыным склепе.

Надышлі гады 1861—1865, гады вайны паміж паўночнымі і паўднёвымі штатамі Амерыкі аб ліквідацыі нявольніцтва неграў.

З пачаткам вайны чатырнаццацігадовы прадавец газет заўважыў, што пасажыры вельмі цікавяцца свежымі паведамленнямі. У Томаса нарадзілася ідэя: карыстаючыся чыгуначным тэлеграфам, паведамляць пасажырам цягніка апошнія навіны. І вось аднойчы ў часе стаянкі цягніка ў Дэтройце Томас вярнуўся з горада нагружаны, як вярблюд. У прысутнасці зацікаўленага кандуктара ён разгарнуў свой скарб і пачаў раскладаць у куце багажнага вагона старыя друкарскія літары і розныя прылады, купленыя, відаць, у нейкай старой друкарні.

— Што гэта за хлам? — запытаў здзіўлены кандуктар.

— Усё гэта патрэбна мне для абсталявання друкарні,— спакойна адказаў Томас.

— Тут, у вагоне?

— Ну вядома. У тым куце вагона будзе лабараторыя, а ў гэтым друкарня.

— Навошта яна табе патрэбна? — пытаў далей кандуктар.

— Буду друкаваць газету.

— Газету?

— Ну але,— ажыўлена тлумачыў хлопчык, размахваючы рукамі,— газету, сапраўдную газету для нашых пасажыраў. У ёй будуць самыя свежыя паведамленні. Поспех будзе вялікі.

Кандуктар пацiснуў плячыма.

— А дзе ты возьмеш рэдактара?

— Рэдактар — гэта я,— спакойна сказаў Эдысон.

— А дзе друкары?

— Я сам буду рэдагаваць, друкаваць, разносіць і прадаваць газеты.

Неўзабаве Томас выпусціў першы нумар сваёй газеты, якую назваў «Тыднёвыя паведамленні», бо выходзіла яна раз на тыдзень, у нядзелю. Пасажыраў спачатку забаўляла гэта газета, друкаваная спецыяльна для іх. З часам, аднак, пачалі ставіцца да яе сур'ёзна, бо, дзякуючы чыгуначнаму тэлеграфу, яна падавала самыя апошнія навіны. Эдысон з дазволу начальнікаў станцыі змяшчаў найважнейшыя тэлеграмы на станцыённых дошках, што стала рэкламай для газеты «Тыднёвыя паведамленні». Больш нецярплівыя пасажыры збіраліся перад багажным вагонам, сядзібай «рэдакцыі», і амаль вырывалі з рук нумары газет. Нягледзячы, аднак, на добры заработак, «каса» папулярнага газетчыка не павялічвалася. Выдаваў ён шмат грошай на хімічныя прэпараты і розныя прылады. Не пакідаў ён сваіх доследаў і дзяліў свой час паміж выданнем і продажам газеты і працай у лабараторыі.

І раптам нечаканая бяда парушыла гэты ўрэгуляваны парадак жыцця, якога малады Эдысон прытрымліваўся на працягу некалькіх год. Адной-

чы, калі ён сядзеў у багажным вагоне і працаваў у сваёй лабараторыі, яго адкінула да суседняй сцяны вагона.

«Мабыць, гэта той дрэнны адрэзак пуці непадалёк ад станцыі Монт Клемэнт»,— падумаў ён, расціраючы пабіты локаць.

І раптам ён убачыў полымя ў процілеглым куце вагона, дзе на паліцы стаялі яго прэпараты і хімікаліі. Ён зразумеў, што сталася: гэта фосфар упаў з паліцы, запаліўся, сутыкнуўшыся з паветрам, і падлога пачала гарэць. Неўзабаве ўвесь вагон будзе ў агні. Дарэмна Томас стараўся ліквідаваць пажар. На яго шчасце, прыбег адзін з кандуктараў. Ён заліў полымя і павыкідваў праз акно бутэлькі і скрынкі з «лабараторыяй» і нават нічым не вінаватую друкарню і запас газет. Аднак і гэта не пагасіла яго гнеў. Калі даехалі да Монт Клемэнт, кандуктар схапіў хлапца за каўнер і выкінуў з вагона, акладаючы кулакамі па галаве і плячах.

Пабіты і прыгнечаны, Эдысон наступным цягнікам вярнуўся ў Порт-Гурон. Маці спалохалася, угледзеўшы яго апухлы твар. А праз пару дзён паказалі сябе вынікі пабояў. Томас аглух на адно вуха і ўжо да канца жыцця дрэнна чуў. Будучы ўжо старым, ён так казаў аб сваім калецтве:

«Мая глухата не раз рабіла мне пэўныя паслугі. Калі быў тэлеграфістам, чуў толькі той апарат, які стаяў перада мной, на маім стале, у той час як іншым даваліся ў знакі ўсе іншыя апараты. Тое самае і з тэлефонам. Па існуючых тэлефонных апаратах я нічога не чуў, а таму ўзяўся за ўдасканаленне перадачы гукаў на адлегласць, што зрабіла тэлефон прыдатным да ўсеагульнага і паштодзённага ўжытку. Вялікі горад не стам-

ляў маіх нерваў. Гаманлівы Брадвей быў для мяне такі самы ціхі, як вёска для людзей, якія маюць нармальны слых».

Так казаў Эдысон, калі знаходзіўся ўжо на вяршыні сваёй славы. Будучы маладым, Томас, аднак, быў вельмі засмучаны сваёй прыгодай.

Бацька злаваў:

— Я заўсёды казаў, што гэта важданіна з «лабараторыяй» скончыцца дрэнна. Меў добры заробак і страціў усё.

Маці, як заўжды, бараніла свайго любімца, згаджалася з бацькам, што трэба скончыць з хімічнымі эксперыментамі. Дарэмна Томас прасіў, каб яму дазволілі ўладкаваць рэшткі «лабараторыі» і з цяжкасцю сабраную друкарню ў склепе. Бацька і слухаць не хацеў.

— Друкарню можаш там уладкаваць, калі яна табе спатрэбіцца, а аб «лабараторыі» не можа быць ніякай гаворкі.

Томас звярнуўся з просьбай да маці. Тая злітавалася і пасля размовы з бацькам сказала:

— Калі абяцаеш, што не будзеш трымаць у склепе ніякіх небяспечных матэрыялаў, дык можаш трымаць там свае скарбы.

СІГНАЛ «6» ● Яшчэ тады, калі Томас Альва працаваў прадаўцом газет на чыгуначнай лініі Порт-Гурон — Дэтройт, здарыўся выпадак, дзякуючы якому ён пачаў працаваць тэлеграфістам.

Аднойчы раніцай у верасні 1862 года цягнік доўга манеўраваў на станцыі Монт Клемент. Эдысон хадзіў на пероне з пачкам газет пад пахай і разам з іншымі пасажырамі чакаў званка, які абвясціў, што можна са-

дзіцца ў цягнік. Нарэшце паказаўся лакаматыў, які ішоў на ўсіх парах...

Усе раптам замерлі ад жаху. Па пуцях паміж рэек гуляла дзіця. Яшчэ хвіліна — і яно загіне пад коламі лакаматыва! І раптам нейкі хлопчык выскачыў з натоўпу, падбег да малога, схапіў яго ў абдымкі і хутчэй кінуўся з пуці. Але лакаматыў дагнаў яго і так моцна штурхнуў, што ён разам з малым упаў на жвір, абдзіраючы сабе твар і рукі. Падбеглі чыгуначнікі і перанеслі на перон ахвяры здарэння. Геройскім хлапцом, які, рызыкуючы сваім жыццём, выратаваў ад смерці дзіця, быў Томас Альва Эдысон. Удзячны бацька дзіцяці, рудабароды начальнік станцыі Мацкензі, паабяцаў, што ў падзяку за выратаванне дзіцяці навучыць яго тэлеграфаваць і нават уладкуе на пасаду тэлеграфіста.



Томаса ўжо даўно цікавілі таямніцы тэлеграфа. Яшчэ тады, калі сэдзіў чыгункай, прадаючы газеты, ён заклаў тэлеграфную лінію, якая злучала яго кватэру ў Порт-Гурон з кватэрай прыяцеля. Бутэлькі, прымацаваныя на круках, убітых у дрэвы, былі ізалятарамі. Перасыланне сябру розных паведамленняў і атрымліванне адказаў было самым любімым заняткам Эдысона ў вольныя ад працы хвіліны. Томас быў вельмі засмучаны, калі аднойчы нейкая карова сарвала дроты, ён не меў ужо часу направіць свой тэлеграф.

Праз пару месяцаў практыкі пад кіраўніцтвам Мацкензі ён атрымаў пасаду тэлеграфіста ў мясцовасці Стратфорд у Канадзе. Было гэта ў 1863 годзе. Шаснаццацігадовы тэлеграфіст зарабляў у той час дваццаць пяць долараў і адчуваў сябе магнатам. Праца на тэлефоне адбывалася ўначы,

і гэта вельмі падабалася Томасу, бо цэлы дзень належаў яму. Ён мог вучыцца і рабіць эксперыменты.

— Начная работа,— сказаў яму начальнік тэлеграфа ў часе першага спаткання,— не вельмі цяжкая, але патрабуе сталай і неаслабнай увагі. Прынята, што тэлеграфісты, якія дзяжураць уночы, прысылаюць кожную гадзіну сігнал «6» дзяжурнаму начальніку руха. Вы таксама павінны выконваць гэты загад. Гэты сігнал не дазваляе тэлеграфістам спаць.

Эдысон пакланіўся. Добра. Ён будзе ўночы кожную гадзіну прысылаць сігнал «6». Галоўнае, ён цэлы дзень вольны і можа прысвяціць сябе навуцы і доследам. Аднак малады здаровы арганізм дамагаўся сну. І пасля дня напружанай працы Эдысон, змагаючыся са сном, разважаў над тым, што зрабіць, каб уночы крыху паспаць:

«Нехта павінен дасылаць гэты сігнал? Але хто? Сябар? Не, гэта ненадзейна!» Раптам ён пляснуў у далоні і зарагатаў.

У тую самую ноч ён збудаваў малы механізм і злучыў яго з гадзіннікам і тэлеграфным праваднікам. Кожную гадзіну малая стрэлка гадзінніка прыводзіла ў рух апарацік, які падаваў сігнал «6», нягледзячы на тое, што Томас у гэты час спаў як суслік. Але аднойчы...

Аднойчы дзяжурны чыноўнік дарэмна ўсю ноч выклікаў Эдысона. Ён нічога не разумеў... Тэлеграфіст не павінен спаць, бо сігнал «6» адзываецца рэгулярна. Чаму ж ён не адказвае?

— Ашалеў, ці што,— прамармытаў дзяжурны, збянтэжаны ўпартым маўчаннем Эдысона.

Справа была тэрміновая, і маўчанне Эдысона яго вельмі ўстрывожыла. Ён нецярпліва чакаў раніцы і, як толькі пачало світаць, пабег да начальніка.

— Эдысон, мабыць, звар'яцеў. Трэба выклікаць урача.

Але начальнік забараніў яму што-небудзь прадпрымаць і вырашыў сам высветліць гэту справу.

Наступнай начы ён нечакана ўвайшоў у пакой, дзе працаваў Эдысон. Фартэль маладога вынаходцы быў выкрыты. Начальнік выклікаў яго да сябе.

— З заўтрашняга дня я вас звальняю. Не хачу вам шкодзіць, але лічу за лепшае, каб вы ажыццяўлялі свае задумы ў іншым месцы. Бывайце здаровы.



ВАНДРОЎНЫЯ ГАДЫ. ● Малады Эдысон вярнуўся ў Порт-Гурон, але не знайшоў там адпаведнага занятку. Бацькі ўгаворвалі яго, каб не кідаў прафесіі тэлеграфіста, і ён у пошуках працы вандраваў з горада ў горад.

Шчуплы і нязграбны, з вялікім носам і напалеонаўскай пасмай цёмных валасоў, ападаючай на высокае чало, гэты глухаваты і сур'ёзны хлапец жыў вельмі адзінока. Сябры пазбягалі яго, бо любілі вольны час праводзіць у гульнях, а не над кніжкамі.

Адзіным прыяцелем Эдысона ў гады яго вандровак быў Мільтон Адамс, якога сябры называлі Мільтам. Яны жылі разам, і Мільт не раз непакоіўся, калі бачыў Эдысона, занятага чытаннем.

— Можа, даволі, Томас? Хіба табе не шкада вачэй? — казаў ён, абуджаны мармытаннем Эдысона.

А Томас цярпліва тлумачыў:

— Разумееш, Мільт, гэта вельмі важна. Я ўжо так налаўчыўся чытаць, што адным позіркам схопліваю змест цэлага абзаца кніжкі.

— Ну і што з таго? — неахвотна адказваў Мільт. Ён нацягваў на галаву коўдру і стараўся заснуць, але Эдысон працягваў:

— Я лічу, што ў школах трэба вучыць гэтаму дзяцей. Такім спосабам можна прачытаць дзве або нават тры кніжкі на працягу аднаго дня, бо не затрымліваеш позірку на кожным сказе. Гэта вялікая ашчаднасць часу.

Храпенне Адамса было адзіным адказам на гэтыя словы, і Томас далей практыкаваўся ў хуткім чытанні, якое з часам зрабіла з яго першараднага тэлеграфіста. Яму было ўжо 18 гадоў. Зарабляў ён няблага, але амаль усё выдаткоўваў на розныя прылады і кніжкі, якіх купляў шмат. Аднойчы з ім здарыўся непрыемны выпадак. Ён купіў за палову свайго заробку вялізны стос кніжак, але не меў часу занесці іх дадому, бо а шостай увечары мусіў прыступіць да працы. Тады ён вырашыў узяць гэтыя дваццаць тамоў з сабой на работу. У тры гадзіны раніцы са сваім скарбам за плячыма ён вяртаўся дадому. Вуліцы былі пустыя. Эдысон, галодны і азяблы, амаль бег, каб як хутчэй быць дома, адпачыць і прагледзець сваю новую здабычу — кніжкі.

Раптам ён стаў. Нешта прасвісцела каля вуха. «Куля?» — здзіўлена падумаў Томас. Але пакуль паспеў адказаць на гэта пытанне, нехта схапіў яго за каўнер.

— Папаўся, браток! — крычаў задыханы паліцыянт.— Кінь зараз жа свой пакуначак! Пакажы, што сёння сцягнуў?

Томас не супраціўляўся.

Паліцыянт, трымаючы за каўнер адной рукой «злодзея», другой спрытна разарваў шнурок. На зямлю пасыпаліся... кніжкі. Але паліцыянт не разгубіўся.

— Дзе гэта ўкраў? Кажы хутчэй!

— Я зусім не краў. Купіў у кнігарні каля вакзала. Усё гэта старое і ўжыванае.

— Дык чаму ж ты ўцякаў, калі я крычаў, каб ты спыніўся?

Эдысон толькі цяпер зразумеў:

— Не чуў, пан паліцыянт. Я глухі, а бег — таму што вяртаюся з начной змены.



Ён дастаў з кішэні пасведчанне служачага тэлеграфа і паказаў «уладзе».

Паліцыянт адказыраў:

— Даруйце, але я мусіў страляць.

— Добра, што не трапілі,— смяяўся «злодзей».

Пры дапамозе паліцыянта ён спакаваў свой скарб, рушыў дадому ўжо больш павольна.

Усе дні ён праводзіў над кніжкамі і доследамі. Механічная праца тэлеграфіста не магла яго задаволіць.

Будучы ўжо вядомым вынаходнікам, Эдысон, смеючыся, расказваў, як бяздумна выконвалі свае абавязкі тэлеграфісты.

Ішоў 1865 год. Эдысон працаваў у Кінкінаці, калі адбылося забойства прэзідэнта Злучаных Штатаў, прыхільніка вызвалення неграў, Лінкальна. Злачынства гэта абурыла ўвесь свет.

«У гэты дзень,— расказваў пазней Эдысон,— мы ўбачылі вялікі натоўп перад рэдакцыяй адной з газет. Нехта з калегаў пайшоў даведацца, што здарылася. Ён тут жа вярнуўся і закрычаў: «Прэзідэнт Лінкальн забіты!» Тэлеграфісты былі ўражаны. Ніхто не помніў, хто прыняў гэту нязвыклую тэлеграму, а яна магла апынуцца ў рэдакцыі толькі з дапамогай нашага бюро. «Калі ласка, прагледзьце ўсе паперы»,— сказаў шэф чыноўніку, прымацаванаму да прэсы. Неўзабаве той дастаў з папкі паперку з кароткім паведамленнем аб забойстве прэзідэнта. Адзін з тэлеграфістаў перапісаў яе так машынальна, што не звярнуў нават увагі на змест!»

Эдысон ажыўляў сваю працу рознымі вынаходкамі. У Кінкінаці ён захапіўся ідэяй «чатырохкратнага» тэлеграфа.

З гэтай ідэяй ён звярнуўся да начальніка тэлеграфа. Быў гэта чалавек суровы і патрабавальны. Не любіў, калі яго непакоілі, і дамагаўся ад сваіх падуладных строгага захавання субардынацыі.

— Што вам трэба? Можа, вам ужо даволі Кінкінаці? Працавалі ў Мічыгане, у Луісвілі, у Мемфісе і Стратфордзе, зусім неблагая калекцыя ў такія маладыя гады!

Эдысон запярэчыў, ён не мае намеру пакінуць Кінкінаці.

— Дык можа ў вас да мяне якая скарга або просьба аб павышэнні?

— Не, пан дырэктар.

Начальнік стрымаў гнеў і спакойна запытаў:

— У такім выпадку якое права вы маеце траціць час, які з'яўляецца ўласнасцю ўстановы? І перш за ўсё, як вы адважваецеся дарэмна траціць мой час?

— Я хацеў,— пачаў Эдысон, збянтэжаны гэткай сустрэчай,— мне здаецца, што я знайшоў спосаб перасылання па адным дроце чатырох тэлеграм, па дзве ў адваротных напрамках.

І, не чакаючы адказу начальніка, Эдысон ясна і падрабязна прадставіў свой план, рысуючы алоўкам на шматочку паперы эскіз свайго абсталявання.

Начальнік слухаў, барабанячы пальцамі па стале. Быў ён раздражнены і злосны. Калі Эдысон скончыў, ён устаў і, паціснуўшы плячыма, сказаў:

— Мой хлопчык, я раю табе ісці працаваць і не перашкаджаць сабе і іншым. Твая задума цікавая, але гэта толькі фантазія.



Эдысон вярнуўся на сваё месца прыгнечаны. Але неўзабаве ў яго ўзнікла новая задума: ён вырашыў правесці тэлеграфную камунікацыю паміж двума цягнікамі, якія знаходзяцца ў руху. Не збянтэжаны сваёй папярэдняй няўдачай, ён заатакаваў цяпер дырэктара чыгункі. Той прыняў яго ветліва і выслухаў, не выказваючы ні здзіўлення, ні захаплення. Пасля сказаў:

— Задума вельмі цікавая, вельмі. Не разумею толькі, пры чым тут я?

— Буду вельмі ўдзячны, калі вы дасцё ў маё распараджэнне два цягнікі.

— Два цягнікі?! — усклікнуў дырэктар, узносячы ўгору рукі.— Толькі ўсяго?!

— Ненадоўга. У гэтым няма ніякай небяспекі,— запэўніваў малады вынаходца.— Цягнікі затрымаюцца ў адпаведны час, бо паміж імі будзе існаваць тэлеграфнае пагадненне.

Дырэктар, захоплены энтузіязмам гэтага дзіўнага хлапца з вялікай галавой, даў урэшце свой дазвол, і Эдысон узяўся за справу. Але не ўсё ў яго праекце было дакладным, цягнікі сутыкнуліся, таму што тэлеграфнае пагадненне не было зроблена належным чынам. На шчасце, ахвяр не было. А хутчэй была адна: Томас Альва, якому ў сувязі з гэтым адмовілі ў пасадзе тэлеграфіста.

Ён зноў апынуўся ў доме бацькі, у Порт-Гурон, і зноў шукаў працы. Гэтым разам яму дапамог Мільтон Адамс, які працаваў у Бастоне, у бюро вялікай тэлеграфнай кампаніі. Там ён уладкаваў на працу свайго прыяцеля. Зноў яны жылі разам, і зноў Эдысон уставаў а чацвёртай гадзіне раніцы і кожную вольную хвіліну прысвячаў вучобе і эксперыментам. 

— Мільт,— казаў ён сябру,— ты не ўяўляеш, колькі мне трэба зрабіць! А жыццё кароткае! Вельмі кароткае! Я мушу вельмі спяшацца!

Бывала, што цяжка плаціў ён за свае эксперыменты. Аднойчы ён пазычыў для даследавання індукцыйную цэўку, злучыў яе з акумулятарам і ўзяў у рукі два электроды. І ў гэту хвіліну яго схапіла такая сударга рук, што не мог дастаць да выключацеля. Нейкую хвіліну ён стаяў як паралізаваны, толькі думка ліхаманкава працавала, шукаючы спосабу вызвалення ад гэтых электрычных акоў. Акумулятар стаяў высока на паліцы. «Трэба тузануцца так, каб вырваць дроты»,— вырашыў Томас. Ён тузануўся так моцна, што не толькі вырваў дроты, але абярнуў акумулятар, і

серная кіслата, якой ён быў напоўнены, абліла яму твар, рукі і плечы. «На працягу двух тыдняў,— расказваў ён пазней,— я не паказваўся на вуліцы, бо выглядаў жахліва. З часам, аднак, спаленая эпідэрма злушчылася, і гэта здарэнне не пакінула па сабе следу!»

Неўзабаве Эдысон, стомлены манатоннай працай тэлеграфіста, пакінуў Бастон і ў 1869 годзе паехаў у Нью-Йорк у надзеі знайсці там шырэйшае поле дзейнасці і больш цікавы занятак.

Нью-Йорк не вельмі прыхільна сустрэў сваё будучае свяціла. За душой у Эдысона не было ні гроша. Не меў ён ужо ні сваіх кніжак, ні прылад: ён мусіў пазбыцца іх, каб здабыць грошы на дарогу. Ён паміраў ад голаду і, што самае горшае, не меў надзеі знайсці занятак. У бюро вялікай тэлеграфнай кампаніі, куды ён пайшоў пасля прыезду, яму паведамілі, што вольнага месца пакуль няма.



— Трэба пачакаць, магчыма, што-небудзь надарыцца,— ветліва сказаў дырэктар, прагледзеўшы пасведчанне, у якім паведамлялася, што Эдысон з'яўляецца выдатным тэлеграфістам. А пакуль Томас з цяжкім сэрцам крочыў вуліцамі горада. Аглядаў вітрыны, чытаў аб'явы, спыняўся і сумна разглядаўся навокал. Раптам, праходзячы каля вялікага складу чаю, ён заўважыў у акне чалавека, які «прабаваў» чай перад натоўпам цікаўных, рэкламуючы яго гатункі.

Эдысон нейкую хвіліну стаяў ля вітрыны і з зайздрасцю пазіраў на чалавека, перад якім стаяла некалькі кубкаў гарачага чаю. «Я таксама здолеў бы рабіць гэта»,— падумаў ён, але не адважваўся ўвайсці ў магазін. Урэшце голад перамог, і ён увайшоў і прапанаваў свае паслугі. Шэф не-

спадзявана хутка згадзіўся, і Томас спажыў сваё першае снеданне ў Нью-Йорку за шклом вялікай вітрыны.

УСМЕШКА ЛЁСУ. ● Бяздомнаму тэлеграфісту дазволілі часова начаваць у вялікай зале Gold Indikator Company, установы, якая падпарадкавалася Western Union. Дырэктар гэтай установы доктар Лаўс вынайшаў апараты, якія прымалі паведамленні аб курсе золата на біржы ў Нью-Йорку. Апараты гэтыя пастаўлены былі ў трохсот абанентаў доктара Лаўса. Іменна ў той зале, дзе стаяў перадатчык, знайшоў свой часовы прытулак Томас Эдысон.

Эдысон з цікавасцю агледзеў перадатчык і сказаў, што яго канструкцыя яму зусім не падабаецца — апарат рабіў шмат шуму і грукату. Нават яго, Эдысона, нягледзячы на прыглушаны слых, гэты грукат вельмі мучыў. I раптам... неяк неўзабаве пасля прыезду Эдысона ў Нью-Йорк перадатчык раптам сапсаваўся і перастаў працаваць. Наглядчык пабег да механіка, але яшчэ не паспеў вярнуцца, а ў залу ўжо ўбегла 300 хлапцоў — па аднаму ад кожнага чакаючага паведамленняў абанента. Утварылася сапраўднае нашэсце на кантору. Аператар, які абслугоўваў перадатчык, зусім страціў галаву. У паветры ажно гуло, атмасфера была гарачая. Эдысон глядзеў на ўсё гэта з абыякавым спакоем гледача. Неўзабаве ў залу ўбег доктар Лаўс і закрычаў аператару:

— Што здарылася? Чаму не перасылаеце абанентам інфармацыю?

Аператар спалохаўся. Ён не мог нічога высветліць, не мог ліквідаваць дэфект. I тады Эдысон звярнуўся да дырэктара.

— Я ведаю прычыну дэфекту,— сказаў ён дырэктару. Той схапіў яго за рукаў:

— Направў, калі ласка! Адрамантуй! Толькі хутчэй!

Эдысону не трэба было паўтараць гэтага два разы. Ён закасаў рукавы, заняўся рамонтам апарата. Пасля дзвюх гадзін трыста апаратаў, якія прымаюць паведамленні з цэнтра, ужо дасканала працавалі. Доктар Лаўс, які праглядаў увесь час у залу, запытаў у свайго нечаканага ратаўніка імя, прозвішча, занятак і г. д. На развітанне сказаў:

— Прыходзьце заўтра да мяне ў кантору. Хачу з вамі пагутарыць.

У вызначаны час Эдысон з'явіўся да доктара Лаўса, які пасля паўгадзіннай размовы з ім (Эдысон падказаў яму некалькі праектаў спрашчэння яго перадатчыка) сказаў:



— А што, калі б вы згадзіліся быць кіраўніком майго прадпрыемства? Буду плаціць вам 300 долараў у месяц. Задавальняе вас гэтая сума?

Эдысон хацеў сказаць, што гэта зашмат, але не паспеў гэтага зрабіць, бо дырэктар казаў далей:

— Калі вы згодны, дык заўтра пачынайце працаваць.

«Сапраўды няшмат ёсць усмешак фартуны, якія былі б больш нечаканыя»,— гаворыць аб гэтым здарэнні Вільям, біёграф, асістэнт і паклоннік Эдысона.

Падзяліўшы час паміж прафесійнымі абавязкамі і вынаходствам, Эдысон цалкам аддаўся працы. Ён вынайшаў друкуючы тэлеграф, які адра-

зу набыў у яго Western Union. І тады лёс другі раз усміхнуўся Эдысону.

Старшыня Western Union, генерал Маршал Ляферт, прапанаваў яму:

— Ці не хацелі б вы стаць служачым нашага Таварыства?

— Не ведаю,— няўпэўнена адказаў Эдысон.— Я хацеў бы заняцца навуковай працай. У мяне ёсць некалькі праектаў. Я хацеў бы іх здзейсніць.

— Ну і цудоўна! Ажыццяўляйце свае вынаходкі, і нам нічога ад вас больш не трэба! — горача ўсклікнуў генерал.— Мы возьмем вас на пасаду інжынера. Арганізуем добрую лабараторыю і прызначым заробак, які забяспечыць спакойныя ўмовы працы. А пасля паглядзім.

Эдысон прыняў прапанову. На працягу доўгага часу ён аддаваў Western Union усе свае вынаходкі і ўдасканаленні. І вось аднойчы генерал Ляферт паклікаў яго зноў у свой кабінет.

— Я хацеў бы разлічыцца з вамі. Скажыце, колькі мы вам вінаваты за ўсе вашы патэнты?

Галава Эдысона пайшла кругам. «Можа, сказаць пяць тысяч долараў? — усхвалявана думаў ён.— Не, гэта будзе зашмат. Хопіць і трох тысяч». Але не мог асмеліцца сказаць гэта.

— Вырашайце самі, пан генерал,— сказаў ён.

— Што вы скажаце, калі мы выплацім вам сорак тысяч долараў? — запытаў генерал.

«Пачуўшы гэта, я ледзь не страціў прытомнасць і баяўся, каб генерал не пачуў, як моцна б'ецца маё сэрца»,— пісаў ён, успамінаючы праз многа год гэтую хвіліну. Але ўзяў сябе ў рукі і адказаў спакойна:

— Лічу, што сума гэта з'яўляецца дастатковай.

— Ол райт! Загадаю напісаць адпаведны кантракт. Праз тры дні прыходзьце за грашыма.— Генерал моцна паціснуў руку Эдысону. Саюз заходніх тэлеграфаў быў яму вельмі ўдзячны.

Праз тры дні Эдысону ўручылі чэк, першы чэк у жыцці на суму сорак тысяч долараў.

Томас ледзь не звар'яцеў ад радасці! Нарэшце ў яго будзе шмат грошай для рэалізацыі сваіх ідэй, якія ўжо не мясціліся ў яго галаве. Непакоіў яго, аднак, несамавіты выгляд чэка, які ўручыў яму генерал. «Можа, гэта толькі жарт?» — думаў ён спалохана. Назаўтра ён пайшоў у банк і падаў чэк касіру. Але той нешта прамармытаў, вярнуў яго назад. Эдысон выйшаў з банка збянтэжаны і ўсхваляваны.



«Выходзіць, пажартавалі з мяне»,— думаў ён, спяшаючыся ў кантору. І менавіта тут ён стаў прадметам смеху і жартаў. Сакратар генерала вытлумачыў яму, што чыноўнік патрабаваў прад'явіць дакумент, а глухі вынаходца не пачуў яго. Пайшлі разам у банк, і Эдысон атрымаў грошы.

Вялікая колькасць банкнотаў, якія аказаліся раптам у яго сціплым пакоі, выбіла Эдысона з раўнавагі. Не спаў усю ноч: баяўся рабаўнікоў і вартаваў свой скарб. Назаўтра, стомлены і злосны, звярнуўся зноў да генерала Ляферта.

— Вось бездапаможны чалавек,— засмяяўся генерал і даручыў свайму сакратару, каб той змясціў гэтыя грошы ў банку на імя Эдысона.

Дваццацігадовы пястун вялікай фартуны быў тады (з першага кастрычніка 1869 года) саўдзельнікам першай у Злучаных Штатах фірмы

інжынераў. Саўдзельніцтва гэта запрапанаваў яму інжынер Франклін Поп. Трэцім членам фірмы «Поп, Эдысон і К°» быў выдавец газеты «Тэлеграф» Аслэй. Прыяцелі-супольнікі жылі і працавалі разам. Прычым Эдысон не пакідаў сваіх даўнейшых абавязкаў. Атрыманне 40 тысяч долараў зрабіла яго цалкам незалежным. Ён пераехаў цяпер у мясцовасць Нэварк у пятнаццаці кіламетрах ад Нью-Йорка, наняў там чатырохпавярховы дом і пусціў у ход электратэхнічнае прадпрыемства, у якім адразу даў работу пяцідзесяці рабочым, а пазней нават ста пяцідзесяці. На гэтым прадпрыемстве Эдысон зрабіў свае першыя значныя вынаходкі: тэлеграфа duplex і тэлеграфа quadruplex, аб якім думаў яшчэ тады, калі быў сціплым тэлеграфістам.

Працаваў зараз з падвойнай энергіяй: як вынаходнік і як звычайны рабочы. Яго прыяцель, Франклін Поп, здзіўляўся:

— Маючы дваццаць два гады і гэткую суму грошай, ён не мае ніякай ахвоты да гульняў. Большасць маладых людзей іменна гэтым бы і займаліся, а ён думае толькі аб стварэнні палепшанага варштату працы!

— А як ён выглядае! — дадаваў былы супольнік Эдысона, Аслэй.— Неахайны, непрычасаны, апрануты як самы звычайны рабочы.

— Гэта так, але ёсць у ім нешта такое, што адрознівае яго ад іншых,— з захапленнем дадаваў Поп.

Тут, у Нэвары, малады вынаходнік ажаніўся з Мары Стыльвел, але нават і ў шлюбны дзень не мог адарвацца ад сваіх доследаў. За гадзіну да цырымоніі ў звычайнай рабочай вопратцы ён усё яшчэ стаяў над сталом.

Рудабароды Макензі, той самы Макензі, дзякуючы якому ён стаў тэлеграфістам, і брат Вільям, дырэктар трамвайнага таварыства ў Порт-Гурон, якія прыехалі, каб быць дружкамі на шлюбе Томаса, абураліся.

— Бойся бога, Аль. Мары ўжо напэўна чакае,— падганяў яго Вільям, які ўсё яшчэ лічыў брата дзіваком.

Томас узняў сваю вялікую галаву ад стала, дзе працаваў над нейкай новай мадэллю.

— Што ты гаворыш? Мары чакае! Шкада, але сёння я не маю часу.

— Ты звар'яцеў! Сёння дзень вашага шлюбу! — усклікнуў Макензі.

Толькі цяпер Томас апамятаўся і кінуў працу. Шлюб адбыўся ў вызначаны тэрмін, маладая пара пражыла разам сем шчаслівых год. Мары Эдысон памерла ў 1884 годзе, пакінуўшы мужу трох маленькіх дзяцей: Томаса, Вільяма і Марыён.



Эдысон не меў часу займацца сваімі малятамі і таму праз два гады пасля смерці Мары ажаніўся паўторна. Міна Мілер, дачка багатага фабрыканта і канструктара сельскагаспадарчых машын, аказалася добрай маці для трох сіротак. Неўзабаве сям'я павялічылася яшчэ на трох дзяцей. Кароль, Магдалена і Тэадор напоўнілі гоманам дом Эдысона ў Менло Парку. Эдысон яшчэ пры жыцці першай жонкі прадаў свае прадпрыемствы ў Нэвары і пераехаў у больш адлеглую ад Нью-Йорка мясцовасць, больш ціхую і спакойную.

СВЯТЛО Ў МЕНЛО ПАРКУ. ● У новай сваёй сядзібе Эдысон адчуваў сябе цудоўна. Ён меў тут дасканалую лабараторыю, механічныя варштаты

і сталярню, кабінет і бібліятэку. Ён меў тут працавітых і дружных маладых супрацоўнікаў, якіх называлі «камандай бяссонных», бо не адну ноч яны ўмелі праводзіць з Эдысонам у доследах і працы. Сам вынаходнік спаў вельмі мала. Ён мог працаваць па васемнаццаць — дваццаць гадзін у суткі, асабліва калі захапляла якая-небудзь новая ідэя.

Тут, у Менло Парку, Эдысон удасканаліў пішучую машынку. У асноўным гэта была вынаходка нейкага Грэйга, але Эдысон (па просьбе самога вынаходніка) удасканальваў яе так доўга, пакуль не з'явіўся на свет сённяшні рэмінгтон.

У Менло Парку Эдысон распачаў сваю працу над тэлефонам, творцам якога быў Грахам Бёль. Тэлефон гэты быў непрыдатны для ўсеагульнага ўжытку. Эдысон, які пасля няшчаснай прыгоды з кандуктарам дрэнна чуў, забяспечыў яго вугальнай трубкай і мікрафонамі, дзякуючы гэтаму давёў апарат да такой дасканаласці, што ён узмацняў голас і ніякія памехі не перашкаджалі гаворцы.

І вось тады, калі ён працаваў над удасканаленнем тэлефона, у галаве яго нарадзілася ідэя, аб якой ён думаў яшчэ калі працаваў тэлеграфістам. Ідэя была настолькі фантастычная, што ў яе рэалізацыю спачатку ніхто не верыў. Каб лепш прадставіць яе, Эдысон сканструяваў і прадэманстраваў цацку. Быў гэта паяц-лесаруб, які пачынаў працаваць тады, калі хто-небудзь голасна спяваў у трубку «Быў у Марысі козлік». «Проста голас прыводзіў у рух мембрану, злучаную з малым рычажком,— успамінаў пазней Эдысон.— Рычажок уздзейнічаў на зубчатае калёсіка і прыводзіў у рух паяца, які рэзаў дрэва. Калі спявалі ў трубку, малы кардонны паяц

пачынаў пілаваць дрэва. І я прыйшоў да выніку, што, калі мне ўдасца зарэгістраваць вібрацыю мембраны, я здолею ўзнаўляць гучанне чалавечага голасу, які будзе выклікаць рух мембраны».

Верная «каманда бяссонных» гэтым разам скептычна слухала Эдысона.

— Машына, якая будзе паўтараць чалавечы голас! Гэта недарэчнасць! — амаль у адзін голас усклікнулі яны.

А тэхнік Круэсі сказаў:

— Майстар, я стаўлю ў заклад пачак першарадных цыгар, што машына, якую вы нам нарысавалі, не скажа ні слова.

Эдысон уздыхнуў:

— Я быў бы вельмі рады, калі б верыў, што вы прайграеце, аднак заклад прымаю.



І, ляпаючы механіка па плячы, весела дадаў:

— Спадзяюся, што мой выйгрыш не з'яўляецца немагчымым.

І пачаліся дні, поўныя напружанай працы. Ян Круэсі, кіруючыся ўказаннямі Эдысона, выканаў урэшце мадэль фанографа. Аднак ён па-ранейшаму не верыў, што гэтая мадэль здолее паўтараць чалавечыя галасы.

Апарат паставілі на стале ў бібліятэцы. Сышлася сюды ўся «каманда бяссонных», нават швейцар, які стаяў ля брамы.

Ян Крус пацiснуў плячыма.

— Гэта недарэчнасць! — паўтараў ён.— Я зрабіў тое, што майстар загадаў, але думаю, што гэта была дарэмная страта часу.

Усхваляваны Эдысон устаў перад трубкай, каб нешта сказаць, але тут жа адышоў. Ніводзін дослед не хваляваў яго так, як гэты. Нарэшце ён

узяў сябе ў рукі і пачаў спяваць «Быў у Марысі козлік...». Дрыжачымі рукамі ён паставіў рэпрадукцыйную прыладу, і апарат паўтарыў словы песні.

Ян Крус спалохана ўсклікнуў. Маладыя супрацоўнікі, якія стаўпіліся вакол стала, радасна акружылі Эдысона. Усе былі ўзбуджаны. Усю ноч правяралі апаратуру, дэкламавалі, спявалі і з захапленнем слухалі, як прымітыўны апарацік паўтарае людскую мову.

Вестка аб незвычайнай вынаходцы з'явілася адразу ў газетах. Ніхто, аднак, ёй не паверыў. Эдысона гэта вельмі засмучала. Ён штодзень пытаў у свайго сакратара:

— А што там новага ў нашай пошце?

Эдысон ледзь не расцалаваў яго, калі той аднойчы прынёс яму ў кабінет пачак пісьмаў.



— Нарэшце! — шапталі зацікаўленыя супрацоўнікі.

Эдысон адкрыў першае зверху пісьмо. З канверта на стол пасыпаліся долары.

У пісьме пісалі:

«Паважаны пан Эдысон! Пасылаючы гэтую суму, ласкава прашу выслаць па ўказанаму адрасу вынайдзеную вамі аднагадовую кашулю. З павагай Ян Броўн. Нью-Йорк 173,5 Авеню».

Сакратар, Эдысон і ўсе прысутныя здзіўлена пазіралі адзін на аднаго, нічога не разумеючы.

Эдысон пацісну ў плячыма:

— Гэта нейкая памылка, чытайце, калі ласка, далей.

Наступныя пісьмы былі не лепшыя. Эдысон, заўсёды ўсмешлівы і добразычлівы, зараз кіпеў ад гневу.

— Агідныя жарты! — згадзіліся ўсе.— Але чые гэта штучкі?

І толькі назаўтра ўсё стала ясна: нейкі жартаўнік надрукаваў у газеце аб тым, што Томас Альва Эдысон, стваральнік тэлеграфа і фанографа, вынайшаў цяпер «аднагадовую кашулю», якую цэлы год можна не мыць. Ён вызначыў нават цану. Гэтае паведамленне перадрукавала пяцьсот газет. Менло Парк пачалі засыпаць прапановамі. Адны хацелі набыць патэнт, другія закупіць гуртам цэлы цягнік кашуль, іншыя прасілі прыслаць адну штуку гэтай цудоўнай бялізны. Эдысон быў абураны. Жаліўся жонцы:

— У нейкую недарэчную кашулю паверылі ўсе, а ў фанограф не вераць. Вось людзі...

Ён вырашыў зацікавіць сваёй гаворачай машынай навуковы свет. Навуковае таварыства ў Нью-Йорку не вельмі ахвотна згадзілася на дэманстрацыю фанографа.

— Нейкі там правінцыяльны тэлеграфіст, і раптам гэтакае цуда! — сумняваўся адзін з членаў таварыства.

— Наколькі я ведаю, ён не мае нават вышэйшай адукацыі,— дадаў другі.

Трэці выступіў у абарону Эдысона:

— А я лічу, што трэба агледзець гэту вынаходку. Хто ведае? Стэфенсон быў таксама самавучкай.

Вырашылі выклікаць Эдысона.

Эфект быў надзвычайны. Усе былі здзіўлены і захоплены. Недаверу як і не было.

Цяпер у Менло Парк пачалі з'язджацца розныя вядомыя вучоныя.

Горды сваёй гэтай машынай, Эдысон паслаў яе ў Парыж. У 1878 годзе яе дэманстравалі на пасяджэнні Французскай Акадэміі навук. Яшчэ не паспелі прагучаць паўтораныя машынай словы дэманстратара, калі адзін з членаў Акадэміі — Боніланд — ускочыў і абурана закрычаў:

— Гэта нахабства. Нейкі амерыканскі махляр падстаўляе нам чэрававяшчацеля і хоча нас пераканаць, што гэта гаворачая машына! Ніколі мёртвая пласцінка не здолее вытварыць гукаў, якія вытвараюць жывыя галасавыя струны. Такое нахабства, такі скандал!

— Але ж супакойцеся, шаноўны,— сказаў старшыня пасяджэння.— Калі гэта чэрававяшчацель, дык мы можам яго выкрыць.

Чэрававяшчацеля, аднак, выкрыць не ўдалося, усюды, дзе дэманстравалася гэта цудоўная вынаходка, уражанне было агромністае.

Эдысон аддаў шмат працы і часу ўдасканаленню фанографа. Працуючы над гэтай вынаходкай, ён стаў стваральнікам грамафона і патэфона... Гэта, аднак, не перашкаджала яму праводзіць усебаковыя доследы над самай выдатнай вынаходкай яго жыцця — электрычнай лямпкай.

Электрычная энергія была вядома здаўна, але яе не ўмелі прыстасаваць для асвятлення жылля, і хоць рускія Яблачкін, а пасля Ладыгінператварылі электрычную энергію ў асвятляльную, аднак толькі лямпачка Эдысона аддала гэтую энергію на службу чалавеку. І толькі Эдысон

знайшоў спосаб, паводле якога маглі гарэць лямпы незалежна адна ад другой.

І калі сёння мы выключальнікам лёгка запальваем у цёмным пакоі лямпу, калі глядзім на неонавыя лямпы гарадоў, мы, вядома, не думаем, колькі намаганняў, працы і нервовага напружання каштавалі яны Томасу Альве Эдысону, вынаходніку з Менло Парку.

Пачаў ён з таго, што нарысаваў сваім супрацоўнікам праект лямпачкі і сказаў:

— Перш за ўсё мы павінны стварыць абсалютны вакуум. З гэтай мэтай нам трэба ўдасканаліць помпу, бо тая, якую мы ўжывалі дагэтуль, не створыць нам вакууму. Пасля мы павінны зрабіць тонкі, як нітка, дроцік з матэрыялу, які надаецца для свяцячай субстанцыі, і замацаваць гэту нітку ў шкляной банцы. Такім чынам трэба знайсці субстанцыю, якая пасля абвуглівання падыдзе для гэтай мэты.



І работа закіпела. «Каманда бяссонных» на чале са Старым (так называлі супрацоўнікі трыццацігадовага Эдысона) рабіла доследы з каменным і драўляным вугалем, са смалой і дзёгцем, з трэскамі кедра і клёна, лаўра і сасны, прабавалі таксама корак, цэлулоід і шнурок з каноплі.

Аднаго разу Эдысона наведаў даўні яго пратэктар і прыяцель Макензі. Яго рудая барада спадабалася супрацоўнікам Эдысона.

— Гэткія палымнеючыя валасы дадуць, напэўна, цудоўнае святло,— заўважыў адзін з асістэнтаў Эдысона. А паколькі Мацкензі гатоў быў ахвяраваць сваёй барадой для дабра навукі, спорая прыгаршч яго рудых валасоў была скарыстана для доследаў, на жаль, толькі дарэмна.

У пошуках матэрыялу на валакно жарніка супрацоўнікі Эдысона наведалі джунглі і пушчы Кубы і Ямайкі, Перу, Эквадора, шэсць тысяч самых разнастайных матэрыялаў выпрабаваў Эдысон — і ўсё дарэмна. Некаторыя яго супрацоўнікі пачалі сумнявацца.

— Нічога з гэтага не будзе,— шапталі яны па кутках.— Што з таго, што Старому ўдалося ўчора ўмацаваць у шкляной банцы нейкую нітачку, якая свяцілася ўсяго некалькі мінут.

Але Стары не адступаўся і не шкадаваў ні сябе, ні іншых. Работа кіпела.

2 кастрычніка 1879 года Эдысон з адным са сваіх асістэнтаў Чарлам Бачаролем распачаў доследы са звычайнай баваўнянай ніткай. Пяцісантыметровы яе кавалак укладалі ў форму ў выглядзе падковы і на працягу пяці гадзін трымалі ў высокай тэмпературы. Дастаўшы з формы, гэты звуглены шматок увялі ў шкляную банку. Вымагала гэта надзвычайнай асцярожнасці, і толькі пасля 36 гадзін дарэмных спроб удалося нарэшце звугленую нітачку змясціць у банцы.

Эдысон і яго асістэнты былі бледныя ад стомленасці. У адных сарочках з расшпіленымі каўнерыкамі, раскудлачаныя і замурзаныя, яны выглядалі як прывіды. Але Эдысон уздыхнуў з палёгкай.

— Нарэшце,— прашаптаў ён.— Цяпер нясі гэта асцярожна ў лабараторыю.

Ішлі павольна крок за крокам. Наперадзе ішоў Бачароль, трымаючы ў руках кволы шматочак. За ім асцярожна ступаў Эдысон. Ужо прайшлі некалькі крокаў, што аддзялялі іх ад лабараторыі, калі раптам...



7 Зак. 1710

— Рассыпалася,— праенчыў асістэнт.

Эдысон вылаяўся, і яны зноў вярнуліся ў майстэрню. «У наступны раз я сам буду несці нітку»,— вырашыў ён.

Моўчкі ўзяліся зноў за працу. Аднак калі ўжо ў каторы раз нітка зноў рассыпалася, Бачароль устаў і, пацiраючы збялелы твар, сказаў:

— Нічога з гэтага не будзе! Відаць, мы памыляемся.

Эдысон таксама нейкую хвіліну стаяў бездапаможны пасярод майстэрні. Але хутка ачнуўся.

— Што ты вярзеш, Чарлі? Бярыся за работу. Проста трэба быць больш асцярожным — і ўсё.

Бачароль не слухаў Эдысона. Амаль у прыпадку істэрыі ён паўтараў сваё:



— Гэта надчалавечая праца! Не веру, што гэта нам удасца. Не веру! Не веру!

Эдысон ледзь супакоіў свайго прыяцеля і памочніка. Ледзь схіліў яго працаваць далей. І нарэшце ўдалося звугленую баваўняную падкоўку змясціць у банцы і данесці шчасліва да шкловыдзімальніка. Пашанцавала таксама выпампаваць пнеўматычнай помпай з яе паветра і ўсё разам уключыць у ток. Лямпачка запалілася. Мінула 10, 15, урэшце 20 мінут. Мінула гадзіна, другая, трэцяя, а лямпачка ўсё гарэла роўным, ясным святлом.

Нягледзячы на познюю ноч, збегліся ўсе працаўнікі Менло Парку. Радасць ахапіла ўсіх, але ніхто не выказваў яе голасна, баючыся, каб ад самага лёгкага страсення лямпачка не пагасла.

У гэтай напружанай цішыні сон адолеў Бачароля, а пасля і Эдысона. Знясілены напружаннем доўгіх гадзін, ён заснуў, абапёршыся галавой на кант стала. Задрамалі і іншыя працаўнікі Менло Парку. І тым большай была радасць, калі пасля некалькіх гадзін сну Эдысон убачыў, што лямпа гарыць роўным і ясным святлом.

Яна гарэла сорак гадзін. Вынаходка электрычнай лямпкі была здзейснена.

Але Эдысон на гэтым не спыніўся. Ён увесь час шукаў ідэальнага матэрыялу для сваіх лямпак. Урэшце аказалася, што такім ідэальным матэрыялам з'яўляецца абвуглены і хімічна прэпараваны піраксілін у выглядзе вельмі тонкіх дратоў.

Тады нарэшце ён змог узяцца за вырабы электрычных лямп у вялікім маштабе, а ў 1882 годзе пусціць у ход першую ў свеце мясцовую электрастанцыю.

Да Менло Парку, першай на зямным шары мясцовасці, дзе было электрычнае асвятленне, зараз сталі з'язджацца людзі з усёй Амерыкі.

Энтузіязм быў вялікі, але між тым спачатку ніхто не мог набрацца адвагі, каб зрабіць ва ўласным доме электрычнае асвятленне. І зноў Эдысон павінен быў пераадольваць недавер свету.

Ён паехаў да вядомага амерыканскага мільярдэра Моргана і папрасіў, каб той дазволіў у кабінетах свайго банка правесці электрычнае асвятленне.

— Гэта, канешне, пераканае Амерыку ў тым, што ад электрычных лямпачак нікому ніякая небяспека не пагражае. Калі вы іх дазволіце за-

паліць у сваім банку, людзі паверацъ у гэта,— закончыў Эдысон сваю прапанову.

Морган выслухаў усе тлумачэнні, што датычыліся пераваг і вартасцей электрычнага асвятлення. Нарэшце зрабіў вынік:

— Ітак, вы гаворыце, што яны не капцяць, не даюць дыму і паху, не пагражаюць пажарам, іх лёгка запальваць, і яны даюць святло, белае, светлае? Ну што ж, паспрабуем. Вы можаце паставіць адну са сваіх лямп у маім кабінеце.

Пасля Моргана адважыўся на тое ж і Хенрык Форд, прыяцель Эдысона. У хуткім часе ўвесь Нью-Йорк ужо тануў начамі ў паводцы электрычнага святла, а праз некалькі год электрычныя лямпы заззялі на ўсім зямным шары, разносячы па свеце славу свайго вынаходцы.



Праз пэўны час Менло Парк, дзе паўстала гэта цудоўная вынаходка Эдысона, стаў зацесны для яго доследаў.

Новая лабараторыя была пабудавана ў Вэстэрн Аранж, у прыгожай лясістай ваколіцы, у адлегласці 22 кіламетраў ад Нью-Йорка.

— Гэта будзе самая вялікая лабараторыя на свеце,— марыў Эдысон.

Ён пераехаў туды з усёй сям'ёй, якую пасяліў, аднак, па-за тэрыторыяй фабрык і лабараторый, у віле Гленмонт.

Высокі мур акружаў фабрыку фанографаў, акумулятараў і кінапрылад, а таксама разнастайныя лабараторыі і майстэрні. Эдысон казаў:

— Мне патрэбен спакой. Нельга нікому ўваходзіць сюды без пропуска. Швейцар, які не дапільнуе гэтага, будзе звольнены.

Шэф канторы паўтараў гэта кожнаму новапрынятаму вартаўніку.

І вось аднойчы сам Эдысон апынуўся ў вельмі смешным становішчы. Ён забыўся ўзяць ключ ад варот. Пазваніў і пачаў чакаць. Праз хвіліну ў аконцы паказалася пара вачэй і пачуўся голас вартаўніка:

— Калі ласка, пропуск.

Эдысон ніколі не давяраў сваім вушам і пазваніў яшчэ раз. Цяпер ён добра пачуў пытанне:

— Дзе ваш пропуск?

— Адчыняй, балван! Хіба не бачыш, што гэта я? — закрычаў гаспадар.

Але новы вартаўнік не ведаў Эдысона, а шэф загадаў яму без пропуска нікога не пускаць, «нават калі б гэта быў сам прэзідэнт Амерыкі». Калі Эдысон пачаў калаціць кіем у вароты, вартаўнік злосна закрычаў:

— Не грукай, бо спушчу на цябе сабак!

Ён быў вельмі здзіўлены, калі ўбачыў, што сам шэф канторы бяжыць і крычыць:

— Адчыняй, дурань, адчыняй хутчэй!

Эдысон, аднак, зусім не злаваў на вартаўніка. Аддыхаўшыся крыху, ён сунуў вартаўніку шчодрыя чаявыя.

Жонка Эдысона часта непакоілася аб здароўі мужа — ён так мала спаў і амаль зусім не адпачываў. А гады ішлі, і быў ён ужо немалады. Аднак гэты кволы некалі хлапец быў цяпер чалавекам вельмі дужым і здаровым. Усё жыццё ён шмат працаваў, але і пад старасць, нягледзячы на славу і багацце, не пакідаў працы.

Свой працоўны дзень Эдысон пачынаў у вялікай бібліятэчнай зале за маленькім пісьмовым сталом, на якім сакратар звычайна клаў усю пошту. Аднаго дня сакратар сказаў, што з Парыжа прыйшоў нейкі вялікі пакунак, які распакоўваюць на двары.

Эдысон пайшоў паглядзець пасылку. Рабочыя адбілі века вялікай драўлянай скрыні. Праз хвіліну яны дасталі з саломы і стружак мармуровую статую. Была гэта прыгожая постаць кабеты, якая трымала ў руках электрычную лямпу. Ля яе ног ляжаў разбіты ліхтар.

Эдысон загадаў унесці статую ў бібліятэку і паставіць у куце залы. І тут ён заўважыў на пастаменце зроблены надпіс. Нахіліўся і прачытаў уголас: «Новы геній святла».

# ШЛЯХ ДА ЗОРАК

**АБ ЮНАКУ, У ЯКОГА МЫШЫ ШТАНЫ З'ЕЛІ.** ● Стары бібліятэкар Румянцаўскага музея ў Маскве, Мікалай Фёдараў, ужо даўно назіраў за гэтым дзіўным даўгавалосым чытачом. Хлапец прыходзіў штодзень каля дзевятай гадзіны раніцы і чакаў пад дзвярыма, пакуль адчыняцца дзверы чытальні. А пасля сядзеў аж да закрыцця бібліятэкі, так захоплены чытаннем, што прыбіральшчык кожны раз мусіў крануць яго за плячо і голасна сказаць: «Зачыняем». Толькі тады хлапец аддаваў кніжкі і, нязграбна пакланіўшыся, знікаў за дзвярыма.

З бібліятэчнай карткі Фёдараў ведаў, што гэты старанны чытач — Канстанцін Цыялкоўскі, што яму семнаццаць гадоў. Год таму, калі ён толькі з'явіўся ў бібліятэцы, ён чытаў лягчэйшыя элементарныя кніжкі з галіны матэматыкі, але цяпер бярэ ўжо вышэйшую алгебру,

*ПАМЫЛКОВА ДУМАЦЬ,*
*ШТО ФАНТАЗІЯ ПАТРЭБНА*
*ТОЛЬКІ ПАЭТУ.*
*ФАНТАЗІЯ НЕАБХОДНА*
*НАВАТ У МАТЭМАТЫЦЫ,*
*НАВАТ*
*АДКРЫЦЦЁ ДЫФЕРЭНЦЫЯЛЬНАГА*
*І ІНТЭГРАЛЬНАГА ВЫЛІЧЭННЯ*
*БЫЛО Б НЕМАГЧЫМА БЕЗ*
*ФАНТАЗІІ.*

*Уладзімір Ленін*



дыферэнцыяльныя і інтэгральныя вылічэнні, аналітычную геаметрыю. А працуе з гэткім запалам, што не чуе нават, калі да яго гавораць. Фёдараў неаднойчы хацеў пачаць з ім гутарку, але дарэмна. І толькі нядаўна...

Хлапец узяў кніжкі, якія яго чакалі, і падаўся на сваё месца. Але адзін том застаўся на стале.

Стары бібліятэкар паклікаў спачатку паціху, каб не перашкаджаць чытачам, а пасля голасна:

— Пан Цыялкоўскі! Ваша кніжка.

Хлапец нават не адвярнуўся.

«Ён глухі!» — здагадаўся раптам Фёдараў.

У гэты дзень ён выйшаў з бібліятэкі разам з Цыялкоўскім. Калі ішоў поруч і гаварыў голасна і выразна, хлапец яго чуў і адказваў на пытанні. 

Жыў ён ва ўбогім пакойчыку, які наймаў у прачкі. Пакойчык быў абшарпаны, поўны пары і бруднай бялізны. На стале і падаконніку ляжалі прабіркі і рэторты, стаялі бутэлечкі. Пачцівая прачка, хаваючы пад фартухом мокрыя, чырвоныя рукі, паціху расказвала аб беднасці свайго «субкватаранта».

— З дому прысылаюць яму дзесяць, дванаццаць, найбольш пятнаццаць рублёў у месяц. І ён адразу ў магазін. Накупляе кніжак, паперы, алоўкаў, нейкіх там парашкоў і вадкасцей. Прыносіць ртуць, серную кіслату, цынк, спірт. А за гэта трэба ж плаціць! Выдаткуе ўсё, а пасля жыве на хлебе і вадзе. Раз у тры дні купляе ў пякарні хлеба на дзевяць капеек, у мяне бярэ вар і гэтым корміцца...

З Цыялкоўскім на гэтую тэму гаварыць было цяжка. Ні грошай ад Фёдарава (стары бібліятэкар неаднойчы дапамагаў бедным студэнтам), ні яго запросін не прымаў і неахвотна расказваў аб сабе. У доме, у якім ён жыў, ведалі яго ўсе і прывыклі да яго выгляду. Аднак калі ён ішоў вуліцамі, худы, з доўгімі, як у папа, валасамі (шкада было грошай на парыкмахера), у драцяных акулярах на носе, у блузе, пакрытай плямамі і дзіркамі, якія выпалілі хімікаты, у абшарпаных штанах, усе звярталі на яго ўвагу. А малыя маскоўскія свавольнікі, бегучы следам, крычалі:

— Гэй, пане паэт, ці не мышы з'елі вашы штаны?

Юнак не аглядаўся, не звяртаў увагі на гэтыя воклічы. Не чуў іх.

Пачцівая прачка, у якой ён жыў, паважала свайго доўгавалосага субкватаранта.



— Бедны хлапец! — уздыхала яна.— Ён глухі з маленства і праз гэта не канчаў школы. Але і без школы разумнейшы за іншых.

Яна ахвотна заглядала вечарамі ў яго пакоік. Любіла слухаць, як у рэтортах і прабірках нешта шуміць і булькоча, а пасля раптам змяняе пах і колер, нібы ад дотыку чарадзейскай палачкі. З прыемнасцю расказвала аб ім сваім кліенткам.

Адна з іх, дзяўчына з заможнай сям'і, пачала нават пісаць пісьмы глухому субкватаранту прачкі. Але ён...

«Цяжка думаць аб завязванні знаёмства,— пісаў ён пазней,— калі страўнік набіты чорным хлебам, а галава марамі».

Пасля трохгадовага побыту ў Маскве Канстанцін сказаў гаспадыні, што бацька выклікае яго ў Вятку.

— Піша, што хутка ідзе на пенсію і не зможа прысылаць мне грошы. Знаёмыя нагаварылі яму пра мяне шмат страшных рэчаў: што жыву ў нястачы, што галадаю і хутка захварэю на сухоты,— казаў ён засмучана.

Бацька Канстанціна, Эдуард Цыялкоўскі, быў палякам, якога сумны лёс заняволенай айчыны закінуў па-за межы Радзімы. Ажаніўшыся з рускай, Эдуард Цыялкоўскі асеў у вёсцы Іжаўскае Разанскага павета, дзе працаваў ляснічым. Тут нарадзіўся ў яго сын Канстанцін, які паказаў чалавецтву шлях да зорак...

Цыялкоўскі неўзабаве пакінуў вёску і пераехаў спачатку ў Разань, а пасля ў Вятку, дзе пачаў працаваць выкладчыкам прыродазнаўства ў сельскагаспадарчай школе. У Вятцы дзевяцігадовы Кастусь цяжка захварэў шкарлятынай, а калі паправіўся, дык аказалася, што ён аглух і ніколі больш не будзе чуць. 

Пакуль жыла маці, яе чулая апека дазваляла хлопчыку забыць аб сваім калецтве. Маці вучыла яго чытаць і пісаць, лічыць і рысаваць, маці была яго сувязной паміж сям'ёй і светам. Пасля яе смерці дванаццацігадовы хлопчык нават сярод членаў сваёй вялікай сям'і адчуваў сябе адзінокім, закінутым і няшчасным.

У школе вучыўся ўсё горш. Не чуў ні пытанняў, ні тлумачэнняў настаўнікаў, затое добра адчуваў балючыя кпіны аднакласнікаў. Глухата была для яго крыніцай няспынных пакут. Але была адначасова, як пісаў ён пазней у сваіх успамінах, і бізуном, які падганяў яго да дзеяння. Адасабляючы яго ад людзей і іх штодзённых радасцей, прымушала да зася-

роджанасці і роздуму. «Калі б я не быў глухі, ніколі б не зрабіў так шмат»,— казаў ён у канцы жыцця.

А пакуль вучыўся ўсё горш і горш, і бацька вымушаны быў забраць яго са школы.

— Ён любіць майстраваць,— сказаў.— Навучу яго якому-небудзь рамяству.

Хлопчык і сапраўды ўвесь час нешта майстраваў. Купляў на рынку старыя крыналіны і з кітовых вусоў, якія з іх даставаў, рабіў спружынкі да сваіх цацак. Былі гэта маленькія лакаматывы і таямнічыя скрыначкі і столікі, на якіх то з'яўляліся, то зноў знікалі розныя прадметы. Сам зрабіў сапраўдны такарны варштат. Рашэнне бацькі было слушным і нікога не дзівіла.



А хлопчык, прадастаўлены самому сабе, вучыўся. Чытаў. Кніжкі заступалі яму цяпер настаўнікаў і калег, сяброў і блізкіх. Цікавіўся фізікай і хіміяй, астраноміяй і матэматыкай. Ён шмат чаго не разумеў, а адрэзаны калецтвам ад людзей, не хацеў ніколі пытацца. Ён сам паволі і настойліва пераадольваў усе цяжкасці, якія сустракалі яго. Для кожнай тэорыі шукаў пацвярджэння ў доследах. Так ён рабіў і пазней у сваёй навуковай працы.

Неяк сам змайстраваў астралябію *. Пры дапамозе яе вылічыў, не выходзячы з дому, адлегласць да гарадской каланчы. Пасля праверыў — усё было правільна, адлегласць і сапраўды раўнялася 400 аршынам **.

---

* Астралябія — прылада для вызначэння становішча нябесных целаў.
** Аршын — руская мера даўжыні — 71,1 см.

Уважліва назіраючы за сынам-калекам, бацька пачаў падгаворваць яго паехаць у Маскву.

— Там будзеш мець доступ да навуковых кніжак. Можа, знойдзеш людзей, якія ацэняць твае здольнасці,— казаў ён сыну.

А цяпер, расчараваны, выклікаў яго зноў да сябе, у Вятку.

— Што думаеш рабіць, Кастусь? — запытаў яго бацька, калі сын крыху ачуняў пасля маскоўскай галадухі.— Ты бачыш, мне таксама цяжка... Я стары і хворы... Іду на пенсію...

Канстанцін не даў скончыць.

— Я хацеў прасіць цябе, бацька, каб ты дапамог мне знайсці вучняў. У цябе тут шмат знаёмых... Я магу выкладаць арыфметыку і геаметрыю, фізіку і хімію.

Знайсці вучняў было не цяжка, і неўзабаве малады Цыялкоўскі, нягледзячы на сваю глухату, набыў у Вятцы славу цудоўнага рэпетытара. Ніхто іншы не ўмеў так ясна і даступна тлумачыць самыя складаныя задачы і тэарэмы, як гэты глухі, доўгавалосы самавучка. А паколькі ён ніколі не пазіраў на гадзіннік (якога дарэчы не меў) і не таргаваўся, дык вучняў у яго было шмат.

Вольны час і цяпер, як і ў Маскве, праводзіў над кніжкамі. Яго і цяпер захаплялі пытанні, якія іншым здаваліся неразумнай фантазіяй. Як адарвацца ад Зямлі і паляцець у міжпланетную прастору? Ці нельга для гэтай мэты выкарыстаць цэнтрабежную сілу? Як павінен выглядаць апарат, прыдатны для гэтага зорнага падарожжа? Як будзе адчуваць сябе ў космасе чалавек?

А пакуль трэба было ехаць у Разань. Бацька пайшоў на пенсію і хацеў вярнуцца ў горад, дзе правёў некалькі шчаслівых год са сваёй жонкай.

Канстанціна вабіла падарожжа параходам па Каме і Ацэ, і ён ахвотна згадзіўся пераехаць у Разань. Але ў чужым горадзе цяжка было знайсці вучняў. Насталі дні нястачы і голаду. Бацька пенсіянер не шмат мог дапамагчы. Мог адно толькі нешта параіць. Ён крычаў у вуха сыну:

— Мусіш здабыць нейкую прафесію і сталы занятак. Наш сусед здае экзамен на настаўніка пачатковай школы. Ты б таксама мог здаць гэты экзамен.

Паслухаўшы бацьку, Канстанцін узяўся за вывучэнне прадметаў, якія мусіў ведаць настаўнік пачатковай школы. Неўзабаве ён здаў экстэрнам

экзамен на настаўніка арыфметыкі і геаметрыі. Зімой 1880 года Цыялкоўскі атрымаў прызначэнне ў горад Бароўск. Бацька і сястра (тая, што вяла гаспадарку бацькі) справілі яму гарнітур, які ў тыя часы насілі настаўнікі, таннае паліто, цёплы кажушок і новыя валёнкі. Фізічныя прылады і «лабараторыю» бацька абяцаў прыслаць яму поштай, як толькі Канстанцін уладкуецца і прышле свой бароўскі адрас. На развітанне, нібы прадчуваючы, што не ўбачыць больш сына, Эдуард Цыялкоўскі са слязьмі на вачах моцна абняў Канстанціна...

НАСТАЎНІК З БАРОЎСКА. ● Невялікі горад Бароўск, акружаны з усіх бакоў адвечнымі барамі, ляжаў над ракой Протвай. Была ранняя, марозная зіма. Засыпаныя снегам вуліцы былі ціхія і, здавалася, спалі. Малады

настаўнік пакінуў куфэрачак у задымленым вакзале і доўга стукаў у дзверы нізкіх дамочкаў, шукаючы пакоя, у якім мог бы закватараваць. Толькі ўвечары ён перанёс свой невялікі, але цяжкі багаж (кніжкі) у наняты пакой.

Дамок, у якім ён пасяліўся, стаяў на беразе Протвы і належаў папу адной з тутэйшых цэркваў, Сокалаву. З акон пакоя была відаць цёмная сцяна бору і маляўнічыя муры тутэйшага кляштора. Канстанцін удзень працаваў у школе, а вечары праводзіў з Сокалавым і яго адзінай дачкой Варай. Поп быў удаўцом, і ўсю гаспадарку вяла Вара. Яна сардэчна заапекавалася глухім кватарантам. Пры маладой гаспадыні Канстанцін забываў аб сваім калецтве, рабіўся гаваркі, губляў сваю заўсёдную скаванасць. Пасябравалі вельмі. Вара дапамагала яму пасастаўляць прысланыя з Разані і Масквы прылады, хваліла астранамічныя карты яго ўласнай работы. Увечары, за самаварам, яна з цікавасцю слухала яго расказы аб Сонцы, Месяцы, аб Зямлі і небе.

Аднаго вечара Канстанцін не прыйшоў да стала. Устрывожаная Вара зазірнула да яго ў пакой. Ён сядзеў ля стала згорблены, апусціўшы галаву. Калі Вара дакранулася да яго пляча, ён здрыгануўся і ўзняў бледны твар.

— Я атрымаў паведамленне, што мой бацька памёр,— сказаў Цыялкоўскі, ледзь здабываючы з горла словы.— Яго ўжо нават пахавалі.

Пасля дадаў:

— Гэта быў мой адзіны прыяцель. Толькі ён мяне разумеў, дапамагаў і раіў...

У Вары ў вачах стаялі слёзы, і Канстанцін раптам падумаў, што віхто пасля смерці маці не клапаціўся так чула аб ім, як Вара. Аднойчы ўвечары, калі поп, пераҗагнаўшыся перад абразамі, пайшоў адпачываць, Канстанцін узяў яе за руку і нясмела сказаў:

— Варанька! Будзьце маёй жонкай. Я ведаю, што зарабляю не шмат, але майго заработку хопіць нам на сціплае жыццё. А вы не шукаеце ні гульняў, ні багацця, праўда?

20 жніўня 1880 года бацька Вары, як асоба духоўная, благаславіў маладую пару і абвясціў прысутным, што яны муж і жонка. Вара ззяла ад шчасця і сардэчна прымала гасцей. Раптам яна заўважыла, што муж знік. Яна выбегла з дому і кінулася за ім на вуліцу.



— Кастусь! — дагнала яго, задыханая.— Куды ты?

— Зараз вярнуся. Я заказаў такарны станок. Сёння павінен быць гатовы, іду па яго...

Вара не затрымлівала мужа. Ведала, што ён нясмелы, не любіць чужых людзей... «Затое,— думала, вяртаючыся да гасцей,— ён разумнейшы і лепшы за іншых».

Маладая пара пераехала неўзабаве на ўласную кватэру, і жыццё паплыло звычайным шляхам. Звычайным для Цыялкоўскага, але зусім незвычайным для іншых жыхароў Бароўска.

Канстанцін пасля заняткаў у школе працягваў займацца эксперыментамі і звычайнай працай. У яго кватэры грымелі грымоты, ззялі маланкі, званілі званкі, танцавалі папяровыя лялькі. Гасцей хапаў за нос агромні-

сты штучны асміног, а гумовы мех, напоўнены вадародам, нібы нейкая жывая істота, хадзіў па пакоях, то ўзнімаючыся ўгору, то апускаючыся ўніз, у залежнасці ад патокаў паветра.

Гэтыя «гульні» рабілі маладога настаўніка арыфметыкі і геаметрыі папулярным сярод жыхароў горада. А таму нічога дзіўнага не было ў тым, што Лаўроў, студэнт з Пецярбурга, які ў 1881 годзе праводзіў свае канікулы ў бацькоў у Бароўску, пажадаў пазнаёміцца з глухім настаўнікам. Неўзабаве яны моцна пасябравалі, і Цыялкоўскі ахвотна чытаў студэнту фрагменты са сваёй новай працы «Кінетычная тэорыя газаў». Гэта была першая самастойная навуковая праца Цыялкоўскага. Ён вельмі шкадаваў, што яго новы прыяцель быў некампетэнтны ў гэтым і не мог належным чынам ацаніць вартасці яго працы.

Ён вельмі ўзрадаваўся, калі Лаўроў сказаў:

— Праз тыдзень я вяртаюся ў Пецярбург. Даручыце мне свой рукапіс. Пакажу яго ў фізіка-хімічным Таварыстве, а там людзі навукі, спецыялісты прачытаюць і вызначаць яго вартасць. Магчыма, іх зацікавіць праца бароўскага настаўніка, і яны пажадаюць пазнаёміцца з ім асабіста.

Лаўроў стрымаў сваё слова, і праз некалькі месяцаў з Пецярбурга прыйшло заказное пісьмо.

Цыялкоўскі дрыжачай рукой ускрыў канверт. Тое, што ён прачытаў, было для яго вялікай радасцю. Хоць і паведамлялі яму, што ён сфармуляваў ужо вядомыя законы, але доследы, якія ён правёў, і вынікі, якія з іх зрабіў, сведчаць аб яго велізарнай працавітасці, вялікіх ведах і незвычайных здольнасцях.

Гэта была думка вучоных, сярод якіх знаходзіўся славуты хімік Дзмітрый Мендзялееў.

Пецярбургскія вучоныя аднагалосна прынялі свайго калегу з правінцыі ў члены Таварыства.

Апошні абзац пісьма Цыялкоўскі голасна прачытаў жонцы:

«Рускае фізіка-хімічнае Таварыства прыняло пастанову ўзняць хадайніцтва перад Пецярбургскім або Маскоўскім папячыцельствам школьнай акругі аб пераводзе Цыялкоўскага, калі той гэтага жадае, у такі горад, у якім бы ён мог карыстацца патрэбнай яму навуковай дапамогай».

Але Вара замест таго каб узрадавацца, горача запярэчыла:

— Пераехаць у другі горад? З малым дзіцем? Тут нас ужо ведаюць... Верацъ нам у магазіне, пазычаюць да першага суседзі... А на новым мес-

цы... Не! Гэта немагчыма!

Канстанцін згадзіўся з жонкай. Большую частку невялікага заробку настаўніка пачатковай школы ён выдаваў на кніжкі, хімікаты і прылады, і таму бедная Вара мусіла добра паламаць галаву, каб звязаць канцы з канцамі... Пераезд, пярэбары — на ўсё гэта патрэбны грошы, а ён не мае нават на членскі ўзнос Таварыству.

Ён не адказаў на пісьмо з Пецярбурга. Мусіў бы тлумачыць... Неўзабаве, аднак, выслаў у адрас Таварыства новую працу. Была гэта «Механіка жывёльнага арганізма». У адказ атрымаў некалькі слоў выдатнага вучонага Івана Сечанава. Пісьмо гэта яго вельмі ўзрадавала. Ён чытаў «Рэфлексы мозгу» Сечанава і лічыў яго вялікім навуковым аўтарытэтам. Думка такіх людзей, як Сечанаў, дадавала Цыялкоўскаму сілы для творчай

працы, якая дарэмна шукала б пажыўнае асяроддзе ў паштадзённым жыцці малога горада.

Жыхароў Бароўска часамі абуралі паводзіны глухога настаўніка, які для нейкіх сваіх доследаў будаваў летам з дрэва лодкі дзівоснай формы і пускаў у неба вялікіх папяровых змеяў, а зімой імчаўся на лыжах па замерзлай рацэ з вялізным чорным парасонам у руках.

— Госпадзі! — жагнаўся напалоханы селянін, конь якога ўставаў на дыбкі, угледзеўшы чорную пачвару, што імчалася па лёдзе.— Што за д'ябал? Ледзь сані не перакуліў.

Іншым разам сабраная на вуліцы грамадка, задзёршы галовы, назірала нешта высока ў небе.

— Шар! Шар! — крычалі дзеці.

Але старэйшыя не былі захоплены, асабліва калі з шара, да якога Цыялкоўскі прывязаў запаленыя паленцы, пасыпаліся на Бароўск іскры.

Нейкая бабуля спалохана перажагналася.

— Не дай госпадзі, гэты вар'ят цэлы Бароўск пусціць з дымам,— уздыхнула яна.

— Падае! Падае! — крычалі хлопчыкі.

Шар упаў на дах дамочка бароўскага шаўца, і той пайшоў са скаргай у паліцыю.

Паліцыянты толькі пацiскалі плячыма. «Гэты Цыялкоўскі гуляе, як дзіця. Сёння шар, а ўчора ястраб! Зрабіў птаха як жывога, уклаў яму ў дзюбу ліхтарык і пусціў на тонкай нітцы ў паветра. Увесь горад збегся! Не варта звяртаць на яго ўвагу, нейкі стукнуты, і ўсё!»

Дырэктар і настаўнікі школы, у якой ён працаваў, таксама паціскалі плячыма.

— Дзівак! — казалі.— Хабару не бярэ. У карты не гуляе! Не п'е. Нават падарункаў ад вучняў не хоча браць і яшчэ абураецца, калі мы бяром.

І толькі вучні, ад якіх ён не браў ні хабару, ні падарункаў, паважалі і любілі свайго глухога настаўніка: ён не ставіў двоек і ўмеў даступна вытлумачыць самыя складаныя матэматычныя задачы.

А тым часам Цыялкоўскага займала ўвесь час адно і тое ж пытанне: якім чынам адарвацца ад зямлі і паляцець у космас, які ён называў «вольнай прасторай». «Вольная прастора» — іменна так назваў ён сваю новую працу, якую напісаў у форме дзённіка адкрывацеля. Дзённік пачынаўся 20 лютага 1883 года і канчаўся 12 красавіка.



Увечары, калі дзеці спалі (ён меў іх ужо трое), а жонка пры лямпе цыравала і латала сціплую вопратку сям'і, Цыялкоўскі садзіўся насупраць і чытаў ёй фрагменты сваёй працы.

— Я апісваю тут з'явы, якія чалавек мог бы назіраць, калі б яму ўдалося пранікнуць у вольную прастору — у прастору, пазбаўленую сілы прыцягнення,— тлумачыў ён жонцы.— Пішу таксама аб рэакцыі чалавечага арганізма, які знаходзіцца ў космасе ва ўмовах няважкасці.

Бедная Вара! Сёння, у эру касмічных палётаў, пачатак якім паклаў Гагарын, такія тэрміны, як «космас» ці «няважкасць», вядомы ўсім і не вымагаюць тлумачэння. А тады! Схіліўшы гладка зачасаную галаву над шытвом, яна слухала тое, што чытаў муж, як дзіўную казку, няшмат, аднак, разумеючы з навуковага сэнсу гэтай працы. Яна захаплялася сілай

уяўлення гэтага глухога чалавека, які тут, у заняпалым і адрэзаным ад свету Бароўску, пісаў аб чорным купале неба, усеяным мільярдамі зорак, аб астранаўце, які вісіць у прасторы над бязмежнай пропасцю, і цяжка яму акрэсліць, ці ён стаіць, ці ляжыць, ці, можа, вісіць галавой уніз.

«Гэта бязмежнасць будзіць жах, бо яна неабсяжная. Пад нагамі няма Зямлі, няма зямнога неба над галавой»,— чытаў жонцы Цыялкоўскі.

Закончыў сваю аповесць словамі:

«Калі давяду, што вольная прастора не такая жахліва далёкая, як гэта здаецца цяпер, што яна дасягальная, тады апісаныя тут з'явы бязважкасці зацікавяць чалавека».

«Калі давяду...» О, гэта была яшчэ далёкая будучыня. А цяпер Цыялкоўскі ўяўляў, што ляціць... на Месяц, пісаў новую навукова-фантастычную аповесць аб чалавеку, які пэўнага ранку абудзіўся на сярэбраным шары. 213

У аповесці «На месяцы» наш сатэліт прадстаўлены як камяністая пустыня з мёртвым над ёй блакітнаватым Сонцам, якое вісіць на чорным скляпенні неба. Няма тут ні азёр, ні рэк, ні кроплі вады. «Няма тут ветру, які на Зямлі шалясціць травой і калыша вяршалінамі дрэў. Не чуваць конікаў, не відаць птушак і рознакаляровых матылёў.

Пануры краявід! Навокал цягнуцца высокія горы і глыбокія пропасці. Глеба тут цвёрдая, камяністая, перарэзаная шчылінамі, якія, нібы вужакі, паўзуць ва ўсіх кірунках. Камень узнімаецца тут лёгка, бы пяро, але чалавек не можа тут дыхаць, бо на Месяцу няма паветра...»

Адначасова з гэтымі фантастычнымі палётамі Цыялкоўскага захаплялі таксама справы паветраплавання. У 1885 годзе ён пачаў пісаць працу «Тэорыя аэрастата». У ёй ён тэарэтычна абгрунтаваў магчымасць пабудовы дырыжабляў з металёвай абалонкай.

«Такі аэрастат,— думаў,— не згарыць ад неасцярожна запаленай запалкі. Такі аэрастат не будзе прапускаць вадароду, які напаўняе яго».

Тэарэтычных разважанняў, узораў і вылічэнняў яму, аднак, не хапала. Цэлымі днямі рэзаў і паяў бляху, рабіў мадэлі і зноў іх знішчаў; і зноў рабіў новыя. Жыхары Бароўска дзівіліся.

— Зноў гэты дзівак нешта майструе,— казалі яны.

Плёткі і праўда аб Цыялкоўскім выходзілі за межы Бароўска. Аднойчы да яго пастукаў зямельны ўладальнік Бароўска Павел Галубіцкі. Быў гэта чалавек адукаваны і інтэлігентны. Цыялкоўскі ў размове з ім хутка пазбавіўся сваёй звыклай нясмеласці. Вара паставіла самавар і пачаставала госця чаем, а Канстанцін доўга расказваў яму аб сваіх праектах, дасягненнях і няўдачах папярэдніх прац.

Развітваючыся з гаспадаром, Галубіцкі запрасіў яго да сябе.

«Да мяне на гэтым тыдні павінна прыехаць прафесар Софія Кавалеўская. Яна хоча пазнаёміцца з вамі».

Цыялкоўскі адмовіўся. Ён ахвотна пагаварыў бы з вядомым матэматыкам Софіяй Кавалеўскай, чуў шмат аб гэтай першай у Расіі кабеце-вучонай, але ён глухі, і цяжка размаўляць яму з чужымі людзьмі.

— Не, я не падыходжу да візітаў і таварыскага жыцця,— казаў Цыялкоўскі.

Галубіцкі мусіў адступіцца. Але Софіі Кавалеўскай расказваў з захапленнем.

— На маю думку, гэта новы Ньютан. Мадэлі, якія робіць, бедныя і прымітыўныя, але вядома, што не цана скрыпкі, а талент музыкі гаворыць пра яго ігру. Мне здаецца, што тэарэтычныя працы Цыялкоўскага глыбокія і пераканаўчыя. Піша цяпер працу пад назвай «Тэорыя аэрастата» і сцвярджае, што ўжо вырашыў пытанне, якой велічыні павінен быць дырыжабль з металічнай абалонкай, каб разам з людзьмі мог узляцець у паветра.

Расказваў таксама, што Цыялкоўскі — самавучка, што не карыстаецца існуючай навуковай літаратурай, дасягнутымі вынікамі чужых даследаў, і самастойна выконвае ўсё ад пачатку да канца.

Кавалеўская лічыла, што такі падыход да навуковых пытанняў дае магчымасць захавання арыгінальнасці і незалежнасці мышлення, не падзяляла, аднак, захапленняў Галубіцкага.

— Надта шмат траціцца энергіі зусім дарэмна,— сказала, уздыхнуўшы, і з чыста кабецкай цікаўнасцю пачала пытаць аб прыватным жыцці Цыялкоўскага.

Цяпер уздыхнуў Галубіцкі:

— Нястача там аж пішчыць. Жыве з жонкай і дзецьмі (мае іх, здаецца, чацвёра) у адным пакоі, падзеленым перагародкай. Прытым ён амаль зусім глухі і праз гэта вельмі нясмелы.

— Трэба яму дапамагчы,— з уласцівай ёй энергіяй сказала Кавалеўская.— Трэба гэтага глухога Ньютана абавязкова выцягнуць у Маскву.

Дзякуючы стараниям Софіі Кавалеўскай, Цыялкоўскі неўзабаве быў запрошаны ў Маскву. Меўся там на сходзе Таварыства аматараў прыроды расказаць аб сваіх працах і праектах.

Слухалі Цыялкоўскага вельмі ўважліва, выказалі прызнанне і разуменне яго тэорыі аэрастата, абяцалі падтрымаць. Вярнуўся ён у Бароўск узбуджаны і шчаслівы.

У гэты вечар доўга расказваў жонцы аб тым, як яго прымалі ў Маскве. Нарэшце заснуў, стомлены ўражаннямі і падарожжам. Абудзіла яго басовае гудзенне званоў у бліжэйшай царкве і крык Вары. Тузаючы яго за плечы, крычала:

— Гарыць! Пажар! Пажар!

Сарваўся спалоханы. Дзеці! Дах дома палаў. З трэскам. Пажарнікі дапамаглі Цыялкоўскаму выбрацца з дома, але рэчы, кніжкі і прылады выратаваць не ўдалося.



— Што за шчасце, што рукапіс «Тэорыі аэрастата» застаўся ў Маскве ў прафесара Жукоўскага,— радаваўся Цыялкоўскі, уладкоўваючыся на новым месцы жыхарства.

Кватэра, у якой ён пасяліўся з сям'ёй пасля пажару, знаходзілася на ціхай і спакойнай вуліцы Круглай, над берагам Протвы. У гэтым месцы рака плыла нібы спакойны вузкі ручай. Улетку купаліся тут качкі і гусі, а на вуліцы ў пяску і пыле капаліся куры.

Пасля веснавых і асенніх дажджоў было тут вельмі гразка. Высокія парканы і зялёныя аканіцы, здавалася, сцераглі жыхароў нізкіх драўляных дамочкаў ад цікаўных вачэй прахожых.

Было лета. Цыялкоўскі цешыўся, што рака цячэ так блізка. Старэйшыя дзеці Саша і Люба штодзень бегалі купацца, і толькі Вара, ведаючы добра выбрыкі Протвы, крыху баялася яе суседства.

Два леты мінулі спакойна, і раптам вясной 1889 года Протва заліла ўзбярэжныя дамы.

«Бацька нанасіў дадому паленняў, паклаў на іх дошкі і, ходзячы па гэтых кладках, даставаў з вады патрэбныя нам прадметы... За вокнамі праплывалі вялізныя крыгі. Ночы былі поўныя жаху. Ніхто з нас не спаў...» — успамінала пазней гэта здарэнне старэйшая дачка Цыялкоўскага Люба.

Пасля паводкі сям'я Цыялкоўскага наняла тры пакоікі ў мураваным доме ў самым цэнтры горада. Кватэрная плата была тут высокая, цэлых шэсць рублёў, чацвёртая частка заробку настаўніка, але Вара радавалася: 217

— У гэтым доме ні агонь нас не спаліць, ні вада не залье.

Цыялкоўскі ўпершыню ў сваім жыцці меў свой пакой — вялікі, светлы, самы лепшы з трох пакояў. Якраз ён скончыў апісанне пабудовы металёвага дырыжабля і адаслаў яго ў Пецярбург, просячы субсідыю, якая б дала яму магчымасць будаваць мадэль. Адказ прыйшоў адмоўны, бо VII аддзел Рускага Імператарскага Тэхнічнага Таварыства знайшоў, што праект не мае практычнага значэння.

Ён паказаў пісьмо жонцы і, заўважыўшы, што яна засмуцілася, злосна сказаў:

— А я зусім не бядую. Гэтыя паны з VII аддзела не з'яўляюцца для мяне аўтарытэтам. Для мяне найвышэйшы аўтарытэт — гэта матэматыч-

ныя формулы і вылічэнні. А мае вылічэнні ў гэтым праекце беспамылковыя...

Так. Тыя паны з VII аддзела, тыя вучоныя з Пецярбурга не разумелі сціплага самавучкі з правінцыі.

Нехта з біёграфаў Цыялкоўскага так пісаў пазней аб гэтых канфліктах: «Сціплы дамок у малым правінцыяльным горадзе на гразкай вуліцы, нейкія мадэлі і прылады ўласнай работы, некалькі папулярных кніжак і болей чым сціпла апрануты, напалову глухі чалавек з гарачымі вачыма — гэта быў адзін свет; багатыя залы VII аддзела Імператарскага Тэхнічнага Таварыства ў Пецярбургу, залітыя святлом апартаменты, белыя пальчаткі лакеяў у часе ўрачыстых пасяджэнняў, мундзіры афіцэраў, усеяныя ордэнамі, шолах адсыланых і прысыланых папераў — гэта другі. Два гэтыя



светы не мелі паміж сабой нічога агульнага».

МАРЫ АБ ЗЯМЛІ І НЕБЕ. ● Калі прыйшло афіцыйнае паведамленне, што настаўнік Канстанцін Цыялкоўскі пераводзіцца ў Калугу, вучоны вельмі засмуціўся.

З жалем пакідаў ён Бароўск. Пражыў тут дванаццаць гадоў, тут ажаніўся, тут прыйшлі на свет чацвёра яго дзяцей (самы малодшы Іван нарадзіўся ўжо ў Калузе). Для Вары, якая дагэтуль ніколі не выязджала з Бароўска і ведала тут кожны дом, кожны камень, Калуга выдавалася чужой і амаль варожай. Але, бачачы радасць дзяцей, шчаслівых гэтым першым у жыцці падарожжам, нічога не казала, жагналася толькі пры кожным падскоку санак і ўвесь час лічыла пакункі, кошыкі і куфэркі.

Было холадна. Ад хуткай язды вецер свісцеў у вушах, і мароз шчыпаў шчокі. Нават дзеці прыціхлі і зашыліся ў глыб саняў. Нарэшце, на нейкім там прыпынку, густа заззялі мігатлівыя агеньчыкі.

— Глядзіце, дзеці! Калуга! Калуга! — усклікнула Вара.

Пасля ціхага Бароўска Калуга здалася падарожнікам вялікім і рухлівым горадам. Але і тут, як у Бароўску, жалейка пастуха, які збіраў свой статак, будзіла жыхароў горада на досвітку. Заспаныя гаспадыні паспешліва выганялі на вуліцу кароў, распальвалі ў печы, гатавалі снеданне. І тут, як у Бароўску, Цыялкоўскі працаваў датуль, пакуль не трэба было ісці ў школу.

Працу ў школе любіў, любіў сваіх вучняў, якія паважалі яго. Шмат хто чытаў ужо яго аповесць «На месяцы», якая з'явілася ў продажы як дадатак да папулярнага часопіса «Вакол свету».

— Гэта не менш цікава, чым аповесці Жуля Верна,— хвалілі адзін аднаму кніжку настаўніка.

Цыялкоўскі працаваў цяпер над канструкцыяй аўтаматычнага пілота. І хоць, як нехта слушна заўважыў, ён быў так падобны да сучаснага аўтаматычнага пілота, як неандэрталец падобны да сучаснага еўрапейца, праект Цыялкоўскага стаў своеасаблівым патрыярхам аўтаматычных пілотаў, якія ўвесь час удасканальваюцца.

А пакуль яго навуковыя працы, хоць бы нават «Кіруемы металёвы аэрастат» (выдатны дзякуючы дапамозе бароўскіх сяброў), не знаходзілі прызнання навуковых сфер. І таму Цыялкоўскі заняўся літаратурнай працай. Гэтым разам ён напісаў апавяданне «Мары аб зямлі і небе».

Спачатку ён прачытаў яго сваім калужскім сябрам: Паўлу Канінгу і Васілю Асонаву.

Канінг быў у Калузе гаспадаром аптэкі, Асонаў быў падатковым інспектарам, але шмат ведаў і цікавіўся не толькі дакладнымі навукамі, але літаратурай і жывапісам. Быў ён аўтарам кніжкі «Галілей перад судом інквізіцыі» і перакладчыкам навуковых прац ■ галіны матэматыкі. У асяроддзі Калугі ён быў такой самай нязвыклай з'явай, як і Цыялкоўскі.

Высокі, дужы, са светлай кучаравай бародкай, заўсёды сардэчны і ветлівы, Асонаў адразу пасля першай размовы запрасіў Цыялкоўскага да сябе. Адзін з сыноў Асонава так апісаў гэты візіт:

«Памятую, нібы гэта было сёння: увайшоў мужчына ў асеннім паліто, вышэй сярэдняга росту, меў чорныя даўгія валасы і чорныя вочы. Быў ён у доўгім фраку з вельмі кароткімі рукавамі. У часе размовы адчуваў сябе нясмела і ўвесь час чырванеў. Бацька запрасіў яго ў залу і ў куце каля піяніна доўга з ім гутарыў аб выданні яго прац. Я стаяў у дзвярах і слухаў. Неўзабаве Канстанцін Эдуардавіч, усё яшчэ вельмі нясмелы, выйшаў, адзяваючы паліто ўжо за дзвярыма.

У часе абеду бацька сказаў нам, што гэты настаўнік выдатны матэматык і што трэба зрабіць усё, каб выдаць яго новыя працы. Лепш за ўсё будзе сабраць сярод знаёмых аванс на падпіску. Гэтым спосабам была выдана другая частка «Кіруемага металёвага аэрастата».

Неўзабаве ў Калузе знайшоўся яшчэ адзін (на жаль, няўдалы) мецэнат Цыялкоўскага. Быў гэта пляменнік вядомага рускага пісьменніка Ганчарова Івана Аляксандравіча. Прачытаўшы кніжкі Цыялкоўскага, ён

зацікавіўся глухім вучоным. Калі Асонаў расказаў яму аб новай фантастычнай аповесці Цыялкоўскага, якую той нядаўна чытаў яму, Ганчароў запрасіў да сябе абодвух сяброў.

У Ганчарова сабралася спорая грамадка гасцей. Пасля вячэры ўсе перайшлі ў кабінет гаспадара, дзе лакей ужо запаліў на пісьмовым стале вялікую лямпу. Госці паселі ў глыбокіх крэслах, Цыялкоўскі сеў ля стала.

— Прачытаю вам раздзел, у якім расказваю, што было б на Зямлі, каб знікла раптам сіла прыцягнення,— сказаў ён нясмела.

Прысутныя смяяліся, калі ён пачаў чытаць аб тым, што ўгледзелі вакол сябе яго героі, абудзіўшыся раптам у стане няважкасці.

«Па пакоі,— чытаў ён,— лёталі капелюшы, пінжакі, шалікі. Кніжкі на паліцах і розныя дробязі — усё гэта нібы ажыло і рухалася па пакоі, не маючы, як відаць, намеру адпачыць». 

— Не лепш было і на вуліцах горада,— чытаў далей Цыялкоўскі:

«Коні, вазы, людзі, нават дамы разам з падмуркамі і ўсім, што знаходзілася ў іх, насіліся ў паветры. Жанчыны падвязалі сабе ўнізе сукенкі, па-першае, таму, што ногі ім цяпер былі непатрэбны, а па-другое, што так абавязвала прыстойнасць...

У паветры лёталі каты, насякомыя, сабакі; птушкі рухаліся нязграбна, не ўмелі, відаць, прыстасавацца да новых умоў. А ўзвод салдат нібы забыўся аб дысцыпліне: адзін стаяў дагары нагамі, іншы — бокам, яшчэ іншы — як сагнуты слуп, а далей адзін стаяў на галаве ў другога».

— Гэта забаўна! — смяяліся госці, а гаспадар папрасіў Цыялкоўскага, каб той прачытаў яшчэ фрагмент з раздзела аб жыцці на астэроідах.

Цыялкоўскі прачытаў аб расліна-жывёлінах, якія не елі, не пілі, а толькі засвойвалі ежу пры дапамозе сонечных праменняў; пасля аб істотах, якія не хварэлі і не паміралі, а замест скуры былі пакрыты празрыстай шклопадобнай абалонкай.

Калі Цыялкоўскі скончыў, пачуліся воплескі.

— Гэта вельмі цікава! — казалі адны.

— Грунтоўна! — сцвярджалі іншыя.

— Казачкі для паслухмяных дзяцей,— прамармытаў нехта з гасцей, не баючыся, што Цыялкоўскі яго пачуе.— Захацелася настаўніку лаўраў Жуля Верна! Таксама ідэя!

Ганчароў думаў інакш.



— Гэтыя навукова-фантастычныя аповесці вельмі цікавыя,— заўважыў ён.— Асабліва падабаецца мне раздзел аб гэтых дзівосных разумных істотах, што жывуць на астэроідах.

— Брр! — скрывілася гаспадыня дому.— Будуць сніцца мне па начах.

Цыялкоўскі маўчаў. Звязвала яго тое, што ён дрэнна чуў. У гэтым элегантным асяроддзі не хацеў карыстацца трубкай, якую сабе зрабіў і ўжываў дома. Але нехта ўспомніў аб дзяку адной з мясцовых цэркваў, Кедраве.

— Гэты вар'ят прабаваў лятаць, прычапіўшы сабе штучныя крылы. Што вы аб гэтым думаеце, пан Цыялкоўскі? Гэта магчыма? — звярнуўся да Цыялкоўскага гаспадар.

Асонаў вельмі голасна пераказаў яму пытанне. Цыялкоўскі ўсміхнуўся і сказаў:

— Кедраў — летуценнік! Ён думае, што даволі прышпіліць крылы, памахаць імі, і ты паляціш.

— Гэта прабаваў ужо рабіць Леанарда да Вінчы,— заўважыў Ганчароў.— І яму таксама не ўдалося.

Цыялкоўскі падумаў аб тым, што зусім нядаўна, дзякуючы падтрымцы выдатнага фізіка, прафесара Маскоўскага універсітэта Сталетава, у часопісе «Навука і жыццё» быў надрукаваны яго артыкул «Самалёт, або падобная на птушку лятаючая машына». Але, відаць, ніхто з прысутных, апрача Асонава, яго не чытаў. Праз хвіліну ён сказаў:

— Я праціўнік сляпога пераймання прыроды і лічу самымі адпаведнымі для лятаючай машыны формы абцякальныя. Машыны, цяжэйшыя за паветра, не абавязкова павінны быць падобны на птушку. Лакаматыў не з'яўляецца дакладнай копіяй каня, а параход зусім не нагадвае рыбіну.

У гэты вечар гаварылі шмат і аб «выступленнях» сапраўднага «лётчыка», які прыехаў у Калугу. У тыя часы лётчыкі ездзілі з выступленнямі з горада ў горад, нібы вандроўныя акцёры.

— Уся Калуга збеглася, каб паглядзець на палёт Драўніцкага,— расказваў гаспадару Асонаў.— Яго шар узняўся на некалькі дзесяткаў метраў над зямлёй і з гукам лопнуў. Шчасце, што Драўніцкі меў парашут і своечасова выскачыў са свайго шара.

— Вось іменна,— паківаў галавой адзін з гасцей.— Я заўсёды казаў, што гэтыя шары, крылы, ці, як гаворыць шаноўны пан настаўнік, машыны цяжэйшыя за паветра — гэта небяспечная гульня.

— Так,— падтрымаў яго нехта.— Чалавек не створаны для палётаў. Гэта факт! Таму мне здаецца, што пан Цыялкоўскі дарэмна піша аб тым і дарэмна працуе над сваімі мадэлямі.

— Што вы гаворыце! — запярэчыў нехта з прысутных.— Я сам нядаўна чытаў у газеце паведамленне, што ўрад Злучаных Штатаў вызначыў вялікую прэмію, амаль 200 000 рублёў на нашы грошы, для вынаходніка, які да 1900 года сканструіруе лятаючую машыну, прыдатную для перавозкі пасажыраў.

— О! — уздыхнула адна з госцей.— Цяпер я разумею пана Цыялкоўскага. Гэтая сума варта турбот.

На шчасце, Цыялкоўскі не чуў таго, што казалі прысутныя. Сядзеў пануры над сваім рукапісам і думаў аб адным — ці захоча Ганчароў фінансаваць выданне працы «Мары аб Зямлі і небе». І таму ён вельмі быў рады, калі гаспадар, развітваючыся з ім, сказаў:

— Дапамагу вам апублікаваць вашу працу. Яна варта выдання.

Цыялкоўскі быў шчаслівы. Сам сачыў, каб на вокладцы кніжкі надрукавалі: «Выдавецтва А. Н. Ганчарова». Лічыў, што гэта найлепшы спосаб аказання ўдзячнасці. Атрымаўшы ■ друкарні першы экземпляр кніжкі, ён адразу ахвяраваў яго «выдаўцу». Але той, угледзеўшы на вокладцы сваё прозвішча, аж збялеў ад абурэння.

— Што? Як вы пасмелі? — аж захрып ён ад злосці.— Маё прозвішча на вокладцы гэтай бязглуздзіцы! Гэта нечувана! Не-чу-ва-на!

Ён крычаў так моцна, што Цыялкоўскі пачуў... Кроў кінулася яму ў галаву. Ён моўчкі пакланіўся і выйшаў. Яго нагі тут больш не будзе! Не

трэба ні грошай, ні дапамогі падобных паноў. Сам дасць сабе рады! Як заўжды! Як дагэтуль!

Не пакідаў працы. У 1896 годзе быў надрукаваны яго артыкул «Ці можа Зямля паведаміць жыхарам іншых планет аб тым, што на ёй жывуць разумныя істоты?». А ў наступным годзе глухі настаўнік з Калугі збудаваў першы аэрадынамічны тунель, з дапамогай якога можна было атрымаць дакладныя каэфіцыенты супраціўлення паветра для целаў рознай формы.

Апісанне гэтага тунеля і вынікі першых доследаў Цыялкоўскі паслаў у Расійскую Акадэмію навук, і тая, прызнаўшы гэтыя эксперыменты вельмі каштоўнымі, прызначыла яму аднаразовую субсідыю ў суме 470 рублёў, што дазволіла яму нейкі час праводзіць доследы над супраціўленнем паветра. Але гэта было ўсё...

Аднойчы Цыялкоўскага наведаў стары знаёмы з Бароўска Павел Галубіцкі. Цыялкоўскі ўзрадаваўся. Паказаў Галубіцкаму свой тунель і нават вытлумачыў формулу, якую вывеў. Формулу гэтую ведаюць цяпер ва ўсім свеце як формулу Цыялкоўскага, і служыць яна для вылічэння колькасці паліва, неабходнага для таго, каб ракета магла пераадолець сілу прыцягнення планеты і адарвацца ад яе.

Вярнуўшыся ў Бароўск, Галубіцкі ўвесь час вяртаўся думкай да постаці глухога, схуднелага чалавека з палаючымі вачыма генія. «Якая сіла волі, якая непахіснасць,— думаў ён.— Толькі чалавек геніяльны, глыбока перакананы ў слушнасці сваіх канцэпцый, здольны ў такіх умовах, у такой беднасці праводзіць сур'ёзныя навуковыя эксперыменты».

У артыкуле «Аб нашым праpоку», які Галубіцкі напісаў пасля ў калужскую газету, ён звяртаўся да людзей навукі, каб яны заняліся працамі Цыялкоўскага і ацанілі нарэшце іх значэнне.

Навуковы свет не звярнуў на артыкул у правінцыяльнай газеце ніякай увагі. Толькі школьнае начальства Калугі, нягледзячы на тое, што афіцыяльна Цыялкоўскаму дазвалялася выкладаць толькі ў пачатковай школе, у выніку гэтага артыкула прапанавала вучонаму пасаду выкладчыка фізікі ў сярэдняй жаночай школе, што вельмі папраўіла фінансы сям'і Цыялкоўскіх. Вара даўно марыла аб уласным даху над галавой, і пасля доўгіх пошукаў у 1905 годзе Цыялкоўскія купілі малы і танны драўляны дамок на вуліцы Каровінскай над самай Акой.

226 Нягледзячы на паводку, якая праз два гады наведала новую сядзібу Цыялкоўскага, дамок паволі, уласнымі сіламі аднавілі і дабудавалі мансарду, дзе Цыялкоўскі мог нарэшце спакойна працаваць (у дамочку гэтым знаходзіцца зараз музей Цыялкоўскага).

Мансарда была невялікая, але выгодная. Малы калідор вёў у невялікі пакой з двума вокнамі і ашклёнай верандай, з якой распасціраўся прыгожы краявід. Паміж вокнамі стаяў пісьмовы стол, на якім ляжалі кніжкі і рукапісы, перад імі — мяккае крэсла вучонага. Бібліятэка, жалезны ложак, жалезная печка і лямпа на доўгім шнуру — гэта была ўся абстаноўка.

Праўда, зімой тут было або страшна горача ад распаленай печкі, або холадна, калі гэта печка астывала. Улетку было душна пад нагрэтым ад сонца дахам. Але Цыялкоўскі адчуваў сябе тут шчаслівым. Займала яго цалкам адна справа — ракета, на якой чалавек зможа паляцець у космас.

**РАКЕТА ЗАВАЁЎВАЕ КОСМАС.** ● У 1913 годзе, у тым самым годзе, у якім два амерыканскіх механікі Орвіль і Вільбур Райт упершыню ўзняліся на самалёце на тры метры над зямлёй, трымаліся ў паветры 13 секунд, у рускім часопісе «Навуковы агляд» з'явіўся артыкул Цыялкоўскага «Вывучэнне касмічных прастораў пры дапамозе рэактыўных прыбораў».

Упершыню ў гісторыі сусветнай навукі Цыялкоўскі ў гэтым артыкуле выклаў тэорыю ракетнага палёту і абгрунтаваў магчымасці прымянення рэактыўных прыбораў для касмічнай сувязі. Сваім сябрам ён сказаў:

«Думка аб пранікненні ў касмічную прастору не пакідала мяне ніколі. А цяпер я знайшоў для гэтай праблемы навуковае рашэнне».

Артыкул свой Цыялкоўскі распачаў з высвятлення, чаму ракета можа перамагчы сілу зямнога прыцягнення. Не шары, якія могуць узнімацца толькі ў паветры, не выстраляныя гарматныя снарады, але іменна ракета дазволіць чалавеку ўзняцца ў касмічную прастору. Палівам тут не будзе порах, як у дасюль будаваных ракетах, але вадкі вадарод, а акісляльнікам — вадкі кісларод.

«Спачатку,— разважае Цыялкоўскі аб будучыні,— на ракеце можна будзе зрабіць падарожжа вакол Зямлі, пасля вакол Месяца, пасля даляцець да якой-небудзь з планет. Ракета зможа наблізіцца да Сонца або аддаліцца ад яго і стаць каметай, якая, блукаючы сярод зорак, наблізіцца да адной з іх. Зорка гэта стане для падарожнікаў і іх патомства новым сонцам. Чалавецтва створыць шмат касмічных баз вакол Сонца. Будаўнічым матэрыялам для гэтых касмічных баз будуць служыць планетоіды (невялікія нябесныя целы, існуючыя ў нашай Сонечнай сістэме).

Працаваў Цыялкоўскі, як заўсёды, вельмі шмат. Пісаў цяпер на дошцы (якую трымаў на каленях) алоўкам праз кальку, каб мець копіі сваіх твораў.

Адпачываў Цыялкоўскі мала. Раней гэтым адпачынкам была язда на веласіпедзе, цяпер набыў стары, ужываны матацыкл і ездзіў на ім на далёкія прагулкі.

Нядоўга, аднак, цешыўся сваім матацыклам. Аднойчы Вара з жахам убачыла праз акно, як яе муж цяжка сыходзіць з воза, сцягвае з яго часткі свайго матацыкла і, кульгаючы, ідзе дадому.

— Што сталася? — усклікнула, выбегшы на вуліцу.

— Матацыкл мой разваліўся, і я зваліўся ў прыдарожную канаву,— сказаў спакойна, расціраючы пабітае калена.

Так скончыліся прагулкі на матацыкле, і Цыялкоўскі зноў сеў на веласіпед. Веласіпед і рака. Ля вады адпачывалася найлепш, тут у цішыні ён разважаў і марыў.

Міналі гады.

Пецярбургскія вучоныя забыліся на свайго правінцыяльнага калегу. І раптам у 1911 годзе ўспомніў пра яго адзін з рэдактараў часопіса «Навіны паветраплавання» і звярнуўся з просьбай напісаць артыкул. Цыялкоўскі адказаў адразу.

«Я распрацаваў некаторыя пытанні, якія датычаць справы палёту ў касмічную прастору рэактыўных апаратаў, падобных да ракет. Матэматычныя вынікі, абгрунтаваныя навуковымі данымі, шмат разоў правераныя, паказваюць, што існуе магчымасць узлёту пры дапамозе гэтых апа-

ратаў у касмічную прастору, а таксама пасялення людзей па-за межамі зямной атмасферы».

Другая частка працы «Даследаванне касмічнай прасторы пры дапамозе рэактыўных апаратаў» (першая ў свой час была не заўважана) з'яўлялася цяпер у друку на працягу 1911 і 1912 гадоў. Чытачы і асабліва вучоныя былі здзіўлены і захоплены. Адзін з папулярызатараў дакладных навук, Уладзімір Румін, пісаў:

«Прачытаў раз, прачытаў другі з алоўкам у руках, правяраючы матэматычныя ўкладкі аўтара. Так! Гэта думка! Цыялкоўскі — гэта не толькі адзін з тых, каму ўдалося авалодаць паветранай стыхіяй. Гэта геній, які адчыняе наступным пакаленням шлях да зорак. Трэба, каб аб ім ведалі ўсе! Яго ідэі трэба зрабіць даступнымі самым шырокім колам чытачоў. Можа, знойдуцца сярод іх людзі, якія не толькі ацэняць веліч думкі Цыялкоўскага, але здолеюць дапамагчы яму ў яе рэалізацыі. Трэба толькі іх пераканаць, што Цыялкоўскі мае слушнасць, што палёты ў пазбаўленай паветра касмічнай прасторы з'яўляюцца магчымымі, што гэта не навуковая «фантазія», а зусім рэальная магчымасць».



Артыкул гэты, як і іншыя прыхільныя галасы, прынёс Цыялкоўскаму вялікую радасць, але не шмат змяніў у яго жыцці. Быў ён ужо чалавекам старым, стомленым цяжкай заробкавай працай і дарэмнай барацьбой аб прызнанні яго навуковых канцэпцый.

У 1918 годзе, калі ў Маскве пасля рэвалюцыі была арганізавана Сацыялістычная Акадэмія навук, Цыялкоўскі звярнуўся да яе за дапамогай.

Адказ прыйшоў хутка.

«Вы яшчэ не стары,— пісаў нехта ад імя Акадэміі.— Чакаем ад вас яшчэ вельмі шмат прац і пастараемся пазбавіць вас ад матэрыяльных цяжкасцей, якія перашкаджалі дагэтуль поўнаму развіццю вашых геніяльных здольнасцей».

Рука Цыялкоўскага, у якой трымаў пісьмо, дрыжала. У вачах стаялі слёзы. Аднак з прапановай пераезду ў Маскву не хацеў згадзіцца.

— Не,— сказаў ён рашуча жонцы.— Гэта ўжо запозна! Запозна! Я стары і хворы. Пераезд у Маскву мне не па сіле. Тут, аднак, дзякуючы дапамозе Акадэміі, я буду спакойна жыць і працаваць.

Першыя гады пасля рэвалюцыі былі вельмі цяжкія. Нягледзячы на дапамогу, якую Цыялкоўскі атрымліваў з Масквы, холад, голад і дарагоўля прыгняталі сям'ю вучонага. Цыялкоўскі зноў пачаў працаваць у школе, якую нядаўна пакінуў з прычыны дрэннага стану здароўя. У халодных, не ацепленых класах нялёгка было праводзіць урокі. Нялёгка было працаваць таксама ў неацепленай мансардзе. І, нягледзячы на ўсё гэта, Цыялкоўскі напісаў тады сваю новую фантастычную аповесць «Па-за Зямлёй». Як у шматлікіх папярэдніх сваіх працах, і тут ён аказаўся празарліўцам, паказаўшы на магчымасць міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне астранаўтыкі. Героі яго аповесці — француз Лаплас, англічанін Ньютан, немец Гельмгольц, італьянец Галілей, амерыканец Франклін і рускі Іваноў. Члены гэтага міжнароднага калектыву даследчыкаў носяць прозвішчы вялікіх вучоных, і толькі рускі завецца проста Іваноў. Яму, Іванову, Цыялкоўскі надаў рысы ўласнага характару. Гэта вучоны-фантаст, стваральнік касмічнай ракеты.

І зноў ракета. Гэтым разам як галоўны герой фантастычнай аповесці.

Чытачы часопіса «Прырода і людзі», у якім з'явілася аповесць, казалі аб ёй з захапленнем. Яе выдалі асобнай кніжкай. І, хоць выйшла яна толькі ў трохстах экземплярах, здабыла сабе славу не толькі ў Расіі, але і за мяжой.

Аднак жыццё аўтара не стала лягчэйшым.

У 1919 годзе памёр ад знясілення самы малодшы сын Цыялкоўскага Іван, пасля памерла ад сухотаў малодшая дачка Анна, а неўзабаве старэйшы сын, саракагадовы вясковы настаўнік Аляксандр.

Як і пасля смерці сына Ігната, які яшчэ ў 1903 годзе скончыў жыццё самагубствам, Цыялкоўскі папракаў сябе, што, захоплены працай, не дбаў аб здароўі сваіх дзяцей.

«Не піў, не курыў, не выдаваў лішняй капейкі на сябе,— раздумваў, седзячы гадзінамі бяздзейны ў сваім пакоі і пазіраючы праз дзверы веранды на спакойную ваду Акі.— Заўсёды хадзіў паўгалодны, дрэнна апрануты і, не звяртаючы на гэта ўвагі, прымушаў жонку і дзяцей да такіх самых ахвяр. А яны... Так, гэта я, гэта мой эгаізм скараціў жыццё маім бедным дзецям».

Сказаў неяк тое самае жонцы. Нахіліла нізка сваю гладка прычасаную, пасівелую галаву, каб не заўважыў слёз у яе стомленых вачах.

— Твае дзеці разумелі цябе добра,— сказала яна.— Ніколі не крыўдзіліся на цябе. Гэта цяжкія часы былі віной...

У 1932 годзе ўрачыста адзначалі 75-годдзе з дня нараджэння Цыялкоўскага. Сталічны друк прысвяціў шмат увагі юбіляру, у Калузе, дзе жыў і

працаваў сорак гадоў, назвалі вуліцу Каровінскую вуліцай Канстанціна Цыялкоўскага.

Юбіляр, аднак, не хацеў спачываць на лаўрах. З ахвотай чытаў лекцыі ў Клубе Лётчыкаў, які насіў у Калузе яго імя. Прыходзіў туды часамі проста [redacted] ложка.

— Уцёк ад урачоў,— сказаў за два месяцы да смерці, уваходзячы ў залу, дзе сабраліся слухачы.

— Можа, адкладзём лекцыю? — прабавалі пераканаць яго.

— Не, не! — запярэчыў Цыялкоўскі.— Мне з вамі лепш, чым у ложку. Маю лекцыю прачытае нехта іншы, а я сабе пасяджу і адкажу на пытанні.

Пасля лекцыі нехта са слухачоў голасна сказаў:

— Як шмат ён умее. Я зайздрошчу яго ведам.

Цыялкоўскі пачуў гэта і з усмешкай звярнуўся да аўдыторыі:

— Гэта я вам павінен зайздросціць, мае маладыя сябры. Калі б я і Мічурын... Калі б мы вучыліся ў вашых умовах, вы праводзілі б цяпер свае адпачынкі на Марсе і елі маліну вялікую, як дыня.

Калі першы касманаўт свету Юрый Гагарын у дзень 12 красавіка 1961 года апынуўся ў космасе, дык у яго было такое ўражанне, што ўсё тое, што ён бачыць і адчувае, добра ведае з кніжак і прац Цыялкоўскага.

«Яго меркаванні,— сказаў Гагарын карэспандэнтам газет,— у большасці выпадкаў аказаліся абсалютна прарочымі. Учарашні палёт пераканаў мяне ў гэтым».

Гэткай была сіла ўяўлення глухога настаўніка з Калугі, які першы паказаў чалавецтву шлях да зорак.

# МАРЫЯ І П'ЕР КЮРЫ

МАНЮСЯ. ● У Варшаве, у сэрцы адбудаванага Старога Мяста, на франтоне дома па вуліцы Фрэта, 16, вісіць сёння сціплая дошка, а на ёй надпіс:

У ГЭТЫМ ДОМЕ ПРЫЙШЛА НА СВЕТ
ДНЯ 7 ЛІСТАПАДА 1867 ГОДА
МАРЫЯ СКЛАДОЎСКАЯ-КЮРЫ.
У 1898 ГОДЗЕ АДКРЫЛА
РАДЫЕАКТЫЎНЫЯ ЭЛЕМЕНТЫ
ПАЛОНІЙ І РАДЫЙ.

У гэтым доме нарадзілася, тут расла, па яго (не існуючых сёння) галерэях бегала малая пульхная дзяўчынка са светлымі кучаравымі валасамі і шэрымі вачанятамі — будучая вялікая вучоная, двойчы ўзнагароджаная прэміяй Нобеля, Марыя Складоўская-Кюры.

Ніхто не можа прадбачыць будучыні дзіцяці. Ні бацька Марыі Уладыслаў Складоўскі, настаўнік фізікі і вопытны педагог, ні жонка яго, Браніслава, нават у самых смелых сваіх марах не маглі ўявіць сабе, што

*МАЛА ЁСЦЬ ЛЮДЗЕЙ,
ЖЫЦЦЁ ЯКІХ БЫЛО Б
ТАКІМ ЧЫСТЫМ
І ЗАСЛУЖАНА АЗОРАНА
НАЛЕЖНАЙ ІМ СЛАВАЙ.*

*Н. Жэрнэ*



вырасце з іх самай малодшай дачушкі, лагоднай і мілай Манюсі, якую дома называлі «Anciupecio».

— Гэта вельмі здольнае дзіця. Трэба стрымліваць яе разумовае развіццё, каб гэта не шкодзіла яе здароўю,— казалі бацькі.

Дзяўчынка, маючы чатыры гады, сама навучылася чытаць. Яна цудоўна лічыла і мела здзіўляючую памяць. І таму бацькі аддалі яе рана, разам са старэйшай на год Галенкай, у прыватны польскі пансіянат Ядвігі Сікорскай. І хоць Маня была самая малодшая ў класе, неўзабаве стала лепшай вучаніцай. У часе інспекцыі настаўнікі звычайна выклікалі яе, ведаючы, што Манюся Складоўская не падвядзе іх, што заўсёды адкажа добра на кожнае пытанне.

Адразу пасля прыходу інспектара стары швейцар Вінцусь падаваў сігнал — кароткі адрывісты званок. Проста праз неасцярожнасць кідаў званок на падлогу. У гэты дзень у класе Манюсі адбываўся забаронены пасля студзеньскага паўстання ўрок гісторыі Польшчы. Настаўніца расказвала вучаніцам аб панаванні апошняга Ягелы, але, пачуўшы адрывісты званок, спынілася на паўслове. 235

— Дзяўчынкі! — голас настаўніцы лёгка дрыжаў.— Схавайце, калі ласка, падручнікі гісторыі і дастаньце сваё рукадзелле. У нашым раскладзе ёсць урок рукадзелля.

У момант кніжкі павандравалі ў суседні пакой, дзе мясцілася спальня выхаванак, якія стала жылі ў пансіянаце. Калі праз хвіліну дзверы класа з трэскам расчыніліся, цёмныя і светлыя галоўкі вучаніц былі схілены над вышыўкай і гафтам. Загадчыца пансіяната ўвайшла бледная, але спа-

койная, следам за ёю ўвайшоў інспектар, высокі, шчуплы, з непрыемнай і суровай мінай.

Інспектар нейкую хвіліну моўчкі разглядаўся па пакоі, пасля прайшоўся паміж партамі, нібы незнарок зазіраючы пад пюпітры, ці няма там часам забароненых польскіх кніжак. Нарэшце ён загадаў выклікаць каго-небудзь з вучаніц.

— Марыя Складоўская,— сказала настаўніца, не зазіраючы нават у класны журнал.

Манюся ўстала. Яна глядзела толькі на настаўніцу і нібы не заўважала прысутнасці інспектара.

Інспектар загадаў назваць па чарзе ўсіх цароў з пануючай дынастыі Раманавых.



Маня адказала без запінкі.

Пасля інспектар загадаў назваць імёны ўсіх членаў царскай сям'і.

Маня зрабіла і гэта.

— Выдатна,— пахваліў ён дзяўчынку.

Але, нягледзячы на гэту пахвалу, Маня вярнулася дадому з чырвонымі ад слёз вачыма. Старэйшая сястра Броня, якая пасля смерці маці (Складоўская памерла ад туберкулёзу ў 1878 годзе, асіраціўшы чацвёра дзяцей) даглядала малодшых, спалохалася:

— Што сталася, Манюся? — устрывожана запытала яна, мімаволі захоўваючы тон і словы нябожчыцы-маці.

Манюся, ледзь стрымліваючы слёзы, расказала, што сёння адбылося ў пансіянаце.

— Заўсёды я! Калі б ні прыйшоў гэты агідны інспектар, заўсёды выклікаюць мяне! А я не хачу прыкідвацца, што люблю цара і яго сям'ю! Не хачу! Не хачу! — закончыла такім голасным выбухам плачу, што аж бацька выйшаў са свайго пакоя.

— Што гэта за шум? Што здарылася, Манюся? — заклапочана запытаў ён.

— Маня ў роспачы ад таго, што так добра ведае імёны царскай сям'і. Яна не хоча адказваць у часе візіту інспектара,— смеючыся адказала Броня.

Складоўскі пагладзіў кучаравую галоўку сваёй найменшай дачушкі:

— Супакойся, Манюся! Ты ж ведаеш, што, калі б ты не захацела адказваць на пытанні інспектара, настаўніца Сікорская была б сурова пакарана за тваё паводзіны. Ты ж не хочаш пакрыўдзіць яе.



Гэты аргумент падзейнічаў, і Маня супакоілася. Яна ж і сама марыла аб тым, што некалі, як і бацька, будзе выкладчыцай матэматыкі і фізікі ў польскіх школах, але мела надзею, што тады ўжо не будзе гэтых царскіх інспектараў.

— Як толькі скончу школу, адразу паеду на кандыцыю. Буду шмат зарабляць і дапамагу Броні паехаць у Парыж, каб яна магла нарэшце заняцца медыцынай,— марыла Маня. Заўважыўшы недаверлівую ўсмешку сястры, горача запэўніла:

— Я ўсё ўжо добра абдумала. Спачатку ты паедзеш вучыцца, а я буду працаваць і пасылаць табе ўсе зробленыя грошы. А пасля, калі ўжо ты пачнеш працаваць, я буду вучыцца далей і паступлю на аддзяленне фізікі.

Бацька з усмешкай прыслухоўваўся да яе разважанняў.

— Так, так,— згаджаўся ён.— Калі Манюся была яшчэ зусім малая, мае фізічныя прылады былі яе самымі любімымі цацкамі. З яе напэўна будзе здольны фізік.

Неўзабаве бацька перавёў Маню з пансіяната ў рускую гімназію, бо прыватныя польскія школы не давалі службовых правоў. Броня і Юзік скончылі ўжо гімназію з залатымі медалямі. Знаёмыя і прыяцелі бацькі былі ў захапленні: «Якія здольныя гэтыя дзеці Складоўскага. Два залатыя медаля ў адной сям'і!»

А Броня расказвала, якая гэта была помпа — урачыстае ўручэнне дыпломаў і медалёў.

— Сам генерал-губернатар Апухцін паціснуў мне руку... Брр... Такі тоўсты і брыдкі, як рапуха.

Бацька замахаў рукамі.

— Даволі, Броня,— прасіў з жартоўнай павагай,— бо Манюся гатова будзе адмовіцца ад залатога медаля, каб толькі не дакранацца да далоні генерал-губернатара.

І Маня таксама скончыла гімназію з залатым медалём і так пісала аб тых часах пазней у сваёй аўтабіяграфіі:

«Было мне пятнаццаць год, калі скончыла гімназію, заняўшы першае месца ў класе. Знясіленая празмернай працай у перыяд свайго фізічнага развіцця, я вымушана была амаль цэлы год адпачываць на вёсцы. Вярнулася пасля ў Варшаву з намерам выкладаць матэматыку ў прыватных школах. Неўзабаве, аднак, сямейныя ўмовы прымусілі мяне адмовіцца ад

гэтага. Бацька мой вымагаў ужо адпачынку, а яго фінансавыя рэсурсы былі вельмі сціплыя. Вырашыла стаць хатняй настаўніцай на вёсцы. Такім чынам на семнаццатым годзе жыцця я пакінула бацькоўскі дом, каб распачаць самастойнае жыццё».

Гэта «самастойнае жыццё» было нічым іншым, як некалькі год «гувернанткі» ў панскіх маёнтках. Маня вучыла дзяцей сваіх хлебадаўцаў, а ў вольны час вучылася сама і згодна з ідэалогіяй эпохі, у якую яна ўваходзіла ў жыццё, эпохі трыумфуючага пазітывізму з яго лозунгамі працы з людзьмі і для людзей, вучыла вясковых дзяцей, якія прыходзілі на яе ўрокі ў панскі палац.

«Дапамагала мне старэйшая дачка памешчыка,— успамінала яна пазней.— Мы вучылі малых дзяцей і старэйшых дзяўчат, калі яны хацелі да нас прыходзіць, чытаць і пісаць, знаёмілі з польскімі кніжкамі. Але нават і гэта нявінная асветніцкая праца была небяспечнай, бо ўсялякая ініцыятыва гэтага роду забаранялася ўрадам і пагражала астрогам або ссылкай у Сібір».

Маладая, прыгожая і інтэлігентная настаўніца карысталася любоўю і павагай людзей. Жартавалі, праўда, што, калі яна нешта чытае, забываецца аб усім на свеце і можна тады яе вынесці з пакоя. Усіх чыста здзіўляла яе нязвыклая памяць, жывы розум і спартыўныя таленты. Зімой каталася на каньках, летам выдатна плавала, веславала і ездзіла конна, танцавала да ўпаду і нават пісала вершы.

Некалі напісала верш сваёй сяброўцы, якая выходзіла замуж за іншаземца:

Бывай, сястрычка, і, хоць у краіне
Чужой па ўласнай волі жывеш,
Не забывайся ты аб айчыне,
Што сваёй мілай Польшчай завеш.

Нашу бедную мову нявечаць—
Хочуць пазбавіць яе надзей,
Ды толькі ў сэрцах жыве чалавечых
Вера ў заўтрашні яе дзень.

Ля роднага вогнішча і на чужыне
Помні, што полькай завешся ты.
Роднае неба, польскае, сіняе,
Хай над табою ззяе заўжды.



Яна не ведала тады, не прадчувала, што іменна яе сэрца ў чужой краіне застанецца польскім.

Мінула некалькі год. Броні ўжо не патрэбны былі гэтыя 15—20 рублёў, якія рэгулярна пасылала ёй Маня са сваіх сціплых заработкаў. Яна скончыла ў Парыжы медыцынскі факультэт і выйшла замуж за калегу-ўрача Казіміра Длускага. Цяпер яна клікала да сябе малодшую сястру.

«Ты таксама павінна падумаць аб сваім лёсе, Манюся,— пісала яна ў 1890 годзе.— Калі зможам сабраць некалькі соцень рублёў на працягу гэтага года, тады прыедзеш увосень сюды і паселішся ў нас. Гэтыя некалькі сот рублёў абавязкова патрэбны для аплаты навучання ў Сарбоне. Гэты першы год ты жыла б разам з намі, а ў наступныя два гады будзе вымушаны дапамагаць табе бацька».

Мінуў яшчэ цэлы год, пакуль Маня змагла паехаць у Парыж. Гэты год яна жыла разам з бацькам у Варшаве, давала ўрокі, збірала грошы на ад'езд, займалася, каб пасля было лягчэй у парыжскай Сарбоне.

Яна акуратна наведвала лекцыі ў тайным «лятаючым універсітэце» і ўсе вольныя хвіліны праводзіла ў Музеі прамысловасці і сельскай гаспадаркі на Кракаўскім Прадмесці, дзе займалася доследамі па падручніках фізікі і хіміі.

І нарэшце ўвосень 1891 года Складоўскі з Гэляй праводзіў Маню на вакзал. Ехала ў Парыж у чацвёртым класе, але не баялася цяжкасцей дарогі. Яна б адчувала сябе зусім шчаслівай, каб не разлука з бацькам.

Суцяшала сябе і яго, што праз два гады вернецца дадому, каб тут працаваць і прыносіць карысць Айчыне. Тады яны ўжо ніколі не расстануцца. Бацька ківаў сівой галавой і ўжо ў соты раз цалаваў дачку. Пасля ён доўга стаяў на пероне і махаў капелюшом, хоць цягнік ужо даўно знік за паваротам.

Яго вусны пад сівымі вусамі шапталі:

— Анціурэсіо! Маё любае малое Анціурэсіо!

КАХАННЕ. ● У Парыжы Марыя пасялілася ў Длускіх, але неўзабаве пакінула іх гасцінны дом, бо лічыла, што пераезд з вуліцы Альмань, дзе жылі Длускія, да Сарбоны займае шмат часу. І таму праз некалькі месяцаў яна абвясціла сястры, што наняла сабе пакой у Лацінскім квартале, непадалёк ад Сарбоны.

Броня была засмучана.



9 Зак. 1710

— На шостым паверсе? На паддашшы? І сама будзеш цягаць вугаль і ваду? Ці не шкада грошай на гэты пакой? Не думай, што гэтыя сто франкаў, якія маеш у месяц на ўтрыманне, у Парыжы нейкая сума. Парыж даражэйшы, чым Варшава.

Маня ўзняла бялявую галаву над сакваяжам, у які складала свой сціплы гардэроб.

— Броня, мілая! Але ж пераезд амнібусам таксама нечага каштуе. А час? Адсюль да Сарбоны я еду амаль гадзіну...

На мансардзе, якую наняла Маня, вада ў місцы зімой на працягу ночы замярзала. Але Маня адчувала сябе шчаслівай, магла цалкам, як ніколі дасюль, аддацца навуцы. Ела абы-што і абы-як, што відавочна дрэнна адбівалася на яе здароўі. Аднойчы яна нават самлела ад знясілення. Не пайшла пасля абеду на заняткі і сядзела над нейкай кніжкай у зімовым паліто і пальчатках, калі раптам пачуліся нечыя крокі на лесвіцы.

— Можна?

— Гэта ты, Казімір? — здзівілася Маня.

Доктар Длускі ўвайшоў і зачыніў за сабой дзверы. Нейкую хвіліну яго вясёлыя лагодныя вочы аглядалі з цікавасцю мансарду.

— Добры дзень,— сказаў ён нарэшце.— Прыслала мяне, як ты, мабыць, здагадваешся, Броня. У яе цяпер пацыенты, і яна не можа выйсці з дому, а вельмі аб табе непакоіцца.

— Аба мне? — Маня падсунула швагру адзінае крэсла, а сама села на ложку.— Але ж няма прычыны пра мяне непакоіцца.

— Няма прычыны? А хто самлеў ад знясілення, мая мілая? Цудоўна! Цудоўна!

Заўважыўшы здзіўленне Марыі, ён сказаў:

— Прыбегла да нас адна з тваіх сябровак. Была вельмі напалоханая. А паколькі я па просьбе бацькі з'яўляюся тваім афіцыйным апекуном, дык збірай манаткі і паедзем да нас. Броня загадала.

Маня спрабавала бараніцца:

— Дай спакой, Казімір. Ну зрабілася мне і сапраўды млосна, але ж адразу прайшло. Дарэмна непакоіцеся і ты і Бронька.

Доктар дастаў з кішэні люстэрка і падсунуў швагерцы.

— Глянь, як ты выглядаеш, дзяўчына. Схуднелая, бледная, вочы запалі. Калі так пойдзе далей, дык захварэеш на сухоты або на запаленне лёгкіх. Холадна тут у цябе, як у псярні.

Марыя не здавалася:

— Удзень я тут бываю мала, а ўночы так нават здаравей. Мне зусім не холадна. Кладу на коўдру ўвесь свой гардэроб, а зверху крэсла, каб нічога не ўпала, і сплю, як суслік. Чэснае слова.

— Спіш пад пірамідай, нібы тая мумія егіпецкага фараона,— заўважыў саркастычна доктар Длускі.— Не верыцца мне, аднак, што табе ўтульна і цёпла.

Маня махнула рукой.

— Гэта глупства. Кладуся спаць вельмі позна, і ўстаю на досвітку. Шкада часу на спаннё. Хачу атрымаць дыплом па матэматыцы і фізіцы адначасова, каб мець права выкладаць у школах абодва гэтыя прадметы.

Гэта вельмі важна. Калі вярнуся ў Варшаву і буду жыць зноў разам з бацькам...

Казімір перапыніў яе:

— Калі так пойдзе далей, не вернешся туды ніколі. Нельга жыць адным паветрам і працай. Зараз я забіраю цябе да нас, а пасля паглядзім.

Ён сказаў так катэгарычна, што Марыя ўжо не пярэчыла і ўзялася складаць свае рэчы і кніжкі.

Пражыла яна ў Длускіх два тыдні. Броня інтэнсіўна карміла яе і разам з Казімірам пільнавала, каб яна не чытала ўночы, а спала...

Пасля звароту ў сваю мансарду Марыя пачала працаваць з яшчэ большай энергіяй. У 1893 годзе яна скончыла вучобу і амаль адразу атрымала заказ: даследаваць магнетычныя ўласцівасці розных гатункаў сталі. Атрымаўшы задатак, перш за ўсё вярнула сціплую стыпендыю, якую выплачвалі ёй пэўны час у Сарбоне.

— Можа, хто іншы яе выкарыстае, а я ўжо сама зараблю на свае выдаткі.

Як жа яна была рада гэтым першым, заробленым у Францыі, грошам і самастойнай цікавай працы, якую атрымала. Але пакуль што Марыя не мела дзе праводзіць патрэбных доследаў.

Яна расказала аб сваім клопаце прафесару Кавальскаму, якога ведала яшчэ ў Варшаве і які цяпер выкладаў фізіку ў Фрыбургскім універсітэце і на нейкі час прыехаў у Парыж.

Прафесар Кавальскі абяцаў дапамагчы ёй.

— У суботу будзе ў нас прафесар П'ер Кюры. Ён вельмі адукаваны чалавек і ахвотна дапамагае калегам. Працуе ён у Вышэйшай школе фізікі і хіміі на вуліцы Лямонд і напэўна дапаможа вам.

П'ер Кюры? Марыя не ведала асабіста гэтага маладога вучонага, але чула шмат аб яго працах.

«Я ўвайшла ў пакой,— успамінала яна пазней,— і заўважыла маладога статнага чалавека. У яго былі каштанавыя валасы і блакітныя ясныя вочы. Кюры стаяў у нішы адчыненых дзвярэй балкона. Сур'ёзны і мілы выраз яго твару, а таксама пэўнае вонкавае занядбанне яго высокай постаці выдавала ў ім летуценніка, заглыбленага ў сваіх думках. Ён выказаў мне шчырую сардэчнасць і паказаўся вельмі сімпатычным».

Французскаму вучонаму таксама спадабалася маладая светлавалосая іншаземка, якая ўмела слухаць сур'ёзна, без какецтва. Ён гаварыў з ёю аб сваіх доследах у галіне крысталаграфіі, пісаў на паперы формулы, якія гэта абаяльная дзяўчына разумела і аналізавала з пранікнёнасцю саліднага вучонага. Вялікія разумныя вочы П'ера пазіралі на Марыю з сардэчнай добразычлівай зацікаўленасцю.

Выйшлі разам з атэля, у якім спыніўся прафесар Кавальскі. Была вясна. Вакол іх шумеў гаманлівы Парыж. Цвілі каштаны. На вуліцах прадавалі фіялкі. Лёгкая блакітная смуга засланяла перспектывы вуліц.

Калі развіталіся, П'ер запытаў Марыю, ці можа ён наведваць яе, і запісаў адрас.

Жыла Марыя, як даўней, на шостым паверсе. «Гэта было ўбогае памяшканне, якое адпавядала маім, больш чым сціплым, сродкам утрымання,—

успамінала Марыя.— Аднак я адчувала сябе тут вельмі шчаслівай. Я атрымала нарэшце, на 25 годзе жыцця, магчымасць весці сур'ёзную навуковую працу, што было здаўна маім гарачым жаданнем. П'ер Кюры наведваў мяне, выказваючы шчырую сімпатыю майму працавітаму жыццю. Казаў часта аб тым, што марыць цалкам прысвяціць сваё жыццё навуцы, і запытаў аднойчы, ці згаджуся я дзяліць з ім гэта жыццё».

Марыя не магла адразу адказаць маладому вучонаму. Аддзяляў яе ад П'ера яе бедны заняволены край, якому хацела служыць здабытымі ведамі. Аддзяляла яе ад П'ера пачуццё абавязку — абавязку перад Айчынай і перад старым бацькам. Старалася вытлумачыць П'еру, што палякі не маюць права пакінуць сваю Айчыну, што яна мусіць вярнуцца на радзіму, што там менавіта мусіць працаваць... Ах, столькі было гэтых «мусіць» і так цяжка было П'еру з імі змагацца! І Марыя выехала.



Пісьмы, якія гэтым летам 1894 года пісаў ёй П'ер, былі перапоўнены тугой і трывогай: ці вернецца? Ці не забудзе?

«Абяцалі мы адзін аднаму, праўда? — пісаў 10 верасня,— вялікую, узаемную дружбу. Каб вы не змянілі думкі! Ёсць рэчы, якіх сабе загадаць нельга, і абяцанні тут у разлік не прымаюцца. А як жа было б цудоўна — нават не магу ў гэта паверыць — калі б мы пражылі жыццё разам, захопленыя нашымі ідэаламі: вашым патрыятычным ідэалам і нашым агульначалавечным і навуковай працай».

А праз некалькі дзён пісаў зноў:

«Не адважыўся ўсё ж прыехаць да Вас, разважаў над гэтым цэлы дзень, і вынік быў негатыўны. Прачытаў Ваша пісьмо, і ў мяне спачатку

склалася ўражанне, што Вы не вельмі хочаце, каб я прыехаў. Пасля падумаў, што Вы, аднак, вельмі мілая, калі дазваляеце мне правесці з вамі тры дні. Я гатоў быў ужо ехаць да Вас. Пасля мне зрабілася сорамна, што я праследую Вас паміма Вашай волі. Урэшце я прыйшоў да пераканання, што прысутнасць мая будзе непрыемнай для Вашага бацькі і сапсуе яму радасць побыту з Вамі.

Цяпер, калі позна ўжо, шкадую, што не паехаў да Вас. Бо, магчыма, гэтыя тры дні, праведзеныя разам, яшчэ больш узмацнілі б нашу ўзаемную дружбу, дапамаглі б не забыць адзін аднаго на працягу гэтых двух з палова месяцаў разлукі, якая нас чакае...»

Праз месяц пісаў зноў:

«Вы, мабыць, уяўляеце, як Ваш ліст устрывожыў мяне. Вельмі раю Вам вярнуцца ў Парыж у кастрычніку. Я быў бы вельмі засмучаны, калі б Вы не вярнуліся. Не праз свой эгаізм раю Вам вярнуцца. Я лічу, што Вам тут будзе значна лепш працаваць і вынікі гэтай працы будуць больш значныя».



Для Марыі летнія месяцы 1894 года былі месяцамі цяжкіх выпрабаванняў. Яна хоча выканаць наказы патрыятычнага абавязку, хоча служыць Польшчы здабытымі ведамі і адначасова ■ гэтым марыць аб далейшай навуковай працы. Яе заняволены край убогі і заняпалы. Ні ў Варшаве, ні ў Кракаве не знайшлося месца ў лабараторыі, тым больш для жанчыны. І Марыя вырашае вярнуцца ў Парыж. Аб бацьку непакоіцца няма чаго. Складоўскі жыве ў сына Юзэфа, вядомага цяпер у Варшаве ўрача.

Даглядае яго дзяцей і адчувае сябе шчаслівым. Але найшчаслівейшы быў П'ер.

«Вы вернецеся ў Парыж! — пісаў ён 17 верасня 1894 года.— Я вельмі гэтаму рады. Горача прагну, каб мы сталі, прынамсі, неразлучнымі прыяцелямі. А Вы падзяляеце маю думку?»

Відаць, і Марыя была згодна з гэтай думкай, бо пасля яе звароту П'ер зноў часта наведваў яе. Зноў, як і перад яе ад'ездам, дамагаўся, каб стала яго жонкай. Калі нельга інакш, ён гатовы нават паехаць з ёю ў любую Польшчу...

— Буду зарабляць на жыццё ўрокамі французскай мовы. А з часам знайду работу ў якой-небудзь лабараторыі,— казаў ён Марыі.


Не, гэтай ахвяры Марыя прыняць не можа, не павінна. Гэта знішчыла б навуковыя магчымасці П'ера, яго будучыню вучонага, а яна ведае, разумее лепш за іншых, як шмат даў гэты вучоны і як шмат яшчэ здолее даць.

Шлюб Марыі і П'ера адбыўся 25 ліпеня 1895 года ў мясцовасці Со пад Парыжам, у доме бацькоў П'ера. Бацька П'ера, высокі, блакітнавокі стары, быў урачом, чалавекам чулым і прагрэсіўным. Яшчэ будучы студэнтам, у часе рэвалюцыі ў 1848 годзе дапамагаў параненым, а ў часе Парыжскай Камуны арганізаваў у сваёй кватэры палявы шпіталь, куды зносілі параненых з бліжэйшых барыкад. Сустрэўшыся пасля з варожасцю адсталых людзей і клерыкалаў, ён пасяліўся з сям'ёй у Со на вуліцы Саблён (цяпер вуліца П'ера Кюры) у малым дамочку, які хаваўся ў зеляніне прыгожага саду. У гэтым садзе, у засені старых дрэў, ён прымаў вясель-

ных гасцей, дзелячы паміж імі традыцыйнага індыка. Маці П'ера, малая, поўная і хворая кабета, і яго старэйшы брат Якуб, прафесар мінералогіі ў Монпелье, частавалі гасцей вялізнымі персікамі з уласнага саду.

Марыя ззяла шчасцем і выглядала цудоўна ў сваім сціплым сінім касцюме (падарунак маці доктара Длускага) і сіняй у блакітныя пасачкі блузцы. Яе цудоўныя пушыстыя валасы стваралі арэол над высокім чалом з упартай зморшчынай між бровамі.

Вочы П'ера смяяліся радасна, калі ён вітаў бацьку Марыі і яе сястру Гэлю, якія прыехалі з Польшчы на шлюб Марыі. Ім таксама падабаўся гэты тыповы француз, жывы, вясёлы, гаваркі. Калі пасля абеду моладзь занялася французскай гульнёй у «буль» (драўляныя шары), Складоўскі сказаў па-французску бацьку П'ера:



— Марыя будзе для вас добрай дачкой. Мне яшчэ ніколі ў жыцці яна не зрабіла ніякай прыкрасці.

Тым часам маці П'ера шаптала ў вуха Броні Длускай:

— Няма на свеце другога такога, як мой П'ер. Марыя будзе за ім шчаслівая.

Маладыя Кюры пасяліліся ў сціплай кватэры непадалёк ад Вышэйшай школы фізікі і хіміі, дзе П'ер выкладаў крысталаграфію і электрычнасць. Два сталы для працы, пара крэслаў, ложак, крыху кухоннага абсталявання — гэта была ўся іх абстаноўка. Заробткі П'ера былі невялікія, Марыя, жадаючы атрымаць пасаду ў вышэйшай жаночай школе, рыхтавалася да экзамену. Падзяляючы час паміж вучобай і гаспадарскімі справамі, да

чаго яна зрэшты прызвычаілася на працягу некалькіх год студэнцкага жыцця.

Не любілі траціць час на візіты, на падтрымліванне адносін з людзьмі, якія іх не цікавілі, а таму ў іх доме апрача Броні, яе мужа і Якуба Кюры бывалі толькі самыя блізкія сябры і супрацоўнікі П'ера.

Дні адпачынку і канікулы маладыя Кюры праводзілі ў падарожжах на веласіпедах. На сваіх цудоўных веласіпедах (шлюбны падарунак сям'і П'ера) яны наведалі даліны Жэвэн і горы Оўэрні, меланхалічнае ўзбярэжжа Брэтані і цудоўныя лясы пад Парыжам. Здаралася, што ў часе гэтых вандровак іх захоплівала ноч. Збочвалі тады дарогай, скупанай фантастычным ззяннем месяца, да бліжэйшай сядзібы. Прывозілі з гэтых падарожжаў цэлыя бярэмы барвенкаў, анемонаў, верасу. Часта таксама бывалі ў Со ў бацькоў П'ера, дзе чакаў іх заўсёды даўні пакой П'ера.

Улетку 1897 года, калі Марыя чакала дзіця, у Парыж прыехаў яе бацька, каб догледзець сваю Манюсю і вывезці яе з душнага горада, бо П'ер не меў пакуль магчымасці пакінуць Парыж. Бацька ■ дачкой пасяліліся ў Брэтані, у мясцовасці Порт-Блан у «Атэлі шэрых скал». Марыя штодзень чакала пісьма ад П'ера. На працягу двух гадоў шлюбнага жыцця яны ніколі не разлучаліся, і цяпер дзень здаваўся Марыі шэрым, калі яна не атрымлівала ад мужа хоць бы некалькіх слоў.

П'ер пісаў па-польску:

«Маё малае дзіця, і любае, і мілае, кахаю цябе вельмі і адчуваю сябе вельмі шчаслівым».

А паколькі па-польску ў яго яшчэ не вельмі ішло, дадаваў па-французску:

«Аб табе думаю, любая. Ты напаўняеш маё жыццё. Мне здаецца, што, засяроджваючы свае думкі выключна на Табе, я павінен Цябе ўбачыць, ведаць, што робіш, а таксама даць Табе адчуць, што ўвесь у гэтую хвіліну належу табе,— аднак не магу ўявіць сабе Твайго вобраза».

Стары Складоўскі па вясёлым твары Марыі, па яе ззяючых вачах адразу здагадваўся, што прыйшло пісьмо ад П'ера. Але ні аб чым не пытаў — і так ведаў, што яго Манюся шчаслівая.

12 верасня 1897 года нарадзілася дачушка, якой далі імя Ірэн. Дачка гэта з часам стала выдатнай вучонай. Але цяпер разам з гэтай малой істотай у жыцці Марыі з'явіліся новыя клопаты і трывогі. Давала, аднак, сабе рады. Раніцай яна выпраўляла няню з дзіцем на прагулку, а сама гатавала абед. Будучы добрым фізікам, Марыя заўсёды так рэгулявала газ, што ў яе ніколі нічога не прыпальвалася і не выкіпала. Вярнуўшыся з лабараторыі, дзе працавала над магнетызмам гартаванай сталі, заканчвала гатаваць абед, а ўвечары разам з П'ерам яны елі і гутарылі аб дзіцяці і працы.

У гэты час памерла маці П'ера, і доктар Кюры пераехаў да сына. З гэтай хвіліны дзядуля пачаў клапаціцца аб дзіцяці і неўзабаве стаў «лепшым прыяцелем дзяўчынкі, чулым і разумным выхавацелем» *.

---

* Эва Кюры «Марыя Кюры».

**У КАМОРЫ НА ВУЛІЦЫ ЛЯМОНД.** ● У гэтым самым 1897 годзе, калі нарадзілася малая Ірэнка, Марыя пачала працаваць над сваёй доктарскай дысертацыяй. Доўга думала над тым, якую навуковую праблему зрабіць яе тэмай.

— Хачу, каб гэта была тэма новая і цікавая,— марыла Марыя.— Каб давала прастор для добрых і пладавітых даследаванняў.

П'ер раіў адно, адмаўляў другое. Слухала яна, як заўсёды, з вялікай увагай, з якой вучаніца слухае свайго настаўніка. Была вельмі рада, калі ён прапанаваў ёй тэму, якую ўрэшце яна і абрала і якую лічыла вельмі цікавай і творчай. Вырашыла даследаваць усебакова з'яву, нядаўна адкрытую Генрыхам Бекерэлем. Бекерэль знайшоў, што мінералы, якія ўтрымліваюць даволі рэдка (як тады лічылі) элемент урану, што сустракаецца

252 ў прыродзе, вылучаюць праменні, прычым праменні гэтыя адрозніваюцца ад звычайных праменняў святла, як і ад праніклівых праменняў $x$, знойдзеных нядаўна нямецкім фізікам.

— Я хачу даследаваць генезіс выпрамсньвання, адкрыты Бекерэлем, даследаваць паходжанне энергіі, якая ў форме праменняў стала вылучацца са спалучэння урану. Цікавіць мяне гэта дасюль яшчэ не даследаваная цудоўная радыёактыўнасць.

— Радыёактыўнасць,— паўтарыў П'ер.— Прыгожа назвала ты гэту з'яву, дарагая.

Яны сядзелі за вячэрай. Ірэна ўжо спала. Дзядуля пайшоў у свой пакой. У вячэрняй цішыні голасна адгукнулася вымаўленае П'ерам новае слова: радыёактыўнасць.

І Марыя ўзялася за работу, хоць было гэта зусім няпроста і нялёгка. На шчасце, дырэктар фізічнай школы прыняў пад увагу просьбу прафесара Кюры і дазволіў яго жонцы абсталяваць сабе лабараторыю ў памяшканні на першым паверсе, заваленым розным хламам. Марыя праседжвала цяпер тут цэлымі днямі. П'ер таксама прыходзіў сюды пасля заняткаў і лекцый.

У самым пачатку сваёй працы Марыя адкрыла, што інтэнсіўнасць выпраменьвання прапарцыянальна ўтрыманню урану ў даследуемым рэчыве. Аднак Марыя не магла згадзіцца з тым, што вылучае праменні толькі ўран.

— Не ўяўляю сабе,— казала яна П'еру,— каб гэтая асаблівая ўласцівасць была прывілеяй толькі аднаго элемента.

Аказалася неўзабаве, што інтуіцыя яе не падвяла. Пасля цэлага шэрагу доследаў яна адкрыла радыёактыўнасць яшчэ аднаго элемента — торыю — і з трыумфам паведаміла аб гэтым П'еру. Але аднойчы сустрэла яго вельмі засмучаная.

— П'ер,— сказала яна.— Ты павінен мне дапамагчы. Заўважыла нешта, чаго не здолею вытлумачыць.— І, не чакаючы пытанняў, казала далей: — Ты ведаеш (даследавала гэта шмат разоў), што выпраменьванне уранавай руды заўсёды было прапарцыянальна колькасці ўтрымання ў ёй урану. Тое самае адбываецца з торыем. І раптам сёння сустрэлася з зусім іншай з'явай.

Падвяла яго да дошкі, на якой занатоўвала вынікі сваіх вылічэнняў:
— Глядзі. Бачыш заключныя пазіцыі? Вось гэты кавалак руды выпра-

меньвае ў тры разы больш, чым павінен выпраменьваць згодна з колькасцю урану, якая ў ім утрымліваецца. А той ажно ў чатыры разы больш. Як гэта вытлумачыць? Што ты думаеш аб гэтым, П'ер?

— Магчыма, ты памылілася ў вылічэннях?

— Не,— запярэчыла яна.— Рабіла кожнае вылічэнне шмат разоў.

П'ер узяў паперу і аловак, прысеў да стала і доўга правяраў вылічэнні. Нарэшце кінуў аловак і сказаў:

— Усё правільна. Вынікі маіх вылічэнняў супадаюць з тваімі.

— Дык чаму ж гэтыя два кавалкі уранавай руды выпраменьваюць болей? — запытала Марыя, пазіраючы на мужа.

— Не ведаю,— сказаў ён,— сапраўды не ведаю. Можа, таму, што гэтыя пробы руды іншага геаграфічнага паходжання.



Але Марыя ўжо ведала.

— Слухай! Гэта ж ясна! Толькі цяпер я зразумела. Сапраўды гэта уранавая руда іншага паходжання, як ты заўважыў, можа змяшчаць у сабе яшчэ нейкую невядомую, але значна мацнейшую ад урану і торыю выпраменьваючую субстанцыю, нейкі невядомы радыёактыўны элемент.

П'ер паглядзеў на жонку. Заўсёды спакойная і стрыманая, цяпер яна дрыжала ад хвалявання. Ён абняў яе і, жадаючы супакоіць, сказаў:

— Твая гіпотэза зусім правільная, але, каб яе давесці, трэба гэты новы элемент адасобіць, а гэта не так проста, мая любая.

Марыя схапіла мужа за руку:

— Слухай, П'ер, калі ты мне дапаможаш, калі аб'яднаем нашы веды і сілы, мы знойдзем, напэўна знойдзем нязнаны дагэтуль выпраменьваючы элемент і пакажам яго свету.

П'ер агледзеў са смуткам захламленую «лабараторыю» Марыі і пакруціў галавой:

— Не, гэта немагчыма. У такіх умовах? Мы не маем ні грошай, ні адпаведнага памяшкання, ні персаналу.

Але Марыя не хацела, не магла адмовіцца ад сваёй задумы. У западаючым змроку яе светлыя валасы ззялі, нібы выпраменьваючы уран, а яе звычайна такія спакойныя ясныя вочы гарэлі агнём.

— Гэта дробязі, П'ер! Я гатова абысціся без усялякай дапамогі. Я не магу адмовіцца ад уранавай руды, у якой трэба шукаць радыёактыўны элемент. Як здабыць гэтую руду? Падумай, П'ер.

Захапленне Марыі заўсёды перадавалася П'еру, і ён заняўся пошукамі патрэбнай руды.

Адна з капальняў урану ў Іахімове *, дзякуючы падтрымцы Венскай Акадэміі навук, згадзілася за невялікую плату прадаць прафесару Кюры адыходы з перапрацоўкі смалістай бленды, самага багатага на уран метала. Адыходы гэтыя змяшчалі ў сабе столькі урану, што яго аж надта хапала для доследаў, якія мелі намер праводзіць П'ер і Марыя Кюры. Марыя была шчаслівая, калі пачалі прыходзіць першыя пасылкі з каштоўнай рудой. Але ў цеснай лабараторыі не было месца ні для пасылак і адыхода-

* Мясцовасць у Чэхаславакіі, якая ў той час належала Аўстра-Венгрыі.

мі смалістай бленды, ні для катлоў, патрэбных для яе апрацоўкі. Нарэшце пасля настойлівых стараннняў адміністрацыя Школы Фізікі і Хіміі аддала Марыі і П'еру Кюры старую драўляную камору, якая знаходзілася на двары і ў якой даўней мясцілася празектарская медыцынскай школы. Камора стаяла парожняя, а паколькі падлога яе была цэментная і шкляны дах дзіравы, ніхто на яе не квапіўся. Марыя і П'ер былі, аднак, вельмі задаволены сваёй новай «лабараторыяй».

Камора мела той вялікі плюс, што на двары, які прылягаў да яе, можна было выконваць розныя хімічныя доследы. Была ў ёй сякая-такая мэбля — некалькі старых сасновых сталоў, некалькі газавых гарэлак і печак для плаўкі мінералаў. А таксама дошка, на якой П'ер рабіў крэйдай патрэбныя вылічэнні.



П'ера таксама зачаравалі нязнаныя радыёактыўныя элементы. Ён пакінуў (лічыў, што толькі часова) свае доследы над крышталямі і кожную вольную хвіліну пасля заняткаў у Школе Фізікі і Хіміі праводзіў у «лабараторыі». Перш за ўсё заняўся канструяваннем дакладных вымяральных прылад, пры дапамозе якіх Марыя сістэматычна даследавала тысячы проб уранавага мінералу.

Яны так былі захоплены гэтай працай, што Марыя не раз нават абед гатавала на адной з газавых гарэлак, каб толькі не адрывацца ад доследаў. Яны нідзе не бывалі, нікога не бачылі. Прыходзілі да іх толькі самыя блізкія сябры, каб даведацца, як ідзе праца або вырашыць з П'ерам якую-небудзь складаную навуковую праблему.

Аднойчы на вуліцу Лямонд прыйшла сястра Марыі Броня Длуская.

— Дык вось як выглядае гэта ваша новая лабараторыя? — здзівілася яна.— Ведаю гэта «памяшканне». Наведвала яго будучы студэнткай. Але студэнты бунтаваліся супроць гэтага празекторыума. А вы...

— Ой, Броня, тут цудоўна працаваць! — казала Марыя.— У нас тут спакойна і ціха.

— Такі вучоны, як П'ер Кюры, павінен мець лепшую лабараторыю,— пярэчыла Броня і дадала са смуткам: — Не шмат здолееце зрабіць у гэтых прымітыўных умовах.

Марыя была рада, што сястра не зазірнула на двор і не ўбачыла катлоў і цяжкога жалезнага прута, якім яна, хоць ён быў значна большы за яе, мяшала ў катлах масу. Броня прыйшла, каб развітацца з ёю.

— На наступным тыдні вяртаемся з Казімірам у Польшчу,— сказала яна.— Вельмі хацела б, каб мы апошні вечар правялі разам.

Марыя абняла сястру і прашаптала скрозь слёзы:

— Едзеце ўсё ж... А я застаюся... Што я буду рабіць без вас, без цябе, мая Броньця?

— О! — абурылася Броня.— У цябе ёсць дзіця, П'ер, твая праца. Думаю, што гэта асаладзіць нашу разлуку, Манюся.

Пасля ад'езду Длускіх Марыя засумавала. Засумавала па Радзіме, па бацьках, па блізкіх. П'ер суцяшаў жонку:

— Ці ж навука не з'яўляецца нашай агульнай Айчынай, Марыя? Мы ж абодва верым у яе значэнне для дабра чалавецтва.

Доследы і навуковыя эксперыменты захаплялі іх усё больш. Марыя працавала як рабочы, як майстар, як інжынер і хімік у адной асобе. До-

следы, якія праводзіла, былі вельмі складаныя і цяжкія, бо адразу было відаць, што новыя элементы, калі нават існуюць, знаходзяцца ў блендзе ў вельмі нязначнай колькасці. У тысячах кілаграмах уранавай руды трэба было шукаць міліграмавыя колькасці нязнаных элементаў, і толькі іх выпраменьванне сведчыла, што яны знаходзяцца ў доследным матэрыяле. Нейкі час Марыя аддавала бленду на фабрыку, дзе яе спецыяльна перапрацоўвалі. Магла тады займацца толькі яе канчатковым ачышчэннем. Але неўзабаве вучоным не хапіла грошай на далейшую аплату рабочых. І Марыя зноў вярнулася да катлоў.

«Вымушана была перапрацоўваць да 20 кілаграмаў адыходаў запар,— успамінала яна пазней.— Мы паставілі ў нашай «лабараторыі» вялізныя пасудзіны для раствораў і асадкаў. Пераносіць гэтыя пасудзіны і пераліваць іх змесціва было справай нялёгкай. Мучыла мяне таксама гатаванне гэтай масы на працягу доўгіх гадзін і бесперапыннае мяшанне яе жалезным прутом».



«Метад наш заключаўся,— пісала Марыя,— у паступовым адасабненні шляхам звычайнага хімічнага аналізу і вымярэння ў адпаведных умовах радыёактыўнасці аддзеленых целаў. Гэтым спосабам, па меры таго як паступала выдзяленне, элемент, які мы шукалі, канцэнтраваўся ў кампанентах, якія з кожным разам набывалі ўсё большыя прыкметы радыёактыўнасці. Неўзабаве мы прыйшлі да пераканання, што радыёактыўнасць канцэнтруецца перш за ўсё ў дзвюх хімічна адасобленых фракцыях, а гэта даводзіла, што ў смалістай блендзе існуе самае меншае два радыёактыўных элементы».

Аб Марыі і П'еру Кюры гаварыў цяпер увесь навуковы свет. У 1898 годзе Марыя і П'ер Кюры ў двух кароткіх паведамленнях абвясцілі свету аб адкрыцці двух новых элементаў. Адзін з іх Марыя назвала ў гонар сваёй айчыны палоніем; а другі — радыем (ад лацінскага слова radius — прамень).

Марыя правяла тысячы доследаў, але палоній пакуль што ёй аддзяліць не ўдалося. Затое ў 1902 годзе, пасля чатырох год напружанай і надчалавечнай працы, Марыя атрымала першы дэцыграм солі радыю. Выглядаў ён вельмі сціпла. Звычайны белы парашок, падобны на звычайную кухонную соль. А выпраменьванне гэтага парашка было ў два мільёны разоў большае ад выпраменьвання урану. Два мільёны разоў! І ўсё часцей, паклаўшы ўвечары спаць Ірэнку, Марыя і П'ер ішлі ў сваю «лабараторыю». Як у ёй тады было прыгожа! Прабіркі і слоікі, сталы і куты свяціліся, нібы іх абселі роі светлячкоў. 

П'ер смяяўся:

— Глядзі, Марыя, гэта не толькі сам радый, але і ўсе прадметы, што знаходзяцца вакол яго, даюць святло, заражаюцца гэтым свячэннем ад нашага радыю.

Марыя прабавала нават чытаць, свецячы сабе, нібы свечкай, маленькім драбочкам радыю.

Апрача задавальнення радый прыносіў сваім вынаходнікам і шмат непрыемнасцей. Рукі Марыі былі пакрыты чырвонай пухлінай. Яна цярпела ад запалення скуры. П'ер, жадаючы больш дакладна вывучыць уласцівасці радыю, знарок апаліў сабе плячо яго праменнямі. Пазней, працуючы

разам з вядомымі ўрачамі, пачаў вывучаць уплыў радыю на арганізмы жывёлін. Неўзабаве ён прыйшоў да выніку, што радый знішчае хворыя клеткі, што лечыць некаторыя гузякі і пэўныя формы рака. У выніку гэтых доследаў паўстала новая галіна медыцыны, так званая кюрэтэрапія,— лячэнне радыем пухлін.

— Выходзіць, што радый прыносіць людзям нейкую карысць,— радавалася Марыя.

Карысць каштоўнага элемента, якім аказаўся радый, была пазней узята на ўзбраенне прадпрымальнымі прамыслоўцамі ва ўсім свеце. Аднак ні Марыя, якая ўласнымі рукамі здабыла з васьмі тон адыходаў уранавай бленды першы грам радыю і паказала яго свету, ні П'ер, які ёй дапамагаў, не хацелі ніколі чэрпаць ніякай карысці са свайго адкрыцця і ніколі не лічылі радый і створаны імі метад яго здабыцця сваёй уласнасцю.



Калі радый пачалі выкарыстоўваць у барацьбе з ракам, П'еру Кюры прапанавалі ордэн Ганаровага Легіёна. Ён катэгарычна адмовіўся ад яго.

— Я не адчуваю патрэбы ў ордэне,— сказаў.— Але мне патрэбна лабараторыя.

Дарэмна, аднак, дамагаўся гэтага, дарэмна пераконваў людзей, ад якіх гэта залежала, што цяжка працаваць у гэтай няшчаснай захламленай каморы, дзе чалавек улетку душыцца ад гарачыні, а зімой мерзне.

Не атрымаў ён і кафедры ў Сарбоне, што для яго было вельмі важна, бо тады ён меў бы нарэшце адпаведную лабараторыю. Не залічылі яго таксама ў члены Акадэміі навук. І тут, як і ўсюды, супроць яго выступалі кансерватары і клерыкалы.

— Цяжкое мы выбралі сабе жыццё, Марыя,— часамі ўздыхаў П'ер Кюры.

Аднак Марыя пісала пазней:

«Мы не мелі грошай, лабараторыі, ніякай дапамогі, каб выканаць гэта цяжкое і важнае заданне. Мы стваралі нешта з нічога, і калі мае студэнцкія гады былі, як іх назваў Казімір Длускі, «гераічным перыядам» майго жыцця, дык без перабольшання магу сказаць, што гэтыя гады былі для мяне і для майго мужа гераічным перыядам нашага супольнага жыцця».

«...Аднак іменна ў гэтай беднай «лабараторыі» правялі мы самыя лепшыя і самыя шчаслівыя дні нашага супольнага жыцця, прысвечанага цалкам працы».

У гэты час Марыя, стомленая цяжкой працай, выглядала так дрэнна, што прыяцель Марыі і П'ера фізік Саняк сказаў аднойчы П'еру:

— Учора сустрэў Марыю ў Таварыстве фізікаў і быў напалоханы яе выглядам. Зрэшты, і ты выглядаеш не лепш,— глянуўшы на схуднелае аблічча П'ера і яго пасівелую бараду, дадаў ён: — Ад Марыі не мог здабыць слова, але...

П'ер весела спыніў:

— Oh, ma femme c'est grande silencieuse, гэта не навіна.

Ён хацеў на гэтым спыніць гаворку, але Саняк не дазволіў.

— Я прыйшоў сюды спецыяльна для таго, каб перасцерагчы цябе, прафесар, а таму дазволь мне гаварыць. Так далей не павінна быць. Абодва амаль нічога не ясцё. Я не раз бачыў, як увесь абед тваёй жонкі, а напэўна

і твой, складаўся [redacted] двух скрылёчкаў каўбасы і шклянкі наспех праглынутага чаю.

— Мы ямо звычайна ўвечары, пасля звароту дамоў,— прабаваў бараніцца П'ер.

Аднак Саняк быў няўмольны.

— Я лічу,— сказаў ён,— што Марыя павінна на нейкі час наогул спыніць усялякую навуковую працу.

— Што? — абурыўся П'ер і, смеючыся весела, пахлопаў сябра па плячы.— Што ты вярзеш? Я знайшоў жонку, якая створана для таго, каб дзяліць са мной навуковую працу, і не збіраюся адмовіцца ад гэтага.

Саняк уздыхнуў:



— Ну дык паедзьце і адпачніце як след удваіх. Вы павінны хоць на месяц адарвацца ад працы.

— Мы кожнае лета выязджаем,— горача запэўніў яго П'ер і пачаў расказваць аб іх нядаўнім падарожжы ў Польшчу.

І сапраўды Кюры правялі лета 1899 года ў горадзе Закапаны разам з усёй сям'ёй Марыі. П'ер быў у захапленні ад Польшчы.

— Цудоўны край,— сказаў ён жонцы.— Не дзіўлюся, што так кахаеш яго...

Гелена, сястра Марыі, успамінае, што менавіта ў гэтае лета сустрэла аднойчы «на шашы П'ера, які нёс на плячах вялікі клунак бялізны. Адабраў яго ў нейкай старой гуралькі і занёс ёй у хату, матывуючы гэта тым, што не мог дазволіць старой несці такі цяжар».

Слава Марыі і П'ера ўзрастала з кожным годам. Адкрытыя імі радыё-

актыўныя элементы сталі вядомы ў Англіі і Аўстрыі, у Германіі і Італіі.

Іх параўноўвалі з Капернікам. Праца Каперніка «Аб абаротах нябесных сфер» зрабіла пераварот у людскіх паняццях аб пабудове Сусвету, а адкрыццё радыю абвергнула існуючыя паняцці аб пабудове матэрыі. Дасюль лічылі, што ўсё тое, што нас акружае, складаецца з пэўнай колькасці нязменных хімічных элементаў, такіх, як кісларод, вадарод, уран, вугаль і г. д. Адкрыццё Марыі і П'ера Кюры адкрыла поле для даследаў, якія давялі, што крыніцай выпраменьвання з'яўляецца ператварэнне аднаго хімічнага элемента ў другі, што атам не з'яўляецца непадзельным.

Навуковы свет з цікавасцю сачыў за іх працай, а ў 1903 годзе Марыя і П'ер Кюры разам з Бекерэлем атрымалі Нобелеўскую прэмію.

Аднак Марыя і П'ер не клапаціліся ні аб папулярнасці, ні аб славе. «Дастатак і слава сапсавалі нам жыццё, не можам пазбавіцца людзей, якія хочуць нас бачыць»,— жалілася Марыя ў пісьмах да родных. 

Але дзякуючы гэтай сусветнай славе П'ер нарэшце атрымаў званне прафесара фізікі ў Сарбоне і лабараторыю, кіраўніком якой стала Марыя, атрымаўшы неўзабаве званне доктара.

У наступным годзе ў Кюры нарадзілася другая дачка, якую назвалі Эва, а ў 1906 годзе Марыя і П'ер пакінулі цяпер ужо вядомую «лабараторыю» на вуліцы Лямонд, у якой зрабілі сваё вялікае адкрыццё.

КАЛІ ШТО-НЕБУДЗЬ ЗДАРЫЦЦА... ● 19 красавіка 1906 года, таго самага года, які так шчасліва пачаўся, у дажджлівы пахмурны дзень ранняй вясны на Марыю звалілася вялікае няшчасце, ад якога яна ўжо ніколі не

магла ачуняць, якое на працягу некалькіх хвілін змяніла гэту шчаслівую маці і жонку ў жахліва сумнага, няшчаснага чалавека.

Вялікдзень сям'я Кюры правяла на вёсцы ў даліне Шэфроз. Пасля звароту ў Парыж П'ер пайшоў на пасяджэнне Таварыства прафесараў Матэматычна-Прыродазнаўчага аддзялення. Калі вяртаўся пасля пасяджэння дадому і пераходзіў вуліцу, на яго наехаў вялікі параконны грузавы воз. Трапіўшы пад яго колы, ён загінуў.

Гэты трагічны дзень так апісала пасля малодшая дачка Марыі і П'ера Эва Кюры:



«Дом Кюры паволі абступае няшчасце. Аўтамашыны, экіпажы спыняюцца нясмела на апусцелым бульвары. Прыйшоў пасланец прэзідэнта Рэспублікі, але, даведаўшыся, што пані Кюры яшчэ не вярнулася, моўчкі пакінуў кватэру. Зноў званок. Уваходзяць дэкан Апель і прафесар Пэрэн. Дома толькі доктар Кюры са служанкай. Дзівяць яго гэтыя афіцыйныя візіты і выраз твару прыбылых. Яны заклапочана маўчаць. Ім наказалі паведаміць перш жонцы. Аднак гэтае трагічнае маўчанне працягваецца нядоўга. Стары глядзіць на іх уважліва і праз хвіліну, ні аб чым не пытаючыся, гаворыць:

— Мой сын памёр.

Слухаючы падрабязнасці здарэння, абураецца. На яго схуднелым, зморшчаным твары слёзы пакідаюць глыбокія, балючыя барозны, з сардэчнай гарачынёй і роспаччу абвінавачвае сына ў няўважлівасці, за якую заплаціў жыццём. Упарта і жаласна дакарае:

— І над чым жа зноў так задумаўся?..

А шостай гадзіне чуваць скрыгатанне ключа, і на парозе з'яўляецца вясёлая і ажыўленая Марыя. У паводзінах сяброў адчувае няясна жахлівы акцэнт спачування. Дэкан Апель паведамляе факты.

Марыя слухае яго нерухомая, застылая і, здаецца, нічога не разумее. Не плача, не крычыць, не млее. Стаіць выпраставаная, адзервянелая, як фігура з воску. Нарэшце пасля доўгага жахлівага маўчання пацiху, нібы чакаючы жаданага пярэчання, пытае:

— П'ер памёр? Не жыве? Зусім не жыве?

На працягу некалькіх тыдняў Марыя нікому не гаворыць аб сваім няшчасці. У цішыні і самотнай пустэчы, якая часамі загадвае ёй крычаць ад жаху, яна разгорне шэры сшытак і дрыжачым почыркам кіне на паперу думкі, якія яе душаць. На пакрэсленых, заплямленых слязьмі старонках, з якіх можна прывесці толькі ўрыўкі, гаворыць з П'ерам, кліча яго і пытае. Імкнецца ўваскрасіць кожную дробязь здарэння, якое іх разлучыла. У гэтым кароткім дзённіку, адзіным, які калі-небудзь яна пісала, раскрываюцца самыя жахлівыя хвіліны яе жыцця.

«...П'ер, мой П'ер, ляжыш тут спакойна з забінтаванай галавой, як няшчасны паранены, які спіць, адпачывае. Аблічча тваё лагоднае і спакойнае, ты ўсё яшчэ пагружаны ў марах, з якіх ніяк не можаш вырвацца. Вусны твае, якія называла некалі скваплымі, сцятыя, бледныя. Бародка ссівелая. Валасоў тваіх амаль не відаць, бо рана пачынаецца адразу над чалом. Ой, як жа табе балела, як цякла кроў! Твая вопратка ўся ў крыві. Які жахлівы ўдар мусіла прыняць твая бедная галава, якую я так часта песціла ў сваіх далонях.

...Паклалі мы цябе ў труну раніцай у суботу. Я падтрымлівала галаву, калі цябе пераносілі. Апошні раз пацалавала твой халодны лоб. Пасля паклала ў труну крыху барвінкаў і маю маленькую фатаграфію, якую ты любіў і называў мяне на ёй «мая малая разумная вучаніца». Гэта фатаграфія павінна быць з табой у труне. Фатаграфія дзяўчыны, якая мела шчасце падабацца табе настолькі, што ты прапанаваў ёй, каб дзяліла з табой жыццё. Ты часта казаў мне, што толькі гэты адзін раз у жыцці вырашыў без усялякага сумнення, з поўнай упэўненасцю, што робіш добра. Любы мой, мне здаецца, што ты не памыліўся. Мы былі створаны, каб жыць разам, і сувязь наша была непарушнай.

Зачынілі труну, і я больш не бачу цябе. Не дазваляю, каб яе накрылі гэтай жахлівай чорнай шматай. Пакрываю яе кветкамі і саджуся побач.



...Прыходзяць да цябе сябры ў жалобе. Гляджу на іх і маўчу. Праводзім цябе ў Со, бачым, як цябе апускаюць у вялікую глыбокую магілу. Пасля доўгі шнур людзей, хочуць нас забраць. Не згаджаемся: Якуб і я хочам бачыць усё да канца. Замуроўваюць труну, кладуць кветкі. Усё скончана. П'ер спіць апошнім сном пад зямлёй, скончылася ўсё, усё, усё...»

Не, не скончылася ўсё. Марыя ведае, што мусіць жыць: мае дзяцей, мае сваю і П'ера, іх агульную працу. Не ведае толькі, не думае нават аб тым, што яе самотная навуковая дарога будзе і далей трыумфальнай дарогай, што праз некалькі гадоў яна зноў атрымае Нобелеўскую ўзнагароду, што і далей будзе служыць сваёй навукай чалавецтву, што яе вялікае адкрыццё (адкрыццё яе і П'ера) будзе садзейнічаць велізарнаму прагрэсу навукі не толькі ў галіне фізікі і хіміі, але таксама ў галіне біялогіі, медыцыны і ін-

шых прыродазнаўчых навук. Не думае ў гэтую хвіліну, што не будзе хутка на зямлі кутка, дзе б аб ёй не чулі. Нават у Кітаі ў «Святыні Канфуцыя» ў галерэі партрэтаў «дабрачынцаў чалавецтва» Буды, Картэза, Ньютана і іншых будзе знаходзіцца яе партрэт — партрэт вялікай полькі.

Навуковы савет Францыі вырашыў, што Марыя, і толькі Марыя, з'яўляецца адзіным фізікам, які здолее заступіць Кюры на яго кафедры і ў лабараторыі, які здолее весці яго працу. Але... Існуе адно і вельмі важнае «але». Кабета яшчэ ніколі не займала ў Сарбоне пасады прафесара...

Нягледзячы, аднак, на гэта, Марыя Складоўская-Кюры прымае кафедру П'ера Кюры і вядзе далей яго справу.

Марыя вагаецца. Гонар, які яе сустракае, вельмі балючы: павінна заняць месца любімага чалавека, смерць якога так раптоўна, выпадкова і жорстка вечнай жалобай акрыла яе сэрца.

І аднак...

5 лістапада 1906 года а палове другой гадзіны ў перапоўненай аўдыторыі Сарбоны ўзышла на кафедру шчуплая кабета ў чорным, з бледным, амаль празрыстым тварам, з упартай зморшчынкай паміж бровамі. Яе пушыстыя валасы нібы светлы арэол над высокім чалом. Студэнты гарачымі воплескамі вітаюць у ёй першую кабету-прафесара і ўдаву вялікага вучонага. А яна стаіць спакойная і засяроджаная. Толькі яе малыя, пашкоджаныя хімікатамі рукі сутаргава сціскаюць бераг кафедры, толькі злёгку дрыжаць яе зграбныя бледныя вусны.

І калі зала нарэшце заціхае, Марыя пачынае сваю першую лекцыю ў тым самым месцы, у якім П'ер спыніў сваю апошнюю.

«Калі разважаюць аб прагрэсе, які зрабіла фізіка на працягу апошняга дзесяцігоддзя, уражвае змена, якая адбылася ў нашых паняццях аб электрычнасці і аб матэрыі...»

Студэнты, вучні П'ера і яго прыяцелі плачуць, слухаючы спакойны голас Марыі, якая ціха, з намаганнем расказвае аб сутнасці электрычнасці, аб распадзе атамаў, аб радыёактыўных элементах.

Марыя скончыла лекцыю і сышла з кафедры. Яна зусім спакойная, яна ведае, што зрабіла добра, што зрабіла так, як хацеў бы П'ер. Ён жа сказаў ёй аднойчы:

«Калі што-небудзь здарыцца, хоць бы давялося застацца як цела без душы, трэба працаваць — нягледзячы на ўсё».

Памерла Марыя Складоўская-Кюры 4 ліпеня 1934 года і пахавана побач з мужам на могільніку ў Со.

